*ЯН ПЯТРОЎСКІ*

# ЛЕПШЫЯ ДУМКІ ЧАЛАВЕКА



ДУМКА ЧАЛАВЕКА ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА
ПРАМОЦЫЯЮ ЯГОНЫХ АСЯГНЕНЬНЯЎ

# MAN'S BEST THOUGHTS

Compiled
by
John Piatroŭski

SECOND VOLUME

Gainesville, Florida, U.S.A.

1980

# ЗАМЕСТ УВОДЗІНАЎ

Пара у рукі браць паходні,
Ўставаць, ісьці ноч расьсьвятляць!
Бо што ня возьмеце сягоньня,
Таго і заўтра вам ня ўзяць.

Янка Купала

У васнове мастацтва ўзгадаваньня павінен быць пакладзены наступны прынцып, які ў вапрычонасьці павінны мець на ўвазе тыя, каторыя загадзя ўкладваюць пляны ўзгадаваньня: трэба ўзгадоўваць дзяцей адносна не да сучаснага, але да прышлага, магчыма лепшага стану роду чалавечага і да ягонага поўнага паклiканьня. Звычайна-ж бацькі ўзгадоўваюць сваіх дзяцей адно гэтак, каб яны прыдатнымі былі для сучаснага сьвету, хоць нават і сапсутага. Але яны павінны былі-б узгадоўваць дзяцей ляпей, каб гэткім спосабам стварыць прышлую лепшую вартасьць людзей.

Кант

Той, хто ведае сваю душу, перад усім пачне адчуваць у сабе боскі пачатак і будзе ўважаць свой розум боскім і сьвятым і будзе заўсёды гэтак думаць і паступаць, каб быць годным атрыманага ім боскага дару; і калі ён спраўдзіць і грунтоўна дасьведчыць самога сябе, ён даведаецца тады, наколькі багата абдораным зьяўляецца ён у жыцьці і якімі высокагоднымі сродкамі валадарыць ён дзеля атрыманьня і захаваньня мудрасьці.

Цыцэрон

Трэба глыбака ўнікнуць у сэнс нашых цярпеньняў. З усіх бакоў мы абстаўлены імі дзеля нашага-ж дабра.

Захацеў чалавек спусьціцца ніжэй асягнутага маральнага ўзроўню - выступаюць цярпеньні.

Захацеў узьняцца вышэй гэтага ўзроўню - цярпеньні /напрыклад, прасьлед/.

Захацеў астацца непарушна на адным месцы - цярпеньні з прычыны дакору сумленьня.

І толькі калі дакоры сумленьня стаюцца болей нязноснымі, чымся само цярпеньне, тады чалавек крочыць наперад, дасканаліцца духова.

Хв. Страхаў

Людзі ў тысячу разоў болей стараюцца, каб прыдбаць сабе багацьці, чымся чыняць стараньні адносна свайго розуму і сэрца; хоць для нашага шчасьця тое, што́ знаходзіцца ў чалавеку, бяз сумліву, зьяўляецца болей важным ад таго, што́ ў чалавека.

Шопэнгаўэр

БОГ

Ісус кажа ёй: павер мне, што надыйдзе час, калі не на гэтай гары і не ў Ерузаліме будзеце пакланяцца Айцу.

Прыйдзе час, дый ён ужо прыйшоў, калі праўдзівыя паклоньнікі будуць пакланяцца Айцу ў духу і праўдзе, бо гэтакіх паклоньнікаў шукае сабе Ацец.

Бог ёсьць дух: і тыя, што пакланяюцца Яму, павінны пакланяцца ў духу і праўдзе.

Ян, 4; 21,23,24.

Твой Бог ёсьць адзін Бог; і нямашака Бога, але толькі Ён, найболей міласэрны.

Кара́н

Гільлель казаў: Неўзгадованы чалавек ніколі не баіцца грэху, дурны - ніколі ня станецца пабожным.

Тальмуд

Хрысьціянская канцэпцыя, якая заўсёды прысутнічае ў нашым умысьле, канцэпцыя асабістага Бога, не павінна засланяць нам факту, што Пармэнідзсавае Быцьцё, у сэнсе тагачаснае грэцкае рэлігіі, зьяўляецца "боскім", як зьяўляецца Плятонавая Ідэя Бога.

-

Бог не заабавязвае чалавека да большае рэчы ад тае, якую стварыць Ён надарыў яго здольнасьцю.

Каран

Розум, які можна ўцяміць, ня ёсьць вечным розумам. Імя, якое можна назваць, ня ёсьць вечным імем.

Ляо-Тсэ

Бог ёсьць добратворны. Але Дабро гэтаксама ёсьць добратворным. Затым, пасьлядоўным ёсьць, што там, дзе ёсьць натура Бога, там гэтаксама павінна быць натура дабра.

Эпіктэтос
"Развважаньні", II, 8.

Калі ты падтрымліваеш грамадзкія суадносіны, калі ты выконваеш фізычныя практыкаваньні, калі ты бярэш удзел у дыскусыі, ці-ж ня ведаеш ты, што жывіш у сабе Бога, што ты практыкуеш Бога? Няшчасны, ты носіш навакол Бога з сабою, і ты ня ведаеш гэтага?

Эпіктэтос
Там-жа

Існуе Дух, жывы прынцып унівэрсальнага Космасу - Сусьвету. Ён абыймае Сусьвет усюды, жыве ўва ўсім, і ўсім разумным істотам дае магчымасьць жыцьця і больш таго - прымушае іх да разважаньняў. Сам ён зьяўлаецца асноваю ўсяго і ёсьць розумам людзкага мозґу, розумам нашае маці-зямлі. Зямля-ж ёсьць толькі маленькім атомам, пясчынкаю Космасу, а чалавек - гэта антэна ўнівэрсальнага мозґу, матору сусьвету.

Ня толькі вялікія людзі стараліся зразумець гэтую найвышэйшую Праўду жыцьця, але і звычайныя,простыя людзі ад вякоў шанавалі нейкае няведамае ім боства, якое яны называлі Вялікім Духам.

Бо-ж існуе толькі адзін вялікі Ўнівэрсальны дух, незалежна ад таго, як яго хто называе: Найвышэйшай Творчай, Дасканалай Інтэлігэнцыяй, Брамаю, Яговаю, Аллахам, - ці Богам! У аснове сваей,усе гэтыя назовы ці паняцьці разумеюць адно й тое самае: ВЕЧНАГА, НЯЗЬМЕННАГА, ЛАСКАВАГА, ПРАМУДРАГА, НЯБЕСНАГА АЙЦА! Гэты абсалютны Дух кіруе нашым разьвіцьцём /Эвалюцыяй/, пранікае сабою ўсе нашыя думкі,удалікатняе нас, падымае на вышэйшы ўзровень. І кожны з нас часам добра адчувае, што ён так ці йначай, залежыць ад нейкае вышэйшае сілы, якая напаўняе яго, прымушае разважаць, сябе кантраляваць, думаць у тым ці іншым кірунку.

Фрыдрых Шэльлінґ
"Голас Царквы", №53

Я не магу дастаткова надзякавацца Вашай Цэзарскай Высокасьці за Вашую далікатнасьць, прысылаючы мне малую кніжку пра М. Вольффа. Я гляджу на ягоныя мэтафізычныя ідэі, як на рэчы, якія акрываюць гонарам людзкі розум. Яны зьяўляюцца зіхаценьнямі маланкі сярод цёмнае ночы; і гэта, як я думаю, ёсьць усім тым, што мы можам спадзявацца са стараны мэтафізыкі. Выглядае непраўдападобным, каб першапрычыны ўсіх рэчаў сталіся калі-небудзь дакладна ведамыя. Мышы, што жывуць у малюпаценькіх норах аграмаднага будынку, ня ведаюць ці будынак ёсьць вечным, хто ёсьць архітэктарам, або чаму архітэктар пабудаваў яго. Яны стараюцца падтрымаць сваё жыцьцё, засяліць сваім пакаленьнем норы, і ўхіліцца ад зьніштажаючых іх зьвераў, якія ганяюцца за імі. Мы зьяўляемся гэтымі мышамі; і боскі архітэктар,каторы пабудаваў гэты сусьвет, да гэтае пары, наколькі мне ведама, не пераказаў Свае тайніцы нікому з нас. І, калі хто-небудзь зь людзей можа прэтэндаваць, што ён акуратна здагадваецца, дык ім ёсьць М. Вольфф. Можна запярэчваць ягоныя пагляды, але ён

мусіць быць шанаваны намі; ягонауя філязофія далёка ад таго, каб быць шкоднаю; ці-ж можа быць якая-небудзь рэч болей прыгожаю і болей праўдзіваю, чымся сказаць, як ён гэта чыніць, што людзі павінны быць уроўнаважанымі, калі яны ўжо сталіся гэтак няшчаснымі, каб быць атэістымі?

Вольтэр
Зь лісту да Фрыдрыха Вял.
з дня 26 жніўеня 1736 г.

Аднойчы рыбы мелі веча і гаварылі:"Нам кажуць, што жыцьцё наша залежыць ад вады, а мы ніколі ня бачылі яе і ня ведаем што́ яна такое". Тады болей разумная зь іх сказала: "Мы чулі, што ў моры жыве вельмі мудрая і вучоная рыба, якая ўсё ведае; хадзем да яе і папросім, каб яна паказала нам ваду і вытлумачыла нам, што гэта такое". І вось частка рыбаў пайшла ў моры на тое месца, дзе жыла мудрая рыба. І рыба гэтак казала: "Вы ня ведаеце вады,затым, што жывяце ў ёй і жывяце ёю".

Гэтаксама і людзі ня ведаюць Бога, тады як яны жывуць Ім і жывуць у Ім.

Суфі

Чалавек нагэтулькі прысуспольніваецца да Бога, наколькі Бог жыве ў ім і, як кажа Ангелюс, містычны паэт сямнаццатага стагодзьдзя, што тое вока маё, якім я бачу Бога, зьяўляецца тым самым вокам, катрым Бог бачыць мяне.

Аміель

Бог прыцягвае да Сябе тых, каторыя хочуць узьняцца да Яго, затым і ня дзіва, што чалавек імкнецца да Бога. Бог крочыць да людзей, уваходзіць у людзей. Нямашака аніводнае душы, якая была-б добраю бяз Бога.

Цыцэрон

Людзі кажуць: я не разумею, што гэта значыць любіць Бога. Але хто разумее, што значыць любіць штонебудзь ці каго-небудзь? Разумее гэта толькі той, хто любіць.

Калі чалаек ня ведае, што гэта значыць любіць мастацтва, навуку, дык як вытлумачыць яму гэта,калі ён ня ведае, што такое мастацтва, навука?

І як-жаж вытлумачыць яму, калі ён ня толькі ня ведае таго, што такое Бог, але ганарыцца тым, што ня ведае гэтага.

Л. Талстой

ЛЮДЗІ

Нельга любіць ані таго, каго ты баішся, ані таго, хто баіцца цябе.

Цыцэрон

Той, хто зьяўляецца годным у сабе і чэсным, ёсьць шчасьлівым; хто зьяўляецца, аднак, несправядлівым і дрэнным - астаецца нешчасьлівым.

Плятон, Ґорґіяс, 470

Якія ў большай частцы твае ўяўленьні, гэтакімі будуць і твае разважаньні. Якімі будуць твае разважаньні, гэтакімі будуць твае чыны, і гэтакім будзеш ты сам.

Паводля М. Аўрэліюса

Раней ці пазьней кажная рэч здарыцца з чалавекам, калі толькі хопіць часу.

Б. Шоў

Праўда не заўсёды адназначна. На сьвеце людзі кіруюцца рознымі вартасьцямі, ідэаламі. Палітыка і гуманізм - не заўсёды зьяўляюцца сынанімамі, але нечым такім, чым цывілізаваны розум, тасаваны ў напрамку дасканаленьня нашага скамплікаванага сьвету, кіруецца адназначна - гэта Праўда Дабра, шчасьце і свабода кажнага з нас на Зямлі. Супакой - гэта пасьлядоўнасьць дыялёгу, хай сабе труднага, патрабуючага часу, але дыялёгу.

С. Ґлузман, С. Кавалёў, Сьвятлічны
Рэл. і Ат. у СССР, №3-4, 1978

Нічога чалавеку ня будзе залічана, адно толькі ягоная натуга, і ягоная натура выявіцца ў сваім запраўдным сьвятле.

Каран

Твае прыяцелі могуць любіць цябе, паважаць і хваліць, калі ты будзеш грамадзкім ці царкоўным дзеячом і ўсё яшчэ будзеш аставацца пры сваім старым, перашапачаткавым узроўні думаньня. Але, калі ты, зглыбіўшы асновы запраўднае навукі і ў сваім навакольлі пойдзеш наперад у сваім спосабе разважаньня і выказваньнях, тады прыхільнасьць тваіх прыцеляў зараз-жа можа стацца глыбокаю няпрыхільнасьцю да цябе, якая абернецца ў крыніцу паклёпаў, абмоваў і варожых дзеяньняў супроць цябе. Але мужайся! праўда на тваім баку.

Ян Пятроўскі

Перад усім, лекар мусіць ведаць межы свае сілы; бо толькі той, хто ведае адрозьніць магчымае ад немагчымага, зьяўляецца праўдзівым лекарам.

Гэрофілёс

Усьміхайся да людзей. Кажуць, што для выражэньня гневу, удзел прыймае 72 мускулы, і толькі 14 для праяўленьня ўсьмеху.

Недзе прачытанае

Чалавек не павінен глядзець на сваё жыцьцё як на нейкую абмежаваную і апрычоную цэласьць і, як яму здаецца, грабсьціся ў сваіх вузкіх штодзенных справах, але, барджджэй, як на сучлененьне агульнае Цэласьці быцьця ў сусьвеце, якая мае свой пачатак і канец, і сваю мэтанакіраванасьць. Выходзячы з гэтае мэтанакіраванасьці, чалавек пляную сваё жыцьцё кажны дзень, каб яно было карысным і сягоньня, і заўтра, і за сто гадоў на будучыню. Гэтакае разуменьне існаваньня зьяўляецца крыніцаю радасьці ў жыцьці і мірных суадносінаў зь людзьмі.

Ян Пятроўскі

Зьвяртаючыся да людзей, ужывай іхныя імёны. Кажуць, што прыемнаю музыкаю для людзей гучаць іхныя ўласныя імёны.

–

Людзі, якія аднойчы былі ўзьняты да годнасьці кіраўнікоў, консуляў, легіянераў і ўсяго падобнага, цяперака ня турбуюцца болей пра нічога іншага і з запалам імкнуцца толькі да дзьвюх рўчаў – хлеба і ігрышчаў.

Дэцімус Юніюс Ювэналіс

Чым болей рэчаў чалавек саромеецца, тым болей пашаны годным ён ёсьць.

Б. Шоў

Калі ты не перастанеш гаварыць хлусьні пра мяне, дык я не перастану пашыраць праўды адносна цябе.

Недзе пачутае

Словы Антыстэнэса: Княжацкая гэта рэч – чыніць дабро і быць высьмейваным.

М. Аўрэліюс, 7, 36

Будзь шчырым адносна людзей. Ты можаш гэтакім стацца, калі толькі жадацімеш гэтага.

I. Не адкладвай да заўтра таго, што́ можаш зрабіць сягоньня.

2. Ня змушай іншага рабіць тое, што́ можаш зрабіць сам .

3. Ня купляй непатрэбнае рэчы, затым толькі,што яна танная.

4. Гордасьць каштуе болей, чымся тое, што́ патрэбна да яды, піцьця, жыльля, вопраткі.

5. Рэдка даводзіцца шкадаваць, што зрабіў вельмі мала.

6. Колькі мы нацярпеліся з прычыны, што нешта не здарылася, але адно могло-б здарыцца.

7. Калі раззлосьціўся, зьлічы дзесяць; вельмі раззлосьціўся – зьлічы сто.

Томас Джэффэрсон

Праўдзіва адукаваны чалавек стаецца болей паважным і болей павольным у выдаваньні суду; ён гэтаксама зьяўляецца болей талеранцыйным да памылак і слабасьцяў іншых людзей, і наагул, ён стаецца лепшым чалавекам.

–

Хоць пры ўваходзе ў вастрог у мяне зусім ня было большых грошай, але я нейк ня мог тады наракаць на тых, з вастрожнікаў, каторыя зараз-жа ў першых гадзінах майго вастрожнага жыцьця, ашукаўшы мяне ўжо раз, зь вялікаю наінаўсьцю прыходзілі другі раз, трэйці і нават пяты раз, каб пазычыць у мяне грошы. Але прызнаюся ўвадным шчыра: мне вельмі было прыкра, што ўвесь гэты люд, са сваімі хітрыкамі, уважаў мяне за прасьцяка і дурнога і сьмяецца зь мяне, і толькі затым, што я і пяты раз даваў ім грошы. Ім абавязкава павінна было здавацца, што я паддатным астаюся на іхныя ашуканствы і хітрыкі, і калі-б, наадварот, я адмовіў ім і прагнаў іх, дык, я пэўны, яны пачалі-б бязьмежна болей паважаць мяне. Але я́к ня было мне прыкра, усё-ж адмовіць я ня быў у стане. А прыкра мне было затым, што зусім паважна і з турботаю думаў у гэтыя першыя дні пра тое, як і на якой ступені пастаўлю я сябе ў вастрозе, або ляпей кажучы, у якіх суадносінах я павінен быў стаяць зь імі.Я вычуваў і разумеў, што ўсё гэтае асяродзьдзе для мяне зусім новае, што я знаходжуся проста у поцемках, і што ў поцемках немагчыма пражыць гэтулькі гадоў. Трэба было падрыхтавацца. Ведама, я пастанавіў, што перад усім трэба паступаць проста, як унутранае пачуцьцё і сумленьне загадваюць.

Хв. Дастаеўскі
"Дом сьмерці", разьдз.: Першы месяц.

## БЕДНЫЯ ЛЮДЗІ

Цёмная бурная ноч. У беднай рыбацкай хаціне сядзіць каля агню Жанні і латае старую вятругу з грубога палатна. Яна чуе, як сьвішча і вые вецер, як па вокнах барабаніць дождж, як набягаюць і з гулам разьбіваюцца аб бераг хвалі... Надварэ гудзе непагода - цёмна, холадна. У беднай рыбацкай хаціне цёпла і ўтульна. Земляная падлога чыста замецена; у печы трашчыць гальлё і пылае агонь; на паліцы блішчыць чыста вымытая пасуда. У глыбіні пакою стары ложак з апушчаным белым полагам, а на вялікім сеньніку, разасланым на падлозе, нявінна сьпіць пяцёра маленькіх дзяцей, быццам укалыканыя гулам акіяну. Муж Жанні цяперака на моры: ён выплыў на рыбны лоў. Страх выплываць на мора ў гэткую цёмную, халодную і дажджлівую ноч, але што-ж ён можа зрабіць? Ня будзе-ж ён гадаваць жабрачае сям'і для сьвету. Чуе Жанні гул акіяну і злосны посьвіст ветру; час ад часу даходзіць пранізьлівы крык чайкі. А дождж усё лье ды лье. Жудасьць напаўняе сэрца Жанні. Здаецца ёй, быццам бачыць яна жахлівыя вобразы разьбітага вадаплаву: вось разьбіты аб скалу вадаплаў, і вадаплаўнікі ня могуць уратавацца ад сьмерці ў хвалях мора... Жудасьць!..

Стары драўляны гадзіньнік хрыпла вымервае час: цік-так, цік-так... Дзеці сьпяць.

Жанні думае пра нешта. Так, ня лёгка жывецца ім! Муж, не шкадуючы сябе, у часе холаду і буры, запускаецца ў мора, паддае сябе кажнае мінюты безьліччу небясьпекаў. Яна з раніцы да вечару сядзіць пры працы. І што-ж? Ці-ж вялікія іхныя заработкі? Маленькія яе дзеці летам і зімою бегаюць босыя, а пра белы хлеб няма чаго і думаць - добра, калі хапае і чорнага. Праўда, бывае часамі і рыба. Хвала Богу, што дзеці яшчэ здаровы, О, як раве акіян, як вецер вые! І дзе-ж ён цяперака? Ахіні яго, Госпадзе, спасі і памілуй!

Спаць ісьці яшчэ рана. Жанні ўстае, накідвае на сябе тоўстую хустку, запальвае фанар і выходзіць на вуліцу паглядзець, ці не вяртаецца часамі яе муж, ці не сунялося мора, ці сьвеціць, і ці гарыць лямпа на морскай ліхтарні.

Цёмна. Цярушыць маленькім частым дажджом. На скраю вёскі, на самым беразе акіяну, стаіць старая, пахінутая хаціна з чорнымі сьценамі, з адрах-

лелымі дзьвярыма. Дзьверы скрыпяць і стукаюць пры кажным подзьмуху ветру. А вецер, як наўмысьня,злосна нападае на гэтую абяднеўшую хатку, быццам хоча зьнесьці яе зь месца; а дзьверы скрыпяць і стогнуць, і гнілая салома на страсе шурпіць, быццам просіць літасьці. Жанні затрымалася каля парогу і заглянула ў крывое акенца. У хаце цёмна."Трэба паглядзець, як маецца хворая, – падумала Жанні. – Я зусім забылася пра яе. Гэта-ж муж казаў, што ўчора ёй было горай. Дый яна-ж зусім адна. Няма каму даглядзець яе".

І Джанні пастукала ў дзьверы; прыслухалася... У хаце цішыня. Ніхто не адказвае.

"Бедная! – думае Жанні, стоячы ля парогу. – Як тут хварэць, калі трэба самой утрымаць сям'ю! Што праўда, у яе толькі двое дзяцей; але затое яна ўдава, і ўся праца і клопаты супачываюць на ёй адной. А тут, на табе, яшчэ хвароба! Дрэнь дый годзі!"

Яна пастукала яшчэ і яшчэ, але адказу ня было.

– Гэй, суседка! – крыкнула Жанні, і падумала: "Моцна заснула, не дабудзішся".

Вецер завывае, як і раней; Жанні пачынае ўжо дрыжэць ад холаду і вільготнага паветра. Яна хоча ісьці дамоў, як раптам сільны подзьмух ветру, чуць ня зьдзершы зь яе хустку, страсянуў старымі дзьвярыма, і яны самыя насьцеж расчыніліся. Жанні пераступіла парог і ўвайшла ў хату. Ліхтар яе асьвяціў нутро змрочнае і ціхае хаты. Тут гэтаксама дыхала сырасьцю і холадам, як на вуліцы; усюды панурасьць; відаць, даўно ўжо беднае жыльлё не агравалася; тут і там праз страху працякае вада. Каля сьцяны, якраз супроць дзьвярэй, на гурбе бруднае саломы, ляжыць труп памершае ўдавы. Галава перахілілася назад; на халодным пасінейшым твару з расчыненым ротам застыла выражэньне жаху і адчаю... Пабялеўшая мертвая рука, быццам выцягнуўшыся па нешта, апала і зьвесілася з саломы. У двух кроках ад трупу маці, у беднай калысцы, двое маленькіх дзяцей, бледненькіх, але кучаравых з прыгожымі тварыкамі, скурчыўшыся і пратуліўшыся адно да другога белявымі галоўкамі, сьпяць крэпка і бястурботна, ня гледзячы на блізіню няжывое ўжо маці і рову буры. Тут-жа перад сьмерцю, маці пасьпела яшчэ закутаць іхныя ножкі вялікаю старою хусткаю і накрыць іх сваею вопраткаю. Адзін хлопчык падклаў пад шчаку маленькую ручку; другі – упёрся тварыкам у шыю брата.Дыханьне іхнае роўнае і спакойнае; гэтак яны сьпяць спакойна і моцна, што, здавалася, нічога не разбу-

дзіць іх. А бура ўсё не ўнімаецца, раве і вые.... Вось кропля дажджу праз дах упала на лоб нябожчыцы і сьцекла на халодную шчаку - быццам тая сьлязіна на яе сумна перакрыўленым твару.

Жанні бегма бяжыць да хаты. Яна нясе нешта пад плашчам. Сэрца яе моцна б'ецца; яна не адважыца агглянуцца назад, быццам нехта гоніцца за ёю. А мо ўкрала яна што-небудзь у нябожчыцы?

Дома яна ўкладвае сваю ношу на ложку і хутка зацягвае полаг. Пасьля яна падсоўвае крэсла і ўстаўляе яго каля ложака і сядае, пахіляючыся галавою да ўзгалоўя. Яна бледная і ўсхваляваная. Быццам дакарае яе сумленьне, папракае. Час ад часу яна вяртаецца да думкі: "І што ён скажа!.. Што я нарабіла!.. Гэта-ж ня жарты - пяцёра сваіх дзяцей - ці-ж мала было яму турботаў зь імі!.. Гэта ён?.. Не, не яшчэ!.. І пашто было браць!.. Калі ён прыб'е мяне за гэта - дык і заслужыла, гэтак мне і трэба... Вось ён!.. Не... Ну, і хай будзе!"

Заскрыпелі дзьверы, быццам нехта ўвайшоў. Жанні здрыганула і ўстала з крэсла.

"Не. Зноў нікога! Божачка мой, і пашто я гэта зрабіла?.. Як я яму ў вочы буду глядзець?.." і Жанні пагружаецца ў роздум, і доўга моўчкі сядзіць каля ложака.

Дождж супыніўся; пачынае брацца на золак, але вецер не супакойваецца, і з акіяну нясецца гул. І раптам дзьверы расчыніліся, у хату ўварваўся паток сьвежага морскага паветра, і высокі смуглы рыбак, цягнучы за сабою мокрыя і парваныя сеці, уваходзіць са словамі ў хату:

- Вось і я, Жанні!

- Ах, гэта ты! - кажа Жанні і затрымліваецца, не адважваючыся падняць на яго вочы.

- Нуй-жа, ночка! Жудас!

- Так, так, страшэнная пагода была! Ну, а як лоўля?

- Нічога, зусім нічога не злавіў! Толькі сеткі парваў. Зусім дрэнна! Дый што казаць, ну й пагода! Здаецца ніколі не забуду гэткае ночы. Вецер роў, як дыявал, лодку маю кідаў, як галу. Я ўжо думаў, што канат парваўся і лодка на дно ідзе. Дый якая-ж лоўля ў гэткую пагоду! Дзякаваць Богу, што жывым дамоў дабраўся... Ну, а ты што тут бязь мяне рабіла? - Пры гэтым рыбак уцягнуў сеці ў хату і сеў каля печы.

- Я?.. - адазвалася Жанні, бляднеючы; - ды што-ж я,.. сядзела, шыла... Вецер гэтак выў, што жудасна

рабілася. Думала і баялася, каб што дрэннае з табою не здарылася.

– Так, так прамармытаў муж, – да чорта дрэнная пагода! Але што зробіш!?

Абодва памаўчалі.

Пасьля Жанні, нерашуча, дрыжучы з боязьзю, быццам вінаватая ў нечым, сказала:

– А ведаеш: суседка Сымон памерла. Ня ведаю, калі яна нават памерла; мусіць яшчэ ўчора, пасьля таго, як ты заходзіў да яэ. Цяжка ёй было паміраць. Дый па дзецях-жа мусіць сэрца балела! Гэта-ж у яе двое маленькіх дзяцей асталося... Адін яшчэ не гаворыць, а другі насілу толькі пачынае поўзаць...

Жанні замоўкла. Рыбак нахмурыў бровы: добры і заўсёды шчыры твар ягоны прыняў від павагі і турботнасьці.

– Вось табе і на! – сказаў ён, пачухаўшы патыліцу. Ну, ды што-ж тутака можна зрабіць! Трэба ўзяць, а то праснуцца, дый як-жаж яны могуць быць разам зь нябожчыцаю? Ну, ды што-ж, сяк-так будзем перакідацца! Ды ідзі-ж хутчэй!

Але Жанні ня рухалася з месца.

– І што-ж ты? Не падабаецца табе гэта? баішся, ня хочаш узяць іх? Што з табою, Жанні?

Жанні ўстала, моўчкі падвяла мужа да ложака і адхіліла полаг...

Там ляжалі дзецi нябожчыцы і ўсе разам спалі гэтаксама моцна і безтурботна.

Віктар Гюґо

КНІГА

Кнігі - гэта скарб агульналюдзкасьці, спадчыннавая ўласнасьць пакаленьняў і народаў. Самыя старавечныя і лепшыя зь іх паводля права займаюць месца на паліцах кажнага дому. Ім няма пашто змагацца за свае правы; асьвечваючы і жывячы розум чытача, яны здабываюць ягоную пашану. Іхныя аўтары твораць сабою натуральную і бясспрэчную арыстакрацыю кажнае людзкае супольнасьці і пануюць над людзкасьцю болей, чымся каралі і тыраны.

Торо

Сям'я, у якой ня чытаюць лепшых кнігаў - гэта сям'я няпоўнавартасная.

П.А. Паўленка

Добрая кніга дае плады, спараджаючы іншыя кнігі; яе слава пашыраецца зь века ў век, і прачытаньне яе творыць сабою цэлую эру ў жыцьці чытачоў.

Олькотт

Падлічана, што пяцьдзесят тысяч людзкіх пакаленьняў выдалі болей двух трыльліёнаў людзкіх гадоў на тое, каб асэнсаваць навакольны сьвет, перамагчы сілы натуры, ссынтэзаваць рознаколерную і розналікую шматґраннасьць сусьвету. Найболей магутным сродкам у гэтых пашуках, блуканьнях і змаганьні выявілася слова. Мікола Карамзін аднойчы сказаў: "Гісторыя розуму ўвыпукляе дзьве галоўныя эпохі: вынахад літараў і друкарскага майстэрства; усё іншае сталася пасьлядоўнасьцю іх.

Я.С. Ліхтэнштайн

Чытаць трэба тагды толькі, калі вычарпалася крыніца ўласных думак, і гэта нярэдка здараецца з самым разумным чалавекам. Але спудзіць, дзеля кніжкі, уласную, яшчэ неабуджаную думку - гэта значыць, выканаць праступак супроць духа.

Шопэнгаўэр

Думка чалавека прыходзіць час ад часу, як прадукт развважаньня, падобна, як думка паэты, пад уплывам натхненьня. Кажны думаючы чалавек павінен сачыць за гэтым, і выкарыстаць для агульнага дабра.

---

Недахоп вялікае большасьці кнігаў - гэта празьмерная іх даўжыня. Мы гаварылі-б карацей, калі-б

розум гаварыў за нас.

Вольтэр

Чытайце перад усім лепшыя кнігі, бо інакш вы і зусім не пасьпееце прачытаць іх.

Торо

Добрая кніга – гэта нічога іншага, як надрукованая для нас карысная і прыемная гутарка чалавека, які ня можа гаварыць з вамі іншым спосабам.

Рёскін

Прабываньне на самоце з кнігаю лепей за супольнасьць з глупцамі.

Буаст

Ён, Пятрушка ... меў нават шляхэтную цягу да асьветы, гэта значыць, да чытаньня кніг, са зьместу каторых ён не рабіў сабе клопату: яму зусім было абыякасна, ці то прыгода закаханага героя, проста буквар або малітвеньнік, – ён усё чытаў з аднольkавaю ўвагаю; калі-б яму падсунулі падручнік хіміі, ён і ад яго не адмовіўся-б. Яму падабалася ня тое, што ён чытаў, як барэджэй самое чытаньне, або, лепей кажучы, працес самога чытаньня, што во, бачыце, зь літараў заўсёды выходзіць нейкае слова, якое часамі чорт ведае што значыць.

Н. Гогаль

Кніга – надзвычайнае скамплікаванае грамадзкае зьявішча. У ёй зыходзяцца ў вадно цэлае думка і слова, навука і мастацтва, духовае жыцьцё паасобнага чалавека і цэлае супольнасьці. Зь ёю, як цень, вяжуцца пытаньні ідэлёгіі, этыкі і эстэтыкі, інфармацыі. Кніга мае сваю творчую базу, сваю тэхніку, сваю тэхналёгію, эканоміку. У яе свая гісторыя, свае праблемы. У кнізе ўвесь неагорнуты сьвет духовых багацьцяў людзкасьці.

Я.С.Ліхтэнштайн

Кніга, годнасьць якое заключаецца ў праніклівым назіраньні натуры чалавека і рэчаў, ня можа перастаць падабацца.

Гэльвэці

Сутнасьць узгадаваньня ня ў тым, каб прыдбаць кнігу, але каб карыстацца ёю.

Плютарх

Кнігі робяцца з кнігаў.

Вольтэр р

Тое, што выцякае з галавы, трапляе проста ў сэрца.

Вордсвордт

Чым старэйшымі мы стаемося і чым болей здабываем дасьведчаньня, тым болей павінны мы раскайвацца адносна нашых твораў. Няма бадай-што аніводнага з маіх твораў, што да якога я быў-бы здаволеным, і я рад быў-бы, каб некаторыя зь іх зусім ня былі створаны.

Вольтэр

Ніколі ня чытайце парожных кнігаў.

Эмэрсон

Калі чытаеш, ты павінен усё грунтоўна перадумваць, каб тое, што ты прачытаў, абярнулася ў тваё цела і тваю кроў, а ня толькі было складзена ў памяці, быццам у слоўніку.

Эразм Роттэрдамскі

Кнігі зьіначваюць людзей - гэта доўгі працэс і неспасьцярожны.

І. Эрэнбурґ

Да кніга-друку рэфармацыя была-б адно расколам; кніга-друк абярнуў яе ў рэвалюцыю.

В. Гюґо

...пісьменьнік... зьвяртаецца да розуму і сэрца людзкасьці, да ўсіх людзей усіх стагодзьдзяў, здольных зразумець яго.

Торо

Кніга - гэта невялікіх памераў інструмэнт, які кранае ў рух нашу здольнасьць думаць; гэта рухавік думкі, які памагае змагацца з нашаю разумоваю лянотаю, і яшчэ часьцей - з нашаю разумоваю ўбогасьцю, які змушае нас думаць разам з аўтарам. Кнігі - нашыя найболей каштоўныя і дарагія сябры.

Э. Фаґэ

Натура зьяўляецца адзінаю кнігаю, кажная бачына якое поўная глыбокага зьместу.

Ґётэ

Добрая кніга - гэта каштоўная скарбніца.

----

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Літва - мая Бацькаўшчына.

Адам Міцкевіч

Мала ўжо сяньня гаварыць пабеларуску - трэба і думаць пабеларуску.

Усевалад Радзевіч

Космас, унівэрс. Ці ёсьць гэта нешта роднае нам, ці проста - чужое? Якколечы мы можам глядзець на "чыжы" нам далёкі сьвет і чуцца патрыётамі нашага роднага кута: хаты, вёскі, вуліцы, места, Бацькаўшчыны, уся наша пастава тут ня выключае факту, што ўсе вылічаныя лёкалізацыі зьяўляюцца часткаю агульнага быцьця і вечнага, імя якому Космас, Унівэрс. Космас, Цэлае - гэта факты. Складовая частка атаму і ўнівэрс - родныя сабе.

Ян Пятроўскі

Той, хто мае быць запраўды добрым і шляхэтным жаўнерам гаспадарства, паводля свае натуры, павінен імкнуцца лучыць у сабе філязофію і дух, імклівасьць да пазнаньня і сілу.

Плятон
"Політэя", 376

Літоўская мінуўшчына, якая, сярод іншага, праявілася і ў хворме інстытуцыйнага змаганьня, сяганьня выяўляецца, як гістарычная памылка, выкліканая міражам найвышэйшых ідэалаў. Калі найлепшыя людзі ў мінуўшчыне з захопленьнем аддаваліся сваей справе, дык мы павінны зразумець іх, шкадаваць і дараваць ім. Але, калі пасьля стагодзьдзяў сучасьнікі нашыя ўсё яшчэ кіруюць свой зрок у напрамку ўспомнутага міражу, дык што мы мае сказаць пра іх?

Ян Пятроўскі

Што гісторыкі павінны прадстаўляць свае краіны ў расьцьвеце, дык я згаджаюся з гэтым; але не да гэтакае ступені, каб падаваць здарэньні супярэчныя з фактамі. Бо нават адукаваныя людзі робяць памылкі, і кажнаму чалавеку цяжка ўхіліцца ад іх. Але, калі мы сьведама пішам хвальшыва, будзе гэта з прычыны любові да нашае краіны, ці нашых прыяцеляў, або проста, каб гучэла прыемна, дык якая-ж тады розьніца паміж намі і літаратурнымі падзёншчыкамі?

Полібіюс

Дэмакрацыя зьяўляецца адіным грамадзкім ладам, годным увагі чалавека. І як да гэтае пары – да нашых дзён – мы не назіраем лепшага ладу, ад таго, які атэнцы практыкавалі ў сваім дзяржаўным жыцьці. Але дэмакрацыя мае тое да сябе, што яна, для ажыцьцяўленьня яе, вымагае ад чалавека, каб апошні быў на адпаведным культурным і этычным узроўні. Бяз гэтых прадумовінаў дэмакрацыя ня створыць шчасьлівага жыцьця для сваіх грамадзян.

Ян Пятроўскі

Кажная рэч, якая мела свой пачатак, гэтаксама меціме свой канец. Затым, нават гэтакае гаспадарства, якое ты плянуеш, ня будзе існаваць на векі вечныя, але ў вадпаведным часе распадзецца.

Плятон
"Політэя", I, 546а

Пераўтварэньні павінны адбывацца пры ўдзеле народу і для народу; да тае пары, пакуль яны, як цяперака, зьяўляюцца ўласнасьцю і манаполіяю аднае клясы, яны вядуць адно да замены аднае арыстакрацыі іншаю і ня спрычыняцца да збаўленьня народу.

Мадзіні

Я ня ведаю аніводнае большае перамогі розуму чалавека, аніводнага паважнага кроку ў прадмеце людзкае супольнасьці, карэньне якіх не вязаліся-б з глыбокім рэлігійным перакананьнем. І я ўтрымліваю пагляд, што кажная навука, якая не бярэ пад увагу гэтага імкненьня, гэтае вышэйшае патрэбы перакананьня, у вырашэньні гэтае адвечнае праблемы адносна паходжаньня і будучыні людзкасьці, заўсёды была і будзе бязраднаю, каб зьдзейсьніць новы грамадзкі лад. Ёй, магчыма, удасца стварыць прыгожыя хвормы, але гэтым хвормам заўсёды будзе не хапаць тае іскры, якую Промэтэус забраў зь неба.

Мадзіні

"Шукайце перад усім Гаспадарства Божага і справядлівасьці Ягонае, і ўсе гэтыя рэчы будуць дададзены вам". Першы крок да натуральнае і здаровае арганізацыі людзкае супольнасьці заключаецца ў абесьпячэньні для ўсіх людзей іхных натуральных, роўных і самадаводзячых правоў на матэрыяльны сьвет. Асягнуць гэта ня значыць зрабіць усё неабходнае, але значыць зрабіць усё іншае лягчэйшым. І пакуль гэта ня будзе асягнута, нічога іншага ня прынясе ніякае карысьці.

Гэнрі Джордж

# КРЫТОН +/

[Сакратас у вастрозе; Крытон, ягоны доўгалетні прыяцель].

САКАРАТАС: Чаму ты прыйшоў у такую пару́, Крытон? Ці не зарана яшчэ?

КРЫТОН: Вельмі рана.

САКРАТАС: Каторая-ж гадзі́на?

КРЫТОН: Чуць уздымаецца на золак.

САКРАТАС: Дзіўлюся, што гэта сталася з вастрожным сторажам, што ён упусьціў цябе.

КРЫТОН: Ён прывык ужо да мяне, Сакратас, бо я часта прыходжу сюды; дый апрача гэтага, я зрабіў для яго малую далікатнасьць.

======================

+/ Сакратас - бацька філязофіі Заходняе гэмісфэры нашага сьвету - радзіўся ў Атэнах у 469 г. і памер у 399 г.п.н.э.
Усё сваё сьведамае жыцьцё ён прысьвяціў навучаньню, якое галоўна засяроджвалася на паняцьцях прызнаньня прысутнасьці божае Ідэі і этыкі; праўды; права і справядлівасьці; узгадаваньня чалавека; Дабра, якое ён утоесамліваў з Богам; розуму і лягічнага думаньня... За сваю дзейнасьць быў засуджаны атэнскім судом на сьмерць. Здарылася гэта ў 399 г. п.н.э., калі Сакратас быў у 70 г. свайго жыцьця.
Сам Сакратас не пакінуў нам нічога напісанага. Плятон - адзін зь ягоных найболей выдатных вучняў - у сваіх дыялёгах пераказаў прышлым пакаленьням прыгожы духовы воблік свайго слаўнага вучыцеля, шматлікае зь ягонага жыцьця, дзейнасьці і сьветапагляду. Дыялёгі Плятона - гэта літаратурныя творы, пісаныя ў хворме гутаркі двух або некалькі чалавек. Дыялёг "Крытон", які тут падаецца ў цэласьці, прадстаўляе нам Сакратаса ў атэнскім вастрозе; Сакратас чакае на выкананьне кары сьмерці праз выпіцьце атрутнага рэчыва. Сакратасавы блізкі прыяцель, Крытон прыходзіць у вастрог і раіць Сакратасу ратаваць сваё жыцьцё ўцёкамі заграніцу і тлумачыць чаму гэта трэба зрабіць безадкладна. Сакратас, сталы жыхар Атэнаў, адхіляе на бок Крытонавую прапазыцу, як нясузгодную з правам і божым загадам. З прычыны іхнага разыходжаньня ў аргумэнтацыі, вывязваецца дыялёг.

САКРАТАС: Ты цяперака толькі прыйшоў ці раней?
КРЫТОН: Даволі ўжо доўга.
САКРАТАС: Дык чаму-ж ты не разбудзіў мяне адразу, а сядзіш каля мяне ціха?
КРЫТОН: Я не жадаў-бы сабе быць у гэткім горы, Сакратас, ды яшчэ і ня спаць. Я са зьдзіўленьнем прыглядаўся твайму спакойнаму сну і дзеля гэтага ня будзіў цябе. Я хацеў, каб ты правёў час як найболей прыемна. Я заўсёды, на працягу мінулых гадоў, часта дзівіўся, які ты маеш шчасьлівы характар, а цяперака тым болей дзіўлюся, пры такім горы, як лёгка і супакойна ты зносіш яго.
САКРАТАС: Запраўды, Крытон, было-б сьмешна, каб чалавек у маім веку, пачаў наракаць, што трэба памерці.
КРЫТОН: Іншым людзям, Сакратас, у тваім веку, калі трапяць у гэтакую самую бяду, старшы іхны век зусім не перашкаджае ім наракаць на сваю долю.
САКРАТАС: Гэта праўда. Але скажы мне, чаго ты прыйшоў гэтак рана?
КРЫТОН: Я прыйшоў з сумнаю весткаю, Сакратас, з сумнаю і балючаю — не для цябе, як мне здаецца, але для мяне і для ўсіх тых нас, што зьяўляюцца тваімі прыяцелямі, і я думаю, што нічога болей ня можа быць сумным ад яе.
САКРАТАС: Што за вестка? Ці не надыйшоў ужо вадаплаў з Дэлёс, з прыбыцьцем якога я маю памерці?
КРЫТОН: Не, вадаплаў, фактычна, яшчэ ня прыбыў, але мне здаецца, што надыйдзе сягоньня, паводля таго, што апавядаюць тыя, што прыбылі з Суніёну і выселі зь яго там. З гэтага ясна, што ён прыбéразіцца сягоньня, а заўтра створыцца неабходнасьць табе, Сакратас, завяршыць жыцьцё.
САКРАТАС: Добра, Крытон, калі гэта ёсьць Божаю воляю, няхай тады гэтак і станецца. Адно толькі, што я ня думаю, каб ён сягоньня надыйшоў.
КРАТОН: Чаму ты думаеш так?
САКРАТАС: Я скажу табе. Я павінен памерці на другі дзень пасьля таго, як прыбудзе вадаплаў.
КРЫТОН: Так, гэтак кажуць тыя, у чыіх руках гэтыя справы знаходзяцца.
САКРАТАС: Усё-ж я думаю, што ён прыйдзе не сягоньня, але заўтра. І гэты выснаў я раблю на падставе сну, які я бачуў гэтае ночы, вось толькі-што. Магчыма і добра, што ты разбудзіў мяне.
КРЫТОН: Што гэта быў за сон?
САКРАТАС: Бачыў я, што падыйшла да мяне жанчына, прыгожая і велічная, апранутая ў белую вопратку;

яна паклікала мяне і сказала: "Сакратас,

На трэйці дзень ад сяньня, ураджайную Фтыю
асягнеш".

КРЫТОН: Што за асаблівы сон, Сакратас!

САКРАТАС: Я думаю, што няма ніякага сумліву адносна ягонага значэньня, Крытон.

КРЫТОН: Так; вельмі ясна. Але, дарагі мой Сакратас, хоць цяперака паслухайся мяне і не адмаўляйся ад уратаваньня свайго ўласнага жыцьця! Калі ты памрэш, я буду мець дзьве бяды: адна, што я згублю прыяцеля, якога я ніколі нідзе не знайду; другая, на дадатак, многім з тых, што мала ведаюць нас, выдасца, што мае стараньні ня поўнымі былі, каб уратаваць цябе, хоць і мог учыніць гэта, каб толькі я ня быў скупым. І якая-ж можа быць болей бясслаўная рэпутацыя ад тае, калі ўважаціимуць нас, быццам мы цанілі болей грошы, чымся прыяцеляў? Большасьць людзей не паверыць, што ты сам не хацеў пакінуць гэтага месца, ня гледзячы на тое, што з нашае стараны мы ўчынілі ўсё магчымае.

САКРАТАС: Дзеля чаго мы павінны турбавацца пра тое, што будзе думаць большасьць людзей, дарагі Крытон? Добрыя людзі - і толькі яны зьяўляюцца вартымі нашае ўвагі - будуць думаць, што ўсё сталася гэтак, як яно сталася запраўды.

КРЫТОН: Але я думаю, ты ўжо, Сакратас, пераканаўся, што мы павінны лічыцца з тым, што думае большасьць людзей. Твая справа ясна выявіла, што большасьць людзей здольна спрычыніць ня толькі малое, але, бадай што, і самае вялікае зло, калі хто-небудзь будзе абкінуты паклёпам перад натоўпам.

САКРАТАС: О, мой дарагі Крытон, я толькі і жадаў-бы, каб большасьць была здольна чыніць вялікае зло, з тым, каб яна была здольнай даканаць і вялікае дабро! Гэта было-б цудоўна! Бо,і запраўды, людзі зьяўляюцца няздольнымі ані на першае, ані на другое: яны ня могуць учыніць чалавека ані разумным, ані неразумным, а робяць тое, што надарыцца.

КРЫТОН: Добра, я ня буду спрачацца з табою; Але скажы мне, Сакратас, ці не баішся ты з прычыны мяне і іншых тваіх прыяцеляў: ці не баішся, ты, што, калі выйдзеш адсюль, даношчыкі могуць стварыць для нас клопат, за тое, што мы выкралі цябе адгэтуль і, што мы можам згубіць многа грошай, або і ўсю нашу маемасьць, а можа яшчэ што і горшае здарыцца з намі? Калі ты баішся нечага падобнага, дык пакінь

гэта; справядлівасьць дамагаецца, каб мы дзеля твайго ратунку, пайшлі на гэткую небясьпеку, а калі патрэбным будзе, дык і на большую яшчэ. Дазволь мне пераканаць цябе, зрабі гэта!

САКРАТАС: Так, гэтага я баюся, Крытон, і многага іншага.

КРЫТОН: Гэтага ты ўжо ня бойся. Ёсьць людзі, якія хочуць дастаць цябе адсюль, дый ня гэтак ужо многа грошай вымагаюць. А што датычыцца нашых даношчыкаў, дык ці ня бачыш ты якімі таннымі яны зьяўляюцца? Яны не дамагаюцца шмат грошай для сябе. Уся мая маемасьць знаходзіцца пад тваім загадам, і я думаю, што яе хопіць. Далей, калі ты клапоцішся пра мяне, і думаеш, што я не павінен траціць мае ўласнасьці, дык ёсьць тутака чужынцы, якія хочуць памагчы табе. Адзін зь іх – Сіммiяс Тэбанскі, які прынёс неабходныя для гэтага грошы. Гэтае самае гатоў зрабіць Кэбэс і шмат іншых. Яшчэ раз кажу, ня бойся ты гэтага і не адмаўляйся ад свайго ратунку; і няхай цябе ня турбуе тое, што ты казаў у судзе, – што, выходзячы адгэтуль, ты ня ведаў-бы што рабіць з сабою. Бо ўсюды, куды-б ты ні пайшоў, людзі будуць любіць цябе. Калі-б ты хацеў выйсьці ў Тэссалію, дык я маю там прыяцеляў, яны будуць мець цябе ў вялікай пашане і сьцерагчы цябе, і затым, ніхто ў Тэссаліі ня спрычыніць табе ніякае крыўды.

Пры гэтам, Сакратас, я ня думаю, каб ты прадпрыняў несправядлівую рэч – здрадзіць самога сябе, тады, калі ты можаш асвабадзіць сябе. Ты робіш натугу асягнуць тое самае, што хацелі-б асягнуць твае ворагі, – дый асягнулі ўжо, – жадаючы зьнішчыць цябе. Апрача таго, як мне здаецца, ты ўцякаеш ад абавязку перад тваімі ўласнымі сынамі. Ты хочаш пакінуць іх, тады, калі ты мог-бы ўзгадаваць іх і адукаваць. Гэта будзе, сярод іншага, і тваею вінoю, калі яны будуць жыць, як давядзецца; а ім напэўна прыдзецца дазнаць усё тое, што звычайна выпадае на долю сіратам. Або ня трэба мець дзяцей, або разам зь імі цярпець усе нявыгады, і ўзгадоўваць іх, а тымчасам ты, як мне здаецца, выбіраеш найлягчэйшае з гэтага. Трэба выбраць тое, што выбраў-бы добры і мужны чалавек, асабліва тады, калі ён стараўся пераканаць нас, што мужнасьць была мэтаю ягонага жыцьця. І запраўды, я асаромлены ня толькі з прычыны цябе, але і з прычыны нас усіх, тваіх прыяцеляў, калі пачнуць думаць, што ўсё гэта сталася з прычыны адсутнасьці адвагі з нашае стараны: і тое, што ўся справа трапіла ў суд, і тое, ак адбываўся працэс

у судзе, і, нарэшце, гэтае апошняе тут, – падобна на нейкую недарэчнасьць. Бо-ж можна падумаць, што ўсё гэта не ўдалося з прычыны нашае млявасьці, і сам ты не ўратаваўся, хоць гэта і было ў межах магчымасьці, калі-б толькі мы на нешта прыдатнымі былі. Вось ты цяпер сам, Сакратас, уважай, каб, апрача бяды, ня было яшчэ і сораму для нас з табою. Затым падумай – а ўрэшце і думаць няма калі, а трэба рашаць, і вырашэньне можа быць толькі адно, бо ў наступную ноч гэта трэба выканаць, а калі яшчэ пачнем чакаць, тады ўжо немагчымым будзе нічога зрабіць. Запраўды, Сакратас, паслухайся мяне і зрабі так, як я кажу.

САКРАТАС: Мой паважаны Крытон, твая стараннасьць была-б бясцэннай, калі-б яна была накіравана ў правільны напрамак; інакш, чым большай яна ёсьць, тым болей нязноснай стаецца. Затым нам трэба дасьледзіць, павінны мы гэта рабіць ці не. Бо гэтакім я ўжо быў і астануся цяпер, што я не зьяўляюся здольным быць паслухмяным чаму-небудзь із таго, што ўва мне ёсьць, апрача таго разумнага перакананьня, якое, пасьля дакладнага досьледу, выдаецца мне найлепшым. І тых перакананьняў, якія я вызнаваў раней, я не магу адкінуць і цяпер, пасьля таго, як мяне спаткала гэтая доля; яны выдаюцца мне гэтакімі самымі, і я цаню і шаную тое самае, што і раней. Калі цяпер мы ня знойдзем лепшых доказаў, чымся гэтыя, дык будзь пэўным, што я ніколі не згаджуся з табою, нават тады, калі-б улада большасьці людзей палохала нас, як дзяцей, яшчэ большаю колькасьцю страхаў, чымся цяпер гэта чыніць, тэрарызуючы нас вастрогамі, мучэньнямі або стратаю маемасьці. Як-жа тады, найболей рачова можам мы разважыць гэтую справу?

Вярнемся перш да таго, што ты гаварыў адносна грамадзкае думкі і паўзіраймася, ці правільным ёсьць тое, што мы гаварылі неаднойчы, што на адну грамадзкую думку трэба зьвяртаць увагу, а на іншую – не. Ці гэта правільна гаварылася толькі тады, калі мне ня трэба было паміраць, а ў запраўднасьці гэта было нічога? Тое, што я жадаю, Крытон, дык гэта дасьледзіць разам з табою, ці выдасца гэтае разважаньне хоць крышку іншым пры маім цяперашнім палажэньні або ўсё гэтакім-жа, і ці адыйдзем мы ад яго або пойдзем за ім? Як ты сабе хочаш, але людзі, якія, як я думаю, ведалі, што гаварылі, неаднойчы цьвердзілі тое самае, што я цяпер сказаў: Із грамадзкае думкі, якая бывае ў людзей, адну трэба ца-

ніць высака, а іншую - не. На нябёсы, Крытон, ці ня думаеш ты, што гэтае цьверджаньне трапным ёсьць? Бо-ж табе, судзячы па-людзку, ня трэба заўтра паміраць, і ў цябе няма ў дадзеную хвіліну гэткага няшчасьця, якое магло-б уплываць на цябе. Падумай тады: ці няправільным ёсьць, калі людзі кажуць, што ня кажную грамадзкую думку трэба цаніць, але, што адну трэба паважаць, а іншую - не. Што ты скажаш? Ці ня так гэта?

КРЫТОН: Напэўна.

САКРАТАС: Значыцца, добрую грамадзкую думку трэба цаніць, але ня дрэнную?

КРЫТОН: Так.

САКРАТАС: Але добрая думка - гэта перакананьне мудрых людзей, а дрэнная - нямудрых?

КРЫТОН: Ведама.

САКРАТАС: А што сказалі-б мы адносна іншае справы: чалавек, які практыкуецца ў ґімнастыцы і прыймае ўдзел у спаборніцтвах, зьвяртае ўвагу на кажную грамадзкую думку - выслаўляючую яго ці ганьбячую - ці толькі на аднаго - лекара ці вучыцеля ґімнастыкі?

КРЫТОН: Толькі на аднаго.

САКРАТАС: Затым, ён павінен баяцца дакору і цешыцца з пахвалаў яго аднаго, а ня большасьці.

КРЫТОН: Гэта зусім ясна.

САКРАТАС: Затым, ён павінен дзейнічаць, выраблящь сваё цела, есьці і піць, кіруючыся думкаю таго, хто вызначаны на гэта і ведае, а ня так, як гэта можа здавацца ўсім людзям, зложаным разам.

КРЫТОН: Гэта праўда.

САКРАТАС: Ну, добра. А калі ён гэтага аднаго не паслухаецца і ня будзе цаніць ягонае думкі і пастановы, а будзе цаніць думку большасьці тых, што нічога не разумеюць у гэтай справе, дык ці ня спрычыніць ён сабе якое-небудзь шкоды?

КРЫТОН: Напэўна спрычыніць.

САКРАТАС: Што-ж гэта за шкода і на чым яна адаб'ецца ў непаслухмянага?

КРЫТОН: Напэўна яна адаб'ецца на ягоным целе - бо гэта і ёсьць тое, што спрычыняе шкоду.

САКРАТАС: Вельмі добра ты кажаш. Ці ня гэтак і ў іншых выпадках, Крытон, каб не пералічваць усіх іх? І гэтак ува ўсім адносна справядлівага і несправядлівага, брыдкага і прыгожага, добрага і дрэннага, і - гэта якраз мы цяпераka зглыбляем, - павінны мы слухацца і баяцца думкі большасьці людзей, ці барджэй думкі аднаго чалавека, калі толькі ён зьяўляецца гэтакім, што гэта разумее і якога трэба саро-

мецца і баяцца болей, чымся ўсіх іншых людзей, узятых разам? І калі мы ня пойдзем за ім, мы згубім і зьнішчым тое, што з прычыны справядлівасьці стаецца лепшым і руйнуецца з прычыны несправядлівасьці? Ці-ж ня існуе падобны прынцып?

КРЫТОН: Думаю, што існуе, Сакратас.

САКРАТАС: Цяперака, тады, калі ідучы за думкаю нясьведамых, мы зьнішчым тое, што з прычыны здароўя стаецца лепшым, а з прычыны хворасьці нішчыцца, - ці зьяўляецца жыцьцё вартым, каб жыць яго, калі яно будзе развалена? А гэткім і ёсьць нашае цела, ці-ж ня так гэта?

КРЫТОН: Так.

САКРАТАС: Дык ці-ж варта жыць жыцьцё нам зь мізэрным і зьнішчаным целам?

КРЫТОН: Зусім не.

САКРАТАС: Але ці варта нам жыць, калі разбурана тое, чаму шкодзіць несправядлівасьць, а справядлівасьць бывае на карысьць? Або думаем мы, што цела болей важным ёсьць, чымся тое ў нас - чым-колечы яно ёсьць - што займаецца справядлівасьцю або несправядлівасьцю?

КРЫТОН: Зусім не.

САКРАТАС: Значыцца болей цэнным, чымся цела?

КРЫТОН: Значна болей.

САКРАТАС: Затым, дружа мой, мы не павінны зьвяртаць увагі на тое, што будзе гаварыць большасьць людзей пра нас, а павінны думаць пра тое, што скажа пра нас чалавек кемны, што справядліва і што несправядліва - ён адзін, дый да гэтага яшчэ сама праўда.

Значыцца, перад усім ты памыляешся, калі ты думаеш, што мы павінны азірацца на думку большасьці людзей, што зьяўляецца справядлівым, прыгожым, добрым і што - не. "Але-ж большасьць, - нехта можа сказаць, - зьяўляецца ў стане забіць нас".

КРЫТОН: Так, Сакратас, хто-небудзь можа сказаць гэтак.

САКРАТАС: Ты праўду кажаш, мой дружа! Досьлед, які мы толькі-што правялі, выдаецца мне быць падобным да папярэдняга. І тут яшчэ нешта. Я хацеў-бы яшчэ паглядзець, ці ўважаем мы ці не, што болей трэба цаніць не самое жыцьцё, але перад усім добрае жыцьцё.

КРЫТОН: Ведама, што ўважаем.

САКРАТАС: А ці ня лічым мы, што добрае жыцьцё зьяўляецца роўнаважнікам нечага справядлівага, добрага, прыгожага?

КРЫТОН: Лічым.

САКРАТАС: Дык вось, на аснове таго, у чым мы згодны, мы павінны разгледзець, ці будзе справядлівым, калі я ўчыню спробу выйсьці адгэтуль на супраць волі атэнцаў, або гэта будзе несправядліва, і,калі акажацца, што справядліва, дык тады ўчынім спробу выканаць гэта, а калі не – дык адкінем гэтакую спробу. А тое, што ты кажаш пра грашовыя выдаткі, пра людзкую гутарку і пра ўзгадаваньне дзяцей,дык, па-праўдзе кажучы, Крытон, ці ня ёсьць гэта думка людзей, якія аднолькава гатовы забіваць, а пасьля, калі-б гэта было ў іхнай моцы, вяртаць да жыцьця, і ўсё гэта яны бязь ніякае прычыны? Але нам, як гэтага вымагае нашае разважаньне, трэба разгледзець толькі тое, аб чым мы адно вось гаварылі: ці будзе гэта справядліва, калі мы заплоцім грошы тым,каторыя вывядуць нас адгэтуль, і пачнем дзякаваць ім, а так-жа, калі самыя выйдзем адсюль або вывядзем іншых, – а можа, запраўды, гэтым мы нарушым справядлівасьць, чынячы гэта? Калі-ж выявіцца, што паступаць гэтак – несправядліва, тады ўжо няма чаго лічыцца з тым, што, астаючыся тутака і нічога не прадпрыймаючы, мы павінны памерці або як-небудзь інакш прыняць цярпеньні – каб толькі ня ўчыніць несправядлівасьці.

КРЫТОН: Я думаю, што гаворыш ты прыгожа, Сакратас, але скажы мне, што маем рабіць тады?

САКРАТАС: Давай падумаем аб гэтым супольна, мой дружа, і калі ты можаш зьбіць мае цьверджаньні, у часе, як я буду гаварыць, зрабі гэта, і я паслухаюся цябе, а калі ня можаш зьбіць мяне, дык перастань гаварыць адно і тое самае, што я павінен выйсьці згэтуль супроць волі атэнцаў: бо я вельмі цаню тваё спробы пераканаць мяне, але я не магу быць пераканаsuccessfully наўсуперак мае ўласнае лепшае ацэны. Цяперака агарні маю першую паставу, і пастарайся адказаць на мае пытаньні гэтак, як ты ўважаеш за найлепшае.

КРЫТОН: Я папробую.

САКРАТАС: Ці кажам мы, што ніхто і ў ніякім выпадку не павінен сьведама рабіць зло, або, што ў вадным выпадку ён можа чыніць, а ў іншым не? Або, што чыненьне зла ў ніякім выпадку ня можа быць добраю або прыгожаю рэчаю, у чым раней мы часта згаджаліся? Або ўсё тое, у чым мы згаджаліся ў мінулым, мае быць выкінутым у гэтых пару днях, і мы людзі дарослыя, Крытон, доўга і нібыта паважна дыскутуючы між сабою, не заўважылі таго, што мы нічым не адрозьніваемся ад дзяцей? Або найболей праўдападобным

ёсьць, што, як мы ўжо гаварылі, гэтак яно і ёсьць: згодна большасьць людзей з гэтым ці не, будзем цярпець мы бслей ці меней, чымся цяперака, усё роўна – чыніць зло ёсьць злом і сорамам для таго, хто чыніць яго, і пры гэтым ува ўсіх выпадках. Кажам мы гэтак ці не?

КРЫТОН: Так, мы кажам.

САКРАТАС: Тады, у ніякім выпадку мы не павінны чыніць зла?

КРЫТОН: Не, мы не павінны.

САКРАТАС: Значыцца, наўсуперак думкі большасьці людзей, не аддаваць злом за зло, калі наагул у ніякім выпадку ня можна рабіць зла?

КРЫТОН: Гэтак выдаецца.

САКРАТАС: І зноў-жа, Крытон, павінны мы чыніць зло ці не?

КРЫТОН: Я думаю, што мы не павінны, Сакратас.

САКРАТАС: Добра. А аддаваць злом за зло, як гэта цьвердзіць большасьць людзей, будзе справядліва ці несправядліва?

КРЫТОН: Напэўна, несправядліва.

САКРАТАС: Дзелятаго, што чыні́ць людзям зло ёсьць тое самае, што спрычыняць ім несправядлівасьць.

КРЫТОН: Правільна ты кажаш.

САКРАТАС: Дык значыцца, мы не павінны адказваць злом нікому на сьвеце, нават, калі-б прышлося цярпець ад каго-небудзь. Зьвярні ўвагу, паважаны Крытон, што, згаджаючыся з гэтым, ты ідзеш супроць агульна прынятае думкі большасьці людзей, – бо я пэўны, што гэтак думаюць і будуць думаць шматлікія. А калі яны думаюць гэтак, а іншыя інакш, тады ўжо няма супольнасьці думкі і, як гэта ведама, кажны ня зносіць іншага з прычыны ягонага спосабу думаньня. Затым, – і ты падумай добра, – ці не падзяляеш ты гэтага пункту гледжаньня, ці згаджаешся ты са мною, і ці можам мы, тады, пачаць дасьледваньне, выходзячы з таго, што ніколі ня можа быць апраўданьня паступаць несправядліва і аддаваць злом за зло; ці адступаеш ты і не падзяляеш майго прынцыпу? А я ад даўна і да сягоньняшняга дня трымаюся гэтае думкі. Аднак, калі ты думаеш інакш, тады скажы мне. Калі, аднак-жа, ты астаешся пры раней выража́ных намі паглядах, тады паслухай далей.

КРЫТОН: Я рад слухаць цябе, бо я астаюся пры ранейшых паглядах.

САКРАТАС: Тады я перайду далей да наступнага пункту, які можа быць выражаны пытаньнем: ці павінен чалавек рабіць нешта, што́ ён прызнаў за справядлі-

вае, або зламаць сваё прызнаньне?
КРЫТОН: Ён павінен рабіць гэта.
САКРАТАС: Калі гэта ёсьць правільным, тады робіцца выснаў: выходзячы з вастрогу бяз згоды места, ці ня спрычынім мы каму-небудзь зло, а калі так, дык ці ня тым, каму найменей трэба яго спрычыняць? Ці ня гэтак? Ці ня здраджваем мы прынцыпаў, якія мы прызналі за справядлівыя – што ты скажаш на гэта?
КРЫТОН: Я не магу адказаць на тваё пытаньне, Сакратас, бо я не разумею яго.
САКРАТАС: Паглядзі гэтак на справу: – уяві сабе, што мы вось сабраліся ўцякаць згэтуль, – ці як-бы гэта там інакш называлася, – як раптам зьявіліся Правы і сама Дзяржава, і запыталі:"Скажы нам, Сакратас, што гэта ты такое робіш? Ці ня маеш ты ў замеры, гэтым сваім паступкам, які ты вось зьбіраешся ўрэчаісьніць, зьнішчыць нас, Правы і Дзяржаву, нагэтулькі, наколькі ў тваей моцы? Бо ці думаеш ты, што можа ўтрымацца дзяржава, у якой праўныя пастановы ня маюць ніякае сілы, але волею прыватных адінак губяць сваю сілу і адклікваюцца? " Што тады мы адкажам на гэта і падобныя пытаньні, Крытон? Бо кажны чалавек, – ня толькі аратар, – можа шмат сказаць у абарону патаптанага права, якое дамагаецца, каб пастановы суду мелі ў сабе неабходную сілу. Або, магчыма, адкажам Правам: "Дзяржава паступіла з намі несправядліва, і няправільна пастанавіла ў нашай справе"? Гэтак адкажам, ці інакш?
КРЫТОН: Толькі гэтак, Сакратас.
САКРАТАС: Тады Правы адказалі-б: "Ці дамаўляліся мы з табою, Сакратас, аб гэтым, ці толькі аб тым, каб выконваць судовыя пастановы, вынесеныя Дзяржаваю?"І калі-б мы зьдзівіліся іхным словам, дык, магчыма, яны адказалі-б: "Ня дзівіся нашым словам, Сакратас, але адказвай, – бо-ж і так у цябе ўвайшло ў прывычку тасаваць пытаньні і адказы. Дык скажы, у чым вінаватыя перад табою мы і Дзяржава, за што ты зьбіраешся зьнішчыць нас? Перш за ўсё, ці-ж ня мы радзілі цябе? Ці-ж ня дзякуючы нам, бацька твой узяў сабе за жонку тваю матку і паклікаў цябе да жыцьця? Скажы нам тады, маеш ты што-небудзь супроць тых Праваў, якія адносяцца да жаніцтва?"
– Не, нічога ня маю, – сказаў-бы я.
"А тыя, што адносяцца да ўзгадаваньня дзіцяці і да ягонае адукацыі, і тыя, у сузгодзьдзі зь якімі ты падрастаў і ўзгадоўваўся?! Ці-ж дрэнна разьмеркаваліся тыя з нас, каторыя кіруюць тымі, што далі

распараджаньне бацьку твайму, каб у тваё ўзгадаваньне ўваходзілі музыка і гімнастыка?"

– Добра, – адказаў-бы я.

"Вельмі добра. Калі ты ўжо радзіўся, выгадаваны і ўзгадаваны, ці можаш ты запярэчыць, што ты зьяўляешся вытокам з нас і нашым нявольнікам, – ты і твае продкі? І калі гэтак, ці думаеш ты, што твае правы зьяўляюцца роўнымі нашым правом? І што-колечы мы мелі-б рабіць з табою, ня ўжо ты ўважаеш сябе апраўданым супроцьдзеяць гэтаму? Калі-б у цябе быў бацька, дык зь ім ты ня быў-бы роўнапраўным, гэтаксама і з тваім панам, калі-б ты меў пана, – так, што калі-б ты дазнаў ад іх якую-небудзь крыўду, дык ты ня мог-бы адудзячвацца ім тым самым, ані адказваць лаянкаю на лаянку, ані біцьцём на біцьцё, ані чым-небудзь іншым падобным: а адносна Бацькаўшчыны і Правоў усё гэта табе дазваляецца?! І калі мы, думаючы, што гэта справядліва, жывім замер загубіць цябе, дык ты, наколькі гэта зьяўляецца залежным ад цябе, падтрымліваеш жаданьне загубіць нас, – гэта значыць Правы і Бацькаўшчыну, і пры гэтым будзеш казаць, што паступаеш справядліва, – ты каторы, запраўды, імкнешся да мужнасьці?! А можа ты, пры ўсенькай сваей мудрасьці, не спасьцерагаеш таго, што Бацькаўшчына даражэйшая за матку і бацьку, і ўсіх іншых продкаў, што яна ў большай пашане, болей сьвятая і мае большае значэньне ў багоў і людзей, – у тых, што маюць розум, – і перад ёю трэба сукланяцца з пашанаю, ёй трэба падпарадкавацца і, калі яна разгневана, трэба дагаджаць ёй болей, чымся роднаму бацьку. Трэба яе або перакануць, або выконваць тое, што яна загадвае выконваць, і калі яна прыгаворыць да чаго-небудзь, дык трэба цярпець без нараканьня, будзе гэта біцьцё ці вязьніца, пашле яна на вайну, на раны ці на сьмерць. Усё гэта трэба выконваць, бо ў гэтым ёсьць справядлівасьць. Ня можна адступаць, ухіляцца або пакідаць тое месца, на якім яна цябе паставіла. І на вайне, і на судзе, і ўсюды трэба выконваць тое, што загадвае Дзяржава і Бацькаўшчына, або імкнуцца ўзразумець іх у чым сутнасьць справядлівасьці. Чыніць гвалт над маткаю, ці над бацькам, а тым болей над Бацькаўшчынаю – гэта не ганарова". – Што мы адкажам на гэта, Крытон? Кажуць Правы праўду ці не?

КРЫТОН: Я думаю, што праўду.

САКРАТАС: Магчыма Правы скажуць: "Паўзірайся, Сакратас, ці кажам мы праўду, што ты кажаш у сабе замер паступіць з намі несправядліва, маючы гэта на

ўвазе? Мы, каторыя паклікалі цябе да жыцьця, узгадавалі цябе, далі табе адукацыю, надзялілі цябе і ўсіх іншых грамадзян часткаю ўсіх добрых рэчаў, як толькі мы маглі, і цяпераке вось мы апавяшчаем, што кажнаму грамадзяніну Атэнаў, пасьля таго, як ён прайшоў працэдуру месных рэгістраў і запазнаўся з здяржаўнымі справамі і з намі, Правамі, прадстаўляецца магчымасьць, калі мы яму не падабаемся, узяць сваю маемасьць і ісьці, куды яму падабаецца. Ніхто з нас, Правоў, ня чыніць перашкодаў і не забараняе таму з вас, хто хацеў-бы выехаць у калёнію - калі мы і Дзяржава яму не падабаемся - або нават перасяліцца ў іншую дзяржаву, куды ён хоча, пакінуць пры сабе сваю маемасьць. Пра таго з вас, хто астаецца, ведаючы, як мы судзім у нашых судох і вядзем у Дзяржаве іншыя справы, мы ўжо можам цьвердзіць, што ён у сутнасьці згадзіўся выканаць тое, што́ выконваць мы загадваем. А калі ён ня слухаецца, дык мы проста кажам, што ён тройчы нарушае справядлівасьць: па-першае, тым, што не павінуецца нам, сваім бацьком; па-другое, тым, што паступае наўсуперак нам, сваім узгадавальнікам; і па-трэйцяе, тым, што, выразіўшы згоду быць нам паслухмяным, ён ўсё-ж адмаўляецца ад паслухмянасьці і не праяўлае склоннасьці пераканаць нас, калі мы чынім што-небудзь нядобрае, і хоць мы прапануем, а ня груба загадваем выконваць нашыя пастановы і даем яму выбраць адно із двух, - або пераканаць нас, або выконваць, - ён ня робіць ані гэтага, ані другога".

"Гэткімі абвінавачаньнямі, кажам мы, будзеш абцяжаны і ты, Сакратас, калі ўрэчаісьніш тое, што ты маеш у замеры, і пры гэтым ня меней, а болей чымся іншыя атэнцы..."

А калі-б я сказаў: "Чаму болей, чымся іншыя атэнцы?" - яны, мусіць, справядліва адказалі-б, што я болей за іншых атэнцаў згаджаўся зь імі.

Яны сказалі-б: "Мы маем вялікія доказы, што мы і нашая Дзяржава падабаліся табе, бо інакш не асеўся-б ты мацней за ўсіх іншых атэнцаў, калі-б яна не падабалася табе болей, чымся іншым. Ты ніколі не выяжджаў з нашага места на сьвяты, дзе-колечы-б іх пасьвяткавалі, - хіба-што на вайну. Ты ніколі не падарожнічаў, як іншыя людзі і ніколі не агортвала цябе жаданьне пабачыць іншыя месты зь іншымі правамі. Ты здавольваўся намі і нашым местам: у гэткай паўніні, што ты выбраў нас і згадзіўся жыць, як грамадзянін пад нашым кіраўніцтвам; дый сям'ю займеў у нашым месьце, якое, трэба думаць, падабалася табе.

І напасьледак, калі-б ты захацеў, ты яшчэ на судзе мог-бы зажадаць для сябе выгнаньня і зрабіў-бы ў згодзе зь Дзяржаваю тое самае, што прадпрыняў ты зрабіць цяпераka без яе згоды. Але тады ты рабіў з сябе важнага і быццам зусім ня сумляваўся ў думцы адносна сьмерці і цьвердзіў, нібыта аддаеш перавагу сьмерці перад выгнаньнем; а цяпераka ты не саромеешся тых словаў, і нас, Праваў не паважаеш, нават імкнешся зьнішчыць нас. Ты паступаеш гэтак, як мог-бы паступіць самы мізэрны нявольнік, зьбіраючыся ўцякаць наўсуперак забавязаньням і згодзе, паводля якое ты забавязаўся жыць пад нашым кіраўніцтвам. Затым і перад усім адказвай нам на наступнае: Праўду ты казаў ці няпраўду, цьвердзячы, што ты не на словах, а запраўды згадзіўся жыць пад нашым кіраўніцтвам?"

– І што мы на гэта скажам, Крытон? Ці згодзімся мы з гэтым?

КРЫТОН: Абавязкава, Сакратас.

САКРАТАС: У такім выпадку яны могуць сказаць: "Ці не нарушаеш ты згоды і забавязаньняў, якія ты ўчыніў адносна нас бяс прымусу і без ашуканства і, ня будучы змушаным, рашаць у кароткім часе: гэта-ж у цябе было семдзесят гадоў – даволі часу, каб адыйсьці, калі-б мы табе не падабаліся і гэтая згода між намі выдалася табе несправядліваю. Але ты не ўважаў за лепшае ані Лякедаймона, ані Крэты, гэтак упарадкаваных, як ты заўсёды цьвердзіў, ані яшчэ якую-небудзь гэльленістычную абс барбарскую дзяржаву; ты адлучаўся меней, чымся кульгавыя, сьляпыя і іншыя калекі, – як відаць, табе болей, чымся іншым атэнцам, падабалася гэтае места і мы Правы. А цяпераka ты адступаеш ад нашае згоды? Паслухаў-бы ты нашую раду, Сакратас! Ня сьмешыў-бы ты людзей сваімі ўцёкамі зь места!

Запраўды, падумай толькі: зламаўшы нашыя ўмовы і ўчыніўшы гэтую памылку, што-ж добрага ўчыніш ты для самога сябе і сваіх прыяцеляў? Ясным ёсьць, што тваім прыяцелям будзе пагражаць выгнаньне, пазбаўленьне грамадзкіх правоў і страта маемасьці. Дый ты сам, калі пойдзеш у вадно з бліжэйшых местаў, у Тэбы або Мэгару, – абодва месты кіруюцца добрымі правамі, – дык ты прыйдзеш, Сакратас, як вораг дзяржаўнага парадку гэтых местаў: бо ўсе тыя, каму дарагім зьяўляецца места, будуць глядзець на цябе с-пад ілба, уважаючы цябе за зьніштажыцеля правоў, і ты замацуеш за тваімі судзьдзямі славу, быццам яны правільна вырашылі тваю справу, – бо-ж той, хто

нішчыць правы, вельмі праўдападобным можа здасца гэтаксама і зьніштажыцелем моладзі і людзей бяздумных.

А можа ёсьць тваім замерам абмінаць добра ўладжаныя месты і ўхіляцца ад спатканьня з чэснымі людзьмі? Калі так, ці будзе тваё жыцьцё вартым, каб жыць яго? Абс пры спатканьні з такімі людзьмі, ці ня будзеш ты саромецца весьці гутаркі зь імі? Дый аб чым-жа гутарыць зь імі, Сакратас? Пра тое-ж, пра што і тутака - пра тое, што для людзей найдаражэйшым ёсьць - мужнасьць і справядлівасьць, абычаі і права? Няўжо ты думаеш, што ўсё гэта, узятае разам было-б годным Сакратаса? А варта было-б падумаць пра гэта.

Але прымем, штс ты здалёк-бы абмінаў гэтыя месты і прыбыў-бы ў Тэссалію, да сяброў Крытона. А там найбольшае бязладзьдзе і распушчанасьць, і напэўна, яны зь нятоеным здаваленьнем слухалі-б тваё апавяданьне пра тое, як гэта было сьмешна, калі ты даваў цягі з вастрогу, пераапрануты ў казіную шкуру, ці яшчэ ў нешта, што звычайна апранаюць у часе гэтакіх уцёкаў, і зьінавачваючы свой вонкавы выгляд. Ці-ж ня скажа хто-небудзь: "Ты, стары чалавек, катораму, як гэта і натуральна, ужо ня шмат асталося жыць, пасьмеў так маладушна хватацца за жыцьцё,зламаўшы самае галоўнае, Права? Магчыма, што ніхто і ня скажа, калі ты нікога не закранеш, а калі не, дык, Сакратас, давядзецца табе многа гэткага наслухацца, на што ты зусім і не заслужыў. І вось будзеш ты жыць, падхлебваючыся ў кажнага і пацяшаць самога сябе ежаю, быццам ты выбраўся ў Тэссалію на абед. А дзе-ж будуць гутаркі твае, гутаркі пра справядлівасьць і пра мужнасьць?

Няхай сабе будзе, што хочаш ты жыць для дзяцей, каб узгадаваць іх і адукаваць. Але як гэта? Ці забярэш іх у Тэссалію, там іх выкарміш і выгадуеш дзеля таго, каб учыніць іх чужынцамі, а яны будуць рады з гэтага? Магчыма не, але калі ты астанешся жывым, яны, ня гледзячы на тваю адсутнасьць, тутака атрымаюць лепшае ўзгадаваньне, затым, што твае прыяцелі будуць даглядаць іх? Значыцца, калі перасэлішся ў Тэссалію, дык яны будуць даглядаць, але калі ты перасэлішся ў іншы сьвет, дык тады яны ня будуць даглядаць? Трэба здагадвацца, што будуць даглядаць і тады тыя, што называюць сябе тваімі прыяцелямі, калі толькі маюць яны якую-небудзь вартасьць.

Паслухайся, тады, Сакратас, нас, тваіх узгада-

вальнікаў, і не ацэньвай нічога вышэй за справядлівасьць — ані дзяцей, ані жыцьця, ані яшчэ чаго-небудзь, каб, прыйшоўшы ў іншы сьвет, ты мсг гэтым апраўдацца перад тымі, што кіруюць тамака.

Бо і ўзапраўды, Сакратас, калі ты правядзеш тое, што раіць табе Крытон, дык ані ты, ані твае ня будуць болей шчасьлівымі, болей сьвяцейшымі ці болей справядлівымі ў гэтым жыцьці або шчасьлівымі ў іншым. Калі ты цяперака адыйдзеш, дык ты адыйдзеш у нявіннасьці, як мучаньнік, а не як чыніцель зла,як ахвяра не Правоў, але людзей.

Калі-ж ты выйдзеш із вастрогу ў няславе, аддаючы крыўдаю за крыўду і злом за зло, зламаўшы ўчыненыя з намі умовы і пастановы, чынячы зло якраз тым, каму найменей належыцца чыніць яго — самому сабе, сваім прыяцелям, Бацькаўшчыне і нам, дык мы разгневаемся на цябе ў часе твайго жыцьця, і нашы браты, Правы ў сьвеце іншым, няпрыхільна спаткаюць цябе, ведаючы, што ты і нас імкнуўся зьнішчыць, наколькі гэта было ў тваей моцы. Ня дайся Крытону перараканаць цябе, учыніць тое, што ён раіць, паслухайся ляпей нас".

Запэўніваю цябе, мой дарагі Крытон, што гэта ёсьць голас, які я чую, як чуюць гукі флейты ўдзельнікі містэрыі; голас гэты журчыць у маіх вушах, і чыніць мяне нячулым на іншыя галасы.

І я ведаю, што ўсё іншае, што ты можаш сказаць супроць гэтага, будзе сказаным дарэмна. Аднак-жа, калі ты думаеш, што маеш нешта лепшае сказаць, кажы.

КРЫТОН: Я нічога ня маю сказаць, Сакратас.

САКРАТАС: Тады пакінь гэта, Крытон, і ўчынім так, як Бог загадвае.

Плятон

ФІЛЯЗОФІЯ

Дзьве рэчы напаўняюць душу ўсё новым і ўзрастаючым зьдзіўленьнем і глыбокаю пашанаю, калі часьцей, калі даўжэй аддаемося роздуму пра іх – гэта зорнае неба нада мною і маральнае права ўва мне.

Кант

Якую філязофію ты выбіраеш, залежыць ад таго,які ты чалавек.

Фіхтэ

Імкненьне да пазнаваньня ёсьць мудрасьцю, якая зьяўляецца філязофіяю.

Плятон
Пол.,2,376с

Нават сьмерць не зьяўляецца ў стане зьнішчыць радасьці ў сэрцы таго, хто з усёю рашучасьцю змагаецца за справу справядлівасьці. Змагайся-ж непахіснае, вернае сэрца, ідзі наперад, не азіраючыся на шчасьце ці няшчасьце, і будзь пэўным, што сьвятая справа справядлівасьці, за якую ты змагаешся, пераможа. Шчэзьне толькі ўсё несправядлівае, але ўсё справядлівае, якое зьяўляецца ўчасьнікам адвечных правоў натуры і разам зь імі зьдзейсьнівае сусьветную мэту, ня можа быць пераможаным.

Т. Карляйль

Вялікае натугі вымагае кажнае адхіленьне ад прынятых звычаяў. А між іншым, першы крок у напрамку дасканаленьня заўсёды вяжацца з гэткім адхіленьнем.

Л. Талстой

Філязофія – гэта шлях жыцьця.

Б. Джоўітт

Калі мы ня імкнемся да найлепшага, магчыма мы не асягнем найменшага.

Джымі Картэр
Прэзыдэнт

Чалавек, які ўмее прамаўчаць нават тады, калі ён і рацыю мае, падобны да багоў.

Маркус Порціюс Катон Старшы

Што ёсьць Дыяґэнэс Ляэртыйскі? Ніхто нават ня згубіў-бы і слова пра філістынскую фізыяґномію гэтага пісакі, калі-б ён ня стаўся прыпадкава неахайным сторажам пільнуючым скарбы, вартасьці якіх ён не разумеў. Ён зьяўляецца начным сторажам гісторыі грэцкае філязофіі: Ніхто ня можа ўвайсьці ў ґмах яе, не атрымаўшы ад яго ключа.

Фрыдрых Нітшэ
да свайго сябры, Эрвіна Родэ

Паўстрымайся ад спрэчкі - нікога не пераканаеш. Перакананьне, як гвозд: чым болей б'еш па ім, тым глыбей ён улазіць.

Дэцімус Юніюс Ювэналіс

Мэта, у напрамку якое Заходняя супольнасьць крочыць, зьяўляецца цывілізацыяю дыялёгу. Дух Заходняе цывілізацыі зьяўляецца духам досьледу. Дамінуючым яе элемэнтам зьяўляецца Лёґос. Нічога не павінна аставацца недыскутаваным. Кажны можа выказацца ў дадзеным прадмеце. Ніякая прапазыка не павінна аставацца бяз досьледу. Вымена ідэямі ўважаецца тут за шлях у напрамку рэалізацыі магчымасьцяў расы.

Робэрт М. Гатчынс

Філязофія, будучы нічым іншым, як вывучаньнем мудрасьці і праўды, стварае абаснаваньне дапушчаць, што тыя, што правялі ў ёй болей часу ў разважаньні і ўнутраным змаганьні, цешацца большым супакоем душы і бястурботнасьцю сумленьня, большаю яснасьцю ўмыслу, і довадамі веданьня, і зьяўляюцца меней занепакоенымі сумнівамі і труднасьцямі, чымся іншыя людзі.

Япіскап Джордж Бэркэлей

Рэлігійна філязафічныя пытаньні ўзгадоўваюць чалавека на чалавека, хіба, у найбольшай меры. Пытаньні з гэтых абсягаў належыць уздымаць пастаянна, незалежна ад стану інэртнасьці грамады.

І. Касяк
Зь ліста да Я.П., 6.6.1971 г.

Сымонка разлажыў агонь, каб сьпякчы бульбу. У часе абсэрвацыі працэсу згараньня ён разважае:

Жартаўнік агоньчык гэты!
Дзе-ж наўперад ён блукаў?
Думаў хлопчык: Ён – цікавы.
Дзе-ж ён быў? Дзе будзе зноў?
Ён і злосны і ласкавы,
Ён спакойны і рухавы,
Ён і стар і вечна ноў.
Ён патухне, а жыць будзе...
Хіба ў ім жывы дух ёсьць?
Я-ж у сьвеце толькі госьць,
Як і госьці ў сьвеце людзі...
Дзіўна гэта, страх цікава,
Я-б хацеў быць сам агнём:
Я-б дымком па небе плаваў,
Па зямлі-б хадзіў сьвятлом. –
Якуб Колас
"Сымон Музыка"

Плятонавая палітычная тэорыя зьяўляецца затасаваньнем сыстэмы натуры, і назваць гэтую філязофію арыстакратычнаю мае толькі тады сэнс, калі прымецца, што сама натура зьяўляецца арыстакратычнаю. Але называць якую-небудзь філязофію арыстакратычнаю ў сэнсе клясавых інтарэсаў, няма ніякага сэнсу; маючы на ўвазе інтарэсы нейкае клясы, каб выносіць пастановы адносна іншых, не зьяўляецца філязофіяю. Філязофія можа быць толькі безінтэрасоўнаю або не зьяўляецца філязофіяю наагул. Калі нехта займаецца маніпуляцыяю ідэямі дзеля асабістых выгадаў, клясавых або інтарэсаў групы, у днях Плятона гэта называлася сафістыкаю. Выступам супроць яе – сафістыкі – і прадназначаліся дыялёгі. Абвінавачваць Плятона, што ён быў у аб'еднаньні з сафістычнымі сіламі, што падважвалі клясычны сьвет, зьяўляецца прыкладам асабліва прадуманае місрэпрэзэнтацыі ягонае пазыцыі. Плятонавае безінтэрасоўнае зглыбляньне веды ня толькі спарадзіла слова <u>плятонізм</u> – сынанім побач слова <u>філязофія</u>, але надало яму знамя арыстакрата арыстакратаў, што зьяўляецца роўназначным эксцэленцыі, выклікаючы спаборніцтва сярод людзей найвышэйшае эрудыцыі на працягу болей дзьвюх тысяч гадоў.

––

Мы ўсе роджаныя натураю, роджаныя ў аднолькавы спосаб, гэтак барбары, як і гэльлены. І аднолькава даступным ёсьць для ўсіх людзей перасьцерагаць правы натуры, якія неабходнымі зьяўляюцца... Усе мы дышам аднолькава паветрам праз вусны і ноздры, і ўсе мы ямо рукамі.

Антыфон сафісты

Нашая краіна - гэта сьвет; нашыя суродзічы - гэта людзі на ўсім сьвеце.

Вільліям Л. Ґаррысон

## ХАРАСТВО
/паэма прозай/

Хараство - гэта сіла і магутнасьць! Гэта суцэльнасьць у мностве; суцэльнасьць, складаючая адначасна згодную і гарманійную часьць Вялікае Цэласьці, званае Сусьветам.

І таму, назіраючы гэтае Хараство, мы чуем Сусьвет, мы чуем Яго вялізарнасьць і магутнасьць. Шчасьлівы той, хто гэтак адчувае.

Любячы хараство, мы ідзем да таго, каб нашыя дзеяньні былі гарманійнаю часткай Сусьвету, мы імкнемся да Дабра, бо Дабро - гэта Хараство ў дзеяньні.

Бо перад намі маўклівы, таямнічы Сусьвет... Ціхі і вялізарны нават для думкі, для мысьлі... без пачатку і канчатку...

Углядаючыся ў яго, адчуваем супакойны такт Бясчасу. Здаецца нам, што чуем матыў, мэлёдыю, якую граюць зоры, мільёны зор і зорак у сваім гарманійным бегу... У гэтай мэлёдыі няма ні радасьці, ні суму, ні болю...

У сусьвеце ёсьць нязьменны парадак, вечная Суцэльнасьць зьявішчаў, дзіўная лучнасьць у прывідным хаосе ці беспарадку.

Сьвятло, што бачым, якое даходзіць да нашых вачэй з найдалёкшых зораў, калі мы ў пагодную ноч з прыемнай цікавасьцю разглядваем неба, - гэта тая самая энэргія, якая выражаецца нашым уласным бытам. Гэта тое, што малы чалавек і вялізарнае сонейка - частка Аднае Вялікае Цэласьці.

Гальяш Леўчык
"Доля і хлеб",1980

Дык ці ня будзе гэтае нешта, што разумеецца, як існуючае Адно і тое самае ўва ўсім - Ідэя?

Плятон

У ПЭРСПЭКТЫВЕ

Адзін вобраз ёсьць болей варты, чымся дзесяць тысяч словаў.

Кітайскае выслоўе

Прыгожаю рэчаю ёсьць жыць з куражом, і памерці, пакідаючы заўсёды трываючую славу.

Аляксандар Вялікі

"Варанае капусты" ў вершах ня люблю я, гэтаксама і "вошай", і "гадзюкаў".

Максім Горкі

Тыранія зьяўляецца сыстэмаю, якая выбірае сабе сяброў з асяродзьдзя дрэнных людзей. Тыраны любяць, калі іншыя падлізваюцца да іх, і ніякі чалаек з душою свабоднага чалавека ня можа зыйсьці да гэткае нікчэмнасьці; свабодны чалавек можа быць прыяцелем, але ні ў якім выпадку і ніколі ня станецца падлізаю.

Арыстотэлес

Афорызм - гэта ня толькі сховішча, але каталізатар людзкае думкі. Катáліз, - заўважма ў дужках, - зьяўляецца адным з самых дзіўных зьявішчаў натуры. Цукар, напрыклад, не гарыць, пад узьдзеяньнем агню ён растопліваецца, тае; але трэба толькі на кусочак цукру стрэсьці крышку попелу з цыгарэты, і наблізіць да яго запалку з агнём, як ён загарыцца прыгожым блакітным аганьком. Катáліз ужо сягоньня - адно з самых прагрэсыўных, крочучых наперад, шматпрыракаючых напрамкаў навукі. Усё пытаньне зводзіцца да вынахаду новых і новых каталізатараў. Мудрасьць старажытных і сучасных людзей, узятая ў іхнай найболей лякано́чнай і выразнай хворме - гэта каталізатары думкі і чыну.

Я.С.Ліхтэнштайн

Вера зьяўляецца ўкрытым скарбам нашага дому.

Е.В.Гётэ

Як конь у млыновым коле абс ваверка ў клетцы, гэтак і славалюбівы чалавек, усё яшчэ ўлазіць і ўлазіць зь вялікім накладам працы і ў бесперапынным страху, але ніколі не асягвае ўзьверху.

Робэрт Буртон

На пахілых і сабакі
Брэшуць злосьней і гарэй...

Якуб Колас
"Сымон Музыка"

Найбольшым грэхам супроць людзей ня ёсьць тое, каб ненавідзець іх, але каб аставацца абыякасным адносна іх: гэта бо і ёсьць сутнасьць негуманнасьці.

Б. Шоў

Дабрата – таксама зброя.

Васіль Быкаў

Як старожы чуйна пільнуюць крэпасьць, пільнуюць і навакол сьценаў, як і ўнутры іх, гэтак і чалавек павінен чуйна сьцерагчы самога сябе і ані на адну хвіліну ня згубіць сябе з спазору; хто ўпусьціць з засягу свайго зроку вырашальную мінюту ў жыцьці, той няўхільна ўзыйдзе на шлях у прадоньне.

Будыйская мудрасьць

Уся цывілізацыя заключаецца ў замене фізычных элемэнтаў разумовымі і разумовых – этычнымі або маральнымі.

Маральнае права – гэта "любіць бліжняга, як самога сябе", – гэта вечнае права, якое ня міне, пакуль не дазнаціме свайго завяршэньня, і яно гэтакае-ж няўхільнае, як і права ґравітацыі, права хэмічных злучэньняў і іншыя фізычныя правы.

Можна здагадвацца, што і фізычныя правы аднойчы хісталіся, ня былі агульнымі для ўсіх назіраных сягоньня натуральных зьяваў, выпрацоўваліся з часам і нарэшце сталіся неабходнасьцю. Падобна рэч маецца і з этычным правам: яно выпрацоўваецца намі.

Л. Талстой

Ідэалы ўсяроўна, як зоры; ты ніколі не дасягнеш іх, каб даткнуцца сваімі рукамі. Але, як вадаплаўнік на глыбокіх і разьлеглых водах, ты выбіраеш іх, як сваіх праваднікоў і, кіруючыся імі, ты дсягнеш сваю мэту.

Карль Шурц

Фактычная малітва – гэта малітва контэмпляцыі.

----

АДУКАЦЫЯ

Нашае слова адукацыя выводзіцца з лацінскага educatio і значыць гэтулькі што ўзгадаваньне; а згэтуль выводзяцца ўсе іншыя сынанімы, як навука, навучаньне, падрыхтаваньне, шкаленьне, практыкаваньне, дасьведчаньне...

Навука, а зь ёю і ўзгадаваньне, у той ці іншай меры, распасьціраецца на ўсе пласты народу і трывае на ўсім працягу жыцьця чалавека.

Узгадаваньне або навука ў васнаўным дзеліцца на прафэсыянальную навуку і свабодную або агульную.

----

Калі на працягу некалькі апошніх гадоў вы нічога ня выкінулі як непатрэбнае з вашага пераканаканьня або не займелі нічога новага, тады трэба вам спраўдзіць ваш пульс. Магчыма вы памерлі?

Франк Ґэлетт Бурґэсс

Толькі дабраахвотнае ўзгадаваньне ў самых сабе сьветлага самаабмежаваньня ўздыме чалавека над матэрыяльным гармідарам сьвету.

А. Салжаніцын

Кажны чалавек на працягу свайго жыцьця сустракае безьліч зьявішчаў, павязаных зь ягоным існаваньнем. Адны з гэтых зьявішчаў зьяўляюцца болей або меней важнымі. Найболей важным якое дамінуе ўсе іншыя і падпарадквае іх сабе - гэта адукацыя. Няма гэтак вялікае праблемы, якую чалавек ня мог-бы вырашыць - аднак пад умоваю, што сам чалавек будзе праўдзіва адукаваным.

-

Дом, у якім няма [лепшых] кнігаў, падобны да цела, пазбаўленага душы.

Цыцэрон

Мамэнт дыскусыйнае практыкі зьяўляецца няўхільнаю прадумовінаю ў жыцьці і разьвіцьці прагрэсыўнае супольнасьці.

Паводля Плятона

Ніякая навука ці мастацтва ня турбуецца пра карысьць сільнага або ўладарнага, але пра карысьць падуладнага і слабсга.

Плятон

У лесе часамі ты знойдзеш большую навуку, чымся ў кнігах. Дрэвы і каменьні навучаць цябе нешта такое, чаго ты ніколі не навучышся ад ніякага вучычыцеля.

Сьв. Бэрнард

Адукацыя ня гэтулькі зьяўляецца сама ў сабе ідэяю або абазначаным матэрыялам, колькі тэмаю, да якое вялікія ідэі і аснаўныя тэматавыя матэрыялы адносяцца. Гэта адна з заўсёдытрываючых праблемаў, якую людзі ня могуць дыскутаваць, ня будучы ўцягнутымі ў глыбокія спэкулятыўныя разважаньні. Гэта праблема, якая ўводзіць дыскусыю ў сьпляценьне шматлікіх тэматавых матэрыялаў – свабодныя мастацтвы гэтакіх галінаў, як: граматыкі, рэторыкі і лёгікі; псыхалёгіі, мэдыцыны, мэтафізыкі і тэалёгіі; этыкі, палітыкі і эканомікі. Усе гэтыя пытаньні, якія ставяць перад сабою шматлікія вялікія ідэі, як – мужнасьць і праўда, веда і пагляд, мастацтва і навука; імкненьне, воля, змыслы, памяць, розум, звычаі; зьмена і прагрэс; сям'я і гаспадарства, чалавек, натура і Бог.

"Вялікія кнігі"

Калі-б нам удалося зграмадзіць усе найлепшыя творы ўсіх часоў, напісаныя найлепшымі людзьмі, стварылі-б яны для нас ідэал для нашае свабоднае або агульнае адукацыі.

–

Людзі болей за ўсё схільнымі зьяўляюцца да падсьведамага ўспрыйма ў дзіцячых гадох. Разважаньні ня маюць на іх і 1/1000 таго ўплыву, якое мае на іх прыклад.

Затым дарэмнымі і сьмешнымі астаюцца ўсе тыя пропаведзі і дакоры, адчытваныя дзецям, якія на прыкладзе бачаць супроцьлежнае пропаведзі.

Л. Талстой

Дзіця зьяўляецца бацькам чалавека.

З. Фройд

Будзь праўдзівым заўсёды і асабліва зь дзіцем. Выконвай тое, што ты прырок яму, інакш прывучыш яго да хлусьні.

Тальмуд

У сваім дыялёгу п.т. "Політэя" Плятон займаецца справаю пабудовы добра ўладжанага гаспадарства. Сярод рознародных чыньнікаў, якія складваюцца на гэтакае гаспадарства, у першую чаргу выступае пытаньне ўзгадаваньня і адукацыі. У трэйцяй кнізе гэтага твору Плятон,зьвяртаючыся да аднаго з дыскутантаў, кажа:

Ці маем мы толькі дагляд мець над паэтамі і заабавязваць іх да ўцелесьненьня ў сваіх творах адно таго, што́ ёсьць добрым, а калі не, дык адмовіцца ад творчае працы ў нас? А мо' гэты самы дагляд мае быць распасьцерты і на іншых стваральнікаў і ім павінна быць забаронена ўвыпукляць у вобразах жывых існаваньняў пры ўздыме будынкаў і ў кажных іншых сваіх стварэньнях нешта амаральнае, як неапанаванасьць, подласьць і няпрыстойнасьць? І той, хто не зьяўляецца ў стане падпарадкавацца гэтым нашым вымаганьням, гэтакі не павінен быць дапушчаны да выконваньня свае дзейнасьці ў нашым гаспадарсьцьве, каб ён не псаваў смаку нашых грамадзян. Мы не дазволім, каб нашыя старэжы ўзгадоўваліся ў васяродзьдзі твораў маральнага зьвіхненьня, быццам на дрэнной пашы, дзе шмат гэткага набяруцца і напасьвяцца, дзен па дні, маленечкімі, але шматлікімі лісткамі і кветкамі свайго зьнішчэньня; і з гэтага, неспасьцярожнага для іх ліхазельля, узьнікне ў іхнай душы нейкае суцэльнае і вялікае зло. Не, няхай баржджэй нашыя майстры будуць гэтакімі, якія, дзякуючы сваей здольнасьці, знойдуцца на адпаведным духовым узвышшы, каб распазнаць праўдзівую натуру прыгожасьці і ветлівасьці, і паўніню грацыі. Тады наша моладзь будзе жыць у краіне здароўя, у васяродзьдзі прыгожых спазораў і гукаў і займее дабро ўкажнай рэчы; і прыгожасьць, і заможнасьць чэснае працы будзе плысьці вобразнасьцю для вока і прыгожым гукам для вуха, падобна здароўе-нясучаму павеву з чыстых абшараў і неспасьцярожна зь дзіцячых гадоў хіліць душу ў напрамку сузгоднасьці і прыхільнасьці да прыгожасьці розуму.

Затым, музычнае ўзгадаваньне зьяўляецца болей галоўнаю прыладаю, чымся якое-небудзь іншае, і гэта з тае прычыны, што рытм і гармонія знаходзяць свой доступ у глыбінныя месцы душы, у якіх яны замацоўваюцца, прышчапляючы ветлівасьць, чынячы ласкаваю душу таго чалавека, каторы належна адукаваны, або як няветлівасьць у таго, хто дрэнна адукаваны; яшчэ і затым, што той, хто атрымаў належ-

нае ўзгадаваньне ўнутранага быцьця, вельмі востра распазнаціме розныя занядбаньні і недахопы ў мастацтве і натуры, і з праўдзівым смакам, выхваляючы і радуючыся з прычыны дапушчэньня ў сваю душу дабра і, стаючыся шляхэтным і добрым, ён будзе апраўданым у ганьбаваньні і некавіджаньні зла, цяпераka, у днях ягонага юнацтва, і нават перад тым, як станецца здольным пазнаць прычыну гэтага; зноў-жа, калі надыйдзе разумовая здольнасьць, ён пазнаціме і аддаціме пашану свайму прыяцелю, зь якім ягоная адукацыя ўчыніла яго сьведамым гэтых рэчаў.

Плятон

З таго часу, як заіснавала людзкасьць, заўсёды і сярод усіх народаў паяўляліся вучыцялі, якія займаліся навукаю пра тое, што перад усім павінен ведаць чалавек. Навука гэтая заўсёды мела на ўвазе прадмет веданьня таго, у чым мэта і затым запраўднае шчасьце кажнага чалавека і ўсіх людзей. Гэтая вось навука і служыць, як кіруючы паказьнік у вызначэньні ўсіх іншых пазнаньняў.

Прадметаў навукаў безьлічная колькасьць; і бязь веданьня таго, у чым заключаецца мэта і шчасьце ўсіх людзей, няма магчымасьці выбару ў гэтай безьлічнай колькасьці прадметаў; затым, бяз гэтага веданьня ўсе іншыя веды і мастацтвы стаюцца, гэтак, як яны і праяўляюцца ў нашым асяродзьдзі, фанабэрыстаю і шкоднаю забаваю.

Л. Талстой

Самае звычайнае зьявішча нашага часу - гэта бачыць тое, што людзі, якія ўважаюць сябе за вучоных, адукаваных і асьвечаных, касьцянеюць у найболей цёмным і смуродным невуцтве; яны ня толькі ня ведаюць сэнсу свайго жыцьця, але нават пахваляюцца гэтым няведаньнем. І наадварот, ня меней звычайнае зьявішча сустракаем сярод малаграматных і бязграматных людзей, якія нічога ня ведаюць пра хэмічныя табліцы, параляксы і пра свомасьці радыя, людзей запраўды асьвечаных, якія ведаюць мэту свайго жыцьця і якія не пахваляюцца гэтым, а толькі шкадуюць тых нібы-та асьвечаных людзей, якія бязьмежнаю сваею самаўпэўненасьцю твораць непахісным сваё невуцтва.

Л. Талстой

Старажытныя грэкі асабліва былі ўсьведамленымі адносна важнасьці для сваіх грамадзян узгадаваньня і адукацыі. Гэтак, Плятон у "Палітэі" /кн. 7-ая/, у ведамай на ўвесь культурны сьвет прыповесьці пра людзей у пячоры, ілюструе розьніцу, якую можна назіраць паміж асьвечаным чалавекам і неасьвечаным, і якія часамі могуць узьнікнуць між імі ўзаемадачыненьні.

Дыялёг вядзе Сакратас з Ґлаўконам у прысутнасьці іншых удзельнікаў. -

- А цяперака, - сказаў я,+/ - параўнай людзкую натуру ў ваднясеньні да асьвечанасьці і неасьвечанасьці пры дапамозе гэтакага вобразу: - Глядзі! вунь людзі знаходзяцца ў падзямельнай пячоры з адчыненым горлам, праз якое сьвятло пранікае ўздоўж ейнае глыбіні; жывуць яны тут змалку; на іхных нагах і шыі відны ланцугі, затым бо яны і крануцца ня могуць зь месца, і бачаць адно толькі тое, што ў іх перад вачыма, бо з прычыны ланцугоў, яны ня могуць павярнуць галавою. Высака і з-заду іх далёка гарыць агонь і яркім зіхаценьнем кідае сваё сьвятло; паміж агнём і запалоненымі праходзіць узьнятая дарога; і калі ты будзеш узірацца, ты ўбачыш нізкую сьцяну, пабудаваную ўздоўж дарогі быццам тая заслона, за якою марыянэтачныя выканаўцы па-паўзьверх яе паказваюць лялькі.

- Бачу, - сказаў ён.++/

- Ты бачыш, - сказаў я, - людзі ідуць уздоўж сьцяны, нясучы розныя вытвары гэтак, што яны відны паўзьверх сьцяны; нясуць яны статуі і падабенствы розных зьвераў, выкананых з каменя і дрэва і з рознага матэрыялу. Адны, як гэта і бывае, гутараць між сабою, іншыя мінаюць моўчкі.

- Дзіўны ты мне рысуеш вобраз, - сказаў ён, як і дзіўных запалоненых.

- Зусім падобных да нас, - адказа я. - І яны бачаць толькі свае ўласныя цені або цені адзін аднаго, якія агонь кідае на супроцьлежную перад імі сьцяну пячоры?

- Дый як-жаж яны могуць бачыць што-небудзь іншае апрача ценяў? - сказаў ён, - калі ўсё сваё жыцьцё яны змушанымі былі трымаць сваю галаву непарушна?

- Гэтаксама і з прадметамі, якія нясуць тамака за сьцяною, яны бачаць толькі іхныя цені?

===============

+/ Сакратас; ++/ Ґляўкон.

– Як гэта?
– Калі-б зьняволеныя мелі магчымасьць весьці гутарку між сабою, ці думаеш ты, яны не ўважалі-б, што яны называюць рэчаіснымі імёнамі тое, што фактычна бачылі?
– Абавязкава.
– I ўяві сабе далей, што ў вастрозе адбіваецца рэхам усё тое, што хто-небудзь кажа з тых, што мінаюць уздоўж, ці ня думаеш ты, што яны аднесьлі-б усе гэтыя гукі да чаго-небудзь іншага, але не да мінаючага ценю?
– Запраўды, я ня думаю гэтак, – адказаў ён.
– Для іх, – сказаў я, – поўнаю праўдаю будзе ні што іншае, як цені міма парушаных прадметаў.
– I гэта зусім няўхільна, – сказаў ён.
– А цяперака, – сказаў я, – паўзірайся зноў і глядзі што фактычна здарыцца, калі зьняволеныя спасьцерагуць сваю памылку. Перш, калі хто-небудзь зь іх будзе вызвалены з ланцугоў і змушаны ўстаць і павярнуць сваю шыю, прайсьціся крыху і паўзірацца ў напрамку сьвятла, яму будзе балюча выканаць усё гэта; пры ясным зіяньні сьвятла ён ня будзе ў стане ўзірацца на рэчы, цені якіх ён бачыў на сьцяне перад гэтым. I як ты думаеш, што ён скажа, калі яму пачнуць гаварыць, што тое, што ён раней бачыў – гэта адно зман, але цяперака, набліжыўся да быцьця і скіраваўшы свае вочы ў напрамку запраўднага існаваньня і, што ён цяперака можа здабыць правільны пагляд? Дый уяві сабе яшчэ і тое, што пачнуць зьвяртаць ягоную ўвагу на тую ці гэтую рэч, што мінае перад ім і ставіць яму пытаньні, што гэта такае? дый яшчэ змусяць яго адказваць! Ці ня думаеш ты, што ўсё гэта зьбянтэжыць яго і пачне ён думаць, што шмат болей ёсьць праўды ў тым, што ён бачыў раней, чымся у тым, на што яму зьвяртаюць увагу цяперака?
– Ведама, ён падумае гэтак.
– А калі змусяць яго ўзірацца проста на сьвятло, ці не дазнаціме ён боль у вачох і ці ня вернецца ён бягма да таго, што лягчэй яму бачыць, уважаючы, што гэтыя зьяўляюцца болей рэальнымі рэчамі, чымся тыя, што паказваюць яму?
– Зусім правільна, – адказаў ён.
– Прымем яшчэ і тое, – сказаў я, – што яго нехта сіламоцаю цягне ўздоўж крутога і ўзьвілістага праходу на ўзвышша і трымае яго моцна, аж пакуль ён не апыніцца ў прысутнасьці самога Сонца, ці-ж не дазнаціме ён цярпеньня і не абурыцца з прычыны гэ-

тага гвалту? I калі-б ён наблізіўся да сьвятла, ягоныя вочы былі-б асьлепленыя і ён на быў-бы ўстане бачыць аніводнае рэчы з таго, што́ цяперака называюць рэчаіснасьцю.
– Зусім не, – сказаў ён, – што найменей не адразу.
– I тут ён павінен будзе прывыкнуць да спазору ўзьверхняга сьвету. I шлях гэты на дарозе эвалюцыі: перш ён павінен глядзець на цені, а пасьля – на адлюстраваньне людзей і розных прадметаў у вадзе, і толькі пасьля таго – на самыя рэчы; тады будзе ён узірацца на тое, што́ на небе, а на самое неба яму будзе лягчэй узірацца ня днём, але ноччу, гэта значыць, сузіраць зорачнае неба і сьвятло Месяца ляпей, чымся сонечнае сьвятло і самое Сонца ў часе дня.
– Напэўна.
– I напасьледак, я думаю, чалавек будзе здольным узірацца ўжо на самое Сонца, якое знаходзіцца на свомым для яго месцы, аддаючыся развазе над тым, чым яно ёсьць і, не абмяжоўваючыся адно назіраньнем зманьваючага спазору ў вадзе або ў чужым для яго асяродзьдзі.
– Ведама.
– I тады меціме ён магчымасьць учыніць выснаў, што гэта яно ёсьць, Сонца, якое вызначае поры году, як і самыя гады, і зьяўляецца старожам усяго таго, што назіраем у спасьярожным сьвеце, і да пэўнае ступені зьяўляецца прычынаю ўсіх рэчаў, якія ён і тыя паняволеныя раней бачылі ў пячоры.
– Напэўна, – сказаў ён, – гэтакі чалавек першы ўбачыць Сонца і пачне думаць пра яго.
– I як? Калі ён цяперака прывядзе на ўспамін сваё старое жыцьцё і мудрасьць свому для пячоры, і сваіх сяброў-запалоненых, ці ня думаеш ты, што ён перапоўніцца пачуцьцём шчасьця з прычыны зьінача́ньня ў ім, і пашкадуе сваіх сяброў?
– I вельмі нават.
– I калі ў іх там быў звычай ганараваць адзін аднаго, узнагароджваючы тых, што мелі найболей вострызрок пры назіранні мінаючых ценяў і ляпей за іншых умелі запамятаць які зь ценяў мінаў першы і які пазьней, і якія адначасна; і тых, што ўмелі на падставе гэтага рабіць высновы адносна будучыні, дык як табе здаецца, ці праявіў-бы гэтакі асвабоджаны зацікаўленьне адносна іхных гонараў і славы або зайздросьціў-бы тым, каго паважаюць нявольнікі і тых, што сярод іх маюць уплыў? А мо' барджджэй ска-

заў-бы ён разам з Гомэрам:

Лепш я жадаў-бы сабе, як батрак, пасабляці на полі

Беднаму мужу, і гэтак атрымліваць хлеб свой штодзенны,

і зносіць кажную і ўсякую рэч барджэй, чымся думаць гэтак, як яны думаюць і жыць гэтак, як яны жывуць?

– Так, – сказаў ён, – я думаю, што ён выбраў-бы барджэй цярпець з прычыны кажнае рэчы, чымся гэтак жыць.

– І яшчэ ўяві сабе, – сказаў я, – што калі-б гэтакі чалавек зноў зьнічэўку спусьціўся з сонцасьветласьці ў абставіны старога жыцьця, ці-ж не агарнула-б ягоныя вочы цемра?

– Што да гэтага – няма сумліву, – сказаў ён.

– І калі-б узьнікла спаборніцтва паміж імі гэтымі адвечна палоннымі ў прадмеце значэньня тых ценяў у пячоры, і пакуль ягоны зрок ня прытупіцца і вочы ня прывыкнуць да цемры /і на гэта спатрэбіўся-б даволі доўгі час/, ці-ж ня выдаўся-б ён ім сьмешным? Пра яго пачалі-б гаварыць, што ад часу ягонага ўзыходу на ўзвышша і павароту назад, ён вярнуўся з сапсутымі вачыма, а згэтуль ужо і выснаў, што нават і натугі ня варта прадпрыймаць, каб дайсьці да ўзвышша. А калі-б хто-небудзь і пачаў асвабаджаць паняволеных і весьці іх у напрамку да Сонца, дык ці-ж гэтакага не забілі-б яны, калі-б толькі папаўся ён ім у рукі?

– Абавязкава забілі-б, – адказаў ён.

– Дык вось, – сказаў я, – гэтую алеґорыю, дарагі мой Ґляўкон, можна прыраўнаць да папярэдняе нашае арґумэнтацыі: Дом-вастрог – гэта сьвет, які агортваецца зрокам, сьвятло, што зыходзіць з агню, прыраўноўваецца да сілы Сонца. І ты не памылішся ў агарненьні мае думкі, калі ты будзеш разумець, што ўзыход на ўзьверх зьяўляецца ўздымам душы ў сьвет інтэлектуальны; і гэта паводля мае абмежаванае веры, якую, у сузгоднасьці з тваім жаданьнем, я выразіў; і ці будзе яна правільнаю ці няправільнаю – Бог ведае. Але будзе яна праўдзіваю ці хвальшывай, я думаю, што ў сьвеце пазнаньня ідэя дабра – выступае як апошняя мяжа, і спасьцярожнаю яна можа быць толькі пры наяўнасьці натугі; але, калі і станецца спасьцярожнаю, дык толькі ў якасьці выснаву, што якраз яна зьяўляецца ўнівэрсальнаю прычынаю ўсіх рэчаў правільных і прыгожых, і яна зьяўляецца

крыніцаю і сьвятла, і ягонага валадара ў гэтым спасьцярожным сьвеце, і яна зьяўляецца беспасярэдняю крыніцаю, пад уладаю якое знаходзяцца і праўда, і разуменьне. І гэта зьяўляецца магутнасьцю, на якую павінен узірацца кажны той, хто хоча разумна дзейнічаць гэтак у прыватным, як і ў грамадзкім жыцьці.

Плятон



ВАЙНА

Я хачу сказаць, што мір і супакой на сьвеце ня толькі магчымы, але яшчэ болей - мір - няўхільны. Надыйдзе дзень, калі гарматы будуць выстўляцца толькі ў музэях, як узоры барбарскае зброі, і людзі будуць дзівіцца, што падобнае барбарства было калісьці магчымым на Зямлі.

Віктор Гюґо

Вайна зьяўляецца дазволеным людзьмі праступствам.

Л. Талстой

Войны не зьяўляюцца "актам Бога". Яны - твор чалавека, створаных ім інстытуцыяў, спосабу, якім чалавек зарганізаваў сваю супольнасьць. І тое, што стварыў чалавек, чалавек можа зьнішчыць.

Фрэд М. Вінсон

Цела напаўняе нас жаданьнямі, жарсьцямі, страхамі і гэтакаю масаю розных недарэчных зданьняў, што, як той казаў, - чы́ніць нас няздольнымі хоць крышку падумаць аб чым-небудзь і калі-небудзь. Бунты, бітвы і войны прыходзяць зь цела і ягоных жаданьняў. Усе войны бяруць свой пачатак у прагнасьці награмаджаньня багацьцяў, а прагнуць іх нас змушае цела, якому мы служым, як нявольнікі. Дзеля ўсіх гэтых прычынаў - дзеля цела - у нас і часу няма для філязофіі.

Плятон
"Файдон", 66

Мы станулі перад богам навукі толькі, каб даведацца, што яна абдарыла нас атамнаю бомбаю, як крыніцаю страху і несупакою, і, што навука ніколі не паменшыць нашага цярпеньня.

Др Марцін Лютар Кінґ

Богі родзяцца, багі паміраюць, але атам трывае.

Александар Чэйс

Гісторыя вучыць нас, што дзеля збаўляючых ідэялёгіяў і чынячых людзей шчасьлівымі, ста́ла вяліся спрэчкі і войны, заліваючыя Зямлю крывёю. Цяперака людзі стаяць перад пагрозаю своеасаблівага ідэялягічнага "ашчасьліўленьня", перад чым кажны шчыры чалавек дазнае́ сум і адсутнасьць радасьці ў жыцьці.

----

Ня можна ўзважыць таго маральнага зла, якое пакідае па сабе вайна.

Л. Талстой

Мы здольнымі сталіся пранікнуць розумам тайніцу атаму і адначасна адкінуць Нагорную пропаведзь. Сьвет асягнуў пышнасьць бяз мудрасьці, сілу – бяз сумленьня. Наш сьвет – гэта сьвет нуклеарнага волата і этыкі слабога дзіцяці. Мы болей ведаем пра вайну, чымся пра мір, болей як трэба забіваць, чымся ведаем як жыць.

Гэн. Омар Брадлей

Не паўторым мы гэтага зла.

Інскрыпцыя на помніку
ў Гэрошыме са зьвітком
імёнаў людзей, загінуўшых з прычыны
нуклернага аружжа.

Калі-б падарожны ўбачыў на якой-небудзь асобнай абтоцы людзей, чыіх дамы былі-б абстаўлены заладаванымі гарматамі і навакол гэтых дамоў днём і ноччу хадзіла-б варта, дык ён мог-бы падумаць, што на востраве жывуць адны толькі разбойнікі. Ці-ж ня гэтак рэч маецца з эўрапэйскімі і іншымі гаспадарствамі?

І які-ж малы ўплыў мае на людзей рэлігія, або як далёка мы знаходзімся ад праўднае рэлігіі.

Ліхтэнбэрґ

Пасьля вялікага зьнішчэньня кажны зь людзей будзе даводзіць сваю нявіннасьць.

Ґюнтэр Айх

Гэта вельмі гіранічна гучыць, што ў веку, калі мы гэтак вялікую гордасьць праяўляем адносна нас самых з прычыны нашага поступу ў галіне інтэлігэнтнае апекі і адукацыі нашых дзяцей, і ў тым самым часе пакідаем іх на ласку і няласку новага і найболей страшнага аружжа зьнішчэньня.

Пірль С. Бак

Чалавек у сваіх пошуках ваенных сродкаў масавага зьнішчэньня, вынайшоў гэтакае прыладзьдзе, якога сам спалохаўся.

Я. Пятроўскі

Сотня [казацкая] выбрала хвост і строем станула пасярэдзіне двара. Грэбля пакрылася казакамі, што вярнуліся да купаньня. Рыгор прысеў побач брата. Адсырэўшая на грэблі гліна цяжка пахла сырасьцю. Удоўж узьбярэжжа зялёнаю травою заццвітала густая вада. Рыгор у рубцах і складках сарочкі біў вошы, і расказваў:

– Я, Пятро, змарыўся душою. Я цяперака быццам нейкі недабіты... Быццам выйшаў з-пад млыновых жорнаў, перамялі яны мяне і выплюнулі. – Голас у яго нараклівы, надтрэснуты, і баразда /яе толькі-што, з пачуцьцём унутранага страху, спасьцярог Пятро/ цямнела, сьцякаючы наўскос праз лоб, няведамая, палохаючая быццам нейкаю зьменаю ў яго, адчужанасьцю.

– Як гэта? – запытаў Пятро, сьцягваючы сарочку, адсланяючы гэтым белае цела з роўна адцемленаю паласою загару на шыі.

– А вось, як бачыш, – хутка загаварыў Рыгор, і голас узмоцніўся ў злосьці, – людзей стравілі, і не пападайся! Горай ваўка стаў народ. Злосьць навакол. Мне здаецца цяперака, калі мне чалавека ўкусіць, – ён шалёным станецца.

– Ці табе даводзілася... забіваць?

– Даводзілася!... – бадай-што крыкнуў Рыгор і скомкаў і кінуў сарочку. Пасьля доўга мяў пальцамі горла, быццам прапіхаў засеўшае слова, глядзей набок.

– Кажы! – панукаў Пятро, ухіляючыся і баючыся сустрэцца з братам вачыма.

– Мяне сумленьне забівае. Я пад Лешнювам закалоў аднаго пікаю. Пагарачыўся... Немагчыма было інакш... І зачым я гэтага засёк?

– Ну?

– Вось табе і ну, бяз дайпрычыны засёк чалавека і праз яго хварэю душою. Па начох сьніцца, свалата. Ці я вінаваты?

– Ты не абкамячыўся яшчэ. Пачакай, яно прыйдзе ў чоканьні.

Міх. Шолахаў

Я ня ведаю якое будзе найважнейшае аружжа ў наступнай вайне, але я ведаю якое найважнейшае аружжа будзе ў вайне пасьля гэтае – лук і страла.

Даўцiпнае выражэньне з часу II сусьветнае вайны.

# ПРЫНЦЫП ДРУГОЕ МІЛІ

Зьявішча змаганьня паміж людзьмі ёсьць гэтак старое, як старым ёсьць наш сьвет.

І змаганьне назіраем на толькі сярод людзей. Яго назіраем усюды, дзе маецца наяўнасьць якоеколечы хвормы жыцьця, ад кволае траўкі пачынаючы і, канчаючы на скамплікаваных арганічных відах.

З тае самае хвіліны, калі першабытны чалавек выпрастаўся і стануў на заднія канчыны, а ў пярэдніх атрымаў здольнасьць хватаньня, ён узяў у "рукі" здаравенны дубовы сук. Пры помачы гэтага сука, які ён пазьней назваў "аружжам", ён бараніўся перад небясьпекаю звонку і здабываў неабходнае мінімум для падтрыманьня ўласнага існаваньня.

У меру ступені грамадзкага разьвіцьця і матэрыяльнае культуры з аднае стараны, і нарастаньня канфліктаў паміж людзьмі - з другое, сук гэтаксама адбыў сваю мэтамарфозу, а само змаганьне паступова прыняла форму "вайны".

==========================================

Вы чулі, што сказана: вока за вока, і зуб за зуб.

А Я вам кажу: не праціўцеся злому, але хто ўдырыць цябе ў правую шчаку тваю, павярні да яго і другую,

і хто хоча судзіцца з табою і ўзяць у цябе сарочку, аддай яму і вопратку;

і хто прымусіцьісьці зь ім мілю, ідзі зь ім дзьве.

Мацьв. 5:38-41.

==========================================

З сумам трэба сьцьвердзіць, што, ня гледзечы на агульны прагрэс на нашай плянэце, ня гледзячы на тое, што на працягу гісторыі чалавека, неаднойчы адзываліся сьвятыя галасы, заклікаючыя чалавека да вызлімінаваньня войнаў з жыцьця, як сродка, вырашаючага спрэчкі між народамі, войны ня толькі што не адыйшлі ў мінуўшчыну, але, наадварот, паяўляюцца пэрыядычна і што раз болей прыбіраюць на сваей інтэнсыўнасьці. Пасьля пажогі і разбурэньня, сьмерці і зьнішчэньня двух апошніх сусьветных войнаў, сягоньня людзкасьць жыве пад абухам страшэннае пэрспэктывы атамнае вайны, аб якой многія з нас баяцца нават думаць.

./.

Духова, нацыянальна і сацыяльна абуджаны беларускі народ, сягоньня стаіць перад праблемаю адзысканьня згубленых свабодаў. Лягічна выдавацца можа, што змаганьне за свабоду можа і павінна адбывацца ў простым і беспасярэднім сутыку з тым, каго назавем ворагам, дзе фізычная сіла станецца справядлівым вырашэньнем.

Гэты пункт гледжаньня мае, або ляпей сказаць, у данядаўна існуючых абставінах,меў сваё апраўданьне. Але з тым самым днём, паймена, з днём 6-га жніўня 1945 году, калі першая атамная бомба была ўзарвана над японскім местам Гірошыма, сытуацыя корэнна зьмянілася.

Яшчэ адносна нядаўна, бо ў часе расейскае рэвалюцыі і ў хаосе пасьляваенным Першае сусьветнае вайны, абуджаныя народы мелі магчымасьць адзыскаць сваю палітычную незалежнасьць. У гэтым пэрыядзе часу група людзей на абшары ўсходняе Эўропы, знайшоўшы некалькі вінтовак і да гэтага крыху патронаў, мела ўжо шансы зьмерыцца з ворагам у простым сутыку. Калі да гэтага дадавалася пару кулямётаў, адну-дзьве гарматы - тварылася армія, як роўны партнэр у змаганьні. І народы, на адпаведным узроўні нацыянальнае сьведамасьці, прадстаўнікі якіх мелі магчымасьць дыпляматычнае акцыі перад адпаведнымі чыньнікамі на Захадзе з мэтаю атрыманьня для сябе прыхільнае апініі і мінімум спачатку патрэбнага аружжа, пазьней гэткім спосабам, на нашых вачох, даходзілі да жаданае мэты.

Другая сусьветная вайна паказала ўжо, што цяжар збройных сілаў, выражаны ў сваей колькасьці і якасьці, перасунуўся на некарысьць як паняволеных яшчэ дагэтуль народаў, гэтак і тых народаў, якія мелі сваю незалежнасьць, але, у пэўным значэньні,былі адносна малымі народамі і бяз большых індустрыяльных магчымасьцяў. Вырашальным фактарам у гэтай вайне аказалася масавасьць аружжа, гэта значыць, што пераможнымі народамі маглі быць тыя народы,прамысловасьць якіх знаходзілася на адпаведным узроўні і ў адпаведным, у сэнсе стратэгічным, геаграфічным разьмяшчэньні. Тут выступае масавае тарнаваньне танкаў, рознага роду артылерыі, змэханізаваных вазоў, і безьліч рознароднага змэханізаванага аружжа, тысячы і тысячы самалётаў з бесперапынным заспасабленьнем гаручым; на водах і пад водамі выступаюць флятыліі зь неспатыканым дагэтуль танажам. Побач гэтага выступае армія людзей, як навукоўцаў, інжынераў, высокакваліфікаваных і вышкале-

ных лётнікаў...

У ваблічч у гэтак вялікага ваеннага патэнцыялу малым народам, тады ўжо на дадзеным абшары ўсім ад нолькава паняволеным, асталася, практычна, толькі адна магчымасьць - глядзець, што навакол робіцца, браць нязначны ўдзел у змаганьні ў тых рамах, якія прыпадкава ім яшчэ пакідаліся і чакаць, што заўтрашні дзень прынясе, зьвяртаючы ўвагу на тое, каб, у меру магчымасьці, страты ўласнага насельніцтва зрэдукаваць да мінімум.

Калі гэтак дэтэрмінавалася роля малых народаў у часе апошняе вайны, дык пасьля вайны, у першых двух дэкадах - у часе тэхнічнага разьвіцьця сродкаў камунікацыйных, неабходных для атамнага аружжа - у сэнсе ваеннае сілы, стан гэты яшчэ болей паглыбіўся. Цяпер ня толькі гэтакія народы, як Летува,Баўгарыя, Польшча,... не зьяўляюцца ў стане весьці самастойнага аружнага змаганьня, але нават такія народы, як Англія, Францыя, Нямеччына... сталіся залежнымі ад ваенных арсэналаў, сканцэнтраваных далёка ад іхных межаў.

./.

Аднак пры ўсім гэтым, пры ўсей маласьці чалавека ў ваблічч у вялікіх сілаў, выступаючых на арэну, мы мусім сьцьвердзіць факт і быць сьведамымі яго, што апошняе слова ў канфліктах ўсё-ж астаецца і будзе аставацца пры чалавеку.

Вырашэньне знаходзіцца ў руках чалавека. І, калі гэтак можна сказаць, рэзультат асягненьняў чалавека, апошняе мэты - залежыць толькі і выключна ад ягонае волі, ад якасьці гэтага чалавека, гэта значыць, ад ягонае інтэлектуальнае, этычнае і маральнае паставы, ад ягонага насіленьня веры ў слушнасьць ягонае справы, ад ягонае гатоўнасьці даць зь сябе максімум, ад ягонае гатоўнасьці прыняць усю адказнасьць на сябе, на працу і высілак, натугі і самаахвярнасьць і, калі трэба - на сьмерць.

Маючы гэта на ўвеце, мы хочам зьвярнуць нашую ўвагу і перасунуць цяжар нашага змаганьня на плошчу і ў галіну дагэтуль у нас мала ведамую. Гэта змаганьне ў галіне духа, у галіне маральнае паставы чалавека, ягонага права і абавязку, годнасьці і справядлівасьці. Змаганьне гэтае ведамае, як "Несапраціўленьне злому". Гэта змаганьне пасыўнага характару.

Навуку эвангельскую можна схарактэрызаваць, як навуку аб несупраціве злому з мэтаю перамагчы гэтае зло.

– Вы чулі, – кажа Хрыстос, – што сказана: вока за вока, і зуб за зуб. А Я вам кажу: не праціўцеся злому; але хто ўдырыць цябе ў правую шчаку тваю, павярні да яго і другую...

І хто прымусіць цябе ісьці зь ім мілю, ідзі зь ім дзьве..."

Трэба з прыкрасьцю сьцьвердзіць, што мы не заўсёды разумеем асновы свае навукі. Для многіх з нас выдаецца, як супярэчнасьць у ваблічну факту, што хрысьціянства фактычна мае замэту як-раз змагацца з усякага роду крыўдамі, злом. Ісус з Назарэту ня мае на ўвазе ўлегласьць перад крыўдаю, але Ён уважае і вучыць нас, што, тасуючы тактыку несупраціву, мы найболей скуткоўна можам перамагаць зло, гэта значыць, асягнуць тое самае, аб што нам ідзе.

"Вока за вока, і зуб за зуб" – гэта ёсьць адна з вэрсыяў таго самага першабытнага прынцыпу, успомнутага намі на пачатку, "сука". І, дзеля таго, што ён ёсьць прымітыўны, ён лёгка зразумелы для кожнага чалавека, які, у завяршэньні яго, не вымагае ні чога болей, як моцнага мускулу.

Хрыстос адкідае прынцып "сука", і заменьвае яго прынцыпам практычнае любові і супакою.

./.

Магатма Ґандзі, правадыр індыйскага незалежніцкага руху, быў найболей ведамым і выдатным прадстаўніком пасыўнага супраціву, як сродка асягненьня сацыяльных і палітычных рэформаў. Пра яго Арнольд Тойнбі, вялікабрытанскі гісторык, на міжнароднай сустрэчы, якая мела месца ў Нью Ёрку ў лютым 1965 г. з прычыны дыскусыі мірнага аспэкту на аснове энцыклікі Папы Яна XXIII "Pacem in terris", сказаў: "Прарокам атамнага веку зьяўляецца Магатма Ґандзі. Ён паказаў, што радыкальныя палітычныя зьмены могуць быць асягнуты без тарнаваньня сродкаў ґвалту".

Сваю паставу Ґандзі заўдзячвае цэламу раду рэлігійных і этычных думаньнікаў гэтак Усходу, як і Захаду.

"Ён пачаў з асноваў індыйскага рэлігійнага пераказу, што чалавек не павінен чыніць крыўды ніякаму жывому існаваньню, дадаючы да гэтага навуку Новага Запавету, асабліва Нагорную пропаведзь Хрыста аб несапраціўленьні злому. Ён быў гэтаксама пад сільным уплывам навукі Льва Талстога, які, як ведама, стаяў на тым самым пункце, што чалавек ня мае права і не павінен крыўдзіць чалавека.

Ссумаваньне ўсіх гэтых патокаў думкі выразілася ў Ґандзі ў дактрыну аб пасыўным супраціве, не сапрацiўляцца злому, несупрацоўнічаньня, у словах: "Перамагай нянавісьць любоўю, няпраўды - праўдаю, ґвалт - цярпеньнем". Ён, як ужо іншыя перад ім, зьвяртае ўвагу, што ў чалавеку побач злога жыве Бог. Чалавека трэба толькі прабудзіць, трэба высьцерагацца, каб, удырваючы зло, што знаходзіцца ў чалавеку, ня ўдырыць Бога.

Ґандзі навучаў, што чалавек мусіць быць прабуджаным, калі мэта сацыяльных і палітычных рэформаў мае быць асягнута. І гэта можы быць асягнута дарогаю любові, а не ґвалту. Ґвалт, Ґандзі кажа, выклікае ґвалт і чыніць крыўдзіцеля і чынзцеля зла яшчэ болей упартым на сваей дарозе. Любоў і прыязнае пераконваньне - у словах і чыне - выганяе нянавісьць, сілу і страх.

Акцыя ягоная знайшла сваё выражэньне ў новаўтвораным ім слове - Сантыяґрага: сынтэза двух словаў, узятых з Санскрыту - праўда і рашучасьць.

Толькі тыя, што ачысьцілі сябе ад нянавісьці і ґвалту і страху, могуць праводзіць у жыцьцё сантыяґрага. Але гэта вымагае ўнутранае справядлівасьці і чысьціні, каб пераканаць іншых і пацягнуць іх за сабою, астаючыся стойкім у безґвалтоўнасьці і не паддаючыся ніякім правакацыям звонку.

./.

У нашых днях мы зьяўляемся сьведкамі падобнае акцыі са стараны амэрыканскіх неграў пад кіраўніцтвам, адыйшоўшага ўжо ў вечнасьць, Пастара др Марціна Лютра Кінґа ў змаганьні за роўныя правы для людзей, як грамадзянаў Злучаных Штатаў. Натугі іхныя фармальна і фактычна ўвянчаліся посьпехам. У міжчасе было прынята права, якое адкрыла перад тутэйшымі неграмі магчымасьці лепшага заўтра. Дня 10 сьнежня 1964 году др Кінґ атрымаў у Осьлё - куды ён быў адумысна запрошаны - Нагароду Нобля, як узнаньне за ягоную этычную і пазытыўную дзейнасьць у галіне здабыцьця права для 22 мільёнаў неграў у Злучаных Штатах Паўночнае Амэрыкі.

./.

У гэтым дзіўным змаганьні духовым

а/ чалавек павінен верыць, што Бог прабывае ў кажным чалавеку; што

б/ Неабходная сіла беспасярэдніх зносінаў з Богам здабываецца ў ціхім разважаньні і контэмпляцыі

ў супольнасьці супакойнага сэрца з Стварыцелем Сусьвету.

Трэба памятаць, што ў кажным чалавеку жыве Бог, часта зацемнены, часта іґнараваны, але тым ня няменей Ён жыве ў беларусу, амэрыканцу і немцу, ангельцу і француэу, у жыду і расейцу, у чорным чалавеку, белым і жоўтым. Не забывайма пра Ганді, кс. Гадлеўскага, Віктара Гюґо, яп. Бэнэдзікта, Талстога і Шэкспіра, Багдановіча і Купалу, пра вялікіх мастакоў, музыкаў і пяюноў, філянтрапістых і людзей добрае волі ў кажнай краіне. Мы можам мець апраўданьне быць скептыкамі ў дадзеным выпадку, але мы мусім не забываць, што Александар Вялікі пакінуў свае заваяваньні гэтаксама, як і Цэзар; мы мусім памятаць, што імпэрыі, дэспаты, тыраны і дыктатары адыйшлі і адыходзяць у мінуўшчыну і, што зямлю атрымаюць простыя людзі, бо яны зьяўляюцца дзяцьмі Бога.

Я. Пятроўскі

ЧАЛАВЕК

Думка чалавека творыць ягоную велічнасьць.

Паскаль або:

Думка ёсьць тым фактарам, які чыніць чалавека вялікім.

Паскаль або:

Добрая думка творыць велічнасьць чалавека.

Паскаль

Існуе абаснаваньне здагадвацца, што чым лепшая натура, калі знойдзецца ў неспрыяльных абставінах, дазнае болей шкоды, чымся горшая, затым, што розьніца між імі ёсьць большая.

Дык, ці-ж ня можам мы сказаць..., што чым болей абдораныя розумы, калі яны дрэнна адукаваныя, стаюцца асабліва дрэннымі? Ці-ж ня можна зрабіць выснаву, што вялікія праступкі і дух чыстага зла выбухаюць паўнатою натуры, зруйнаванае адукацыяю бардджэй, чымся з прычыны нізкае свае таленавітасьці, тады як слабыя натуры астаюцца ледзьве здольнымі на вельмі вялікае дабро ці вельмі вялікае зло?

Плятон
"Політэя", 491

Вялікія розумы маюць мэты; малыя – пажаданьні.

Недзе пачутае

Ніхто не адчувае змучанасьці пры атрымліваньні карысьці. Карысьць-жа зьвязана зь дзеяньнем, згодным з натураю. Не ўтамляйся атрымліваць карысьць, прыносячы яе іншым.

М.Аўрэліюс, 7, 74

Ты павінен змагацца за здаровы розум у здаровым целе.

Дэцімус Юніюс Ювэналіс

Ці сьвет
Старасьці
Заўсёды быў гэтакі сумны?
Ці мо стаўся ён гэтакім
З мае прычыны?

Парафраза пачутага

Той ёсьць добры, хто мае добрую душу.

Плятон
"Політэя", 3, 409е

Чалавек - гэта свабоднае боскае існаваньне. Дзеля ягонага гарманійнага разьвіцьця неабходным ёсьць, каб не тапталіся ягоныя правы, аснаўныя свабоды і ягоная годнасьць...

Робэрт Назаран
"Рэл. і атэізм у СССР", №3-4, 1978.

Калі ляжаш разам з сабакамі, набярэшся блох.

Ангельскае выслоўе

Раскаеньне ёсьць папрок, скіраваны да самога сябе за недагляд чаго-небудзь карыснага.

М. Аўрэліюс, 7, 10

Калі багі хочуць каго-небудзь зьнішчыць, яны перш адбіраюць яму розум.

Эўрыпідэс

Стара-грэцкая тэалёгія, якая ў часе Марка Аўрэліюса ўпадае ў хрысьціянскае рэчышча, вельмі часта пакрываецца з навукаю Ісуса з Назарэту, словы якое знаходзім у эвангелі або добрай вестцы. Для прыкладу:

"Ад мае маці [1, 3], - кажа Аўрэліюс, - я атрымаў набожнасьць, шчодрасьць і ўстрыманьне ня толькі ад дрэнных учынкаў, але нават і ад дрэнных думак". Падобную думку знаходзім у эван. [Мат. 5:28]: "А Я вам кажу, што кажны, хто глядзіць на жанчыну з блуднымі думкамі, ужо блудзіць зь ёю ў сэрцы сваім".

Я. Пятроўскі

Паводжаньне мае шмат бацькоў, але непаводжаньне толькі аднаго.

----

Тое, што мы спадзяемся, рэдка здараецца; і тое, чаго мы найменей спадзяемся, пераважна здараецца.

Б. Дізраэлі

Ляпей з разумным згубіць, чымся з дурным знайсьці.

Зь беларускае мудрасьці

Праўдзівае сяброўства зьяўляецца расьлінаю павольнага росту.

Дж. Вашынґтон

Скажы мне пра што ты клапоцішся, і я скажу табе хто ты.

Ё.В.Гётэ

Ляпей спаткацца з разумным ворагам, чымся з дурным прыяцелем.

Пэрскае выслоўе

Чалавек не зьяўляецца творам абставінаў. Абставіны зьяўляюцца творам чалавека.

Б. Дізраэлі

Калі ты напісаў ліст і ўклаў яго ў канвэрт, каб выслаць - пачакай! не заклейвай канвэрту; дастань свой ліст назад і прачытай яго яшчэ раз, але ўжо пад кутом гледжаньня, ці можа ён быць апублікаваны заўтра.

Падобная практыка заашчаджвае шмат непаразуменьняў і яшчэ болей прыкрасьцяў.

Ян Пятроўскі

Я не адчуваю патрэбы ніякае іншае веры, апрача мае́ веры ў людзкае існаваньне. Падобна, як Конфуцы ў старажытнасьці, я гэтак заняты подзівам Зямлі і жыцьця на ёй, што я не магу нават думаць пра неба і анялаў. Я здавальняюся гэтым жыцьцём. Калі там няма ніякага жыцьця, тады хопіць гэтага аднаго, каб учыні́ць яго вартым быць народжаным, і самога сябе людзкім існаваньнем.

Пірль С. Бак

Лепшы спосаб абараніцца ад крыўды - гэта не ўпадабняцца да крыўдзіцеля.

М. Аўрэліюс, 6, 6

Будзь заўсёды прыязным да людзей і памочным ім. Калі хочаш ты мець прыяцеляў, будзь сам прыяцелем.

---

Гавары зь людзьмі. Нічога, здаецца, няма болей прыгожага, як ветлівыя словы прывітаньня.

Недзе прачытанае

Чалавек мусіць стаяць проста, і ня быць стаўленым проста іншымі.

М. Аўрэліюс, 3, 5.

Ніколі ня пішы ў лістох, што ты позьнішся з адказам з прычыны нястачы табе часу і навалу працы. Памятай, што кажнаму з нас вымерана гэтулькі сама часу, як і табе і, што кажны чалавек гэтаксама заняты ў сваей дзялянцы працы.

Ян Пятроўскі

Мей на ўвазе пачуцьці іншых людзей. У кажнай спрэчнай справе знаходзяцца тры пункты гледжаньня: Твой, супроцьлеглае стараны, і правільнае стараны.

Недзе пачутае

Мы часта выбачаем тым, каторыя дакучаюць нам, але мы ня можам выбачыць тым, каторым мы дакучаем.

Недзе прачытанае

Дадавай да ўсяго крыху пачуцьця гумару, значную дозу церпялівасьці і маленкую частку ціхамірнасьці, і будзеш ты ўзнагароджаны некалькікратна!

---

Не ўважай за золата ўсяго таго, што блішчыць, як золата.

Але́ дэ Лі́ль /пр.1128-1202/
Французскі схалястычны філёзаф

На пахілых і сабакі
Брэшуць злосьней і гарэй...
Якуб Колас
"Сымон музыка".

Шматлікія з думаньнікаў ставілі сабе пытаньне: Абставіны стварылі чалавека, ці чалавек абставіны? Я думаю, што спадчына бацькоў і прабацькоў, - тое стварэньне, якое першы раз зьлезла з дрэва, як і само дрэва - гэта доўгі ланцуг зь безьліччу элемэнтаў, якія твораць сабою камплекс Быцьця.

Ян Пятроўскі
зь лісту да Л. Галяка

Калі чалавек упадае ў свой анэкдотычны век, гэта стаецца азнакаю для яго, што ён павінен адыйсьці на пэнсыю.

Бэньямін Дізраэлі
Брытанскі дзяржаўны муж

Ты не належыш да самога сябе, ты належыш да Сусьвету.

Подых грэцкае філязофіі

За мінулых пару гадоў, у часе якіх вывязалася ажыўленае ліставаньне з многімі нашымі, калі гэтак дазволена мне сказаць, перадавымі людзьмі, мне зда ецца, што я асабіста /думаю, і іншыя/ узбагаціўся назіраньнямі. Назіраньні гэтыя вядуць да натуры чалавека. Ведама, пра гэта можна доўга гаварыць, але тое, што я маю на ўвазе - гэта, што чалавек часта, выразіўшы нейкае цьверджаньне, правільнае ці няправільнае, заўсёды хоча пры ім аставацца, а часамі за ўсякую цану, нават за цану добрасуседзкіх суадносінаў.

Калі я пішу ліст, я стараюся /наколькі мне пазваляюць мае эканамічныя магчымасьці/ ужываць найболей эстэтычны кусок паперы. І, калі я пішу, пішу так, каб зрабіць як найменей памылак - моўных як і тэхнічных. Тое, што я гавару ў лісьце, стараюся гаварыць проста, ясна, праўдамоўна і згодна з маім сумленьнем і перакананьнем. Калі я кончу пісаць, я падпісваюся і кладу ліст у канвэрт. Незаклееным канвэрт, калі характар ліста дазваляе, я адкладаю на заўтра, каб даць магчымасьць "вылежацца" лісту, і прачытаць яго яшчэ раз "насьвежа" заўтра. Калі ліст патрабуе быць высланым зараз-жа, перад заклеяньнем канвэрту, я выймаю ліст і чытаю яго яшчэ раз так, быццам ліст высылаецца да друкарні для набору і друку. І, калі пад гэтым кутом гледжаньня, ліст выдаецца мне ўпарадку - тады кладу яго зноў у канвэрт і заклейваю. Я маю ў сваіх вокладках такія лісты, на каторых відны зацемы: "Нявысланы". - Калі-б мы гэта перасьцерагалі, ня мелі-б мы клопату адзін з адным. Другі з нас непрадумана нешта скажа, нічога ня кажучы ўжо пра пісаныя ананімы і паклёпы, а пасьля людзям і ў вочы ня можа глядзець. Быць на кіруючым становішчы ў грамадзе - гэта вялікі гонар. Але гонары ўсе маюць тое да сябе, што яны вяжуцца з паняцьцем адказнасьці.

Мы жывем у дзіўным часе. Калісьці важным чалавек ставаўся, калі імкнуўся ён да сьвятасьці, стараўся не грашыць, хацеў быць бязгрэшным, праведным. Сяго ньня ўсе гэтыя паняцьці "ўстарэлі". Іхнае месца занялі гэтакія выражэньні, як: Навука, навуковец, навуковы, навукова. Мне здаецца, што ня было-б бескарысным для нас, калі-б усе мы, зацікаўленыя ў сучаснай "сьвятасьці", маглі недзе сабрацца і правесьці вечар у гутарцы на тэму, Што такое навука, навуковец, навуковы і г.д. Ці ня думаеце Вы, што гэта магло-б быць карысным?

Я. Пятроўскі

Зь ліста да др В. Тумаша, І5.5.70

# ЧАЛАВЕК+/

/Паэма прозай/

Быццам сонейка, узыходзіць Чалавек – і ў ясным сьвеце сонца непаняты, як сьвет, – паволі ідзе наперад і вышэй!

Што ён? Адкуль узяўся? Ён чуе сябе, варушыцца, датыкаецца, бачыць сябе самога, другіх і ўсё, існуе, факт! і думае... "Мая арганізацыя свабодна, сама парушаецца... і мысьліць: Вось Вялікая Прадвечная Тайніца адносна існаваньня мяне самога! Адкуль я? Што я? Куды іду? Я жывы, самарухлівы, мысьлячы Чалавек!.."

Ідзе чалавек наперад і вышэй, прыгожы ў сваёй Вялікай Тайніцы і ў сваім трагізьме і жывучы Чалавек! Ідзе ён наперад і вышэй, чуючы ў сабе праменьні магутнай і бесстрашнай Мысьлі, той Думкі, што стараецца зразумець гармонію – Адзінасьць Усясьвету, тую дзіўную сілу, Вялікую Адвечную Тайніцу, каторая стварыла і творыць сабе багоў, а пасьля скідвае іх у ніштo...

==========================================

+/ "Чалавек" – гэта твор філязафічнага характару, аўтарам якога зьяўляецца Гальяш Леўчык. Твор гэты сваею тэматыкаю вяжацца са зьместам, які знаходзім у "Роздумах" Марка Аўрэліюса – рымскага імпэратара і стоіка. Думка, закранутая ў "Чалавеку", сягае найболей раньняе пары Заходня-эўрапэйскае культуры, калі чалавек на парозе свайго духовага разьвіцьця разглядаўся навакол у фізычным сьвеце і ставіў сабе пытаньні: хто, што, калі і нашто, і стараўся на дарозе спэкулятыўных разважаньняў знайсьці адказ. Разважаньні гэткага роду спатыкаем у старажытна-грэцкім сьвеце пераважна. Перадсакратычныя філёзафы прыходзяць да ведамых нам сягоньня выснаваў. Знаменнаю рэчаю ёсьць, крыху пазьней, Плятон, сын Арыстона думку гэтую спрэцызуе ў сваім дыялёгу "Пармэнідэс", якая па сягоньняшні дзень незраўнанаю астаецца.

Як даведваемся, "Чалавек" друкуецца i/ паводля аўтарскага аўтаграфу, які перахоўваецца ў асабістым архіве Сяргея Новіка-Пяюна і датуецца 1932 годам з подпісам – Г. Л.

---

i/ Гальяш Леўчык – Доля і Хлеб – выбраныя творы, Менск, Мастацкая літаратура, 1980.

Заблудзіўшы сярод безгранічнае пушчы Бесканчатнага і Беспачатнага Усясьвету, ідзе Чалавек наперад і вышэй сам адзін на малой макавіцы – зямлі, ляцячай з мігавай шпаркасьцю кудысьці ў глыбіню нязьмернага прастору, сьціснуты пытаньнем: "Як і нашто існую?" Сунецца Чалавек адважна наперад і вышэй па дарозе змаганьня да пабеды над усялякімі тайніцамі зямлі і неба...

Вось ідзе Чалавек, крывёю паліваючы сваю аднак сумную, адзінотную, поўную трудоў і каменьняў дарогу жыцьця на макавінцы-зямлі і стварае з гэтай гарачай сваёй крыві дзіўна прыгожыя краскі паэзіі, а крык свой поўнай бунту душы перамяняе ў мілагучную му́зыку... музыку радасьці і болю!.. любасьці і і суму...

Узброены толькі аружжам магуцтва сваёй Думкі-Мысьлі, яркай, як маланка, халоднай, як меч сталёвы, а гарачай, як вулканічная лава, – вольны,свабодны Чалавек, выпярэджваючы людзёў і іх жыцьцё, адзінотны,сярод загадак і тайніцаў быту, сам адзін – сярод мора блудаў і ашуканстваў, што цяжкім бярэмем ляглі на Яго сэрцы і раняць і грызуць мозг, будзячы і выклікаючы сорам і ганьбу і клічучы:"Абнімай нас!.."

І як плянэты кружаць вакол сонейка – так і Чалавек з усіх бакоў уласьцівасьці душаў людзкіх: заўсёды галодная і голадам мораная іх Любоў, а за ёю кулявая іх Прыязьнь,а перад ім цягнецца іх змучаная Спадзея, а побач гнеўная сярдзітая – лютая Нянавісьць іх, што зьвініць ланцугамі цярпеньня і болю іх, а Вера іх спаглядае ў Яго вочы і на Яго твар сваімі цёмнымі вачыма і хоча абнімаць Яго...

А за ўсім гэтым, за цэлай гэтай хэўрай, цягнуцца акрытыя лахманамі старых дзіравых праўдаў іхніх мізэрныя людзі, варожыя для Чалавека і Яго Думкі-Мысьлі, і калоцячыся паміж сабою хто з іх вялікшы?..

А на самым канцы Чалавека – здалёк, здалёк відаць, як за ім цягнецца таварыш Яго – ціхая, маўклівая і тайнічная Сьмерць іх, заўсёды гатовая цалаваць Чалавека – яго гарачыя, распаленыя жарам і смагай жыцьця вусны...

І бачыць Чалавек, як чорная сіла Ня́навісьці гоніць перад сабою ўцякаючую Справядлівасьць...

Але Чалавек глядзіць увыш – ідзе наперад і вышэй – і бачыць: як у прасторы шыбуюць быццам вялізарныя шулякі або каршакі Сум, Жаль і Журба, а Боль і Адчай, быццам чорныя груганы, ляцяць над ім кракаюць, што чалавек ёсьць мізэрны чарвяк, што яго

мозґ ня створаны так, каб пазнаваць усю Тайніцу Вялікага, Адзінага Цэлага – Усясьвету і нават марных тайніцаў міззрных людзёў...

Аружжам Чалавека ёсьць Сьветлая, Ясная Думка-Мысьль Чалавека і яе пэўнасьць, што яна ёсьць вольная, свабодная, бяссьмертная з бесканчатнай, творчай, вечнай крыніцай магутнасьці і сілы!..

Мысьль-Думка Чалавека верыць, што змагуць ня тыя, што грабяць плады пабеды над ярмом, але тыя, што асталіся жывымі і сільнымі яшчэ на полі бою!..

І бачыць Мысьль-Думка Чалавека мэту жыцьця ў тварэньні Дабра, бо ці-ж тварэньне Дабра мае канчатак?

Ідзе сабе Чалавек наперад і вышэй, каб загарэцца быццам ясным полымем, каб асьвяціць цёмнае жыцьцё людзёў, нязьлічаныя загадкі, як зоры на небе; тайніцы – як пяску на дне мора – для Чалавека німаш канчатку Яго дарогі – усё вышэй і наперад ідзе!..

Гальяш Леўчык

ЧАС

Час зьяўляецца вобразам вечнасьці.

Плятон /скага Паводля Дыяґэнэса Ляэртый-

Час? – Яго няма. Ёсьць толькі малюсенькая малая цяперашнасьць. У ёй гэта і даконваецца жыцьцё. Дзелягэтага на гэтую цяперашнасьць чалавек і павінен накіраваць усе свае духовыя натугі.

Л. Талстой

... кажны дзень ёсьць гэтакім самым, як той, што быў учора, за выняткам нашых радасьцяў і сумаў, і дасьведчаньня жыцьцёвага, якое ўзбагачвае нас духова.

Ян Пятроўскі
з лісту да брата /7.21.78/

Час, як сьняжынка – шчазае, калі мы думаем, што маем рабіць зь ім.

Недзе прачытанае

Пакуль дурны надумаецца – кірмаш пройдзе.

Беларускае выслоўе

Мы жывем у часе, г.зн. у нечым такім. адносна чаго людзі да гэтае пары не дайшлі да ніякае выразнае дэфініцыі. Практычна гэта значыць, што чалавек ня ведае што гэта такое час, хоць ён што найменей разоў дзесяць на дзень успамінае час, зь меркаваньнем, што ён ведае тое, пра што гаворыць або пытае.

У найлепшым выпадку, мы гаворым пра РУХ, ТРЫВАНЬНЕ. Гэты рух, ведама, у сусьвеце /сонца, зямля, плянэты.../ распадзелены на гады, месяцы, тыдні, дні, гадзіны, мінюты, сэкунды.

Кажны раз, калі мы прыкладаем наш гадзіньнік да вуха, мы чуем характэрнае "цік-так". Гэтае цік-таканьне – гэта напамін для нас, што час вызначаны нашага жыцьця, знаходзіцца ў сваім трываньні.

Гэта рэчаіснасьць і праўда.

Калі мы ведаем гэтую праўду, тады ўзьнікае пытаньне: як трэба абыходзіцца з часам, які, побач нашага здароўя, ёсьць найболей дарагацэнным для нас? І людзі, каторыя шмат думалі пра гэта і разважалі, дзелюцца з намі сваім дасьведчаньнем:

"Выкарыстай свой час на працу,
бо яна ёсьць цаною твайго паводжаньня.
Выкарыстай час для думаньня і разважаньня,
бо яны зьяўляюцца крыніцаю сілы і моцы.
Выкарыстай час для забавы,
бо яна ёсьць тайніцаю сталае маладосьці.
Выкарыстай час для чытаньня,
бо яно зьяўляецца вытокам мудрасьці.
Выкарыстай час, каб быць ветлівым,
бо гэта шлях да духовае раўнавагі.
Выкарыстай час для сьмеху,
бо ён зьяўляецца гармоніяю душы.
Выкарыстай час для лятуценьня,
бо гэта дарога да шырэйшых гарызонтаў.
Выкарыстай час для ўспамаганьня,
бо дзень за кароткі, каб быць эґоістым.
Выкарыстай час, каб любіць і быць любімым,
бо гэта прывілей Быцьця."

./.

Я адлічваю час.
Ці і ты чыніш гэта?
Інскрыпцыя
на сонечным гадзіньніку
ў Ковінґтон, Анґлія.

ПІСЬМЕНЬНІК

Добрая кніга - тая, у якой пісьменьнік кажа тое, што павінна, не гаворыць таго, што не павінна, і кажа так, як павінна.

Арыстотэлес

Хочаш ты стацца аўтарам? Хочаш ты стварыць кнігу? Памятай, што яна мае быць кнігаю новае тэмы і карыснаю, або, што найменей яна мае быць чароўнаю.

Вольтэр
<u>Філязафічны слоўнік</u>

Пісьменьнік, ведама, павінен зарабляць, каб мець магчымасьць жыць і пісаць, але ён ні ў якім выпадку не павінен жыць і пісаць, каб зарабляць.

Карль Маркс

Толькі ўхваці тэму, а словы прыйдуць самыя.

Маркус Порціюс Катон Старшы

Вольтэр, Руссо і ўсе энцыкляпэдыстыя былі глыбака амаральнымі ў вачох улады...; тым ня меней яны зьяўляюцца бацькамі XIX стагодзьдзя. Усе мы, пачынаючы ад Бональда Лямарціна, Беранжэ, Віктара Гюго, Лямэнэ, Жорж Санд і канчаючы Поль дэ Коком, Піго-Лебрэнам і мною, усе мы толькі муляры, Архітэктар стаіць над намі. Усе пісьменьнікі нашага часу - простыя працаўнікі будучыні, якая сукрыта за алавянаю заслонаю. Калі хто-небудзь з нас пранікнуў у тайніцу ўздыманага гмаху, той адзіны праўдзіва вялікі чалавек.

Бальзак

Хто крочыць у брамы паэзыі неакрылены музамі, думаючы, што адно толькі мастацтва ўчыніць яго паэтам, той і сам недасканалы, і паэзыя ягоная - нічога ў параўнаньні з паэзыяю натхнёнаю.

Плятон

Камэнтатары і крытыкі зь вялікім напружаньнем у працы пісалі цэлыя томы адносна некалькі радкоў, жартуючы створаных фантазыяю паэтаў.

Вольтэр

Цяжка быць першым, сказаць новае слова ў мастацтве.

Сьвятлана Сысоева
"Беларус", № 234.

Літаратурнае мастацтва складаецца з двух выразных частак: назіраньне і выражэньне.

Бальзак

Глыбака закаранелая і невылячальная сьвярбячка да пісаньня ахапіла шматлікіх, і старэецца ў іхных хворых сэрцах.

Дэцімус Юніюс Ювэналіс

Аграмадная ўмеласьць пісьменьніка - гэта здольнасьць выкрэсьліваць.

Хв. Дастаеўскі

Ведай, брат малады, ў грудзёх у людзей
Сэрцы цьвёрдыя, быццам з каменьня.
Разаб'ецца аб іх слабы верш заўсягды,
Ня збудзіўшы сьвятога сумленьня.

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба зь цярпеньнем.
Як ударыш ты ім - ён, як звон, зазьвініць,
Пырснуць іскры з халодных каменьняў.

Максім Багдановіч
"Песьняру".

Зь вялікім хваляваньнем мы выносілі на суд гледачоў нашу новую работу.

Уладзімер Мулявін
"Беларус", № 234.

Каплі атраманту зьяўляюцца ў стане выклікаць думку сярод тысячаў, а нават мільёнаў людзей.

Байрон

Супроць хваробы пісаньня чалавек мусіць прадпрыняць асаблівую асьцярожнасьць, бо яна ёсьць небясьпечнаю і заразьліваю хваробаю.

П'ер Абэляр /1079-1142/
французскі філёзаф і вучыцель

Бязумоўна, каб пісаць праўду, апрача таленту, неабходна адвага.

Васіль Быкаў

Калі аўдыторыя не ўстае з апляузам, віна толькі мастака.

Павароці

Сутнасьць чалавека пяра — гэта тое, што́ чы́ніць яго пісьменьнікам і, бязбоязна магу сказаць, ставіць яго на адным узроўні з гаспадарсьцьвеным мужам, а магчыма і вышэй за яго, — гэта да пэўнае ступені акрэсьленая думка пра людзкую бзейнасьць,— суцэльная адданасьцъ прынцыпам.

Бальзак

Калі ты напісаў гісторыю твайго часу, ня сумнявайся, што сустрэнецца табе нейкі вучоны хронолягісты, або камэнтатар газэты, які зловіць цябе на нейкай даце, на хрысьціянскім імені, або на швадроне, які ты памылкава ўмясцовіў на адлегласьць трох сот крокаў ад таго месца, дзе ён быў фактычна пастаўлены. Будзь удзячным, і зараз-жа папраў гэтыя памылкі.

Калі які-небудзь іґнорамус, або пустагаловы бузе праяўляць прэтэнсыі крытыкаваць гэтыя ці іншыя рэчы, ты можаш запярэчыць яму; але не ўспамінай ягонае імя часта з прычыны небясьпекі запаскуджаньня тваіх уласных твораў. Калі ты знойдзешся заатакаваным з прычыны твайго стылю, ніколі не адказвай; гэта яна, твая праца адна павінна адказваць.

Вольтэр
Філязафічны слоўнік

Перад тым як папракаць пісьменьніка ў няяснасьці напісанага, трэба прааналізаваць свой уласны розум, ці ня ў ім крыецца прычына незразуменьня. У змроку нават буйны шрыфт цяжка чытаецца.

В.Ё.Гётэ

Што да вершаў, пра якія Вы гаворыце — Вашая думка астаецца гэтакаю-ж мудраю адносна гэтага мастацтва, як адносна кажнага іншага прадмету. Вершы, якія ня вучаць людзей новых і хвалюючых праўдаў, нявартымі зьяўляюцца, каб чытаць іх. Вы трапна выражаецеся, што няма нічога болей вартым нашае пагарды, як чалавек, каторы ўсё сваё жыцьцё праводзіць над рымаваньнем вымучаных баналюкаў, якія не заслугоўваюць імя думак. Калі існуе нешта такое, што можна назваць нягоднікам, дык гэта нічога іншага, як сатырычны паэта, які займаецца толькі тым, каб публічна зьневажаць іншых. Падобныя паэты астаюцца ў гэтакіх суадносінах да Парнасу, як тыя дактары да школаў, што ведаюць адно толькі словы і займаюцца інтрыгамі супроць тых, што пішуць вартасныя рэчы.

Вольтэр
Ліст да Фрыдрыха Вялікага

Ёсьць свае радасьці ў кажнай хворме творчасьці: усё зьмяшчаецца ў тым, каб, падобна Мольеру, умець браць сваё дабро там, дзе яго знайшоў. Дар гэты сьвомы нешматлікім. Хоць усе пісьменьнікі маюць вушы, але ня ўсе ўмеюць чуць, або болей дакладна кажучы, ня ўсе ў ваднолькавай меры таленавітыя.

Бальзак

Пісьменьнік ня толькі зьяўляецца адлюстраваньнем асяродзьдзя, якое яго высунула, але і прадуктам гэтага асяродзьдзя... Ён уносіць з сабою ў літаратуру ягоныя сымпатыі і антыпатыі, ягоны сьветапагляд, навыкі, думкі і нават мову.

Г. Пляханаў

... пісьменьнік... зьвяртаецца да розуму і сэрца людзкасьці, да ўсіх людзей усіх стагодзьдзяў, здольных зразумець яго.

Торо

Запамятайце мой запавет: ніколі не выдумляйце ані фабулы, ані інтрыгаў. Бярэце тое, што дае само жыцьцё. Жыцьцё шмат багацейшае за ўсе нашыя выдумкі! Ніякае ўяўленьне ня выдумае вам таго, што дае часамі самае звычайнае і шэрае жыцьцё; шануйце жыцьцё.

Хв. Дастаеўскі

Пісьменьнік – гэта грамадзкі чалавек, і калі ён памыляецца, дык кіруе людзей на памылкавы шлях.

Барбюс

Існуюць творы, дзеля рэдагаваньня якіх вымагаецца болей ведаў, чымся можна спадзявацца ў аднаго чалавека.

Д. Дзідро

Галоўнае для пісьменьніка – гэта прыйсьці да сынтэзы шляхам аналізы, вырысаваць і зграмадзіць у цэласьць аснаўныя элемэнты жыцьця, уздымаць важныя праблемы і імкнуцца да вырашэньня іх, – інакш кажучы, адтвараць характэрныя рысы вялікага вобліку свайго часу, адлюстроўваючы характэрных ягоных прадстаўнікоў.

Бальзак

# ПРАМОВА

Два гады падрад Камітэт Ленінскіх прэміяў ня прысуджае прэміі ў галіне літаратуры. Ня ведаю, як каго, але мяне гэты факт наводзіць на сумны роздум. Узапраўды, як гэта сталася, што нашая літаратура, якая заўсёды хвалявала чалавецтва гэніяльнасьцяй сваіх твораў, вырадзілася нагэтулькі, што два гады не знаходзіцца кнігі, якую можна было-б ушанаваць дзяржаўнай прэміяй. У чым тут рэч? Чым выясьніць так-жа, што нашыя нацыянальныя /рэспубліканскія/ прэміі то прысуджваюцца, то пра іх як быццам забываюцца, і месяцамі ня чуваць, што высунутае й калі будзе прысуджэньне?

Ня ўглыбляючыся, аднак, у дадзеную тэму, я не магу падзяліць аптымізму дакладчыкаў у гэтай галіне й хачу падчыркнуць, што літаратура ўзапраўды сталася горшай. На фоне ведамых гаспадарскіх дасягненьняў, якія па цэлым сьвеце пашыраюць славу нашай краіны, нашая літаратура знаходзіцца далёка ня ў росквіце. Можна нават, не баючыся перабольшаньня, сказаць, што літаратура ў некаторым дачыненьні перажывае крызыс. І гэта, магчыма, сяму-таму выдасца дзіўным. Гэтулькі пра літаратуру гавораць, гэткае занепакаеньне пра яе выяўляюць гэтак рупліва ёю кіруюць! Чаму-ж тады дзіця зрабілася гэткім кволым?

Мне здаецца, што прычыны некаторага ўпадку ляжаць якраз там, дзе пляналіся посьпехі. Адбылася вельмі простая рэч: у дачыненьні да літаратуры згубленая мера, ёю перакіравалі, яе заняньчылі, папросту затузалі. Калі ў народнай гаспадарцы валюнтарызм - пройдзены этап, дык у літаратуры ён да апошняга часу ў поўным росквіце. У народнай гаспадарцы ўжо гэтак не камандуюць, як у літаратуры, там вытворчыя дачыненьні разгортаюцца з куды большай адказнасьцяй і заканамернасьцяй. Літаратура-ж сталася тым, чым была сельская гаспадарка ў нядаўняй мінуўшчыне - кажны, хто мае над ёю якую-небудзь уладу, ня супроць пагуляць на ейным і бяз гэтага вытаптаным агародзе. Вельмі і вельмі мыляюцца тыя, што ўважаюць, быццам у мастацтве й літаратуры няма непарушных законаў, што імі можна круціць, як уздумаецца, схіляць, як каму захочацца.

Але, на бяду ці на шчасьце, гэткія законы ёсьць. Больш таго, як і ўсякія запраўдныя законы, яны няўмольныя й сурова мсьцяцца за іхныя парушэні. Не

шанаваць іх нельга. Але галоўная цяжкасьць для мастака ў тым, што законы мастацтва часта не ўсупадаюць зь дзеючымі на кажным этапе нормамі грамадзкага жыцьця. Больш таго, яны амаль заўсёды ў супярэчнасьці. У жыцьці ідэяльнае грамадзтва тое, дзе як можна менш канфліктаў, а мастацтва патрабуе наадварот. Для жыцьця найлепшыя людзі беспасярэднія, ясныя, а для мастацтва - складаныя й супярэчлівыя. Мастак у творы або раздвойваецца між гэтымі розна ськіваванымі вэктарамі, або схіляецца ў які-небудзь адзін бок. Вось чаму, навет для самага дазнанага рэаліс-тага, пісаць кажную кнігу - значыцца пачынаць усё спачатку. Усё ягонае папярэдняе дазнаньне губляе сваё значэньне, ён заўсёды бездапаможны, калі новы жыцьцёвы матарыял уцелаўляецца ў вадпаведныя мастацкія формы. Пры гэтым немагчыма падпарадкоўваць законаў мастацтва законам жыцьця, таксама як і наадварот. Патрэбная гармонія, то, што прынята называць мастацтвам і што вызначаецца толькі талентам мастака. Ужываць у гэтай справе дыктат абсалютна немагчыма без таго, каб не задушыць мастацтва.

Ці ўсе ў нас разумеюць гэтую прапісную, даволі-такі банальную праўду? Баюся, што не. На кажным кроку ў жыцьці мы сустракаем недапушчальнае неразуменьне літаратуры, неразуменьне, якое выклікае роспач, асабліва калі непамяркоўныя рупліўцы пачынаюць рабіць пасьпешлівыя палітычныя выснавы. Дзіўна, што ў наш час, на сорак дзявятым годзе савецкае ўлады, у дачыненьні да мастацтва грэбуюць тым, што мусіла-б быць засвоенае яшчэ ў школе. І я перакананы, што высокія меркаваньні, ідэйныя абгрунтаваньні /хаця-б пакліканьні на вайну ў Ветнаме/ тут зусім ні пры чым - усе беды ў гэтай галіне йдуць ад невуцтва, нізкай эстэтычнай культуры, а то й дыплямаванага абскурантызму.

Першым і галоўным выявам гэтакага абскурантызму, на мой пагляд, зьяўляюцца дачыненьні да крытычнага прынцыпу літаратуры. Яшчэ вялікі Бялінскі ў сваім выдатным артыкуле "Адказ 'Москвитянину'" пісаў: "Творчасьць паводля сваёй існасьці патрабуе бязумоўнай свабоды ў выбары прадмету ня толькі ад крытыка, але й ад самога мастака. Ні яму ніхто ня мае права задаваць сюжэтаў, ні ён сам ня мае права накіроўваць сябе ў гэтым дачыненьні. Ён можа мець адпаведную ськіваванасьць, але яна ў яго адно тады можа быць шчырай, калі бяз высілку, свабодна адпавядае ягонаму таленту, ягонай натуры, інстынктам й

імкненьням. Ён адлюстраваў вам загану, распусту, плюгавасьць: судзіце, ці правільна, ці добра зрабіў ён гэта, а не разважайце, чаму ён зрабіў гэта, а ня іншае або разам з гэтым не зрабіў і іншага. Кажуць: што гэта за кірунак - адлюстроўваць адно нізкае й плюгавае. А чаму й ня гэтак? - пытае Васарыён Бялінскі й на іншым месцы гэтага артыкулу адказвае: "Гэта - адзін дар выстаўляць зырка плюгавасьць жыцьця, а яшчэ больш - дар выстаўляць зьявы жыцьця ўва ўсёй паўніні іхнай рэальнасьці й іхнай праўдзівасьці".

Так, мастацтва - ня прыхамаць мастака, ня плянавы прадукт грамадзтва, яно душа гэтага грамадзтва. Нельга выняць і самавольна перадаць гэтую душу без таго, каб не перайначыць характару грамадзтва. І тое, і другое існуе ў камплексе, у вадзіным узаемадапаўняльным цэлым. І дзеля гэтага ня можа быць ні дрэннага грамадзтва пры выдатным мастацтве, ні адсталага мастацтва пры высака зарганізаваным грамадзтве.

Літаратуры даводзіцца цяжка, асабліва, калі мець наўвеце ня гэтулькі тэарэтычныя палажэньні, колькі ейную практыку. У наш час ані ня рэдкая зьява,калі выдатныя тэарэтычныя палажэньні мэтаду сацыялістычнага рэалізму на практыцы эбарачаюцца ў штосьці, што больш за ўсё прыгадвае свайго роду нэаклясыцызм. Пра гэта ня прынята гаварыць, але не сакрэт, што ў літаратуры не-не дый запаноўваюць усе характэрныя азнакі гэнага літаратурнага кірунку, калі губляецца рэалістычны характар рэчаіснасьці, грэбуецца жыцьцёвай праўдай, рэальнае вышсьняецца яўна ідэальным. Я ахвотна згаджуся, што ў мастацтве сацыялістычнага рэалізму не апраўданыя бязідэйнасьць, бясклясавасьць, абстракцыйны гуманізм і г.д. Але бясспрэчна, што й іхныя антыподы, узьведзеныя ў катэгарычны абсалют - гэтаксама зло, толькі з другім, супрацьлежным знакам. Іменна гэтае зло прынесла ўжо гэтулькі шкоды сацыялістычнаму рэалізму, і гэта зразумела, калі мець наўвеце ведамыя словы Леніна: "Самы пэўны спосаб дыскрэдытаваць новую палітычную /дый ня толькі палітычную/ ідэю і пашкодзіць ёй, заключаецца ў тым, каб у імя абароны яе, давесьці яе да абсурду."

Ці-ж не зразумела, што голы рацыяналізм, імкненьне падпарадкаваць літаратуру і мастацтва патрэбам кажнага дадзенага "сяньня", таксама як і загадзя абстрактна распляванага "заўтра", ігнараваньне складанасьцяў жыцьця й дыялектычнага разь -

віцьця прыносіць непапраўную шкоду ня толькі літаратуры, але і ўсяму грамадзтву. Узапраўды, да чаго толькі нас не заклікалі, адлюстроўваньня чаго толькі ад нас не патрабавалі: і лесаахоўныя палосы, і кукуруза, МТС і РТС, саўнаргасы й цаліна,навет торфаперагнойныя гаршчочкі, - дзе яно, усё гэта? Дзе пра ўсё гэта літаратура, сваім часам выдадзеная, захваленая й нават адзначаная прэміямі? Я ўжо ня пытаюся, дзе гэныя заканадаўцы. А літаратары-ж ,змушаныя імі, застаюцца. Некаторыя зь іх сядзяць у гэтай вось залі, - ці-ж не належыцца паспачуваць ім?

Мастацтва - асьвяжальны дух грамадзтва,якое безь ягонага крытычнага ўзьдзейваньня зацягваецца плесьняй і загнівае.Апалягэтыка без разбору,умацоўваньне ўсяго існуючага - у існасьці сваёй ня што іншае,як магільшчык грамадзтва, і вельмі шкада, што мы да сяньня не зразумелі ўсяе небясьпечнасьці гэтае зьявы. Вельмі шкада, што й да сяньняшняга дня многія кіруюцца думкай, быццам людзі, якія схільныя бачыць адмоўнае ў жыцьці грамадзтва, а тым больш крытыкаваць яго, заражаныя духам буржуазнай ідэялёгіі, ачарняльнікі або навет ідэялягічныя дывэрсанты. Няўжо трэба даводзіць, што гэткае прадстаўленьне, што найменш, недарэчнае, што праўда, якой-бы няпрыемнай яна ні была, калі яна выказаная шчыра й сумленна, ня можа прынесьці шкоды дабру, што запраўдныя, а не ўяўныя ворагі ўсіх часоў і катэгорыяў дасканала прыкрываюцца самай вернападданіцкай фразэалёгіяй, выдатна іграюць ролю прыяцеляў да магілы. Ці-ж трэба напамінаць, што ўсе палацавыя перавароты, усе ўдары ў сьпіну, усе змовы й зрады ажыцьцяўляліся людзьмі блізкімі, навонкі выняткава ляяльнымі?

Бязумоўна, каб пісаць праўду, апрача таленту, неабходная мужнасьць. Але ня меншая мужнасьць неабходная й дзеля таго, каб справядліва ўспрыняць праўду ўва ўсёй ейнай паўніні. І запраўды, можа быць, варта выказаць жаль, што часамі некаторыя нашыя кіраўнікі, тыя, каму больш, чымся іншым,павінна быць прысутная гэтая якасьць, аказваюцца, мякка кажучы, не на вышыні. На словах прызнаючы крытыку, як рухаючую сілу грамадзтва, яны тым ня менш імкнуцца прыдаць гэтай крытыцы толькі адзін кірунак - зьверху ўніз. Але для літаратуры ня існуе ні верху, ні нізу. Будучы чалавеказнаўцам-веданьнем, яна з аднолькавай аб'ектыўнасьцяй дасьледуе і даярку, і міністра, радавога сябру партыі і сакратара ЦК.

Ведама, што як і кажны манаполь, манаполь на

крытыку – прыемная рэч для таго, хто ею ўладае. Няма патрэбы казаць, якая "карысьць" ад гэтага ў іншых сфэрах грамадзкага жыцьця, але для літаратуры гэтакі манаполь згубны. Літаратура бяз крытычнага прынцыпу – гульня для абібокаў, абыватэльская цацка. Ці-ж мала навукі дала нам у гэтым сэньсе сумнай памяці тэорыя й практыка бесканфліктнасьці. Дакоры-ж пад адрысам літаратуры за гэтак званае ачарненьне або паклёп – зьява банальная паводля сваёй недарэчнасьці, супроць чаго ўва ўсе часы змагалася літаратура, хаця дялёка незаўсёды перамагала. З гэтага пункту гледжаньня я ўзноў дазволю сабе зьвярнуцца да аўтарытэту Бялінскага.

"Самае моцнае й цяжкае абвінавачаньне, якім пісьменьнікі рытарычнай школы думаюць канчаткова зьнішчыць Гогаля, – пісаў усё ў тым-жа артыкуле – "Адказ Москвитянину", – знаходзіцца ў тым, што асобы, якія ён звычайна выводзіў у сваіх творах, зьневажаюць грамадзтва. Падобнае абвінавачаньне больш за ўсё паказвае нясьпеласьць нашай грамадзкай адукацыі. У краёх, што апярэдзілі нас разьвіцьцём цэлых стагодзьдзяў, ня маюць і паняцьця пра магчымасьць гэткага абвінавачаньня. Ніхто ня скажа, што Ангельцы ня былі зайздросныя ў пытаньні свайго нацыянальнага гонару; наадварот, пытаньне ці ёсьць іншы народ, у якім нацыянальны эгаізм даходзіў да гэткіх крайнасьцяў, як у Ангельцаў. І між тым, яны любяць свайго Гогарта, які адлюстроўваў толькі заганы, распусту, злоўжываньні й плюгаўства ангельскага грамадзтва ягонага часу. І ніводзін Ангелец ня скажа, што Гогарт быў паклёпнікам Ангельшчыны, што ён ня бачыў і ня прызнаваў у ёй нічога людзкога, высакароднага, узвышанага і прыгожага. Ангелец разумее, што талент мае поўнае й сьвятое права быць аднабаковым і што ён можа быць вялікім у самой аднабаковасьці. З другога боку, яны гэтак глыбака адчуваюць і ўсьведамляюць сваю нацыянальную веліч, што анічуць не баяцца, каб ёй магло пашкодзіць выяўленьне недахопаў і цёмных бакоў ангельскага грамадзтва. Але й мы можам скардзіцца толькі на нясьпеласьць грамадзкае адукацыі, а не на адсутнасьць у нашым грамадзтве пачуцьця сваёй нацыянальнай годнасьці: чым чалавек сільнейшы, тым сьмялей глядзіць ён на свае слабыя бакі й недахопы. Яшчэ больш можна гэта сказаць пра народы, якія жывуць не чалавечы век, а цэлыя вякі. Народ слабы, мізэрны або састарэлы, выжыўшыся ў сваім жыцьці да немагчымасьці наперад, любіць толькі хваліць сябе і больш

за ўсё баіцца глянуць на свае раны: ён ведае, што яны сьмяротныя, што ягоная запраўднасьць не прадстаўляе яму нічога радаснага й што толькі ў вабмане самога сябе можа ён знаходзіць тыя ілжывыя пацехі, да якіх гэтак падкія слабыя й спарахнелыя. Гэтакія, прыкладам, Кітайцы або Пэрсы: паслухаць іх, дык лепшага няма на сьвеце народу, а ўсе іншыя народы перад імі аслы й нягоднікі. Ня гэткім павінен быць народ вялікі, поўны сілаў і жыцьця: прызнаньне сваіх недахопаў замест таго, каб прыводзіць яго ў роспач і паглыбляць у няверы ў сваіх сілах, дае яму новыя сілы, акрыляе яго на новую дзейнасьць".

І далей Бялінскі піша:

"Пісьменьнік вывядзе ў вапавесьці п'яніцу, а чытач скажа: ці-ж можна гэтак зьнеслаўляць Расею, быццам у ёй усе адны п'яніцы. Дапусьцім, гэты чытач разумны, навет вельмі разумны чалавек, але вынова, якую ён выявіў з апавесьці, недарэчная. Нам скажуць, што мастацтва абагульняе паасобныя зьявы й што яно ўжо не мастацтва, калі прадстаўляе зьявы выпадковыя. Праўда, але-ж грамадзтва, і асабліва народ, зьмяшчае ў сабе мноства бакоў, якія ня толькі аповесьць, цэлая літаратура ніколі ня вычарпае".

Я прашу выбачэньня за даўгую цытату, але мне здаецца, што сказанае няўрымсьлівым Вісарыёнам мае самае беспасярэдняе дачыненьне ня толькі да Гагаля, але й да нашай сучаснай літаратурнай практыкі. Калі-б нашыя выдаўцы й крытыкі часьцей чыталі Бялінскага й лічыліся зь ягоным аўтарытэтам, яны-б, магчыма, зразумелі недарэчнасьць многіх сваіх прэтэнсіяў да літаратуры, больш чымся сто год таму разьбітых вялікім крытыкам-дэмакратам. А так, узапраўды, выглядае, што з гэнага часу зьмянілася ў гэтым сэньсе ня шмат чаго, паранейшаму пад адрысам літаратуры гучаць усё тыя-ж дакоры. Хопіць вывесьці ня вельмі прываблівага генэрала, як адразу гучаць абвінавачаньні ў падрыве прэстыжу савецкіх палкаводцаў, хопіць адлюстраваць адмоўны пэрсанаж чыгуначніка паводля прафэсыі, як ужо чуваць абвінавачаньні ў паклёпе на слаўных савецкіх чыгуначнікаў. І гэта ў друку, у нашых афіцыйных органах. Ёсьць ад чаго завыць, нема й распачліва. Цемнашалства з прычыны зьневажэньня гонару муньдзіра ў вапошнім часе набрала пагрознага характару. Я мог-бы прывесьці вымоўныя прыклады із сабскай практыкі, з жыцьця ўсім нам ведамага Аляксея Карпюка, які за актыўную спробу напісаць праўдзівую літаратурную аўтабіяграфію свайго, я сказаў-бы, бездакорнага й

гераічнага жыцьця, паплаціўся ўжо шмат чым, і вібдаць паплаціцца яшчэ. З пашанай да вашай змучанай увагі я ня буду рабіць гэтага, часткава таму, што тое, што я мог-бы сказаць, многія тут ведаюць, - астатняе-ж лёгка сабе прадставіць. Мне нядаўна расказвалі ў Менску, што адзін ізь сьвежасьпечаных дактароў навукаў, што трымаюць гэтую ступень за хаўтурную кніжку, якая нявартая ламанага гроша, пагражаў у хуткім часе "дабрацца" да рэдактара "Новага мира" А. Твардоўскага.

У кажнай прафэсыі вырашальнае значэньне мае думка спэцыялістага, майстры дадзенага рамясла, але не ў літаратуры. У дачыненьні да літаратуры выйшла так, што праўда вызначаецца паводля прынцыпу субардынацыі. Як кажуць, той праў, у каго больш праву, чым вышэйшае становішча, тым бліжэй да Бога. Напрыканцы пятага дзесятка савецкай улады мы лятуцім усё аб тым-жа, аб чым сваім часам рупіўся Луначарскі, што яшчэ ў 1931 годзе казаў: "Пытаньне трэба ставіць ня так, каб Цэнтральны Камітэт пісаў лёзунгі, а пісьменьнікі падшуквалі да іх ілюстрацыі, а гэтак, каб партыя, Цэнтральны Камітэт сярод іншых інфармацыйных матарэялаў чыталі й пісьменьнікаў і атрымлівалі ад іх імпульсы для сваіх пастановаў і лёзунгаў". На жаль, дрэнна яшчэ нас чытаюць, а калі й чытаюць, дык хібашто з намерам апублікаваць ананімны пагромны артыкул, вылавіць у гэтым тэксьце, сем разоў працэджаным праз розныя сіты, якую-небудзь крамолу й зь дзіцячым захапленьнем выставіць яе на агляд: "глядзіце, вось якія мы пільныя".

І гэта заканамерна. Датуль, пакуль асабовасьць пісьменьніка будзе гэткай прыніжанай, а роля чыноўнага "высакародзьдзя" - гэткай непагрэшна высокай, гэтак і будзе працягвацца далей. Бо-ж гэта факт, што мы, літаратары, навет у некаторых пытаньнях нашага нутранага жыцьця астаёмся адзадзя ад іншых слаёў жыхарства. Прыкладам, у сельскай гаспадарцы ўжо мінуў час, калі старшыні калгасу назначаліся ў райкомах і прывозіліся на справаздачна-выбарны сход у выглядзе славутага "ката ў мяшку". Цяпер калгасьнікі галасуюць зь вялікім выбарам і вялікім разглядам. А мы дасюль ня маем права, навет на гэткім форуме, як зьезд, выбраць прэзыдыюм і старшыню нашага Саюзу шляхам беспасярэдніх выбараў, якімі, як вялікім заваяваньнем савецкай дэмакратыі, карыстаецца горды савецкі народ. Мы змушаныя карыстацца тым парадкам, які існаваў на Русі яшчэ

пры выбарах у Дзяржаўную Думу, калі выбіралі выбіральнікаў, а тыя ў свой чарод выбіралі дэпутатаў.

І тым ня менш трэба працаваць. Літаратура пачалася ня ўчора й кончыцца ня заўтра. Беларуская літаратура - ня толькі тое, што выдадзена ў выдавецтве паважанага Захара Пятровіча. Дзёньнікі й зацемкі Даўжэнкі, Нікалаевай, Кузьмы Чорнага, шматпакутныя творы Гарэцкага, рукапісныя творы ўсіх часоў і народаў - ня менш літаратура, чымся пышныя шматтомнікі ў скураных вокладках. І я думаю, што трэба адбіваць ня толькі жыцьцё народу, але й жыцьцё літаратуры. Пры гэтым трэба памятаць, што Лукаш Бэндэ ўвайшоў у нашую гісторыю гэтак-жа назаўсёды, як і тыя гарамыкі, якіх ён затравіў. Трэба часьцей напамінаць гэта, асабліва тым, хто ўсё яшчэ ня страціў ахвоты ў падкаваных ботах пагуляць на ніве шматпакутнай беларускай літаратуры.

Магчыма, сказанае мною ня ўсім спадабаецца. Быць можа навет знойдуцца такія, хто пастараецца суаднесьці мае словы зь некаторымі артыкуламі Угалоўнага Кодэксу. Але перад гэтым я хацеў-бы папярэдзіць: недастойная гэта справа - шукаць ведзьмаў там, дзе іх няма. Ня выдумляйце ветракоў, каб з імі змагацца. Мы не варагі народу й не падрыўнікі савецкай улады, адданасьць якой у свой час мы давялі собскаю крывёю. Дзеля гэтага больш памяркоўнасьці. Пастаўце сябе на нашае месца, і вы зразумееце, што выбар у нас невялікі. Пытаньне стаіць гэтак: або літаратура або не-літаратура. Сярэдзіны няма.

На заканчэньне хачу падчыркнуць, што, не зважаючы на некаторыя, ня вельмі вясёлыя думкі, я веру ў стваральную моц нашай літаратуры, гэтаксама як і ў разважнасьць, здаровы сэнс і добразычлівасьць тых, хто прыстаўлены ёю кіраваць. Яшчэ, карыстаючыся гэтай трыбунай, хачу падзякаваць многім літаратарам, якія перад зьездам гэтак красамоўна праявілі сваю грамадзянскую мужнасьць пад маім адрысам +/ Пакуль мы будзем задзіночаныя ў важнейшых пытаньнях жыцьця й не пабаімося заявіць пра гэта адкрыта, беларускі народ можа быць спакойны за долю сваёй літаратуры.

Васіль Быкаў

/Пераклад з расейскага і тэкст "Беларуса", №№ 207/208/.

==================

+/ Мова пра калектыўны ліст 65-ёх беларускіх пісьменьнікаў у ЦК КП Беларусі, які быў скіраваны ў сувязі з рэдакцыйным артыкулам у газэце "Советская Белоруссия", што перачыркваў творчасьць Васіля Быкава /рэдакцыя "Грани"/.

МУДРАСЬЦЬ

Нашыя памылкі найболей нас злосьцяць, калі мы бачым іх у іншых людзях.

Галяндэрская мудрасьць.

Калі вы даведаліся аб слабасьцях бліжняга, не кажэце іх нікому.

Л. Талстой

У мазґох самага разумнага чалавека існуе глупы завулак.

Арыстотэлес

Калі ты не зьяўляешся ў стане зараз-жа ўціхаміраць свой гнеў, зачыні рот. Памаўчы, і ты хутка вернешся да супакою душы.

Рыхард Бакстэр

Увага да чужых недахопаў выходзіць зь нядбаньня аб сабе. Часта, судзячы бліжняга, мы ўпадаем у тыя самыя памылкі, якія толькі-што ганілі.

Леў Талстой

Плеткары заўсёды знойдуцца, як доўга будуць тыя, што слухаюць іх.

Джон Вэслей

Мудрыя людзі болей маюць карысьці з глупцоў, чымся глупцы з мудрых; бо мудрыя людзі ўхіляюцца ад памылак глупцоў, тады як глупцы не насьлядуюць памыснасьці мудрых.

Маркус Порціюс Катон Старшы
Плютарх, Жыцьцё, Като

Ніхто не зьвяртае ўвагі на тое, што знаходзіцца перад яноньмі нагамі; усе мы ўзіраемся на зоры.

Цыцэрон

Цяжкаю рэчаю, мае паважаныя грамадзяне, ёсьць спрачацца з жыватом, - ён ня мае вушэй.

Маркус Порціюс Катон Старшы

Усяму ёсьць мера.

Гараціюс

Мей памяркоўнасьць ува ўсіх рэчах.

Тэрэнціюс

Нічога за шмат.

Плятон, "Протаґорас",
Інскрыпцыя ў сьвятыні Апольлёна
ў Дэльфах

Ня слухайце ніколі тых, што гавораць дрэнна аб іншых і добра аб вас.

Леў Талстой

Паміж намі і небам або пеклам існуе толькі жыцьцё, якое зьяўляецца найболей кволаю рэчаю на сьвеце.

Паскаль

Што найхутчэй старэецца? – Удзячнасьць.

Арыстотэлес

Дзьве памылкі: і. Браць кажную рэч даслоўна.
іі. Прымаць кажную рэч духова.

Паскаль

Калі ты не перастанеш гаварыць хлусьню пра мяне, дык я ня супынюся распаўсюджваць праўды пра цябе.

Амэрыканскае выслоўе.

Ня ўтрымлівайце за пагляд тое, у чым вы не пераканаyы. Ня прыймайце лёгка ўсяго таго, што пачуеце. Не пагарджайце нікім за недахопы.

Л. Талстой

Як доўга цепліцца жыцьцё – гэтак доўга падтрымліваецца спадзея.

Маркус Т. Цыцэрон

Усе рэчы маюцца гэтак да сваіх ідэяў, як прыгожасьць рэчы маецца да таго, што чыніць яе прыгожаю.

Плятон

Вы ведаеце, што, чым больш велічнаю ёсьць пэрспэктыва, тым меншаю пэўнасьць, і гэтаксама найбольшым захопленьне.

Зыґмунд Фройд

Не пераказвайце крыўдных і абразьлівых славаў, не кажэце ані сябру, ані ворагу аб недахопах бліжняга і не адкрывайце таго, што ведаеце дрэннага ў ягоных паводзінах. Слухаючы асуджэньне бліжняга, старайцеся заглушыць яго, – каб ня сталася яно вашаю загубаю.

Л. Талстой

ДУМКА

Тыя, што жывуць у васяродзьдзі шляхэтных думак, ніколі ня бываюць адны.

Сэр Філіп Сыднэй

Людзі наагул зьяўляюцца ляпей перакананымі на дарозе свайго ўласнага думаньня, чымся тыя, што прыходзяць да гэтага пры помачы думаньня іншых людзей.

Паскаль

І самай прыгожай думцы, калі яе не запісаць, паграждае небясьпека быць перадчасна забытаю.

Шопэнгаўэр

Дасьведчаньне зьяўляецца дзіцем думкі, і думка зьяўляецца дзіцем чыну.

Бэньямін Дізраэлі

Я хацеў-бы папярэдзіць вас, што людзі знаходзяцца сягоньня ў гэткім-жа палажэньні, у якім адной-чы знайшліся дынозаўры мілёны гадоў таму. Тады абставіны быту на зямлі востра паддаваліся зьінчаньню. Адзін за адным паступаў паток новых інфармацыяў, а галавы ў дынозаўраў былі маленькія, і інфармацыі не зьмяшчаліся ў іхных галавах, і дынозаўры загінулі. Цяпер-жа і мы знаходзімся ў палажэньні дынозаўраў - мы не зьяўляемся ў стане пераварыць усю аграмадную колькасьць наплываючае інфармацыі.

Я.С.Ліхтэнштайн

Людзі перастаюць думаць, калі спыняюць чытаньне.

Дідро

Я шмат чытаў, з захопленьнем, зь зьдзіўленьнем, але кнігі не адпіхалі мяне ад рэчаіснасьці, наадварот, усільваючы напружаньне зацікаўленьня да іх, яны разьвівалі здольнасьць маю назіраць, параўноўваць, распальвалі смагу пазнаньня жыцьця.

М. Ґоркі

Калі ня можаш падняць гэты камень, пакінь яго. Падымай меншы; пасьля, як акрэпнеш - падымай большы і большы.

---

Думка чалавека зьяўляецца прамоцыяю ягоных асягненьняў.

Я. Пятроўскі

Дэдукцыя - з лац. deductio, вывядзеньне - у часох старажытных: спосаб /лягічнага/ разважаньня, які абапіраўся на вывядзеньні высноваў падрабязных з залажэньняў болей агульных. Адваротнасьцю гэтага працесу зьяўляецца:

Індукцыя - з лац. inductio, увядзеньне, накіраваньне - выснаў з падрабязнага да агульнага: выснаў з паасобных выпадкаў да абагульненьня іх.

---

Станожка была вельмі гордаю, што мела сто ног. Яе сусед, крот, быў вельмі абескуражаны, бо ён меў толькі чатыры. Аднойчы крата агарнула шалёная думка, напісаць да станожкі ліст, наступнага зьместу:

Высокапаважаная Гаспадарыня!

Ці можаце Вы мне сказаць, якою з Вашых сто ног Вы перш парушаеце, і ў якой пасьлядоўнай чарзе парушаеце Вы апошнімі дзевяноста дзевяцьцю нагамі?..

Калі станожка прачытала ліст, яна пачала над гэтым думаць, і яна прабавала перш парушыць адной нагою, а пасьля іншай. Пасьля са страхам для сябе яна спасьцерагла, што яна апынулася па-за магчымасьцямі паварушыць хоць-бы якою-небудзь нагою. З гэтае прычыны яна наагул не магла ўжо хадзіць.

Альбэрт Айнштайн

Нашае жыцьцё - гэта вынік нашых думак; яно родзіцца ў нашым сэрцы, яно выводзіцца з нашых думак. Калі чалавек гаворыць або паступае са злою думкаю - цярпеньні сьледуюць за ім, як калясо за пятою вала, што цягне воз.

Нашае жыцьцё - гэта рэзультат нашых думак; яно родзіцца ў нашым сэрцы, яно прадукт нашае думкі. Калі чалавек гаворыць або ў сваіх дзеяньнях кіруецца добраю думкаю - тады радасьць, як цень, крочыць за ім і ніколі не пакідае яго.

З кітайскае мудрасьці

Наша думка, хай сабе добрая ці дрэнная, пасылае нас у рай ці ў пекла, не на небе або пад зямлёю, але ў гэтым жыцьці.

Люсі Малёрі

ПРАВА

Існуе пісанае і няпісанае права. Тое, якім кіруюцца канстытуцыі ў нашых местах, зьяўляецца пісаным правам; тое, якое выступае са звычаю, зьяўляецца няпісаным правам.

Плятон /скага.
Паводля Дыягэнэса Ляэртый-

Ня трэба быць пасьпешлівым у валюацыі таго або іншага дзяржаўнага мужа і не дзяліць іхныя выказваньні на праўдамоўныя і непраўдамоўныя. Усе яны пераважна выказваюцца на дадзеную тэму з пункту гледжаньня інтарэсаў народу, ад імя якога яны прамаўляюць.

Затым нашая валюацыя іхных выказваньняў павінна дыктавацца інтарэсамі нашага народу.

Ян Пятроўскі

Сацыял дэмакраты... "заўсёды будуць змагацца супроць кажнае спробы ўплыву на самастанаўленьне [народу] дарогаю гвалту ці якім-небудзь іншым несправядлівым спосабам".

Ленін

Мы ўключылі ў праект нашае партыйнае праграмы дамаганьне рэспублікі з дэмакратычнаю канстытуцыяю, дзе, сярод іншых рэчаў, будзе запэўнена ўзнаньне права на самастанаўленьне для ўсіх нацыянальнасьцяў, якія знаходзяцца ў [расейскай] дзяржаве.

Ленін
Люб.12

Ніводзен сябра Аб'еднаных Нацыяў ня мае права ўважаць, што гвалціць людзкія правы сваіх грамадзян ёсьць справаю вылучна дадзенага краю.

Джымі Картэр
"Беларус", №240

У сваей прамове адносна нацыянальнага пытаньня" з дня 12 травеня 1917 году Ленін сказаў: "Усё, чаго дамагаюцца Фіны сягоньня - гэта аўтаномія. Мы займаем пазыцыю, даць Фінляндыі поўную свабоду. Гэта спрычыніцца да ўзмацненьня іхнага даверра да расейскае дэмакрацыі і, калі пакінецца ім права выхаду, яны не скарыстаюць зь яго".

Любачка

У вартыкуле: "Марксызм і нацыянальнае пытаньне", напісаным у 1913 годзе, Сталін цьвердзіць: "Сацыял-дэмакрацыя ўва ўсіх краінах апавяшчае правы народаў да самастанаўленьня ўключна. Права самастанаўленьня значыць, што толькі сам народ мае права пастанаўляць адносна свае будучыні, што ніхто ня мае права сіламоцаю ўмешвацца ў жыцьцё дадзенага народу, нішчыць ягоныя школы і іншыя інстытуцыі, зьніштажаць ягоныя звычаі і абычаі, прасьледаваць ягоную мову, ані гэтаксама абмяжоўваць ягоных правоў".

Паводля І. Любачкі

У атмасфэры духовага і фізычнага паняволеньня чалавек схільным стаецца бачыць навакол сябе лепшыя і горшыя народы, народы першарадныя як і другарадныя, сільнейшыя і слабейшыя паводля натуры; і, што найгоршае - ён схільным прызнаць, што існуюць Богам выбраныя народы, як і ня выбраныя Ім народы.

Ян Пятроўскі

Жывучы ў Сыракузах у штаце Нью Ёрк, я часта любіў выходзіць на спацыр у напрамку лёкальнага меснага парку, што знаходзіўся на паўдзённай старане Саўт Авэнью зь невялічкім там, але прыгожым вазярцом з масаю залатых рыбак.

Аднайчы, ідучы ўздоўж прыгожае і шырокае вуліцы, я заўважыў на другім баку яе двух вялікіх чорных сабак, якія са значнае адлегласьці беглі сабе насустрач. Спасьцярогшы сябе, сабакі пачалі звальняць свой бег і хутка затрымаліся супроць сябе. Напружыўшыся і, з гарызантальна выцягнутымі хвастамі,яны з выразнаю асьцярожнасьцю зьбліжыліся да сябе на адлегласьць нюху, прыймаючы пры гэтым пазыцыю скоку на сябе, калі далейшая сытуацыя патрабавацíме гэтага.

Я затрымаўся, каб прыглядзіцца зблізку, якою грызьнёю іхная сустрэча кончыцца.

Сабакі стаялі, быццам застылі ў паставе ўзаемнага абнюхваньня, чакаючы хто першы справакуе грызьню між імі, каб кінуцца на сябе з усёю сабачаю злосьцю. А выйшла зусім інакш.

У мамэнце найбольшага напружаньня, сабака зь левае стараны, памаленечку-памаленечку, нейкім, як выглядала, прывычным для сябе рухам, пачаў паволі і роўнамерна на ўсіх чатырох нагах асоўвацца ўніз і хутка шчыльна прылёг да зямлі, падхінаючы хвост пад сябе... Правы сабака астаўся стоячы ў сваей гордай

паз[illegible]ьі; ён быццам яшчэ нешта ў паветры абнюхваў, пасьля вольным рухам, як поўнаўладны пераможнік, асьцярожна абыходзячы свайго пераможанага апанэнта, пайшоў далей. Я аставаўся стаяць, і пад уражаньнем бачанага думаў: ці-ж ня гэтак часамі бывае і зь людзьмі?

Ян Пятроўскі

Чалавек часамі схільным ёсьць угінацца перад іншым чалавекам, і гэта з мэтаю атрыманьня пэўных выгадаў для сябе. Выгады гэтыя могуць быць у хворме ласкі, хлеба, супакою...

У вапошнім падсумаваньні, апрача ганьбы для сябе, ён нічога не атрымлівае, бо млявых, бесхарактарных людзей ня любяць ані прыяцелі, ані ворагі.

Ян Пятроўскі

Не патрэбна зусім глыбокае развагі, каб зразумець, што́ трэба рабіць, каб воля была добраю. Недасьведчаны чалавек у разуменьні сусьветнае цэласьці, няздольным ёсьць разабрацца, даць адказ на ўсе здарэньні, якія маюць месца ў ёй, - я пытаю самога сябе толькі пра адно: ці згаджаюся я, каб імпульсы, якімі я кіруюся ў паступаваньнях, сталіся абавязкавым правам для ўсіх? Калі не, дык мае імпульсы нягодныя і нягодныя ня толькі з прычыны шкоды,якая можа здарыцца з прычыны іх мне або іншым людзям,але затым, што яны няпрыдатнымі зьяўляюцца дзеля таго, каб стацца асноваю правоў, абавязваючых усіх; і, ня гледзячы на гэта, розум змушае мяне беспасрэдна паважаць гэтакія правы: хоць я яшчэ і не разумею, на чым абасноўваецца гэтакае паважаньне,але разумею тое, што паважаю я ў гэтых правах нешта такое, што́ паводля свае вартасьці далёка перавышае ўсё тое, што́ падказваецца мне маімі схільнасьцямі, і паступаць з прычыны аднаго толькі паважаньня да маральнага права ёсьць той абавязак, перад якім павінен адступіцца ўсякі іншы імпульс.

Кант

Рэлігія адбывае сталы рух у напрамку зьбліжэньня яе з натуральным правам маральнасьці. Калі тэалёгія зьіначвае свае перакананьні, перакананьні людзей адносна сваіх паводзінаў нязьменнымі астаюцца.

Эмэрсон

Каралі гаспадарства - правы.

Плятон
Сымпозыён, I96

СВАБОДА

Перамагчы самога сябе – гэта лепшы сродак для таго, каб ня быць пераможаным. Акелзаць самога сябе – гэта лепшы сродак дзеля таго, каб ня мець над сабою цівуна.

Усходняя мудрасьць

Людзі розных палітычных і ідэялягічных напрамкаў часта гавораць пра свабоду палітычную, эканамічную, сьветапаглядную. Недамоўленьне іхнае заключаецца ў тым, што яны ня бачаць важнасьці патрэбы свайго асабістага вызваленьня духовага. Сфэра духа – ёсьць рашаючаю; затым, праўдзівае вызваленьне – гэта вызваленьне духовае.

---

Вольным быць хачу, як птушка.

Якуб Колас
"Сымон музыка".

Не пакідай надзеі астацца свабодным чалавекам.

М. Аўрэліюс,7,67

Калі чалавек хоча быць свабодным, ён павінен болей баяцца няволі, чымся сьмерці.

Паводля Плятона
"Політэя", 3,387

Чалавек павінен быць свабодным ад эканамічнага, палітычнага і духовага прыгнечаньня.

Паводля Томаса Мора
Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя

Мы падтрымліваем Вашыя намаганьні сказаць народам сьвету, што амэрыканская замежная палітыка будзе і надалей прысьвечаная справе свабоды.

58 амэрыканскіх сэнатараў да
Прэз. Джымі Картэра

Католік мусіць прыняць вырашэньне пададзенае яму; пратэстант мусіць навучыцца сам рашаць для самога сябе.

Руссо

Дык хіба-ж мы праў ня маем,
Сілы шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?

Якуб Колас
"Сымон Музыка"

Пазнаеце праўду, і праўда ўчыніць вас свабоднымі.
Ісус з Назарэту

Як дзе пяюць – прыстань хутчэй,
Бо песьня сьпіць у злых людзей.
Зь беларускае мудрасьці

Волі песьням і разгону!
Зьдзек над песьнямі – прыгон!
Якуб Колас
"Сымон музыка"

Ты пытаешся, якім шляхам можна асягнуць свабоду? Дзеля гэтага трэба пазнаць як адрозьніваць дабро ад зла самому, а не паводля прыпадкавых дамаганьняў натоўпу.

Сэнэка

Куды-б цябе лёс твой не завёў, усюды з табою твая сутнасьць, твой дух, засяроджаньне жыцьця, свабоды і сілы, калі ты толькі верным астаешся праву быцьця свайго. Няма на сьвеце гэтакага дабра або велічнасьці, дзеля якіх варта было-б чалавеку нарушаць адзінасьць сваю з духам, разрываць сваё аб'еднаньне зь ім і падрываць суцэльнасьць свае душы разладзьдзем з самым сабою.

Марк Аўрэліюс

Асвабаджае чалавека толькі розум, – чым болей неразумнае жыцьцё людзкае, тым болей яно несвабоднае.

Л. Талстой

Толькі пра гэтакага чалавека можна сказаць, што ён свабодны, які жыве гэтак, як ён хоча. Разумны чалавек заўсёды жыве гэтак, як ён хоча, затым, што ён жадае сабе толькі таго, што магчыма атрымаць. Затым бо толькі разумны чалавек свабодным ёсьць.

Эпіктэтус

Паслухмянасьць добраю рэчаю ёсьць і неабходнаю; але, калі гэтая паслухмянасьць накіравана на дрэннасьць і махлярства, тады яна, наадварот, стаецца вышэйшаю мераю людзкае подласьці і паніжэньня для чалавека.

Карляйль

На прасторы сэрцу люба.
Якуб Колас
"Сымон Музыка"

# НАСУСТРЭЧУ СВАБОДЫ

## I

У дрыццатых гадох мінулага стагодзьдзя ў усходняй частцы штату Кэнтакі, у некалькі мілях ад сябе ляжалі дзьве земскія ўласнасьці, гаспадары якіх значна розьніліся між сабою. Адзін зь іх, Містэр Гэррыс, быў багаты і добрым адміністратарам свае ўласнасьці, які абыходзіўся са сваімі нявольнікамі бязьлітасна і з жорсткаю срогасьцю. Другі, Містэр Шэльбі, ува ўсім быў супроцьлегласьцю. Ён гэтаксама быў багаты, але, дзякуючы розным абставінам і з прычыны ўласных задаўжэньняў, мала па малу трапіў у заблытаныя гаспадарчыя суадносіны. Хутка назьбіралася гэтулькі даўгоў, якія трэба было сплаціць, і ён ня ведаў, як зь іх вывязацца. Перад сваею разумнаю і годнаю пашаны жонкаю гуляў ён заўсёды ролю чалавека бястурботнага, затым яна нават не падазравала, што муж яе ма́е фінансавыя клопаты. Прыроджаная дабрыня ягонага характару ня толькі пазваляла яму абыходзіцца са сваімі нявольнікамі са зразуменьнем, але ён гэтаксама абдарыў іх пэўнымі свабодамі і палепшаньнямі, чаго ягоныя суседзі ніколі не маглі зразумець.

Сярод нявольнікаў гаспадара Шэльбі выдзельвалася негрыцянка, Эліза. Яна адзначалася сумленасьцю і была гэтулькі працавітаю, колькі вернаю ў даверанных ёй справах. Яна была жанчынаю асабліваё прыгожасьці і знаходзілася ў доме Шэльбі ад часу свайго дзяцінства, дзе яна атрымала ўзгадаваньне. Мужам яе быў Джордж, малады здольны мулат, які, як нявольнік, працаваў у суседнім маёнтку Гэррыса.

Часта здаралася, што негры сваімі гаспадарамі наніmаліся на іншыя фармы, прычым дагавораная заработная плата не прыпадала нявольнікам, але іхным уласьнікам. Джордж гэтаксама сваім прагавітым гаспадаром быў наняты ў фабрыку, дзе выраблялася ўсякага роду палатно. Тут, дзякуючы ягонай працавітасьці, ён хутка стаўся першым работнікам. Ён меў выняткавы тэхнічны дар, а праз вынахад вельмі прадуктыўнае машыны для ачышчаньня канапель узбудзіў зьдзіўленьне ўласьніка фабрыкі. Дзякуючы свомасьцям сымпатыі ягонага характару, хутка стаўся ён шанаваным усімі на фабрыцы.

Ня гледзячы аднак на ўсё, аставаўся ён, паводля літары права, толькі прадметам, а не правам абдораным чалавекам. Да ўсяго гэтага знаходзіўся ён пад

панаваньнем бязьлітаснага валадара. Калі да вушэй апошняга дайшоў слух аб вынахадзе машыны да ачышчаньня канапель, адведаў ён аднойчы фабрыку, дзе Джордж з гордасьцю паказаў яму вынайдзенае ім уладжаньне. Пры паясьненьні машыны ён ужываў гэтак плынную мову і выдаўся гэтак зручным, што Містэр Гэррыс, які ня вырозьніваўся ніякімі асаблівымі здольнасьцямі, тым болей прыгнятальна адчуў сваю слабасьць. Ён прыйшоў да выснаву зламаць гэтак відавочную перавагу негра, Джорджа зараз-жа забраць у маёнтак і даць яму самую цяжкую і брудную працу. Ён меўся так працаваць, каб ажно трашчалі ягоныя косьці.

Містэр Вільсон, фабрыкант, быў вельмі зьдзіўлены, калі Гэррыс падаў яму да ведама свой замер, і не аднойчы прырачэньнем падвышкі заработнае платы прабаваў пераканаць упартага чалавека. Джордж быў быццам удыраны громам, чуючы з вуснаў свайго пана прыгавор. Насілу мог ён панаваць над сабою.

– Ідзі цяперака зь ім, – супакойваў яго Містэр Вільсон, – а я ўжо пабачу, як цябе зноў атрымаць!

Гэтак Джордж быў забраны ў маёнтак Гэррыса і тасаваны да найгоршых працаў. Ён жаніўся на Элізе ў часе, калі працаваў на фабрыцы. Сужанцы ў гэтым часе часта бачыліся і іхнае сужэнскае шчасьце было засмучана толькі праз страту двух дзяцей. Але пасьля нараджэньня малога Гэрры, здавалася, што цэшыліся яны поўняю шчасьця, аж пакуль яно, праз раптоўнае забраньне мужа да ягонага бязьлітаснага гаспадара, ня было зламана. Дарэмна Містэр Вільсон прадпрыймаў спробы атрымаць свайго стараннага перадавога работніка назад у фабрыку, і для Джорджа шчэзла ўсякая спадзея на ратунак зь ягонага цяжкага палажэньня.

## 2

Некалькі тыдняў пазьней Эліза стаяла перад домам і глядзела ў сьлед за ад'яжджаючым возам Місс Шэльбі, як раптам яна пачула на сваім плячу руку і яе муж стануў перад ёю.

– Джордж, гэта ты! Як ты мяне спалохаў! – Пры гэтых словах яна павяла яго ў маленькі пакойчык, у якім яна звычайна выконвала швэйную працу.

– Глянь толькі які вялікі ўжо наш Гэрры! – Але Джордж быццам не спасьцерагаў свайго сына.

– Няшчасны дзень, калі я радзіўся! – пачаў ён павышаным голасам, поўным набалелае горычы. – Лепей было-б мне не пабачыць гэтага сьвету!

Спалохана і неспадзявана глянула Эліза ў ягоны зьменены твар і сьлёзы выступілі ў яе на вачох.

– Джордж, як можаш ты гэтак гаварыць! Што здарылася? Ёсьць нешта страшнае перад намі? Ці-ж ня былі мы заўсёды шчасьлівымі?

– Ах, Эліза, я самы няшчасны чалавек на зямлі. Было-б ляпей, каб мы ніколі не пазналіся. Жыцьцё сталася мне мучэньнем – і, што ў гэтым найболей страшным – я і цябе яшчэ цягну ў маё гора. Якую вартасьць мае для мяне жыцьцё? Адзінае маё жаданьне – гэта памерці!

– Джордж, ты не павінен гэтак гаварыць. Я ведаю, як ты нацярпеўся, я ведаю гэтаксама, як цьвярды твой пан. Але пацярпі, усё яшчэ ўложыцца.

Гутарка яе не магла супакоіць яго.

– Пацярпі! – крыкнуў ён, – ці-ж мала я цярпеў!? Ці-ж адазваўся я хоць-бы адным словам, калі ён мяне бязь ніякае апраўданае прычыны зьняў з месца, дзе ўсё было гэтак прыгожа і людзі пасяброўску адносіліся да мяне? Ці-ж не аддаваў я яму ўвесь свой заработак да апошняга цэнта? Усе кажуць, што я добра працаваў.

– Гэта страшна, – шаптала Эліза, – але ён зьяўляецца тваім панам.

– І хто-ж учыніў яго маім панам? Якое права ён мае да мяне? Ці-ж не зьяўляюся я чалавекам гэтаксама, як і ён? Я болей старанны за яго, я ўмею весьці гаспадарку ляпей за яго, я ўмею ляпей за яго чытаць і пісаць. Я здабыў гэта, ня гледзячы на перашкоды, якія ён ствараў для мяне. Якое права ён мае рабіць зь мяне рабочага зьвера? Забраць мяне ад усіх, затым толькі, што я ляпей патраплю за яго і мяне наўмысьня змушаць да найцяжэйшае і найболей бруднае працы?

Зь ягонае душы прабівала набалелае гора.

– Я ня вытрываю болей. Ён карыстаецца з кажнае нагоды, каб мяне мучыць. Яшчэ ўчора, я грузіў каменьні на воз, малады Містэр Том пугаю спалохаў майго каня. Калі я папрасіў яго перастаць рабіць гэта, ён пачаў яшчэ болей, а пасьля пачаў і мяне біць пугаю. І калі я стрымаў ягоныя рукі, ён пачаў крычаць, біць мяне нагамі і пабег да свайго бацькі, якому ён расказаў, быццам я біў яго. Гэты прыбег расшалелы, прывязаў мяне да дрэва, нарэзаў дубцоў для маладога паніча, каб ён біў мяне, як доўга яму спадабаецца.

– Ты памятаеш яшчэ маленькага Бэльлё, – цягнуў сваё сумнае апавяданьне Джордж, – якога ты мне ка-

лісьці падаравала. Верны сабака быў для мяне адзінаю пацехаю. Ён спаў са мною і цэлы дзень быў пры маім баку. Часта ўзіраўся ён на мяне сваімі разумнымі вачыма, быццам ён мог сьцяміць мае думкі. Нядаўна даў я яму пару касьцей. Якраз у гэтым часе, як на ліха, праходзіў пан і сьцяміў, што я кармлю сабаку на ягоны рахунак, загадаў мне прывязаць беднаму Бэльлё на шыю камень і ўтапіць яго.

– Джордж, і ты запраўды гэта зрабіў?!

– Я – не, але ён. Пан і Том кідалі яшчэ каменьнямі на яго, як тапіўся, а ён узіраўся на мяне гэткімі сумнымі вачыма, быццам пытаўся мяне, чаму я ня іду на помач. Я сам яшчэ атрымаў пугаю, за тое,што не хацеў тапіць сабакі. Але я толькі сьціскаў зубамі. Мой дзень яшчэ прыйдзе і магчыма раней, чымся ён думае!

І ён прадставіў Элізе свой плян. За некалькі дзён Містэр Гэррыс мае яго пасланць да суседняга маёнтку, і гэтую нагоду ён хоча выкарыстаць, каб уцякчы. Ён ужо зрабіў некаторыя падрыхтаваньні да ўцёкаў і знайшоў людзей, на помач якіх ён можа лічыць. Ён будзе старацца ўцякчы ў Канаду і стуль выкупіць сваю жонку.

– Ты маеш добрага пана, які ня будзе ўхіляцца, каб мне цябе прадаць. І я куплю цябе і Гэрры, вер мне!

Са сьлязамі ў вачох пажагналіся сужанцы. Калі спаткаюцца яны зноў?

3

Але гэтым ня ўсё яшчэ няшчасьце звалілася на пару мулатаў.

Галоўным крэдытарам Містэр Шэльбі быў гандляр нявольнікамі, які называўся Гэлей. Гэты даўно ўжо зьвярнуў сваю ўвагу на добры"тавар", які Шэльбі меў сярод сваіх нявольнікаў. Дзелягэтага ён выкупіў значную колькасьць ягоных вартасных папераў і вэксляў, каб гэткім спосабам учыніць Містэр Шэльбі залежным ад сябе. Ягоная ўвага галоўным чынам была зьвернута на Тома. Сярод нявольнікаў Том быў чэснаю нягрыцянскаю душою. У маёнтку прабыў ён шмат гадоў. Том быў жанаты і бацькам трох дзяцей. Фізычна ён быў чалавекам рослым і рэдка спатыканае сілы. У пары зь ягонаю рэлігійнасьцю ішлі супакой, паслухмянасьць. Аб гэтых свомасьцях Тома Гэлей ведаў вельмі добра. Ён ведаў гэтаксама, што Шэльбі не захоча лёгка адпусьціць вернага нявольніка, якому ён прырок нават вольнасьць, як толькі ягоныя

фінансавыя справы папраўляцца. Але Гэлей лічыў на сястру свайго даўжніка, з другога боку, пры помачы пагрозаў і інтрыгаў, напасьледак, асягнуў сваю мэту. Але Томам ня быў яшчэ патушаны ўвесь доўг. Мусіў быць прададзены яшчэ адзін нявольнік. Здарылася, што калі яны дабівалі свой гандаль, на няшчасьце да пакою ўбег маленькі Гэрры, каб, як звычайна, тутака забаўляцца. Выразна прыгожае дзіця зьвярнула на сябе ўвагу гандляра нявольнікамі і пабудзіла ў ім ахвоту здабыць дзіця на сваю ўласнасьць. І як Шэльбі не сапраціўляўся, з увагі на прырачэньне прадаць малога толькі добраму пану, перамог нарэшце Гэлей апошнія думкі даўжніка і давёў справу да кантракту. Наступнага дня гандляр меўся забраць свае ахвяры.

Вялікае было расчараваньне і зьнеахвочаньне міссіс Шэльбі, калі яна вечарам яшчэ гэтага самага дня даведалася аб сумным гандлю свайго мужа. Спачатку яна проста не магла паверыць, і зараз-жа была гатова за любую ахвяру перашкодзіць гэтаму. Але, калі Шэльбі адсланіў перад ёю сваё бязвыхаднае палажэньне, і паясьніў, што Гэлей на нічога ня згодзіцца, просячы паддацца гэтай няўхільнасьці, дык яна ў сьлязох выкрыкнула:

– Не, не, я ня хочу быць вінаватаю ў гэтай трагэдыі. Я буду пацяшаць добрага Тома ў ягонай бядзе і прынамсі павінен ён ведаць, як ляжыць мне на сэрцы ягоны лёс. Пра Элізу я баюся нават падумаць, як перажыве яна гэта. Няхай даруе нам Бог і зьлітуецца над намі.

Гэтым кончылася ўсхваляваная гутарка паміж сужэнцамі. Гутарка гэтая аднак-жа мела тайную слухачку. Эліза ў сумежным пакоі прыгатаўляла для сябе пасьцель і сталася пры гэтым сьведкаю для яе гэтак поўнага значэньня ґутаркі.

Спачатку стаяла яна, як аглушаная, не пануючы над сабою. Але думка аб дзіцяці ўчыніла яе хутка сільнай. А тутака ляжала яе дрэмлючае дзіця. Доўгія прыгожыя лёканы спадалі на сонны тварык і бышцам заблуканы сонечны прамень, на ягоных вуснах прабягаў дзіцячы ўсьмех.

– Бедная дзіця, – шаптала Эліза, – яны прадалі цябе, але твая маці не дапусьціць да гэтага!

Ані адна сьляза ня ўпала на падушку. У падобным горы сэрца ня мае сьлёз, яно ціха аціякае крывёю. Яна ўзяла кусок паперы і алавік і зручна напісала:

"Дарагая Міссіс! Ня думайце аба мне, што я ня была няўдзячнаю. Я ўсё чула, як Вы і Містэр Шэльбі сягоньня вечарам разам гаварылі. Я спробую ўрата-

ваць маё дзіця. Ня судзеце мяне. Няхай дабраславіць вас Бог і ўзнагародзіць Вас за Вашую дабрыню".

Хутка пачала яна шукаць неабходную вопратку і прывязала клумок на сябе. Ня гледзячы на ўсхваляваньне, яна не забыла ўзяць з сабою любімыя цацкі дзіцяці.

Цяжка было разбудзіць соннае дзіця. Успакоіўшы хлапца, хутка апранула яго і наказала яму быць зусім ціха. Пасьля гэтага яна адкрыла ціха дзьверы і выкралася зь ім у студзённую ноч.

4

Містэр і Міссіс Шэльбі ўсталі на наступны дзень рана.

– Я хацела-б ведаць дзе Эліза цяпер, – сказала гаспадарыня Шэльбі, пасьля таго, як яна дарэмна званіла на яе.

У гэтую хвіліну ўвайшоў малады негр, нясучы гарачую ваду да брыцьця для Містэр Шэльбі.

– Энді, – пазвала яго ягоная пані, – пайдзі да Элізы і скажы ёй, што я ўжо тры разы сваніла. Бедная, – уздыхнула яна ціха.

Негр вярнуўся зараз-жа і заявіў, што Элізы нігдзе ня відна і, што ўсе яе рэчы параскіданыя па пакою.

– Мусіць яна нешта спасьцерагла і ўцякла з хлапцом – ускрыкнуў спалоханы Містэр Шэльбі.

– Дзякаваць Богу, – дадала Міссіс Шэльбі зь нятоенай радасьцю. – Трэба спадзявацца, што яна гэта запраўды ўчыніла.

Містэр Шэльбі ня мог падзяліць здаваленьня свае жонкі.

– Добры гасьцінец яна нам усукала, – ускрыкнуў ён поўны злосьці, – Гэлей ужо і бяз гэтага быў трохі недаверлівы. Цяперака ён зусім падумае, што я спрыяў уцёкам. Гэта немагчымая рэч! – І ён хутка выйшаў з пакою.

Вестка аб тым, што Эліза ўцякла, разыходзілася, як полымя сярод невольніцкага пэрсаналю маёнтку і ў ваколіцы, і ўсе цешыліся, хоць зусім слушна ўкрывалі сваё захопленьне ў прысутнасьці Містэр Шэльбі.

Гэлей зьявіўся дакладна ў умоўленай гадзіне, каб забраць купленых нявольнікаў. Маладыя нявольнікі ў маёнтку асабліва радаваліся з нагоды пасьпяшыць яму на спатканьне з гіёбаваю весткаю аб уцёках Элізы. Гандляр папаў у разьюшанасьць і паваліў проста ў гасьцінны пакой сям'і Шэльбі, дзе паміж ім і гаспадаром дому дайшло да спрэчкі. Нарэшце Гэлей су-

пакоіўся на гэтулькі, што ён быў у стане выслухаць апраўданьне Шэльбі і прыняў прапанову памагчы яму ў дагонках за ўцекачамі. Гаспадарыня Шэльбі пачала дзейнічаць так, каб гандляр нявольнікамі зьеў яшчэ сьнеданьне ў іх доме, і адначасна яна дала зразумець прыдзеленым на дагонкі нявольнікам выразны знак, каб яны ня надта сьпяшаліся. Кемныя хлапцы са свае стараны ведалі ўжо, што маюць рабіць, каб ад'езд апазьніць і гэтым даць Элізе магчымасьць як найболей аддаліцца. Гэтак, зьнічэўку сарваўся конь Гэлейя, якога толькі пасьля даўжэйшага часу маглі злавіць. Быў ужо поўдзень, як дагоншчыкі рушылі ў дарогу.

5

Немагчыма пераказаць усіх перажываньняў, якія дасьведчыла Эліза, ад часу, калі яна пакінула дом Шэльбі.

Вырваная зьнічэўку з асяродзьдзя даверлівых да яе людзей, адарваная ад свайго мужа, лёс якога яна адчувала толькі жахлівым сумлівам і якога яна магчыма ніколі ўжо не пабачыць, неабходнасьць ратаваць сваё найдаражэйшае дзіця перад захопам ганебнага гандляра, да гэтага яшчэ сталы страх перад дагоншчыкамі - усё гэта дазваляе зразумець яе безнадзейнае палажэньне.

У вялікім пасьпеху бегла яна па зьмерзшай зямлі і кажны шолах змушаў яе да яшчэ большага пасьпеху.

Вецер гнаў сухое лісьцё, а ёй здавалася, што яна чуе людзкія крокі; цені дрэваў здаваліся ёй у слабым сьвятле месяца, як прытоеныя дагоншчыкі. Гэтак бегла яна, быццам гнаны зьвер.

На золаку наступнага дня Эліза мела маёнтак свайго пана далёка за сабою і дайшла да дарогі, якая вяла ў Сінссінаці і да Огайё. Пры спатканьні першага возу, яна якраз павольніла свой ход, каб праз сьпешнасьць не ўзбудзіць падазрэньня. Эліза была добра апранута, колер яе шкуры быў гэтак ясны, што не адразу можна было яе пазнаць, як каляровую. А поўдні ў вадной фарме яна зрабіла кароткі адпачынак. Пасьля заспакаеньня свайго і дзіцяці дакучлівага голаду, яна сабралася зноў у дарогу і толькі вечарам дайшла да вёскі, што ляжала над ракою Огайё. Тут яна хацела як найхутчэй пераправіцца на другі бераг, каб гэткім чынам чуцца болей бясьпечнай. Але ўзровень вады на рацэ быў узьняты і пакрыты крыгамі. Як вокам кінуць, нідзе ня было відна

ані лодкі, ані парому. Дый ніякі перавозчык не адважаўся-б пераплываць ракі. З адчаем узіралася Эліза на масу плывучых крыгаў, і здавалася, што шчэзла ўсякая спадзея на ратунак.

Яна пастанавіла пераначаваць са сваім зусім змучаным дзіцянём у заездным доме на беразе ракі і там даведацца, ці не надарыцца якая-небудзь магчымасьць пераправіцца на другі бок.

З гэтае прычыны мінаў каштоўны час. Пачало цямнець. Эліза стаяла пры вакне заезднага дому, як раптам, для свайго поўнага жаху і зьдзіўленьня яна заўважыла сваіх дагоншчыкаў. Яна анямела. Але велізч небясьпекі ўчыніў яе на хвіліну прытомнай. Яна хутка схваціла свайго хлапца, выскачыла зь ім праз заднія дзьверы і пабегла проста на бераг ракі. Але гандляр нявольнікамі заўважыў яе. Хутка ўскочуў ён на каня, пачаў крычаць на сваіх людзей, каб сьледавалі за ім і паскакаў за ўцекачамі. Эліза бачыла, як ён вось-вось набліжаўся і адчай удыхнуў у яе волатавыя сілы. Зь дзікім крыкам скочыла яна праз грозны прыбярэжны цёк вады на крыгу. На куску лёду яна панеслася ўздоўж ракі. Пасьля скочыла яна з адвагаю адчаю на наступную крыгу. Крыгі крахталі, церліся адна аб адну і хісталіся, пагражаючы пад яе ўласным цяжарам патануць, але Эліза не зьвяртала на ўсё гэта ўвагі. Яна спатыкалася і падала, але хутка скакала далей. Яна пагубіла свае чаравікі, панчохі яе паабдзіраліся, сьлед яе значыўся крывёю, яна нічога ня бачыла і нічога не адчувала. Усё гэта здавалася ёй вечнасьцю, але вось, як у сьне, нарэшце, яна дабралася да наступнага берагу, дзе яе постаць праглынула вячэрняя імгла. Як непераможная бар'ера ляжыць Огайё паміж ёю і яе прасьледвальнікамі.

Гэлей быў зьнеахвочаны, што яму здабыча ўцякла з-пад носу, але ён пацяшаў сябе думкамі, што ён іх яшчэ зловіць. Змучаны сільнаю яздою на кані, зайшоў ён у заездны дом, каб нарэшце адпачыць. Але здавалася, што шчасьце ўсьміхнулася да яго, бо толькі што ўвайшло двух гасьцей, у якіх ён зараз-жа пазнаў дасьведчаных і ведамых паляўнічых на нявольнікаў, Маркса і Тома Лёкэраў. Ягоны звычайна добры настрой шчэз. Ён прывітаў увайшоўшых, як добрых знаёмых і пасьля некалькі абыходаў чаркі яны дагаварыліся. Зь іхнымі сьледчымі сабакамі абыдва зябры замерваліся хутка ісьці па пятах уцекачоў і за цану пяцідзесяці даляраў дзіця мелася быць перададзена Гэлейю. З Элізаю пастанавілі гэтыя два зра-

біць бізнэс на ўласны рахунак і за добрую цану прадаць яе ў Нью Орлеанс.

6

У доме сэнатара Бэрд Эліза тымчасам знайшла прыняцьце і трохі адыхнула ад страху сваіх уцёкаў. Хоць Містэр Бэрд пад націскам сяброў канґрэсу зь нявольніцкіх штатаў паддаўся, і ў сэнаце галасаваў за права, якое забараняла палёгкі нявольнікам, што ўцяклі, аднак уступіў перад просьбамі свае жонкі, дазволіць пераначаваць адну ноч зусім фізычна вычарпанай Элізе. Трымаць яе аднак даўжэй у сваім доме, з увагі на становішча, якое ён займаў, лічыў за неадпаведнае, дзелягэтага пастаноўлена было, яшчэ ў тую самую ноч перавезьці яе зь дзіцем да знаёмага, які жыў на адлеглай фарме і на помач якога можна было лічыць.

І, каб ня ўзбудзіць навакол ніякага падазрэньня, пад дайманом, што яго клічуць важныя справы ў адлеглае места, загадаў ён запрэгчы коней, і пасьля таго, як маці і дзіця былі цёпла апрануты, паехаў ён у цёмную ноч разам з уцекачамі.

У Ван Тромпа, ягонага знаёмага, сэнатар са сваім саправаджэньнем быў добра прыняты і тут Эліза магла так доўга быць, пакуль яна ня мела добра папраўіцца. Паводля розных прыкметаў Ван Тромп спасьцярог, што сьлед уцекачоў быў выкрыты. І хоць ён не баяўся паляўнічых на нявольнікаў і іхных кумпанаў, аднак трывожыўся, што ўцёкі Элізы могуць быць утруднены. Дзелягэтага пастанавіў ён перавезьці яе зь дзіцем да аднае запрыязьненае сям'і квакераў, дзе яна магла быць яшчэ ў большай скрытасьці і знайсьці адпаведную нагоду да далейшага падарожжа. Квакеры былі першымі, якія ўзьнялі свой голас супроць нявольніцтва і гандлю нявольнікамі. Яны паклалі шмат стараньняў, каб аблягчыць лёс неграў і пераважна квакеры ў Вірджыніі, Мэрыленд і Пэннсыльваніі абдарылі нявольнікаў нават свабодаю. Нявольнік, які ўцёк і даверыўся квакеру, мог быць пэўным, што тутака знойдзе поўную падтрымку.

Эліза ў сям'і Ван Тромпа чулася гэтак добра, што яна хутка забыла сваё гора і зь вялікаю спадзеяю глядзела ў будучыню.

7

У позных папаўдзённых гадзінах імглістага дня падарожны ўступіў у малы заездны дом у Кэнтакі. З трудом знайшоў ён у задымленым пакоі, у якім кішэ-

ла фармэрамі і гандлярамі, месца каля ксмінку. У-сеўшыся трохі выгадней, узяў ён у рукі газэту, у якой ягонуя ўвагу зьвярнула на сябе агалошаньне наступнага зьместу:

"Увага! Высокая нагарода! Ад ніжэйпадпісанага ўцёк мулат, Джордж. Ён мае прыблізна 6 футаў вышыні, сьветлашкуры і мае бранзова кучаравыя валасы, вельмі інтэлігэнтны, умее чытаць і пісаць і будзе праўдападобна выдавацца за белага. Асаблівыя прыкметы: Глыбокія рубцы на лапатках і плячох, на правай руцэ выпаленая літара

400 даляраў таму, хто прывядзе яго да мяне або давядзе ягоную сьмерць.

Гэррыс, Гэррысон Каўнці, Кэнтакі".

Падарожны - гэта быў ніхто іншы, як Містэр Вільсон - ня хочучы прачытаў агалошаньне напалову прыцішаным голасам. Ягоны сусед, салідны фармэр, які свае ногі выцягнуў высака на ґзымс ксмінку, чуў слова ў слова і зьвярнуўся да Вільсона:

- Падобнага роду агалошаньні зьяўляюцца праўдзівым сорамам для Кэнтакі, - пачаў ён гутарку. - Я гэтаксама маю нявольнікаў, - цягнуў ён далей, - і яшчэ ані адзін ня ўцёк ад мяне. Трэба толькі абыходзіцца зь імі палюдзку, а не як з быдлам.

Містэр Вільсон адказаў, што шуканага Джорджа ён добра ведае, хваліў ягоную стараннасьць і расказаў пра ягоны цяжкі лёс.

Іхная гутарка на гэтым месцы была спынена прыбыцьцем возу пад дзьверы заезднага дому. Гэта быў прыгожы воз, у якім сядзей элеганцка апрануты чалавек, паводля выгляду гішпанскі крэоль з поўнымі выражэньня, цёмна брунатнымі вачыма і цёмна чорнымі валасамі. Ягоны шляхэтна ахвормлены арліны нос, ягоныя прыгожыя вусны і нарэшце ўсе ягоныя паводзіны здраджвалі паважнага чалавека. Ён увайшоў з далікатнаю нядбаласьцю, прыязна прывітаў гасьцей і перайшоў у гасьцінны пакой, дзе ён абсталяваў сабе пакой на ноч і ўпісаўся ў кнігу гасьцей, як Гэнрі Батлер з Окленд. Пасьля ўзяў газэту і, калі ён прачытаў успомнутае агалошаньне, адазваўся да свайго ўміжчасе ўвайшоўшага хвурмана:

- Джімі, мне здаецца, што мы яго бачылі каля Б.

- Гэта вельмі магчыма, - адказаў загавораны, - толькі я не прыпамінаю сабе ягоных асаблівых прыкметаў.

- На гэта і я, натуральна, не зьвярнуў увагі, - сказаў чужынец, у часе чаго, зяваючы, палажыў газэту. Тут ён папрасіў гаспадара, каб той пасьпя-

шыўся з пакоем, бо ён яшчэ перад вячэраю мае што пісаць. Гаспадар, які глыбака схіляўся перад ім, запэўніў, што ўсё будзе гатова паводля загаду і падняў на ногі ўвесь дом, каб у кажным выпадку здаволіць свайго шляхэтнага гасьця.

Чужынец апусьціўся нядбала на крэсла і пачаў са сваім суседам гутарку.

Містэр Вільсон некалькі разоў прыглядаўся да яго, бо яму здавалася, што ён зьнекуль ведае яго, толькі ня мог прыпомніць сабе, дзе ён яго бачыў.

Гэтаксама і чужынец, здавалася, прыпомніў сабе, падыйшоў да фабрыканта і сказаў:

– Містэр Вільсон? ці ня так? Выбачайце, што я не пазнаў вас раней.

У гэтую хвіліну ўвайшоў паслугоўваючы і падаў да ведама, што пакой ўжо гатовы.

– Мне вельмі прыемна, што я спатыкаю вас тутака, – цягнуў чужынец далей тонам поўным сымпатыі.– Ці не захацелі-б вы быць добрым і правесьці мяне ў мой пакой? Я маю з вамі абгаварыць некаторыя справы.

Вільсон пайшоў за ім ахвотна, хоць гэтак таёмна ўсё яму выдавалася. І, як толькі паслугоўваючы выйшаў з пакою, чужынец закрыў старанна дзьверы.

Раптам Вільсон зразумеў, каго меў ён перад сабою.

– Джордж, ты гэта!? – ускрыкнуў ён неспадзявана.

– Так, гэта Джордж, – адказаў малады чалавек. – Ці ня добра ўдалося мне маё пераапраненьне. Маёй шкуры, пры помачы кары валоскавага гарэху, дадаў я крышку крэоля брунатнага колеру, а валасы мае пахварбованы. Вы бачыце, што гончы ліст не падыходзіць да мяне.

– Але ня гледзячы на ўсё, гуляеш ты вельмі небясьпечную гульню.

Містэр Вільсон быў добрым, але трохі палохлівым старшым чалавекам. Думаючы, хадзіў ён па пакоі туды і назад. З аднаго боку, ён ахвотна хацеў-бы памагчы Джорджу, а з другога, аднак баяўся, дзейнічаць супроць правоў ўласнага краю.

– Слухай, Джордж, – сказаў ён, – што ты ўцёк ад свайго праўнага гаспадара, я ня дзіўлюся. Але ты выступаеш супроць правоў твае бацькаўшчыны.

– Мае бацькаўшчыны? – горка перапаўтарыў Джордж. – Якую-ж такую бацькаўшчыну я маю, калі не магілу? І прызнаюся вам перад Богам, што даўно хацеў-бы ў ёй быць.

– О, Джордж, не грашы гэтым. Гэта праўда, што ты маеш цьвёрдага гаспадара, але ці не наказваў анял

Аґары, каб яна вярнулася да свае пані?
– Не пакліквайцеся вы на Біблію, Містэр Вільсон, – запярэчыў Джордж зь бліскучымі вачыма. – Я пакліваюся на ўсемагутнага Бога. Я гатоў выступіць перад Ім і спытаць Яго, ці я дзейнічаю супроць права, калі я шукаю свабоды?
– Я разумею твае пачуцьці, Джордж.
Гэты горка ўсьміхнуўся.
– Містэр Вільсон, – сказаў ён, – калі-б дзікія схвацілі вас і адарвалі-б вас ад вашае жонкі і вашых дзяцей, для якіх вы пасьвяцілі сваё жыцьцё, ці не ўважалі-б вы першага лепшага вольна ходзячага каня за палец Божы?
Містэр Вільсон ня ведаў што адказаць.
– Містэр Вільсон, – працягваў Джордж, – ці не зьяўляюся я гэтаксама чалавекам, як усе іншыя людзі? Бацька мой меў уласнасьць у Кэнтакі. Пасьля ягонае сьмерці я быў прададзены, каб гэткім спосабам можна было пакрыць даўгі, якія абцяжвалі ўласнасьць. Мая маці з сямю дзяцьмі была на падставе судовае пастановы прададзена змалатка. Я быў наймалодшы. Апошняе, што я чуў ад свае маці, гэта быў крык яе адчаю, калі я быў прывязаны да каня і павалочаны ў няведамае.
Мой пан купіў гэтаксама маю старшую сястру. З Спачатку я радаваўся з гэтае прычыны, але хутка пашкадаваў. Містэр Вільсон, як часта стаяў я пры дзьвярох і мусіў чуць, як маю сястру білі бізунамі, ня будучы ў стане памагчы ёй. Напасьледак бачыў я яе ў ланцугох, як нейкі гандляр нявольнікамі павалок яе на рынак у Нью Орлеанс.
Я рос без бацькоў, без братоў і сёстраў. Ніхто не клапаціўся пра мяне. Сьцёбаньне пугі, пракляцьці і голад былі маім удзелам. Часта я быў гэтак галодным, што я быў рад атрымаць костку, выкінутую сабакам. Пакуль ня прыйшоў я да вас у фабрыку, я ніколі ня чуў прыязнага слова. У вас навучыўся я чытаць і пісаць. Гэта быў новы сьвет для мяне. Там я пазнаў маю жонку. Вы ведаеце,якая прыгожая і добрая яна. Але што сталася? Мой пан прыйшоў і вырваў раптам мяне з гэтага асяродзьдзя,якое было для мяне любым і дарагім. Чаму? Толькі затым, што ён хацеў мне паказаць, што я зьяўляюся неграмсабакам. Я пытаюся вас, што можа трымаць мяне яшчэ тутака? Якое значэньне мае для мяне права, якое апраўдвае гэтакую несправядлівасьць?
Гэтае апавяданьне, якое адбівала штодзеннае жыцьцё і выражана з праўдзівою шчырасьцю, не магло не

зрабіць свайго ўражаньня на старым чалавеку.

– Да чорта з вамі! – выкрыкнуў ён усхваляваны.– Так, Джордж, ты знаходзішся на справядлівым шляху. Але, калі цябе пазнаюць!? Падумай пра твой выпалены знак на руцэ!

Джордж зьняў рукавіцу са свае правае рукі і паказаў Містэр Вільсону сьвежа выпалены знак.

– Гэта пажагнальны падарунак ад Містэр Гэррыса, – дакінуў ён з пагардаю. – Заўтра чуць сьвет выбіраюся я зноў у дарогу і спадзяюся хутка ў штаце Огайё магчы спакойна спаць. Калі-б вы пачулі, што мяне злавілі, тады ведайце гэтаксама, што я ня жыву болей. Ці магу я прасіць вас яшчэ аб адной услузе для мяне? Перадайце маёй жонцы маё апошняе жаданьне: Яна мусіць усё ўчыніць, каб уцякчы ў Канаду. Там яна мае нашага хлапца ўзгадаваць на свабоднага чалавека.

Усхваляваны Містэр Вільсон прытуліў мулата да сваіх грудзей. Пасьля чаго, пажагнаўшыся сардэчна, яны разышліся.

## 8

Для Элізы і яе дзіцяці мелася надыйсьці хутка гадзіна ратунку.

Гэтаксама і муж яе знайшоў прыпынішча ў квакераў. Дзелятаго, што апошнія мелі лучнасьць між сабою, Джордж хутка даведаўся аб месцы прабываньня свае жонкі. Яна, як і раней, знаходзілася пад добрай апекай сям'і квакераў Гольлідэй, а пасьля адпаведнага падрыхтаваньня для неспадзеўкі быў прывезены да яе Джордж. Цяжка апісаць радасьць, якую адчувалі муж і жонка, калі яны зусім неспадзявана знайшліся побач сябе.

У міжчасе яны ўсё яшчэ ня былі ў бясьпецы. Джордж хацеў са сваею сям'ёю дабрацца да галоўнага порту штату Огайё на возеры Ірые, скуль вадаплавам дабрацца да Канады. Як даведаліся квакеры – іхныя прыяцелі, што стаялі на варце – пагоншчыкі яшчэ не супакоіліся. Аднойчы надыйшла дрэнная вестка. Квакер Фініс, чэсны пасяленец у лесе, прынёс вестку, што паляўнічыя на нявольнікаў, Том Лёкэр і Маркс даведаліся аб месцы прабываньня Джорджа і ягонае жонкі і хутка маюць зьявіцца з судовай экзэкутываю ў Гольлідэйя, каб вымусіць выданьне ўцекачоў. Трэба было сьпяшацца. Яшчэ перад паўначчу ўцекачы сядзелі на возе, у якім адважны Фініс вывозіў іх доўгім галёпам.

Праз бездарожныя лясы, праз узгоркі і даліны ім-

кнуліся яны наперад, і ўцекачы ўздыхнулі лягчэй. Ужо выступаў золак на небе, як уцекачы з жахам для сябе заўважылі, што іх прасьледуюць. Элізы вострыя вочы спасьцераглі на краю голага ўзгорку некалькі чалавек, якія хутка набліжаліся. У гэтым часе воз іх праяжджаў праз цясьніну паміж высокімі скаламі, якія, здавалася, тварылі сабою найлепшае сховішча.

– Як найхутчэй! – крыкнуў Фініс, выскокваючы з возу. – Скарэй зласьце і за мною ў скалы, я ведаю тутака адно старое сховішча.

Стары спрытна ўзлазіў па скалах, трымаючы малога Гэрры, тады як Джордж і Эліза памагалі яму. Хутка станулі яны перад вузкаю трэшчынаю, ад якое скальныя сьцены абрываліся востра ўніз. Фініс хутка пераскочыў і пасадзіў малога на камень.

– Скарэй сюды! – крыкнуў ён, – ратуйце вашае жыцьцё. – Параскіданыя скальныя блёкі тварылі сабою ў пэўнай меры для ўцекачоў абаронны вал і дастатковы схоў. Фініс зіркнуў уніз, каб назіраць прасьледвальнікаў.

– Хто захоча прайсьці сюды, мусіць кіравацца на нашыя пісталеты, – мармытаў ён.

Спасьцярожная выразна пры месяцавым сьвятле група іхных прасьледвальнікаў складалася з Макса, Тома Лёкэра і двух констаблераў, да якіх яшчэ далучылася хэўра авантурыстых, якая толькі памагаць хацела за гарэлку і жартам. Калі яны наблізіліся на адлегласьць голасу, Том Лёкэр зароў:

– Гэй, вы, паддайцеся! Мы маем з сабою судовую экзэкутыву і загад арышту пры нас. Права на нашым баку.

У гэтым часе Джордж паказаўся на скале і крыкнуў ўніз:

– Я ведаю, што вы маеце на сваей старане права, гэтаксама,як і сілу. Вы хочаце нас зноў прывесьці да гэтак званых нашых гаспадароў, каб нас білі бізунамі, мучылі і таптталі нагамі. Так, вашыя легальныя пастановы даюць вам на гэта права. Але вы нас ніяшчэ не злавілі і вашыя правы ня маюць для нас ніякага значэньня. Мы зьяўляемся гэтакімі-ж вольнымі людзьмі, як і вы, і мы будзем нашую свабоду бараніць да апошняга дыханьня.

Гордая пастава Джордж не асталася без уражаньня на жорсткіх характарах тых, што стаялі ўнізе. Раптам пачуўся стрэл, Эліза крыкнула і куля прасычэла блізка галавы Джорджа.

Гэта быў сыгнал да атакі. Але насілу паляўнічыя на нявольнікаў зьбліжыліся да скальнае трэшчыны, як

першы траплены Джорджавай куляю зваліўся ў прадоньне. Гэта быў Том Лёкэр. Слаба данёсься стук падаючага цела.

Адвага прасьледавацеляў значна аслабла. Яны пакінулі свае ахвяры і пачалі прабаваць памагчы Тому Лёкэру. Ня хутка маглі яны дабрацца да раненага. Яны знайшлі яго бяспрытомнага і ацякаючага крывёю з раны ў баку. Падаючы ўніз, ён зачапіўся сваею вопраткаю за куст і гэткім спосабам быў уратаваны ад пэўнае сьмерці. Яны прабавалі спачатку затрымаць кроў пры помачы бандажу. Але ня могучы пасадзіць яго на каня, пакінулі яго ўласнаму лёсу і паўцякалі. Ніхто зь іх ня думаў болей лавіць уцекачоў.

Гэта былі Джордж і Фініс, якія заапекаваліся раненым. Рана, якая была цяжкай, але без пагрозы для жыцьця, была перавязана і бяспрытомнага Тома Лёкэра перавезьлі да аднае сям'і квакераў, дзе ён аставаўся пад апекаю і дагледам.

Уцекачы даехалі бязь ніякіх далейшых здарэньняў да партовага места Сандаскі, дзе мы знаходзім іх пры апошніх прыгатаваньнях да далейшага падарожжа ў Канаду.

Каб ня быць на вадаплаве пазнанымі, Эліза ахвяравала свае прыгожыя валасы і пераапранулася ў мужчынскую вопратку, а малога Гэрры замянілі ў прыгожую дзяўчынку. Як апраўданаю была іхная асьцярожнасьць, даведаўся Джордж у часе гутаркі, якое сьведкам ён быў, калі купляў шыфкарты.

– Я ўзіраўся дакладна на кажнага падарожнага і магу прысягнуць, што няма нікога паміж пасажыраў, да каго падходзіла-б пададзенае апісаньне асобы, – сказаў адзін з вадаплаўных пісараў.

Той, да каго былі сказаны гэтыя словы, быў ніхто іншы, як Макс.

– У жаночым пакою насілу можна зрабіць розьніцу паміж белымі, – адказаў ён, – і той гэтаксама меў вельмі белую хварбу мулата. Яго можна пазнаць толькі па знаку на руцэ.

Рука Джорджа лёгка задрыжэла, калі ён забіраў пададзеныя яму білеты, але ён хутка апанаваўся. Зусім спакойна павярнуўся ён, акінуў абыякасным поглядам тых, што стаялі навакол яго і пайшоў мерным крокам да Элізы і Гэрры, якія чакалі на яго.

Узыйшоўшы на вадаплаў, яны зараз-жа ўвайшлі ў сваю кабіну. Хутка пачуўся званок да адплыву, шуфельнае кола кранулася і бераг пачаў памаленьку аддаляцца.

Джордж і Эліза не маглі даўжэй аставацца ў цес-

ным памяшчэньні. Яны ласьпяшылі на верх і абняліся са сьлязамі на вачох. Яны плылі насустрэчу свабсды.

Гаррыэт Бічэр-Стоў

/Скарот з "Хаціны дзядзькі Тома"; пераклад зь нямецкага, спраўджаны з арыгіналам/

---

ШЧАСЬЦЕ

Той, хто зьяўляецца годным у сабе і чэсным, ёсьць шчасьлівым - будзе гэта мужчына ці жанчына; хто зьяўляецца, аднак, несправядлівым і дрэнным - астаецца нешчасьлівым.

Плятон
"Ґорґіяс", 470

Галоўнаю перашкодаю да шчасьця зьяўляецца зайздрасьць.

Франк Тайґэр

Мець на ўласнасьць кусок зямлі, узрыхляць яе жалязьняком, садзіць насеньне і назіраць адраджэньне жыцьця - гэта ёсьць найбольшая ведамая радасьць людзкае раси, найболей здавальняючая рэч, якую чалавек можа выконваць.

Чарльз Д. Варнэр

Усюды, дзе я жыву, я магу быць шчасьлівым. Шчасьлівы той, хто падрыхтаваў сабе добрую долю. Добрая доля - гэта добрая схільнасьць душы, добрыя імкненьні, добрыя справы.

М. Аўрэліюс
Кн. 5, 37

Плятон вуснамі Сакратаса кажа: Я ведаю, што ня ведаю. Аўтар першага эвангеля ў Новым запавеце, вуснамі Ісуса з Назарэту кажа: Шчасьлівыя ўбогія духам. Першая думка была выражана прыблізна дзьве тысячы з паловаю гадоў таму, другая - пяцьсот гадоў пазьней. Але адно і другое выказваньне мае тую самую думку на ўвазе, пайменна - шлях чалавека да шчасьця. У сваім дасьведчаньні або навуцы чалавек мае праяўляць далёкасягаючую асьцярожнасьць, што да ягонае веды /быць убогім/. Ён павінен ведаць, перад усім, што хоць ён і ведае многае, шматлікае гэтаксама існуе з таго, чаго ён ня ведае. Дзеля гэтага

ён павінен аставацца скромным, памятаючы, што магчыма не заўсёды крочыць у спадзяваным выказваньні. Ён ніколі не павінен выказваць сваіх цьверджаньняў з паставы ігрывага леўня. Калі гэта праўдаю ёсьць, што "Бедныя зьяўляюцца шчасьлівымі" і, што "Я ведаю, што ня ведаю" мае ў сабе тую самую дымку, дык выснаў чыніцца, што навука ў жыцьці ніколі не супыняецца.

І гэта ёсьць шлях, які вядзе чалавека да навукі, пазнаньня, духовага росту і шчасьця.

---

Памылка, дарагі Брутус, не ляжыць у нашых зорах, але ў нас самых.

Шэксьпір
"Юліюс Цэзар"

Што датычыць мужнасьці, дык ня хопіць толькі ведаць яе; мы павінны імкнуцца тасаваць яе ў жыцьці.

Арыстотэлес

Першая лекцыя духовага разьвіцьця, якую чалавек павінен вывучыць раней, чымся ён можа ўчыніць поступ на шляху да сталага шчасьця - гэта ўтаймаваньне. Фанабэрыстасьць, валадарнасьць і ганарыстасьць павінны даць месца ціхамірнасьці і далікатнасьці. Фанабэрыстасьць нічога ня можа здабыць, бо яна думае, што ўжо ўсё ведае.

"Перадавая думка сьвету"

Калі шчасьце зьяўляецца дзейнасьцю ў сузгоднасьці з мужнасьцю, тады лягічным ёсьць, што яна мусіць адбывацца ў сузгоднасьці з найвышэйшаю мужнасьцю.

Арыстотэлес

ВЕДА

Унівэрсытэт павінен быць месцам сьвятла, свабоды і навукі.

Бэньямін Дізраэлі

Вучыся памылак іншага, магчыма прыдасца табе.

Маркус Ліцініюс Крассус

Фрыдрых Даніэль Эрнст Шляйэрмахэр, нямецкі тэолёг і філёзаф /1768-1834/ у выкладзе Über den Wert des Socrates als Philosophen, слухачам у Бэрлінскай Акадэміі Навук /Sämmtliche Werke, III, 2,1838, бб. 287-308/ кажа, што ідэя веды ёсьць цэнтральным пунктам Сакратасавае філязофіі. /Узята з Dr. Friedrich Überweg, History of Philosophy, I, б.81/.

---

Шукай ведаў нават у Кітаю.

Магамэт

Веданьне, якое мы атрымліваем з кнігі, выток свой бярэ ў сілу вымаганьня самога быцьця і ня можа ня служыць справе жыцьця.

Г. Пляханаў

Ня ведаць ня сорамна і ня шкодна. Ніхто ня можа ўсяго ведаць, але сорамна і шкодна прыкідвацца,што быццам ведаеш тое, чаго ня ведаеш.

Паводля Сакратаса

Ведаць - гэта зусім нічога; уяўляць - гэта ўсё.

Жак Анатоль Цібо

Мой корэпэтытар, пан Кіцяк, увайшоў у пакой,каб распачаць першую лекцыю. Калі мы занялі за сталом месцы, пасьля невялікае паузы, ён, быццам маючы панадаць да ведама нешта важнае, з павагаю зьвярнуўся да мяне:

- Калі ласка, слухайце, - сказаў ён; - калі я пачну лекцыю і буду гаварыць, а вы што-небудзь з гаворанага не зразумееце, скажэце мне гэта зараз-жа і безадкладна.

Важнасьць ягонага звароту гаворыць сама за сябе.

З удзячнасьцю я ўуспамінаю сяганьня пра гэта.

Ян Пятроўскі

Толькі ў вызнаньні свайго грэху чалавек можа стацца праведным.
Толькі ў вызнаньні сваё няведы чалавек можа стануць на шлях веды.

Ян Пятроўскі

Калі-б аб нічым іншым ня пісалася, а толькі пра рэчы праўдзівыя і карысныя, дык нашыя аграмадныя гістарычныя бібліятэкі сталіся-б вельмі маленечкімі ў сваім памеры; але, затое, веда наша была-б большаю і лепшаю.

Вольтэр

Цывілізаваным чалавек можа быць нагэтулькі, накалькі яконая культура дазваляе яму.

Паводля Пэйн'а

Толькі калі мы зусім забудзем тое, што навучыліся, тады пачнем запраўды пазнаваць. Я ані на ёту не падыйду да пазнаньня прадмету, як доўга я буду аставацца пад уплывам думкі, што мае суадносіны да гэтага прадмету абазначваюцца вучоным чалавекам. Каб пазнаць дадзены прадмет суцэльна, я павінен зьбліжыцца да яго, як да нечага зусім чужога мне.

Торо

Той, чые жаданьні кіруюцца ў напрамку пазнаньня ў кажнай хворме, будзе, думаю я, уцягнуты ў прыемнасьці душы, як гэткае, і насілу ці адчуваціме цялесныя прыемнасьці, калі ён ёсьць толькі запраўдным філёзафам, а не зманлівым.

Плятон
"Політэя", VI, 485d

Навука не зьяўляецца тым, што людзі назавуць гэтым імем, а тое, што творыць сабою вышэйшы і найболей патрэбны для дабра людзей прадмет пазнаньня.

Л. Талстой

Людзі могуць сумнявацца адносна таго, што вы гаворыце, але яны будуць верыць вашым дзеяньням.

Левіс Касс

Іґноранцыя ніколі не вырашае справы.

Бэньямін Дізраэлі

Той, хто можа, рабі. Той, хто ня можа – вучыся.

Б. Шоў

Той, хто чуе абрыдласьць да навукі,і асабліва ў сваіх юнацкіх гадох, калі ён не здае сабе справы з таго, што́ для яго ёсьць карысным і што́ - не, пра гэтакага мы ня будзем казаць, што ён зьяўляецца філёзафам або любіцелем навукі, гэтак як і не ўважацімем мы чалавека галодным і ахвочым да ежы, калі ён чуе абрыдласьць да яе...

З другога боку, хто мае смак да кажнае навукі і хто праяўляе зацікаўленьне ў напрамку пазнаньня і ніколі ня супыняе яго, ці-ж ня будзем мы мець рацыі назваць гэтакага філёзафам?

Калі наяўнасьць зацікаўленьня творыць філёзафа, тады ты знойдзеш шмат людзей гэтакага роду дый даволі недарэчных з прэтэнсыямі да гэтага імяні. Было-б зусім недарэчна далучаць да філёзафаў і аматараў слухаць: іх нічога ня цягне да гэткага роду філязафічных разважаньняў, затое, быццам іх хто-небудзь наняў, яны бягуць слухаць усе хоры, сьпяшаюцца на ўрачыстасьці, ладжаныя на чэсьць Дыёнізоса, не абмінаючы ані меставых, ані вясковых.Няўжо-ж усіх гэтакіх і іншых, што імкнуцца даведацца што-небудзь з падобнага або пазнаць які-небудзь нікчэмны занятак, мы назавецімем філёзафамі?

Плятон
"Політэя", V, 475

Сучаснае нашае культурнае жыцьцё абапіраецца на тых клясычных першапачатках, якія былі створаны або вынікаюць з асягненьняў старажытных грэкаў.

Вельмі характэрна, што гісторыя разьвіцьця навукаў з астраноміі, гэтакае, як ведаем яе сягоньня, сягае часу старажытнае рэчаіснасьці.

Гэтак, у VI стагодзьдзі п.н.э. жыве ў Мілетосе Талес, які цікавіцца пабудоваю нашага сьвету і займаецца назіраньнем рухаў нябесных целаў. За ім ідзе Піта́горас, а пазьней - Гэраклітос з Эфэзу, Філёляос, Арыстархос...

Пра Арыстархоса ведаем, што паходзіў з Самосу і жыў у III ст. п.н.э. Ён уважаецца за галоўнага прадстаўніка гэліёцэнтрычнае ідэі ў старажытным сьвеце. Пагляд ягоны, у значнай меры дзякуючы перававажна арабам, з часам пашыраецца далей і стаецца аб'ектам увагі астраномаў Сярэднявечча, апошнім вялікім прадстаўніком якіх зьяўляецца Мікалай Капэрнік з Торуня /Польшча/.

Калюмбійская Энцыкляпэдыя, напраклад, у ангельскай мове зьмяшчае кароткі артыкул пра асягненьні Капэрніка і кажа, што "На аснове Капэрнікавае сыс-

тэмы пабудавана мадэрная астраномія". За ім ідуць: Ґалілей, Кэплер, Ньютон і цэлы рад іншых людзей на вукі, якія ўвялі нас у міжплянатарныя падарожжы.

Гэтак завяршалася свайго роду рэвалюцыя навакол чалавека, як і духовая рэвалюцыя ў чалавеку. Аналізуючы бег выпадкаў у астраноміі, як і наагул поступ ў навуках, можна адцеміць тры спасьцярогі: "з Фройдам чалавек згубіў з таго, што прынята разумець пад выражэньнем homo sapiens; з Дарвінам – сваё выняткавае месца сярод тварэньняў на Зямлі; з Капэрнікам чалавек згубіў сваю ўпрывілеваную пазыцыю ў сусьвеце".

Выняткавае гэта месца – для выняткавых людзей.

З уводзінаў да свайго твору п.т. De revolutionibus orbium coelestium, сам Капэрнік успамінае з удзячнасьцю пітаґорэйцаў. Ён нават цытуе Плютарха, каб падаць да ведама ўсім людзям на сьвеце, што першыя людзі, якія ўзіраліся на неба з азнакамі астранамічнае навуковасьці, былі старажытныя грэкі. Успамінаны ім Нікетос /Ніцэтус/ з Цыцэронавага Academica будзіў думку, што ён меў толькі імглістае ўяўленьне пра іхную сыстэму. Характэрным ёсьць, што ў Уводзінах і Прысьвячэньні Папу Паўлу III ён выразна цытуе Плютарха /Этыюс/, што гэтак, як Сонца і Месяц, Зямля знаходзіцца ў руху навакол цэнтральнага агню /Сонца/. Чытаючы Арыстотэлеса і Этыюса, ён мусіў ведаць усё тое, што можна было ведаць аднасна сыстэмы Філёляоса. Ён аднак не ўспамінае пра Арыстархоса, ягонага фактычнага папярэдніка ўва ўсім тэксьце De revolutionibus з 1543 г. /Нюрнбэрскае выданьне/.

Але ў арыгінальным манускрыпце, выдадзеным у 1873 годзе, г. зв. Торуньскім выданьні, пасьля разьдзелу XI першае кнігі, знаходзіцца доўгі пасус, які быў вычаркнуты і заменены сэкцыяю пра трыґономэтрыяю. Гэты пасус зьяўляецца зусім у духу пітаґорэйскім, у якім выразна выступае Арыстархос, адзін з пітаґорэйцаў. У ім аўтар утрымлівае, што веда ня ёсьць для людзкага агулу, але толькі для тых, што зьяўляюцца духова прыгатаванымі. Бо інакш, гэта падобна будзе да ўліваньня чыстае вады ў забалочаную студню: вы толькі ўскаламуціце балота і згубіце ваду. Гэтае апошняе астаецца ў суззгоднасьці зь лёзунгам, што знаходзіцца на чаловай бачыне Нюрнбэрскага выданьня Капэрнікавае працы ў грэцкай мове, які гучыць: Ἀγεωμέτρητος οὐδεὶς εἰσίτω, што ў беларускім перакладзе было-б: Няхай ня меціму́ць уступу тыя, што ня ведаюць ґэомэтрыі.

Ян Пятроўскі

МІКАЛАЙ КАПЭРНІК

У 1543 годзе выйшла з друку першы раз Капэрнікавая праца п.т. "Пра рух нябесных сфэраў". Праца гэтая ня толькі, як кажа тытул, адлюстроўвала рух на нябёсах, яна гэтаксама спрычынілася на даўжэйшы час да руху, які з гэтае пары ўзьнікае ў сэрцах і галавах людзей. Яна насіла ў сабе пачын духовае рэвалюцыі. Капэрнік працаваў над сваім творам добрых 30 гадоў і баяўся, што ён можа спрычыніць яму шмат турботаў. Але аўтар выйшаў з усяго цэлым. У часе, калі кніга друкавалася, Капэрнік ляжаў ужо сьмяротна хворым. Ягоныя прыяцелі стараліся, каб Мікола пабачыў свой твор выдрукаваным перад тым, як памрэ. І гэтак сталася. Коратка перад сьмерцю, здаволенаму Капэрніку падалі кнігу - ягоны ўласны твор, які з гэтае пары стаецца весьнікам новае эры ў поступе людзкасьці.

Ніжэй падаюцца Уводзіны, Прадмова і Прысьвядчэньне з Капэрнікавае працы "Пра рух нябесных сфэраў".

## УВОДЗІНЫ

### Да чытача адносна гіпатэзаў гэтае працы

Ад часу навіны гіпатэзаў гэтае працы, якая - кранае ў рух Зямлю і ўмясцоўлівае нярухома Сонца ў цэнтры сьвету - знайшла ўжо ў значнай меры розгалас, я не сумляваюся, што некаторыя з навукоўцаў адчулі глыбокую пакрыўджанасьць і думаюць, што памылковаю рэчаю ёсьць уздымаць які-небудзь закалот у межах лібэральных навукаў, якія займелі права даўно ўжо быць узьнятымі. Калі, аднак-жа, яны зьяўляюцца ахвочымі ўзважыць справу стаpанна, тады знойдуць яны, што аўтар прадложанае працы нічога ня ўчыніў з таго, што заслугоўвае на дакор. Бо гэта зьяўляецца абавязкам астранома ўжываць стараннасьць і здольнасьць назіраньня ў зьбіраньні ў вадно гісторыю нябесных рухаў, і тады - калі ён ужо ніякім спосабам разважаньня ня можа дайсьці да запраўдных прычынаў гэтых рухаў - стварыць або збудаваць якія-колечы ён хоча прычыны або гіпатэзы, і дарогаю прытарнаваньня гэтых прычынаў, гэтыя самыя рухі могуць быць вылічанымі на падставе прынцыпаў ґеомэтрыі, гэтакса-

ма мінуласьці, як і будучыні. Гэтакі мастак выразна зьяўляецца выдатным у двух дачыненьнях: бо не зьяўляецца гэта неабходным, каб гэтыя гіпатэзы мелі быць правільнымі, або нават праўдападобнымі; але хопіць, калі яны пастарчаюць вылічэньне, якое ад казвае назіраньням – хіба-што з прычынаў нейкае прыпадкавасьці, знойдзецца нехта нагэтулькі нясьведамым у ґэомэтрыі і ў оптыцы, каб уважаць, што эпіцыкля [а] Вэнэры зьяўляецца праўдападобнай і верыць, што гэта мае быць прычынаю, чаму Вэнэра пачародна ідзе перад або пасьля Сонца пад кутоваю адлегласьцю да 40° або і болей. Бо хто ня бачыць, што гэта неабходна выцякае з дапушчэньня, што дыямэтр плянэты ў ейнай пэрыґэі [б] павінен паказацца звыш чатырох разоў большым, а цела плянэты звыш шаснаццаці разоў большым, чымся ў ейнай апоґэі? [в] Тым ня меней, само дасьведчаньне ўсіх вякоў знаходзіцца ў апазыцыі да гэтага. Існуюць гэтаксама іншыя рэчы ў гэтай дысцыпліне, якія гэтаксама зьяўляюцца абсурдам, але нямашака патрэбы экзамінаваць іх якраз цяперака. Бо дастаткова ясным ёсьць, што гэтае мастацтва зьяўляецца абсалютнаю і поўнаю нясьведамасьцю прычынаў спазорных нерэгулярных рухаў. І калі будуе і тварыць прычыны – і напэўна ладную колькасьць створана – тым ня меней ня выдумана іх, каб пераканаць каго-небудзь у праўдзівасьці іх, але адно затым, каб маглі пастарчыць правільную аснову для калькуляцыі. Але, калі ўжо для аднаго і таго самага руху прапануюцца час ад часу розныя гіпатэзы, як эксцэнтрычнасьць або эпіцыкля руху сонца, тады астраном рад выбраць адну, якую найлягчэй агарнуць. Магчыма, замест гэтага, філёзаф дамагаецца праўдападобнасьці; але ніхто зь іх напэўна нічога не агорне, ані дасьць сабе рады, хіба-што было аб'яўлена яму боскасьцю. Дзелягэтага няхай будзе дазволена нам, сярод старых, падаць да публічнага ведама гэтыя новыя гіпатэзы, якія самыя не зьяўляюцца болей праўдападобнымі, асабліва, калі зьяўляюцца цудоўнымі і нятруднымі, і прыносяць з сабою скарбніцу навуковых назіраньняў. І як далёка гіпатэзы сягаюць, няхай ніхто нічога не спадзяецца на даро-

---

а/ Эпіцыкля – з гр. ἐπί – на, + κύκλος – кола; астр. – акружнасьць, цэнтр якое рухаецца аднолькава па іншай акружнасьці.

Б/ Пэрыґэя, з гр. περί – пры, + γῆ – Зямля; найбліжэйшы да Зямлі пункт месячнае арбіты.

в/ Апоґэя, гр. ἀπόγειος, ад Зямлі; у дадзеным выпадку – пункт арбіты Месяцу найдалей паложаны ад Зямлі.

зе пэўнасьці ад астраноміі, затым, што астраномія ня можа нам прапанаваць нічога пэўнага, каб не спатыкнуўся нехта, думаючы, што возьме за праўдзівае нешта, што было пабудована для іншага ўжытку, адыходзячы ад гэтае дысцыпліны большым глупцом, чымся калі ён прыйшоў да яе. Да пабачаньня.

## ПРАДМОВА І ПРЫСЬВЯЧЭНЬНЕ ПАПУ ПАЎЛУ III

Я магу прадбачыць даволі лёгка, Найсьвяцейшы Ойча, што, як толькі некаторыя людзі даведаюцца, што ў гэтых маіх кнігах я напісаў пра колавыя абяртаньні сфэраў сьвету і, што я адношу пэўныя рухі да зямельнага ґлёбу, яны зараз-жа ўздымуць гоман, каб мяне і мой пагляд зьняць са сцэны. Бо мае ўласныя працы не здавальняюць мяне да гэтакае ступені, каб я не здагадваўся што́ ацэны іншых людзей скажуць адносна іх. Хоць я і здаю сабе справу, што канцэпцыі філёзафа знаходзяцца далёка па-за судом людзкае масы,- гэта зьяўляецца ягоным далікатным абавязкам, шукаць праўды ўва ўсіх рэчах, як далёка Бог абдарыў гэтым людзкі розум; тым ня меней, я думаю, што мы павінны ўхіляцца ад паглядаў асабліва чужым правільнасьці. І калі я браў пад увагу, за як абсурдную могуць уважаць гэтую "лекцыю" тыя, што зьяўляюцца сьведамымі ў паглядзе, што Зямля супачывае нярухома пасярэдзіне нябёсаў, як быццам іхны цэнтр быў зацьверджаны выращэньнямі вякоў - тады, калі я ўтрымліваю адваротнасьць, што Зямля знаходзіцца ў руху; бо ад даўжэйшага часу я знаходзіўся ў вялікай труднасьці, што да таго, ці павінен я выяўляць мае́ напісаныя камэнтары на дзеннае сьвятло, дэманструючы рух Зямлі, або, ці ня было-б гэта лепшым - сьледаваць за прыкладам пітаґорэйцаў і некаторых іншых, якія пераказвалі тайніцы іхнае філязофіі ня ў пісанай хворме, але словамі вуснаў і то - толькі сваяком і прыяцелям - сьведка ліст Лісіяса да Гіппархоса. Яны, аднак, здаецца мне, не рабілі гэтага, як нехта думаць можа, з прычыны зайздроснае неахвочасьці пераказаньня сваіх дактрынаў, але з тым меркаваньнем, што рэчы вялікае прыгожасьці, якія былі дасьледванымі зь любасьцю і стараньнем вялікіх людзей, не павінны дазнаваць пагарды з боку тых, што ўважаюць гэта за нуднасьць і, каб губіць шмат энэрґіі на навуку - за выняткам тае хіба, якая вя-

дзе да грошай памнажаньня - або хто зьяўляецца справакаваным дарогаю заклікаў і прыкладаў іншых да свабоднага вывучаньня філязофіі, але на рахунак свае натуральнае глупоты трымаць пазыцыю сярод філёзафаў, падобнае да тае, якую трутні займаюць сярод пчолаў. Затым, калі я ўзважыў у думцы гэтыя рэчы, пагарда, якое я маю баяцца з прычыны навіны́ і абсурднасьці майго пагляду, бадай-што змушалі мяне пакінуць працу, ужо прадпрынятую.

Але мае прыяцелі спрычыніліся да зьмены майго напрамку тут, ня гледзячы на маё доўгатрываючае хістаньне і нават на мой супраціў. Перш, сярод іх быў Ніколяс Шонбэрґ, Кардынал на Капуа,[г] чалавек выдатны ўва ўсіх галінах навукі; наступны за ім быў мой аддданы прыяцель, Цідэман Ґіз,[д] Япіскап Кульму,[е] чалавек поўны вялікага запалу для тэалёгіі, як і свабодных навукаў: бо ён асабліва заахвочваў мяне і часта панукаў з папрокамі, каб апублікаваць гэтую кнігу і дазволіць пабачыць дзеннае сьвятло працы, якую я перахоўваў сярод маіх рэчаў ня толькі дзевяць гадоў, але бадай-што чатыры разы па дзевяць гадоў. Дый некалькі іншых вучоных людзей і выдатных дамагаліся гэтае самае рэчы ад мяне, панукаючы не супраціўляцца болей - з прычыны боязі, якую я адчуваў - унесьці маю працу для агульнае карысьці тых, каторыя запраўды цікавяцца матэматыкаю: яны казалі, што, чым болей для шматлікіх людзей абсурднаю выдасца мая навука адносна руху Зямлі цяперака, тым большым аб'ектам подзіву і ўдзячнасьці, пасьля апублікаваньня маіх камэнтараў, станецца яна для тых самых людзей, бачучы, што імгла абсурднасьці расьцярушылася, дзякуючы маім зіяючым дэманстрацыям. Дарэчы, я быў ведзеным гэтакім пераконваньнем і гэтакім спадзяваньнем, каб нарэшце дазволіць маім прыяцелям прадпрыняць публікацыю працы, што да якое яны даўно гэтага спадзяваліся ад мяне.

Але, магчыма, Ваша Сьвятасьць ня будзе вельмі зьдзіўленым з прычыны паданьня мною да публічнага ведама вынікаў майго ночнага студыяваньня, а пасьля, распасьціраючы гэтакае стараньне ў выпрацаваньні іх, што я ня хістаюся прадставіць іх у пісанай хворме маіх канцэпцыяў што да руху Зямлі - гэтак як і будзеце вы цікавымі пачуць ад мяне што́ прывяло мяне на думку, што наўсуперак агульнай а-

г/ Капуа - галоўнае места ў Кампаніі /Італія/, сяго́ньня Санта Марыя ді Капуа.

д/ Tiedeman Giese.

е/ Кульм або польскае Хэлмно.

пініі матэматыкаў і бадай-што наўсуперак здароваму розуму я пасьмеў уявіць сабе нейкі рух Зямлі. Затым я зьяўляюся неахвочым укрываць перад Вашаю Сьвятасьцю нічога, за выняткам майго веданьня, што матэматыкі не згадзіліся між сабою ў іхных досьледах і, што гэта заахвоціла мяне, прадумаць да канца іншую схэму, прадстаўляючую рухі сфэраў сьвету. Бо перад усім, матэматыкі да гэтакае ступені зьяўляюцца няпэўнымі адносна рухаў Сонца і Месяцу, што яны ня могуць задэманстраваць ані прасачыць нязьменных памераў рухомага году. Затым, пра ўгрунтаваньні сонечнага і месячнага рухаў і тых іншых пяці вандруючых зораў, яны не тасуюць тых самых прынцыпаў, меркаваньняў або дэманстрацыяў для навакольных абарачэньняў і спасьцярожных рухаў. Бо некаторыя ўжываюць толькі гомоцэнтрычныя колы, іншыя эксцэнтрычныя і эпіцыклі, пры помачы якіх аднак-жа яны не атрымліваюць таго, што́ шукаюць. Бо хоць тыя, што кладуць сваю спадзею на гомоцэнтрычныя колы, паказалі, што шматлікія і розныя рухі могуць быць укладзенымі з гэтых колаў, але тым ня меней, яны ня былі здольнымі нічога стварыць пэўным, што́ ў паўніні адказвала-б гэтым фэномэнам. Але нават калі тыя, што ўвялі эксцэнтрычныя колы, здавалася, пры іхнай помачы здольнымі былі ў большай частцы вылічыць цыфрамі спасьцярожныя рухі, і ўсё-ж у міжчасе яны ў значнай меры прызнавалі, як выглядае, што гэта супярэчыць прынцыпам рэґулярнасьці руху. Апрача таго, яны ня былі здольнымі выкрыць або абазначыць галоўнага пункту, г.зн., хвормы сьвету і пэўнае прапорцыянальнасьці ягоных частак. Але яны знаходзяцца дакладна ў тым самым зьбянтэжаным палажэньні, як той, хто, бяручы з розных месцаў рукі, ногі, галаву і іншыя канцавіны - ухвармаваў-бы вельмі прыгожа, але не ў вяднясеньні да аднаго цела і без належнае адпаведнасьці між імі - гэтак, што ўспомнутыя часткі твораць страшыдла барджджэй, чымся чалавека. Гэтак вось, і ў працэсе дэманстрацыі, якую яны называюць "мэтадам", яны спасьцераглі, што, або яны прапусьцілі нешта неабходнае, або ўключылі нешта непатрэбнае, што́ ў ніякім выпадку не належыць да рэчы; і яны ані ў якім выпадку не апынуліся-б у зьбянтэжаным палажэньні, калі-б яны перасьцерагалі пэўныя прынцыпы. Бо калі-б гіпатэзы, якія яны прыймалі, як не хвальшывыя, гэтакімі былі-б, тады кажная рэч, якая выплывала-б з гэтых гіпатэзаў, была-б спраўджанаю бяз сумніву; і хоць тое, што́ я выказваю, можа быць няясным цяперака, аднак-жа, яно станецца

ясным на адпаведным месцы.

Дарэчы, калі я затрымліваўся над гэтым недахопам пэўнасьці ў традыцыйнай матэматыцы адносна структуры рухаў сфэраў сьвету, я ставаўся раздасадаваным, што філёзафы, каторыя ў іншых выпадках учынілі вельмі старанны і ўважны ўгляд да апошняе дробязі сьвету, ня выкрылі пэўнае схэмы для рухаў машыны сьвету, якая была збудована для нас Найлепшым і Найболей Спраўным Працаўнікоm за ўсіх. З гэтае прычыны я ўзяў на сябе клопат перачытваць усе кнігі, напісаныя філёзафамі, якія толькі маглі мне трапіцца ў рукі, каб пабачыць, ці хто-небудзь зь іх хоць-бы здадумваўся, што рухі сфэраў сьвету былі інакшымі ад тых, вылажаных тымі, хто вучыў матэматыку ў школах. І ў грунце рэчы, я знайшоў перш у Цыцэрона, што Нікетос [Ніцэтус] навучаў, што Зямля знаходзіцца ў руху. Пасьля гэтага я знайшоў у Плютарха, што былі некаторыя іншыя філёзафы тае самае думкі: я выпішу тут ягоныя словы, каб гэтым яны сталіся ўсім ведамыя:

> Некаторыя думаюць, што Зямля знаходзіцца ў стане супачынку; але Філёляос піта́горэец кажа, што яна знаходзіцца ў руху навакол агню [Сонца] па лініі з цыркулярным адхіленьнем, гэтак як Сонца і Месяц. Гэраклейдэс з Понтосу і Экфантос піта́горэец не даюць Зямлі ніякага руху перасоўваньня, але барджджэй абмяжоўваюць рух да ўсходу і захаду навакол свайго цэнтру,падобна,як калясо.

Затым і я, знайшоўшы нагоду, пачаў разважаць адносна рухомасьці Зямлі. І хоць пагляд выдаецца абсурдным, тым ня меней, з прычыны майго веданьня, што іншым перада мною даравана была свабода канструаваньня якіх-колечы колаў, якія яны толькі хочуць, з мэтаю дэманстрацыі зорных фэномэнаў, я думаў, што я гэтаксама лёгка атрымаю дазвол выпрабаваць так ці інакш, выходзячы з залажэньня,што Зямля мае пэўны рух, хоць дэманстрацыі меней хілкія, чымся тыя маіх папярэднікаў могуць быць знойдзенымі для абарачэньняў гэтых нябесных сфэраў.

І так, стварыўшы аснову рухаў, якія я адношу да Зямлі і ідучы далей у маей працы, нарэшце пры помачы доўгіх і шматлікіх назіраньняў, я выкрыў,што, калі рухі іншых вандруючых зораў зьяўляюцца ў акрэсьленым узаемадачыненьні з колавым рухам Зямлі,і калі рухі зьяўляюцца вылічанымі ў сузгоднасьці з абяртаньнем кажнае плянэты, тады ня толькі ўсе іхныя фэномэны выплываюць з гэтага, але гэтаксама гэ-

тая коррэляцыя вяжа разам гэтак шчыльна парадак і велічыні ўсіх плянэтаў і іхныя сфэры або арбітальныя колы і самыя нябёсы, што нічога ня можа быць перастаўленым навакол у ніякай частцы зь іх без разбурэньня пазасталых частак сьвету, як цэласьці.

Дарэчы, укладваючы маю працу, я прыняў наступны парадак: у першай кнізе я апісваю ўсе месцазнаходжаньні сфэраў або арбітальных колаў разам з рухамі, якія я аднoшу да Зямлі, так што гэтая кніга зьмяшчае быццам агульныя закладзіны сьвету. Але пасьля гэтага ўва ўсей рэшце кнігаў я ўстанаўляю суадношані ўсіх рухаў іншых плянэтаў і іхныя сфэры або арбітальныя колы з рухомасьцю Зямлі, так што ўсё можа быць сабрана разам з таго як далёка спасьцярожныя рухі рэшты плянэтаў і іхныя арбітальныя колы могуць быць абясьпечаны дарогаю ўстанаўленьня іхных адношаньняў да руху Зямлі.І я ня маю сумліву, што таленавітыя і адукаваныя матэматыкі згодзяцца са мною, калі - як філязофія дамагаецца на першым месцы - яны зьяўляюцца схільнымі праявіць ня вонкавую, але глыбокую натугу адносна таго, што я прыношу на бачынах гэтае працы, дэманструючы гэтыя рэчы. І дзелятаго, каб нявучаны чалавек, гэтак як і вучоны, маглі бачыць, што я ня ўхіляюся ад суду ніякага чалавека, я палічыў за лепшае гэтыя разультаты маіх ночных студыяў прысьвяціць барджджэй Вашай Сьвятасьці, чымся каму-небудзь іншаму; бо, нават у гэтым аддаленым куце Зямлі, дзе я жыву, вы зьяўляецеся ўважаным за як найболей высокага адначасна ў годнасьці, як і ў ордэры высокапастаўленых, і ў вашай любові для навукі і нават для матэматыкі; пасьлядоўна, з увагі на аўтарытэт вашага суду вы лёгка можаце стварыць ахарону супроць укусаў паклёпнікаў, ня гледзячы на выслоўе, што нямашака леку на ўкус падхаліма.

Але, калі магчыма існуюць некаторыя зь людзей "парожных гутарак", каторыя бяруцца апавяшчаць суд, будучы зусім нясьведамымі ў матэматыцы і, калі дарогаю бяссорамнага перакручваньня значэньня некаторых пасусаў Сьвятога Пісаньня, каб прытарноўваць іх да сваіх мэтаў, ідуць на тое, каб ганьбіць і атакаваць маю працу; яны нагэтулькі мала турбуюць мяне, што я нават пасьмяюся над іхнымі суджэньнямі, як над глупа ўпартымі. Бо-ж не зьяўляецца гэта нясведамым, што Лякtанцiюс, у іншых выпадках выбітны пісьменьнік, але насілу ці зьяўляецца матэматыкам, выражаецца ў скрайна дзіцячай манеры адносна хворамы Зямлі, калі ён сьмяецца з тых, каторыя цьвер-

дзяць, што Зямля мае хворму ґлёбу. Затым бо неабходнасьць паважнага разважаньня не павінна дзівіцца, калі гэтакія людзі сьмяюцца з нас. Матэматыка ёсьць напісанаю для матэматыкаў; і сярод іх, калі я не памыляюся, мае працы будуць бачанымі, як уносячымі нешта ў экклезіястычны сьвет, найвышэйшую ўладу якога Вашая Сьвятасьць цяперака трымае. Бо ня шмат гадоў таму пад даглядам Лявона X, калі Лятаранскі Сабор разважаў пытаньне рэформы Экклезіястычнага Каляндара, ня была прадпрынятаю ніякая пастанова, з аднае адзінае прычыны, што памеры году і месяцаў, і рухаў Сонца і Месяцу ня былі меранымі з дастатковаю дакладнасьцю. З гэтае пары і далей я засяродзіў сваю ўвагу з мэтаю выкананьня болей дакладныя абсэрвацыі гэтых рэчаў, і быў заахвочаны ўчыніць гэта найболей выдатным чалавекам, Паўлам, Япіскапам Фоссомброны, які быў прысутным на нарадах. Але тое, што я асягнуў у гэтай справе, я пакідаю суду Вашай Сьвятасьці ў вапрычонасьці, і ўсім іншым адукаваным матэматыкам. І затым, каб не здалося Вашай Сьвятасьці, што ня можна займець болей прырачэньняў адносна карыснасьці гэтае кнігі, чымся я магу выпаўніць, я пераходжу да зьместу гэтае працы.

АРЭТЭ́

Заняпад мужнасьці здавен-даўна ўважаўся за першую азнаку канца.

А. Салжаніцын

Перш, чымся заламалася мая Бацькаўшына - Вялікае Княства Літоўскае - памерла ў ёй мужнасьць.

Ян Пятроўскі

...нямашака рацыянальнага жыцьця без інтэлігэнцыі, і рэчы зьяўляюцца добрымі толькі ў той прапорцыі, у якой яны памагаюць чалавеку цешыцца з прычыны гэтакага разумнага жыцьця, якое пастанаўляецца інтэлігэнцыяю. Тыя рэчы, якія супроцьставяцца гэтай канцэпцыі, мы называем дрэннымі, якія стаяць як перашкода для чалавека ў дасканаленьні ягонага розуму і цешыцца рацыянальным жыцьцём.

Б. Сьпіноза

Нічога няма дрэннага ў вучонасьці, і кажнае веданьне чаго-небудзь вытварае прыемнасьць самую ў сабе, але добрае сумленьне і мужнасьць жыцьця заўсёды павінны ставіцца перад ведамі.

Хама Кэмпійскі

Чалавек павінен разьвіваць свае схільнасьці ў напрамку дабра. Провід ня ўклаў іх у чалавека зусім гатовымі; гэта толькі схільнасьці. Учыніць самога сябе лепшым, культываваць сябе - вось у напрамку чаго павінен чалавек імкнуцца і што́ асягнуць.

Кант

...дзелятаго, што ўсе гэтыя рэчы, якіх ёсьць чалавек дастатковаю прычынаю, зьяўляюцца неабходна добрымі, дык, як наступства гэтага, нічога дрэннага ня можа здарыцца з чалавекам, хіба-што ў выніку вонкавых прычынаў, інакш кажучы, у рэзультаце, паколькі ён астаецца часткаю Натуры, чые правы людзкая натура змушанаю ёсьць перасьцерагаць - змушанаю гэтаксама прытарнаваць самую сябе да гэтае цэласьці Натуры ў бадай-што безьлічну выпадкаў.

Б. Сьпіноза

Узнагарода мужнасьці знаходзіцца ў самой сьведамасьці добрага чыну.

Цыцэрон

Немагчымасьцю ёсьць, каб чалавек ня быў часткаю натуры і не перасьцерагаў яе звычайны парадак; але, калі ён будзе пастаўлены ў васяродзьдзе людзей, якія згодзяцца зь ягонаю натураю, ягоная сіла дзеяньня будзе, з прычыны якраз гэтага факту, падтрыманая і ўспаможаная. Але з другога боку, калі ён будзе пастаўлены ў васяродзьдзе людзей, якія нават у найменшай ступені ня згодзяцца зь ягонаю натураю, тады насілу ці будзе ён здольны бяз большае зьмены зь ягонага боку прытарнаваць да іх самога сябе.

Б. Сьпіноза

Мужнасьць зьяўляецца маральным гартам у выкананьні свайго абавязку; і гарт гэты ніколі не павінен зьіначвацца ў на́вык, павінен заўсёды зноў і зноў і першапачаткава ўзьнікаць з душы чалавека.

Л. Талстой

Маім паглядам ёсьць - не што добрае цела ў кажным добрым стане палепшвае душу, але наадварот, што добрая душа, сваею ўласнаю мужнасьцю, палепшвае цела, як далёка гэта магчымым можа быць.

Плятон
"Політэя", 403

Добрыя людзі памагаюць адзін аднаму, нават не спасьцерагаючы гэтага, а дрэнныя - наўмысьня дзеюць супроць сябе.

Кітайскае выслоўе

Кажная рэч, што існуе ў Натуры, якую мы ўважаем за зло або здольнаю ў перашкоджаньні нашага існаваньня ці радасьці рацыянальнага жыцьця, мы можам ухіліць яе гэтакім спосабам, які выдасца нам найболей бясьпечным; з другога боку, калі мы ўважаем, што яна выгаднаю для нас дзеля захаваньня нашага існаваньня або радасьці рацыянальнага жыцьця, тады адчыняецца перад намі магчымасьць узяць яе для нашае карысьці і ўжываць яе ў кажны спосаб, які толькі выдасца нам за найболей адпаведным; і кажны чалавек на падставе найвышэйшага права Натуры можа чыніць тое, што ўважае за прычыну карысьці для сябе.

Б. Сьпіноза

Няхай ніякі чын ня будзе выкананы бязмэтна, і ня інакш, як толькі ў сузгоднасьці з найлепшымі прынцыпамі мужнасьці.

М. Аўрэліюс

СЬМЕРЦЬ

Зьявішча сьмерці зьяўляецца найболей паважным выдарэньнем у жыцьці чалавека.

Кажны чалавек на працягу свайго жыцьця праходзіць розныя фазы настаўленьня да зьявішчаў фізычнага і духовага сьвету. Малое дзіцянё пераважна занятаназіраньнем і подзівам вонкавага сьвету, у які яно пачынае ўваходзіць. Малады чалавек, аддадзены свомай яму энэргіі, заняты ўсім іншым толькі ня зьявішчам сьмерці. Ён ня часта нават здагадваецца, што гэтакае нешта існуе на сьвеце, а калі існуе, можа абавязваць кажнага іншага, але не яго.

І толькі на захадзе свайго жыцьця ў чалавеку будзіцца сільнейшая схільнасьць да паважнае думкі. Цяпер пачынае ён разумець, што тое, што ён чуў даўнядаўна, пайменна, што жыцьцё зьяўляецца кароткім, запачынае прыймаць у ім нейкі сэнс. Цяперака ён запраўды вычувае, што жыцьцё ёсьць кароткім. Усё тое доўгае было толькі ўчора; сягоньня - час разважаньняў, а заўтра - наагул не належыць да яго.

Ян Пятроўскі

Для народжанага пэўнай ёсьць сьмерць,
І нараджэньне пэўным для сьмерці.

Бгаґават Ґіта

На ахвярніку шмат крышынкаў ладану. Адзін трапіў сюды раней, іншы - пазьней. Розьніцы тут няма ніякае.

Марк Аўрэліюс

Няма рэчы болей бяссумніўнай, як тая сьмерць, якая чакае на кажнага з нас. Аднак ўсе людзі гэтак жывуць быццам яе няма.

Л. Талстой

Ня сьмерць ёсьць зло, але бясслаўная сьмерць.

Эўрыпідэс

Калі чалавек хоча жыць праведна, няхай штодня зьяўляе сабе, што прыйшоў ягоны апошні дзень на зямлі.

Джон Буньян

Нараджэньне не зьяўляецца пачаткам, гэтаксама як сьмерць - канцом.

Кітайскае выслоўе

Для чалавека, які рыхтуецца пакінуць гэты сьвет, намя нічога болей радаснага, як упэўненасьць, што жыцьцё не дарэмна прайшло.

Кант

Ён памёр. І што зь ім стала?
Дзе-ж падзеўся яго дух?
Ці душа ў зямлі прапала,
Як агонь: гарэў – і стух?

Якуб Колас
"Сымон Музыка"

Калі-б хто-небудзь з багоў сказаў табе, што ты памрэш заўтра, ці ў найлепшым выпадку посьлязаўтра, дык насілу ці стаў-бы ты вельмі дабівацца, каб здарылся гэта посьлязаўтра, калі ты толькі не запалоханы нікчэмнік.Бо-ж розьніца тут вельмі нязначная. Гэтаксама не ўважай вельмі важным памрэш ты пасьля шматлікіх гадоў, ці заўтра!

М. Аўрэліюс

Жыцьцё без адвагі перад сьмерцю ёсьць няволяю.

Сэнэка

Я прыйшоў на месца, дзе я радзіўся і я плакаў, кажучы: "Сябры майго юнацтва, дзе вы?!" І рэха адказала: "Дзе вы?

Арабскае выслоўе

Сьмерць і нараджэньне ёсьць тайніцаю Натуры.

Марк Аўрэліюс

Калі хто-небудзь чуе голас,
Што Старасьць надыходзіць,
Барджэй засоўвае ён дзьверы,
Кажучы: "Ён з дому выйшаў"
І адмаўляецца ўпусьціць яе!

---

Хіба-ж ня гневаешся ты з тае прычыны, што важыш меней, чымся трыста фунтаў? Гэтаксама ня гневайся і на тое, што калі табе наканавана пражыць дадзеную колькасьць гадоў, і ня болей; здавальняйся вызначаным табе часам, як ты здавальняешся вызначаную табе сутнасьцю.

М. Аўрэліюс

Мае Родныя, Дарагія!

Толькі праз месяц я даведаўся аб сьмерці нашага Таты; так доўга ішло пісьмо! Я ведаю, як Вам усім цяжка і баліць сэрца, бо ўсе яго так моцна любілі, але мне дык няма нават перад кім паплакаць і пажаліцца. Не перастаю аб ім думаць і часта мне здаецца, што віджу яго жывога.

А здавалася быў такі дужы і здаровы і пэўне, каб ня ўсе гэтыя клопаты і згрызоты, яшчэ жыў-бы доўга. Але-ж, ведама, нікому ня суджана жыць вечна, а нам усім няхай будзе пацехай, што жыў справядліва, працавіта і пакінуў па сабе добрую памяць у людзей, у ўсіх, што яго зналі.

Цяпер засталася у нас адна нашая Мама. Дык любеце яе і ўважайце, мае Родныя, няхай свае астатнія гады пражыве бяз грызотаў. Пасьля Таты яна засталася гаспадыняй і старшынёй над вамі. Жывеце згодна і слухайце яе, дык не пашкадуеце. Рабеце і далей так, каб была, як Тата хацеў. Ляпей уступеце адзін другому, а не сварэцеся.

Я жыву пастараму, чакаю суду. Можа каля новага року і прывязуць да Вільні, так хацеў-бы пабачыцца з Вамі, найболей з Мамай, калі ёй марозы не пашкодзяць. Віцячка Вам напіша, калі і як. Найляпей, каб Вы зь ёй тады і спаткаліся ў Вільні. Яна мною апекуецца надта добра і падтрымлівае ў мяне і дух і сілу. Цяжка, але трэба ўсё перанесьці і выцярпець, такая доля ўжо прыпадае на мой лёс. Ня сумуйце па мне, бо і я аб сабе ня плачу. А гараваць няма што, бо чалаек ня ведае, што яго чакае заўтра і што было-б, каб было ня так, як ёсьць. – Маме надта дзякую за кажух і шалку. Захаваю гэтым памятку ад Таты. Юзіковага малога Бронюся я і ня знаю. Няхай гадуецца, будзем доляцца. Часта думаю аб усіх Вас і дзяцёх. Калі зноў Вас усіх у Чарналішках пабачу – ня ведаю. Я надта рады, што хоць Верачка была ў Вас і праводзіла Тату на могілкі. Шкада, што ня было Дзюка і не пабача болей ужо свайго дзядуля.

Маму, Тэклячку, братову, Юзяка, швагра і ўсіх дзяцей абыймаю і моцна цалую і прашу жыць згодна і дружна, бо ў згодзе сіла.

Усім цёткам і дзяцькам, добрым суседзям, знаёмым паклоны, а пайменна ўсіх выпісаць ня хопіць і месца.

7.XII. [I9]3I. Ваш, Бронюсь [Тарашкевіч]

Aleksandra Bergman, Rzecz o Bronislawie Taraszkiewiczu, Książka i Wiedza, Warszawa, 1977, б. 160.

## СЬМЕРЦЬ САКРАТАСА

Атэны. Год 399 перад нашаю эраю. Сакратас, бацька філязофіі нашага сьвету, на 70-ым годзе свайго жыцьця быў абвінавачаны сваімі суродзічамі і пастаўлены перад судам, што нібы-та зводзіў народ, асабліва на дарозе ўплыву свайго на атэнскую моладзь. Суд засудзіў яго на кару сьмерці. Кара сьмерці выканана была ў вастрожным будынку. Апісаньне ягонае сьмерці пераказвае нам адзін з найболей слаўных ягоных вучняў - Плятон, сын Арыстона. Коратка перад прыняцьцем атруты Сакратас вядзе размову са сваімі найбліжэйшымі вучнямі і, сярод іншага, кажа:

...чалаек павінен быць поўны даверра адносна свае ўласнае душы, калі ён на працягу ўсяго жыцьця адхіляў усе змысловыя радасьці і, у апрычонасьці, упрыгожаньні, уважаючы іх чужымі для сябе і прыносячымі барждзэй шкоду, чымся карысьць, які імкнуўся асягнуць іншыя радасьці, радасьці веды, і, упрыгожыўшы душу ня чужымі, але запраўднымі яе ўпрыгожаньнямі - паўстрыманасьцю, справядлівасьцю, мужствам, свабодаю, праўдаю - чакае на вандраваньне ў іншы сьвет, гатовы распачаць падарожжа, як толькі лёс пакліча яго.

Вы, Сімміяс і Кэбэс, і ўсе іншыя, гэтаксама пойдзеце гэтым шляхам, кажны ў адпаведным часе: а мяне ўжо "вось цяперака голас лёсу кліча", як мусіць сказаў-бы гэтак які-небудзь герой у трагэдыі. Але, здаецца, пара мне ўжо мыцца: я думаю, што ляпей выпіць атруту пасьля мыцьця, каб ня спрычыніць жанчынам клопату мыць маё цела пасьля сьмерці.

Калі ён кончыў гаварыць, Крытон сказаў:

- Добра, Сакратас, ці не хацеў-бы ты пераказаць ім або мне тваю волю аднасна дзяцей ці яшчэ чаго-небудзь? Што мы можам учыніць для цябе, каб выразіць нашую ўслугу?

- Тое, што я заўсёды казаў, Крытон, - сказаў ён, - нічога новага: думайце і турбуйцеся пра самых сябе, і тады, што ні рабілі-б вы - гэта будзе добраю ўслугаю і мне, і маім блізкім, і самым вам, хоцьбы нават вы цяперака нічога і не прыракалі. Але, калі вы занядбаеце самых сябе і не захочаце жыць у сузгоднасьцэ з тым, пра што мы гаварылі цяпер і ў мінулых часох, дык вы нічога не асягняце, ня гледзячы на тое, колькі-б вы маглі напрыракаць сяньня.

– Так, Сакратас, – сказаў Крытон, – мы ўчынім усё, каб выпаўніць тваё жаданьне. А як мы маем пахаваць цябе?

– Як хочаце, – адказаў Сакратас, – але вы мусіце схваціць мяне і глядзець, каб я ня ўцёк ад вас. Пры гэтым ён ціха засьмяяўся і, павярнуўшыся да нас, далей казаў: – Ніяк я, сябры, не магу пераканаць Крытона, што я – гэта той Сакратас, які цяпера гутарыць з вамі і зьяўляецца ў стане панаваць над сваімі думкамі. Ён думае, што я – гэта той,каго ён хутка ўгледзіць памершым, і затым пытаецца, як мяне пахаваць! А вось уся гэтая доўгая гутарка пра тое, што, выпіўшы атруту, я ўжо ня буду разам з вамі, але адыйду ў шчасьлівыя краіны добраслаўленых, выдаецца яму пустымі словамі, якімі я хацеў пацешыць вас, і адначасна самога сябе...

Сказаўшы гэта, ён падняўся і выйшаў у другое памяшчэньне мыцца, а Крытон пайшоў за ім, наказаўшы нам, пачакаць. І мы чакалі, абменьваліся думкамі і разважалі пра тое, што чулі, але мы зноў і зноў вярталіся да таго, якое вялікае гора нас засьпела,бо: мы і чуліся, запраўда, быццам згубілі бацьку і мелі рэшту нашага жыцьця правесьці сіратамі.

Калі Сакратас памыўся, да яго ўвялі сыноў – ён меў двух меншых сыноў і аднаго большага; і, калі ўвайшлі і жанчыны зь ягонае радні, ён сказаў да іх некалькі словаў і ўчыніў некаторыя загады ў прысутнасьці Крытона. Тады сказаў жанчынам і дзецям, каб яны ішлі дадому, а сам зноў увайшоў да нас.

Час набліжаўся да захаду сонца, бо ён правёў шмат часу, будучы ў унутраным памяшчэньні. Вярнуўшыся пасьля мыцьця, ён сеў і ўжо болей бадай-што не гаварыў з намі. У міжчасе зьявіўся слуга Адзінаццаці і, стануўшы насупраць Сакратаса, сказаў:

– Я думаю, Сакратас, што мне мусіць не патрэбным будзе наракаць на цябе, як гэта часамі на іншых, якія злуюцца і праклінаюць мяне з прычыны таго, што я, паводле загаду ўладаў, падаю ім да ведама, што час піць атруту. Бо я ўжо раней за гэты час спасьцярог і пераканаўся, што ты найболей шляхэтны і самы лагодны і найболей добры зь людзей,якія калі-небудзь знаходзіліся тут. І цяпера я гэтаксама ведаю, што ты ня гневаешся на мяне; бо іншыя, як табе ведама, а не я, зьяўляюцца адказнымі. Я думаю, што ты ўжо разумееш, зь якою весткаю я прыйшоў. Затым, будзь добрае думкі і пастарайся як можна найлягчэй зьнесьці тое, што мае стацца. Пры гэтым ён заплакаў і павярнуўся да выхаду. Сакратас

паглядзеў на яго і сказаў:

– Будзь добрае думкі і ты. А мы ўсё зробім гэтак, як трэба. Пасьля, зьвярнуўшыся да нас, ён сказаў: – І які-ж ветлівы чалавек! Праз увесь гэты час ён наведваў мяне, а часамі гутарыў са мною і быў гэтакім добрым да мяне! А цяпер вось, як шчыра сумуе па мне. Аднак-жа, Крытон, паслухаемся яго. Няхай прынясуць чару з атрутаю, калі ўжо сьцерлі. А калі не, няхай сатруць.

А Крытон сказаў:

– Сонца яшчэ над горамі, Сакратас, і яшчэ не зайшло. Я ведаю, што іншыя прыймалі атруту значна пазьней; пасьля таго, як ім загадаюць, вячэралі, пілі колькі хацелі, а іншыя нават цешыліся прысутнасьцю сваіх каханых: не сьпяшайся – ёсьць яшчэ часу.

І Сакратас на гэта адказаў:

– Так, Крытон, тыя, пра каго ты ўспамінаеш, маюць сваё апраўданьне паступаць гэтак, бо яны думаюць, што, паступіўшы так, нешта выйграюць. Але я маю абаснаваньне ня браць прыкладу зь іх, бо я ня думаю, што я меціму нейкую карысьць, выпіваючы атруту крышку пазьней, а стануся толькі сьмешным для самога сябе, хапаючыся за жыцьцё і трасучыся над апошнімі ягонымі рэшткамі. Калі ласка, не пярэч мне, а зрабі гэтак, як я кажу.

Тады Крытон даў знак слузе, што стаяў блізка. Слуга выйшаў і пасьля нейкага часу вярнуўся з чалавекам, які трымаў у руцэ чару з прыгатаванаю атрутаю, каб падаць Сакратасу. Убачыўшы гэтага чалавека, Сакратас сказаў:

– Ну, вось, мой добры чалавеча, ты маеш дасьведчаньне з гэтымі рэчамі – што я маю рабіць?

– Дый нічога, – адказаў той, – проста выпі і хадзі да тае пары, пакуль не пачуеш ацяжэньня ў нагах, а тады ляж. Атрута ўжо ўчыніць сваё.

Сказаўшы гэта, ён падаў Сакратасу чару. І Сакратас узяў яе са звычайным яму супакоем, Эхэкратас,– не задрыжэў, не паблядне́ў, і не зьмяніўся на твары, але, як гэта ён рабіў заўсёды, зірнуў на чалавека з-пад сваіх брывоў і запытаў:

– Што ты думаеш адносна таго, каб крыху зьліць з гэтага піва на чэсьць каго-небудзь з багоў? Магу я, ці не?

Чалавек адказаў:

– Мы націрaем гэтулькі, Сакратас, колькі неабходна выпіць.

– Я разумею, – адказаў Сакратас. – Але я хачу і павінен прасіць багоў, каб перасяленьне з гэтага

сьвету ў іншы было памысным. За гэта я малюся і гэтак няхай станецца.

Пасьля гэтых словаў ён паднёс чару да вуснаў спакойна і лёгка і выпіў зьмест яе да дна.

Да гэтае пары большасьць з нас сяк-так яшчэ трымалася, каб ня плакаць, але цяпераka, бачучы, як ён п'е і як ён выпіў атруту, мы ўжо не маглі панаваць над сабою. Ня гледзячы на натугу, у мяне самога цяклі сьлёзы. Я захутаў свой твар і аплакваў самога сябе - не яго я аплакваў - але ўласнае гора, страту гэтакага сябры! І я ня быў першы; Крытон раней за мяне выбухнуў плачам і падняўся са свайго месца. Апольлёдорос, які і так ужо плакаў увесь час, цяпер пачаў плакаць з гэткім адчаем і ляментаваць, што ён прыгнобліў кажнага з нас, апрача Сакратаса. Ён толькі сказаў:

- Ну, што вы, дзіўныя людзі! Я-ж затым і выправіў адсюль жанчын, каб яны не зрабілі падобнага гледзішча, - бо-ж вучылі мяне, што чалавек павінен паміраць у поўным пашане супакою. Супынеце ваш плач і сьціхніце.

Чуючы гэта, мы засароміліся і спынілі плач.

Сакратас хадзіў да часу, калі ён сказаў, што ягоныя ногі пачынаюць цяжэць, і лёг на сьпіну гэтак, як казаў яму чалавек. Калі Сакратас лёг, гэты самы чалавек, які даў яму атруту, агледзіў ягоныя ступені і голені, і пачакаўшы крыху, учыніў гэта яшчэ раз. Пасьля сьціскаючы моцна ягоную ступеню, запытаўся, ці чуе ён. Сакратас адказаў, што ня чуе. Пасьля гэтага ён зноў дакрануўся да ягоных голеняў і, паступова, праводзячы рукою вышэй і вышэй, паказваў нам, як цела халадзее і штыўнее. Цяпер зноў дакрануўся ён апошні раз і сказаў, што, калі холад наблізіцца да сэрца, ён адыйдзе. Холад дайшоў ужо да жывата, і тут Сакратас раскрыўся - ён ляжаў закрыўшыся, і сказаў - гэта былі ягоныя апошнія словы:

- Крытон, мы вінаватыя пеўня Асклепіёсу. Аддайце-ж, не забудзьце.

- Абавязкава гэта ўчынім, - адказаў Крытон. Ці ня маеш яшчэ што-небудзь сказаць?

Але на гэтае пытаньне ўжо ня было адказу. Пасьля кароткага часу ён судрыгнуўся, і чалавек адкрыў ягоны твар: позірк ягоны затрымаўся. Крытон, бачучы гэта, закрыў яму рот і вочы.

Гэтакі, Эхэкратас, быў канец нашага сябры, чалавека, - адносна якога мы можам праўдзіва сказаць, - самага найлепшага з усіх людзей ягонага часу, якіх нам давялося пазнаць, - дый, запраўды, самага мудрага, добрага і самага справядлівага.

НАЦЫЯ

Разам мы творым сабою цэласьць. Усяроўна, як кажны з нас ацэньвае суродзіча, што маршыруе побач яго ў напрамку вызначанае мэты. У нашых спрэчках, якія часта зьяўляюцца няўхільнымі, як і ў нашай згодзе, мы толькі ўзаемна дапаўняемся.

---

Нацыя, можна сказаць, складаецца зь яе тэрыторыі, яе людзей і зь яе права. Тэрыторыя зьяўляецца адзінаю часткаю, якая характэрызуецца сваею трывалкасьцю.

А. Лінкольн
Прэзыдэнт ЗША

К свабодзе, роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед,
І будзе ўнукам панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед!

Янка Купала

Беларуская нацыянальная ўлада вырашыць праблему ўладжаньня палітычнага жыцьця Беларусі.

Паводля Др. А. Цьвікевіча

Адным з выражэньняў любові Бацькаўшчыны зьяўляецца веданьне яе гісторыі.

Др. Гэнрык Ляпуцкі

Дыёгэнэс пісаў пэрскаму шаху: "Ты ня можаш учыніць запраўды вольных людзей нявольнікамі, гэтаксама, як і ня можаш запалоніць рыбу. Калі ты і возьмеш іх у палон, яны ня будуць нявольнічаць табе."

-

У змаганьні за сваю справу беларусы павінны быць страшнымі для сваіх ворагаў і далікатнымі ў адносінах да прыяцеляў і самых сябе; калі не, дык яны зьнішчаць самых сябе перад тым, як ворагі зьнішчаць іх.

Паводля Плятона

У народ і край свой толькі веру.

Янка Купала

У найгоршых сытуацыях мы знойдзем заўсёды маральныя сілы, калі будзем у парадку із сваім асабістым і грамадзкім сумленьнем.

Хведар Ільляшэвіч

Наш ідэалізм выплывае з супольнага гістарычнага жыцьця Беларускага Народу, зь вялікіх вартасьцяў, здабытых ім вякамі, з культурнага складу пакаленьняў і павінен базавацца на сіле свае беларушчыны, на яе апрычонасьці і сувэреннасьці з радзімым беларускім кірункам, зь беларускімі мэтамі.

Усевалад Радзевіч-Крывіч

Калі нацыя паважае якія-небудзь рэчы болей,чымся свабоду, яна згубіць сваю свабоду; і гіронія гэтага заключаецца ў тым, што, калі яна большую вартасьць кладзе на сваё выгаднае жыцьцё або грошы, яна гэтаксама згубіць і гэта.

Сомэрсэт Маўгам

Індывідуальнасьці могуць стварыць супольнасьць, але толькі інстытуцыі зьяўляюцца тым, што́ творыць нацыю.

Бэньямін Дізраэлі

–

ДЫЯЛЁГ

аб тым, як Ґляўкон хацеў стацца дзяржаўным дзеячом і што́ Сакратас раіў яму:

– Я чую, Ґляўкон, што ты вельмі хочаш здабыць становішча ў дзяржаўнай установе?

– Так, прызнаюся, хачу.

– Які цудоўны замер, – сказаў яму Сакратас, – бо, запраўды, трудна сабе ўявіць болей вышэйшую мэту. Бо-ж рэчаю зьяўляецца пэўнаю, што, калі ты асягнеш сваю мэту, мецімеш ня толькі магчымасьць здабыць усё тое, чаго душа зажадае, але гэтаксама першарадную нагоду памагчы прыяцелям. Паставіш у гонар сябе і ўвесь дом свой, узбольшыш славу ў Атэнах – дый ня толькі ў адных Атэнах, але ўва ўсёй Гэльлядзе, і вельмі магчыма, падобна як Тэмістоклес, станешся слаўным гэтаксама і сярод барбараў і ўсюды там, дзе толькі пакажашся, вочы ўсіх людзей будуць скіраваныя на цябе.

Слухаючы гэтыя словы, Ґляўкон рос у сваей гордасьці і з прыемнасьцю чакаў працягу гутаркі. Сакратас, аднак-жа, у далейшым ходзе гутаркі паставіў яму гэтакае пытаньне:

– Добра. Адно толькі, і я думаю ты згодзішся са мною, што гэтакі гонар не атрымліваецца дарма: яго трэба чым-небудзь заслужыць?

– О, напэўна, – адказаў хутка Ґляўкон.

– На нябёсы! – працягваў Сакратас, – дык ты крыйжа ад мяне замераў, але скажы, з чаго-ж ты пачаўбы, напрыклад.

І, калі Ґляўкон маўчаў, затрымліваючыся над тым, з чаго пачаць, Сакратас запытаў:

– Ці-ж не з таго, перад усім, што хацеў-бы ты ўчыніць дзяржаву заможнай, гэтаксама, як узбагаціўбы ты гаспадарку прыяцеля, калі-б хацеў узьняць яе на вышэйшы ўзровень?

– Ведама.

– Ці, затым, станецца дзяржава багацейшаю, калі меціме большыя даходы?

– Напэна.

– Скажы мне, тады, зь якіх жаролаў атрымлівае дзяржава сягоньня даходы і, прыблізна, як высокімі гэтыя даходы зьяўляюцца? Бо-ж ясным ёсьць, што мусіў ты над гэтым затрымлівацца, каб – у выпадку, калі-б некаторыя з гэтых жаролаў аказаліся мала выдайнымі – ажывіць іх і на месца высахшых знайсьці новыя?

– Скажу табе, Сакратас, папраўдзе, што я ніколі не затрымліваўся над гэтым, – адказаў Ґляўкон.

– Калі ты не займаўся справаю даходаў у дзяржаве, тады скажы мне, Ґлякон, прынамся, як прадстаўляецца справа выдаткаў, каб мог ты скасаваць тыя, якія выдадуцца табе непатрэбнымі?

– Але-ж, на Зэуса, – адказаў Ґляўкон, – я і над гэтым нямеў яшчэ часу затрымацца!

– Адлажэм, тады, справу абагачэньня дзяржавы, – адказаў Сакратас. – Бо і запраўды, як гэта магчыма, каб хто-небудзь мог цікавіцца справаю ўзьняцьця матэрыяльна дзяржавы, хто ня мае паняцьця ані пра яе даходы, ані расходы?

– Пачакай, Сакратас, – хутка дакінуў Ґляўкон, – няма чаго тут шмат і думаць пра гэта, калі можна ўладзіць скарб на кошт ворага.

– Твая праўда, – адказаў Сакратас. – Пад умовай аднак-жа, што вораг будзе пераможаны, бо, калі дзяржава будзе пераможана, тады можа яна згубіць яшчэ і тое багацьце, якое мае.

– Гэта праўда.

– Той, хто мае замер весьці вайну, павінен узяць пад увагу, з кім будзе яе весьці, мусіць дакладна падлічыць сілы ўласнага краю і сілы ворага, каб у выпадку, калі-б сілы ўласнага краю аказаліся большымі за сілы ворага, заахвочваў-бы да вайны, а калі-б аказаліся слабейшымі – раіў-бы за ўсякую цану

ўхіляцца ад вайны.
– Разумна ты кажаш.
– Скажы мне, тады, Ґляўкон, ці ведама табе, колькі ў нас наземных сілаў, колькі морскіх сілаў, і якія сілы ў нашых ворагаў?
– Так, але з галавы, у адну мінюту, я не магу табе вылічыць.
– Усяроўна, – працягваў Сакратас, – калі ты маеш дзе-небудзь запісаным, паглядзімо разам.
Але ў Ґляўкона і запісаным нічога не знайшлося.
– Ну, добра, – пачаў зноў Сакратас, – я бачу, што і гэта трэба будзе нам пакуль што пакінуць. Зразумелым ёсьць, што, пачынаючы толькі кар'еру дзяржаўнае службы, ты ня меў яшчэ часу затрымацца над кamплексам трудных пытаньняў. Але я пэўны, што ты цікавіўся і ведаеш усё, што датычыцца ўнутранае бясьпекі гаспадарства: затым ведаеш напэўна колькі патрэбна варты дзеля ўнутранае старожжы, дзе чаго не хапае і трэба дапоўніць, дзе чаго за шмат і трэба зьняць.
– Праўду кажучы, – адказаў Ґляўкон, – я-б усю варту зьнёс, калі-б гэта ад мяне залежала. Што ў нас за варта! Ці апраўдваецца трымаць яе, калі ўсюды гэткае, што ніхто не беражэцца!
– Як гэта? Калі зьняць усюды варту, дык зладзеі будуць рабаваць сярод белага дня. Дый наагул, на якой падставе чыніш ты выснаў, што варта дрэнна выконвае свае абавязкі? Ці спраўджваў ты яе сам на месцы, ці ведаеш гэта ад каго-небудзь іншага?
– Мне гэтак здаецца; усе кажыць, што гэтак ёсьць.
– Я думаю, што мы павінны спыніць нашую гутарку і на гэтую тэму, пакуль не атрымаем пэўнасьці ў гэтай справе.
– Я думаю, што гэта будзе найляпей, – падхапіў Ґляўкон.
– Капальні серабра ты не адведаў ані разу, як мне ведама, дык і не патрапіш сказаць, дзе ляжыць прычына што раз меншых даходаў.
– І запраўды, я ніколі ня быў там.
– І нічога дзіўнага. Кажны-ж бо цьвердзіць, што паветра там страшэннае, і факт гэты будзе для цябе дастатковым апраўданьнем, калі справа знойдзецца на парадку дня.
– Ты жартуеш зь мяне! – запратэставаў Ґляўкон.
– Напасьледак, што найменей, у вадной рэчы, я пэўны, што справы ты не занядбаў, але грунтоўна яе перадумаў, пайменна: на як доўга хопіць запасаў уласнага збожжа для харчаваньня людзей у краі, і

колькі яго трэба будзе дакупіць з заграніцы, каб прайсьці да канца году? У гэтых справах ты маеш быць абазнаным на выпадак недахопу хлеба ў краі,бо тады ведаю сваею прыслужышся дзяржаве ў цяжкай патрэбе, дапаможаш і аджанеш голад.

– Празьмерна вялікія вымаганьні ты ставіш мне,– адказаў Ґляўкон, – яшчэ і пра гэтыя справы маю турбавацца!

– У сутнасьці рэчы, нават уласнаю гаспадаркаю не патрапіць належна кіраваць той, хто ня ведае ўсіх сваіх патрэбаў і ня імкнецца заспакоіць іх у цэласьці. Калі край наш складаецца з болей дзесяці тысяч гаспадарак, і калі ўжо, запраўды, трудна турбавацца нараз пра гэтак вялікі іх лік, дык чаму-ж не падумаў ты пра тое, як перш паставіць на ногі гаспадарку ўласнага дзядзькі? Ён-жаж дамагаецца гэтага. І, калі-б займеў ты ўдачу пры гэтай адной гаспадарцы, сьмела тады мог-бы прабаваць сваіх сілаў пры большай іх колькасьці. Аднак, калі ты не аказаўся быць карысным у вадной патрэбе, як-жаж патрапіш быць карысным у шматлікіх выпадках? Рэч бо тутака маецца гэтаксама, як з падыйманьнем цяжараў: хто ня мае сілы падняць аднаго таленту, тым болей не патрапіць падняць большага іх ліку і нават не павінен прабаваць гэтага.

– Аднак-жа, – адказаў Ґляўкон, – ахвотна памог-бы я падняць дзядзькаву гаспадарку, калі-б толькі ён паслухаўся мяне.

– Як гэта? – адказаў Сакратас. – Калі ты ня можаш пераканаць аднаго свайго дзядзькі – дык думаеш ты, што будзеш у стане ўсіх атэнцаў, разам з дзядзькам, учыніць сабе паслухмянымі? Сьцеражыся, затым, Ґляўкон, каб, імкнучыся да славы, не асягнуў ты нечага зусім супроцьлежнага. Бо-ж і сам, мусіць, бачыш, як небясьпечным ёсьць нешта гаварыць або рабіць без адпаведнага веданьня прадмету. Падумай толькі пра людзей, ведамых табе з таго, што ў супярэчнасьці паміж іхнымі словамі і чынамі выказваюць яскравы недахоп неабходных ведаў, і ты тады сьцьвердзіш, што ў нагароду за гэткае паступаваньне атрымліваюць яны не пахвалу, але дакор, і што ўсе аказваюць ім не пашану, але зьнявагу. Падумай, гэтаксама, пра тых, каторыя ў словах і чынах выражаюць заўсёды доказы грунтоўнае веды, а дойдзеш да перакананьня, як мне здаецца, што ў кажнай галіне жыцьця належнаю пашанаю і добраю апініяю цешацца толькі тыя, каторыя выказваюцца найбольшым мастацтвам у рамястве, і наадварот, што дрэнную рэпута-

цыю маюць і спатыкаюцца з агульнаю пагардаю тыя, каторыя нічога ня ведаюць. Затым, калі хочаш ты атрымаць добрую славу ў дзяржаве і паважаньне сярод суродзічаў, дык з усіх сілаў мусіш ты старацца здабыць неабходную веду ў той галіне, у якой маеш замер разгарнуць сваю дзейнасьць. І толькі тады, калі, выперадзіўшы іншых, пачнеш займацца справамі дзяржавы, ня зьдзівішся зусім, калі зь вялікаю лёгкасьцю асягнеш мэту сваіх лятуценьняў.

Плятон

-

ПРАЎДА

Лепшыя розумы, якія любяць праўду з прычыны самое праўды, не шманаюць пра тое, каб прыдбаць праўду на сваю ўласнасьць. Яны прыймаюць яе з удзячнасьцю ўсюды там, дзе яе спаткаюць, і ня выціскаюць ніякага знаку якога-небудзь імені, затым што праўда выводзіцца здавен-даўна і ўжо спрадвеку належала да іх.

Эмэрсон

Праўда рэдка бывае прыемнаю; яна мяжуецца бадай-што з гаркотаю.

А. Салжаніцын

Усе вялікія праўды пачынаюцца як богазьневажаньні.

Б. Шоў

Спрэчкі болей за ўсё іншае спрычыняюцца да зацямненьня, чымся да зразуменьня праўды.

Праўда павінна дасьпець у адасобленасьці. Калі яна дасьпее, яна стаецца гэтак яснаю, што прыймаецца бяз спрэчкі.

Л. Талстой

Праўды немагчыма запярэчыць.

Плятон

Існуюць праўды, якія не прадназначаюцца для ўсіх людзей - толькі для духова прабуджаных.

Паводля Вольтэра

Людзі не згаджаюцца з праўдаю пераважна з тае прычыны, што яны чуюцца зьняважанымі тою хвормаю, у якой прапануецца ім гэтая праўда.

Л. Талстой

Нічога гэтак ня спрыяе перамозе розуму, як супакой тых, каторыя служаць яму. Праўда церпіць часта болей ад запалу сваіх абаронцаў, чымся ад сваіх няпрыхільнікаў.

Вільліям Пэнн

Праўда ня ведае страху.

-

Усё дабро – нічога перад дабром праўды; усе салодкасьці – нічога перад салодкасьцю праўды; шчасьце праўды бязьмерна перавышае  усе радасьці.

Будыйская мудрасьць

Праўда – пачатак і канец усяго, што існуе. Калі-б ня было праўды, ня было-б нічога. Затым мудрацы глядзяць на праўду, як на вялікі скарб.

Праўда ня толькі існуе сама сабою, але і стварыла кажную рэч на сьвеце. Яна існуе сама сабою затым, што яна – любоў; яна стварыла ўсе рэчы затым, што яна мудрасьць, натуральная мужнасьць і Тао, якое лучыць вонкавае з унутраным. Хоць людзі і пакідаюць праўду без асаблівае ўвагі, тым ня меней яна ані крышку ня губіць са свайго значэньня.

Конфуцы

Калі ты здабыў праўду, або думаеш, што  здабыў яе, дык пераказвай яе ў самай простай хворме,  не нападаючы на іншыя перакананьні.

Л. Талстой

Памылковыя пагляды трымаюцца толькі да пары, праўда-ж, хай сабе і малая, астаецца ў сваей цэласьці тым, чым была, і пасьля шматлікіх міліёнаў перашкодаў, хітрыкаў і сафізмаў, выкручваньняў і ўсялякага махлярства.

Л. Талстой

Ня бойся чалавека, хай сабе ён будзе высокі ці нізкі, багаты ці бедны, адукаваны ці неадукаваны. Паважай усіх людзей, любі ўсіх людзей, але нікога ня бойся. Свабодна і сьведама, выбраўшы праўду, трымайся свайго перакананьня за ўсякую цану. Не чакай на водгульле з натоўпу. Чым меней гоману на баку праўды, тым вышэй ўздымай голас. Вер у тое, што праўда болей магутнаю ёсьць, чымся няпраўда, забабон або цярпеньне, і будзь гатовы на ўсё. Ведай, што праўда не зьяўляецца лёкальным зьявішчам або часовым, але нешта заўсёдытрываючае, вечнае, адзінае на сьвеце і тое самае, адінае з Богам, якое мае Ягоную магутнасьць.

Чаньнінґ

Шукай праўду ў думцы, і ніколі ў кнігах, што паддаюцца парахненьню. Калі хочаш бачыць Месяц – глядзі на неба, а ня ў лужыну.

Пэрская думка

# Б У Д А

У вадлегласьці некалькі дзён дарогі на поўнач ад Бэнарэсу, ля падножжа Гімалайскіх гораў, на пачатку пятага стагодзьдзя да н.э. панаваў над племем Сакіяў валадар Судхадана. У валадара былі дзьве жонкі, дзьве родныя сёстры, і абедзьве доўгі час былі бязьдзетнымі, і толькі пад старасьць ужо каля сьмерці, старшая жонка, Майя на вялікую радасьць валадара, радзіла сына Сідхарту.

Калі Сідхарту мінула І9 гадоў, бацьцка жаніў яго на дваюраднай сястры ягонай, прыгожай Язадгары, і асяліў маладых у пышным палацу, пабудаваным сярод прыгожых садоў і гаяў. У палацу і садох маладога Сідхарты было ўсё тое, што магло спакушаць пачуцьці.

Хочучы бачыць свайго любага сына заўсёды шчасьлівым і вясёлым, валадар Судхадана сувора загадаў блізка пастаўленым і слугам Сідхарты ня толькі нічым не засмучваць яго, але і ўкрываць ад яго ўсё тое, што магло-б засмучаць маладога спадкаемніка або накіраваць яго на сумныя думкі.

Сідхарта ня выяжджаў са сваіх валаданьняў, а ў сваіх валаданьнях ён нічога ня бачыў сапсутага, нячыстага, што старэлася. Слугі Судхадана стараліся прыбіраць усё тое, што магло-б быць няпрыемным для вока, ня толькі аддаляючы ўсё нячыстае, зломанае, але і прыбіралі, і зрывалі з дрэваў і кустоў вянучае лісьцё; гэтаксама замянялі яны маладою і бадзёраю хворую і старэючую жывёлу, ня кажучы ўжо пра людзей, якія ўсе былі маладымі і прыгожымі. Затым малады Сідхарта бачыў навакол сябе толькі здароўе, радасьць, вясёласьць, жыцьцё, гэтакае-ж, якое ён адчуваў і сваім прыгожым, здаровым 20-ці летнім целе.

Гэтак пражыў Сідхарта болей году, і як ні прыгожым было ўсё тое, што акружвала яго, Сідхарта пачаў сумаваць і захацеў паглядзець жыцьцё іншых людзей.

Загадаўшы свайму хурману Чану запраэгчы калёсьніцу, ён зусім рана паехаў у места. Усё, што ён бачыў: вуліцы, дамы, рух людзей, мужчын і жанчын у розных вопратках, крамы, тавары, усё гэта было новым для Сідхарты і прыемна забаўляла і займала яго.

На адной з галоўных вуліцаў ягоную ўвагу зьвярнула на сябе людзкае існаваньне ў нябачаным ім стане. Існаваньне гэтае, з чырвоным тварам і рашчыненым ротам, цяжка выпускаўшым частае дыханьне, ся-

дзела скурчыўшыся каля сьцяны дому і голасна і жалобна стагнала.
– Што з гэтым чалавекам? – запытаў Сідхарта ў хурмана.
– Ён хворы, – адказаў Чана.
– Што такое хворы?
– Хворы, значыць тое, што цела ягонае расстроілася і ён церпіць.
– Я бачу, што ён церпіць. Але чаму-ж гэта сталася зь ім? Чаму сярод нас няма гэтага?
– Гэта здараецца з усімі.
– Можа гэта здарыцца і са мною?
Хурман не адказваў, і Сідхарта болей ня пытаў.
На той-жа вуліцы да брычкі Сідхарты падыйшоў стары, просячы падаянку. Драхлы, з сагнутаю сьпіною, з сьлёзнымі вачыма, стары насілу перастаўляў сухія дрыжачыя ногі і шамкаў нешта незразумелае бяззубым ротам.
– А гэта таксама хворы? – запытаў Сідхарта.
– Не, гэта стары, – сказаў Чана.
– Што значыць стары?
– Значыць, састарэўся.
– Чаму гэта зь ім сталася?
– Жыў доўга.
– Усе людзі старэюцца?
– Усе старэюцца.
– Вязі мяне дамоў, – сказаў Сідхарта.
Чана пагнаў коней, але на выязьдзе зь места іх затрымалі людзі. Яны на насілках несьлі нешта падобнае да чалавека.
– Што гэта? – запытаў Сідхарта.
– Гэта памершы. Яны нясуць ягонае цела, каб спаліць, – адказаў Чана.
– Што значыць памершы? – запытаў Сідхарта.
– Памершы – гэта значыць, што жыцьцё кончылася.
– Як кончылася? Ці-ж можа кончыцца жыцьцё?
– Памер, значыць кончылася.
Сідхарта зьлез з калёсьніцы і падыйшоў да людзей, што несьлі нябожчыка. Нябожчык з адчыненымі, затрыманымі шклянымі вачыма, з вышчаранымі зубамі і скасьцянелымі канчынамі ляжаў гэтак непарушна, як толькі непарушна ляжаць мерцьвяцы.
– Што за прычына, што гэта здарылася з гэтым? – запытаў Сідхарта.
– З кажным гэта здараецца. Усе паміраюць.
– Усе паміраюць? – паўтарыў Сідхарта і, вяркуўшыся на калёсьніцу, не падымаючы галавы, даехаў дадому.

Цэлы дзень Сідхарта непарушна прасе́дзеў адзін у ваддаленым куце саду і, не перастаючы думаў аб тым, што ён бачыў.

Усе людзі хварэюць, усе людзі старэюцца, усе паміраюць, - як-жа могуць людзі жыць, ведаючы, што кажную хвіліну яны могуць захварэць, што з кажнаю гадзі́наю яны старэюцца, губячы від і трацячы сілы, і, апрача гэтага, ведаюць, што кажную хвіліну могуць памерці, напэўна памруць раней ці пазьней. Якжаж можна з чаго-небудзь цешыцца, што-небудзь рабіць, як-жаж жыць, ведаючы гэта. - "Гэтага не павінна быць, - сказаў ён сабе. - Трэба знайсьці ратунак ад гэтага. І я знайду яго. І, знайшоўшы яго, я перакажу яго людзям".

Гэтак пастанавіў Сідхарта. І, пастанавіўшы гэта, у наступную ноч паклікаў свайго хурмана Чану, загадоў асядлаць сабе каня і адчыніць вароты. Перад тым, як выехаць з дому, ён зайшоў да свае жонкі. Яна спала. Ён ня будзіў яе. Але ў думцы пажагнаўся зь ёю, і ціхім крокам, стараючыся не разбудзіць сьпячых нявольнікаў і нявольніц, ён выйшаў назаўсёды із свайго палацу і, сеўшы на каня, адзін паехаў са свае бацькаўшчыны.

Праехаўшы гэтак далёка, як толькі мог везьці яго конь, ён зьлез зь яго і пусьціў яго, а сам, памяняўшыся вопраткаю з манахам, якога спаткаў і, абрэзаўшы сабе валасы, пайшоў, вандруючы па сьвеце, шукаючы сродка збаўленьня для людзей.

Перад усім Сідхарта пайшоў да брамінскіх мудрацоў, каб запазнацца зь іхнаю навукаю. Але іхны пагляд, які заключаўся ў перасяленьні душаў і ачышчаньні сябе ад юру пры помачы рознага роду нястачаў, не здаволіў яго. Ён пакінуў іх і пайшоў у непраходныя лясы і пражыў тамака шэсьць гадоў у посьце і цяжкай працы, спадзяючыся знайсьці збаўленьне на шляху абясьсільваньня свайго цела. Але і гэты шлях не здаволіў яго. Давёўшы сябе на дарозе посту і мучэньняў да таго, што ён ужо насілу мог парушацца і ўсё-ж не знаходзячы збаўленьня, ён прыйшоў да перакананьня супыніць пост і мучэньні цела і шукаць збаўленьня на шляху разважаньня і пакаяньня. Тады ў яго зьявіліся вучанікі, займеў славу, і людзі пачалі хваліць яго. Усе людзкія пахвалы гэтакі займелі ўплыу на яго, што надыйшла на яго спакуса, і ён пачаў шкадаваць тое, што́ пакінуў аднойчы, і хацеў вярнуцца да свайго бацькі і жонкі. Але спасьцярогшы свой маральны ўпадак, ён спалохаўся і адыйшоў ад сваіх прыхільнікаў і вучняў і пайшоў да-

лёка ў гэткае месца, дзе ніхто ня ведаў яго.

Доўга мучыўся ён з прычыны ўнутранае барацьбы, але аднойчы, калі сядзеў пад дрэвам і думаў пра гэта, яму зьнічэўку выявіўся шлях збаўленьня. І шлях збаўленьня гэты ўяўляўся яму ў настыпным:

Усё, што пабудавана з матэрыі, зьяўляецца часовым і павінна разваліцца. Пакуль чалавек злучаны з целам, ён падпарадкаваны цярпеньням, разбурэньню і сьмерці. Як чалавек можа асвабадзіць сябе ад гэтага? Пакуль душа чалавека зьвязана з целам, яна ахвочаю ёсьць жыць, а жыцьцё зь нездаволенымі жаданьнямі і страхам сьмерці спрычыняе цярпеньні. І выхад з гэтага: зьнішчыць цялесныя дрэнныя жаданьні.

Уся навука ў ягонай сьведамасьці агортвае чатыры праўды. Першая праўда заключаецца ў тым, што ўсе людзі падпарадкаваны цярпеньням. Другая праўда ў тым, што прычына цярпеньняў – юр. Трэйцяя праўда ў тым, ад цярпеньняў можна ўхіліцца на дарозе зьнішчэньня юру. Чацьвертая праўда ў тым, што ўхіленьне даконваецца чатырмя ступеньнямі збаўленьня. Вось яны:

Першая ступень: у прабуджэньні сэрца; другая – у асвабаджэньні ад брудных думак і помсты; трэйцяя ступень: асвабаджэньне самога сябе ад сумніваў, недабразычлівасьці і раздражненасьці; чацьвертая – літасьцівасьць, любоў ня толькі да людзей, але да ўсяго жывога. Утаймаваньне свайго цела непатрэбным ёсьць, галоўная ўвага павінна быць зьвернута на ачышчэньне душы ад дрэнных думак. Запраўдная прасьветнасьць, запраўднае асвабаджэньне знаходзіцца толькі ў любові. Чалавек, які заступіў любоўю свае юрлівыя жаданьні, парваў ланцугі беспрасьветнасьці, цярпеньня і вызваліўся ад цягі да дрэнных нахілаў, цярпеньня і сьмерці.

Пастановы дзеля выкананьня гэтае навукі выражаны ў дзесяцёх запаветах:

I/ Не забівай, але паважай жыцьцё.

2/ Не крадзі, на рабуй, але памагай кажнаму карыстацца вынікам свае працы.

3/ Паўстрымлівайся ад нечысьці і вядзі мужнае жыцьцё.

4/ Ня хлусі; кажы праўду, калі трэба, адважна і ветліва.

5/Ня выдумвай дрэнных чутак і не пераказвай іх.

6/ Не кляніся.

7/ Ня губі часу на пустамельле, але гавары да рэчы, або маўчы.

8/ Ня будзь прагавітым і зайздросным, але радуй-

ся з прычыны шчасьця іншага.

9/ Ачышчай сэрца ад злосьці і не падтрымлівай ненавісьці супроць ворагаў, але зь любоўю ўзірайся на кажнае жывое існаваньне.

IO/ Асвабаджайся ад няверы і старайся зразумець праўду.

Гэтакую навуку пашыраў Сідхарта. Спачатку ягоныя вучні адыйшлі ад яго, але пасьля зноў далучыліся. І ня гледзячы на прасьлед, які дазнаваў Буда з боку брамінаў, навука ягоная ўсё болей і болей распаўсюджвалася.

На працягу шасьці гадоў Буда пераходзіў зь места ў места, прапаведуючы сваю навуку. Сьмерць засьпела яго на дарозе з аднаго места ў іншае. Было яму тады 80 гадоў. Быў ён слабым, але ўсё яшчэ хадзіў і прапаведваў. У часе аднаго з гэтакіх падарожжаў ён пачуў у сабе слабасьць і, затрымаўшыся, сказаў: "Мяне мучыць смага". Вучні падалі яму вады, ён выпіў крышку, пасядзеў і пайшоў далей. Але каля ракі Хараневата ён зноў затрымаўся і, сеўшы пад дрэвам, сказаў сваім вучням: "Я чую набліжэньне сьмерці; памятайце бязь мяне ўсё, што я казаў вам". Любімы ягоны вучань Ананда, чуючы яго, ня мог стрымацца і, адыйшоўшы на бок, заплакаў. Сідхарта зараз-жа загадаў, каб прывялі яго і, пацяшаючы яго, сказаў: "Ну, супыніся, Ананда! ня плач і ня трывожся. Раней ці пазьней мы павінны пакінуць усё, што дарагім выдаецца нам. Ці-ж ёсьць што-небудзь вечным на гэтым сьвеце? Другі мае, - дабавіў ён, зьвяртаючыся да іншых вучняў, - жывеце гэтак, як я вучыў вас. Ухіляйцеся ад апутваючае сеці дрэнных нахілаў. Ідзеце тым шляхам, які я паказаў вам. Памятайце заўсёды, што разбураньне ёсьць свомым для ўсяго, што носіць прыкметы матэрыі, але што праўда не падпарадкавана разбурэньню і вечнаю ёсьць. Затым у ёй шукайце сваё збаўленьне".

Гэткімі былі ягоныя апошнія словы. Пасьля гэтага ён закрыў вусны і ціха адыйшоў з гэтага жыцьця.

РЭЛІГІЯ

Рэлігія? - Існуе Бог і чалавек мае быць добрым.

-

Існуе толькі адна рэлігія, хоць існуюць сотні рознавіднасьцяў яе.

Б. Шоў

Ісус ня кажа самаранам: адступецеся ад вашае веры, ад вашых пераказаў на карысьць жыдоўскае веры; ён ня кажа жыдам: прылучэцеся да самаранскае веры; але ён кажа і самаранам і жыдом: вы аднолькава памыляецеся. Бог ёсьць дух і Ягоная рэлігія выключна ўнутраная, якая ня вяжацца ані з месцам, ані зь якою-небудзь хвормаю. Важным тут не сьвятыня і ня служба ў сьвятыні. Важным не Ґарызім або Ерузалім. Надыйдзе час і надыйшоў ужо, калі будуць аддаваць пашану Айцу ані ў Ґарызіме ані ў Ерузаліме, але калі праўдзівыя паклоньнікі будуць аддаваць пашану Богу ў духу і ў праўдзе.

Лямэнэ

Надыходзіць час, калі абрадная, слоўная богаслужба, якая прыцягвае нас да сябе сваею паззыяю і пышнасьцю, калі прымусовае грамадзкае ўладжаньне, якое выдаецца няўхільным у вачох нашых, будуць выціснутыя разуменьнем жыцьця чалавека. Надыходзіць час Гаспадарства Нябеснага, гаспадарства Бога на Зямлі, калі само жыцьцё нашае ў нашай дзейнасьці ўсё напоўніцца сьведамым узвышэньнем Бога, бесперапыннаю паззыяю запраўднае богаслужбы, радасьць якое вычувае ў сабе чалавек, выконваючы загад Божы, памагаючы бліжняму, ратуючы гінучага і, завяршаючы запаветы Хрыстовае любові.

Вымагаецца адно галоўнае, вымагаецца зразумець рэлігію ў яе запраўдным значэньні: не ў значэньні чараў і моракі людзей, а ў значэньні навукі, разуменьня адносна жыцьця чалавека, - зразумець гэтак, каб пад богаслужбаю разумець не нешта таёмнае звышнатуральнае, чаго без пасярэдніка, без ласкі ня можна зрабіць, а разумець пад богаслужбаю любоў да Бога і бліжняга, служба для бліжняга, для агульнага дабра - каб пад богаслужбаю разумець чыненьне дабра.

Бука

Як толькі дакананая справа выясьняецца хітра сплеценымі разважаньнямі, тады і ведай, што ўся справа дрэнь.

Вырашэньні сумленьня простымі зьяўляюцца.

Л. Талстой

Усе душы належаць да аднае і тае самае сям'і, усе ажыўлены адным і тым самым сьвятлом і ўсе імкнуцца да аднаго і таго самага цэнтру, да аднаго і таго самага шчасьця. Гэта вялікая праўда, "вялічэзная для нас праўда", якая знаходзіцца ў кажнай рэлігіі, і ня толькі даводзіцца розумам, але для мяне выяўляецца глыбокім інстынктам нашае натуры.

Чанінґ

Няма, здаецце, большае трагэдыі для народу, як тая, што мы павінны трымацца веры нашых дзядоў. Бо тое, што мы называем верою нашых дзядоў, не зьяўляецца верою ані нашых дзядоў, ані прадзядаў, але прадуктам іншага і далёкага нам народу.

---

Айцец Конлей, прафэсар тэалёгіі ў Ст. Мэйнрад'скай сэмінарыі /бэнэдыктыны/, Ст. Мэйнрад, Індыяна, у The Christian Century у сувязку з тэмаю ўзгадаваньня ў новым духу сьвятарства, сярод іншага кажа:

Хрысьціянская гісторыя вучыць нас, што тое, што называецца гэрэзыяю, рэдка зьяўляецца памылковым у тым, што́ яна вызнае, як бarжджэй у тым, што́ яна запярэчвае. Іншымі словамі, штоколечы можа быць памылкаю ў інтэрпрэтацыі хрысьціянскае навукі, у васяродзьдзі гэтае памылкі ляжыць укрытая важная праўда. Гэта пашана для гэтае праўды, і для чалавечае годнасьці, як і свабода, якая дамагаецца ад кажнага з нас запраўднага ўзнаньня пазыцыі і праўдзівае яснасьці ўмыслу ў засягу ўласнае веры чалавека.

-

Сутнасьць гэрэтыка, - гэта значыць, чалавека, які трымаецца апрычонае думкі, - ёсьць тая, што ён утрымлівае свае ўласныя ідэі.

Жак Банэні́ Босюэ́

Чалавек без рэлігіі падобны да чалавека бяз сэрца.

Паводля Талстога

Шмат гадоў таму даведаўся я з газэт пра новую рэлігію, што ўзьнікла недзе ў усходні губэрнях. Сутнасьць гэтае рэлігіі, пасьлядоўнікі якое называліся выкручвайдзіркамі або дзірамолямі, звсдзілася да таго, што, пракруціўшы ў сьцяне ў якім-небудзь куце вільготнае хаты дзірку сярэдняе вялічыні, людзі гэтыя, прыкладваючы да яе свае губы, настырліва і шматкратна гукалі: хата мая, дзірка мая, ратуй мяне! – Ніколі яшчэ, здаецца, аб'ект, якому аддавалася бсская пашана, не асягваў хвормы гэтакае скрайнае ступені прымітыўнасьці. Але, калі ўсьвенчаньне пашанаю звычайнае сялянскае хаты і простае, учыненае рукамі чалавека дзіркі ў яе сьцяне, зьяўляецца яўным духовым заблуджэньнем, дык варта і трэба сказаць, што гэтае заблуджэньне было шчырае: людзі гэтыя дзіка памыляліся: але яны нікога ня ўводзілі ў памылку: пра хату гэтак яны і казалі хата, а месца, прадзіраўленае ў сьцяне, шчыра называлі дзіркаю.

Я, ведама, ня ўтрымліваю, што існавала нейкая гістарычная сувязь паміж першабытнаю сэктаю дзірамоляў і пропавядзьдзю гаспадарства Божага і эвангеля. Дый ня гэта важным тут, каб увыпукліць тоеснасьць дзьвюх "навукаў". Тоеснасьць наяўнаю стаецца – у чысьцюсенькай адмоўнасьці і беззьмястоўнасьці двух "сьветапаглядаў". Хоць "інтэлігэнтныя" дзірамолы і называюць сябе не дзірамолямі, а хрысьціянамі, і пропаведзь сваю называюць эвангелем, але хрысьціянства бяз Хрыста, і эвангеле, гэта значыць добрая вестка, без таго дабра, якое трэба было-б апавяшчаць, ёсьць гэтакім самым пустым месцам, як і кажная звычайная дзірка, выкручаная ў сялянскай хаце. Пра ўсё гэта ня трэба было-б і гаварыць, калі-б ня тое, што над нашаю рацыяналістычнаю дзіркаю ўздымаецца хрысьціянскі сьцяг, які ўводзіць у зман і зьбівае з панталыку аграмадную колькасьць малых гэтых.

Паводля Ул. Салаўёва

ПАКАЯНЬНЕ

Пакажэце мне правільнага чалавека, і я пакажу вам ягоныя недахопы.

Томас А. Эдісон

Чым лепшы чалавек, тым хутчэй парушаецца ў напрамку бязьмежнае дасканаласьці, незалежна ад таго, на якой ступені знаходзіцца ён. Затым бо беспарушная праведнасьць фарысэя ніжэйшаю ёсьць за поступ у дасканаласьці разбойніка на крыжу, які каецца.

Л. Талстой

Небясьпечна дашуквацца прычынаў нашага зла - паза намі. У падобным выпадку пакаяньне стаецца немагчымым.

Робэртсон

Глядзі-ж, не памыліся; не наракай на людзей за тое, што яны перапынілі тваю працу; бо калі-б ня было людзей, дык каму-б ты мог служыць, дый чаму трэба было-б чытаць кніжкі пра тое, як ляпей служыць людзям?

Эпіктэтос

Ня прызнавацца да сваіх дрэнных чынаў - значыць пабольшаваць іх.

Л. Талстой

Жыць трэба гэтак, каб можна было найболей злоснаму ворагу выкажыць усё, што маеш у душы.

Сэнэка

Дасканаленьне заўсёды папярэджвала пакаяньне. Дрэнна, калі чалавек уважае сябе або свой народ, як ня маючага патрэбы ў пакаяньні.

Л. Талстой

ЗНАК НА ЧОЛЕ

Як сівы запіс кажа нам, на адной паўночнай абтоцы Брытанскіх астравоў, двум братом, засуджаным за пакражу авечак былі выпаленыя на чоле дзьве літары S.T. - што значыць Sheep Thief, а пабеларуску - злодзей авечак. Адзін з братоў, ня могучы зьнесьці знаку ганьбы, уцёк у чужую краіну. Але людзі тузалі ягонае сумленьне сваімі пытаньнямі што да значэньня літараў на ягоным чоле. Затым без супачынку ён вандраваў з краю да краю, і нарэшце, змучаны і поўны горычы, памер і быў пахаваны далёка ад роднага

кута.

Другі брат пакаяўся ў душы і сказаў сабе: "Не, немагчыма мне ўцякчы ад рэчаіснасьці, што я ўкраў авечку. Астануся тутака і ўчыню ўсё, каб здабыць паважаньне маіх суседзъдзяў і самапашану".

Гады міналі за гадамі, і ён добрым жыцьцём здабыў назад славу чэснага чалавека. Аднойчы чужынец завітаў у сяло і заўважыў старога чалавека зь літарамі на чоле. Ён запытаў аднаго з тамтэйшых людзей, што-б гэтыя літары маглі значыць.

– Даўно гэта было, – адказаў запытаны селянін, – дый я не памятаю добра дробязяў справы, але мне здаецца, што літары – гэта скарот слова "SainT" – "СьвяТы".

–

## КАМЯНІ

Прыйшлі аднойчы дзьве жанчыны да старога мудрага чалавека, каб пачуць ягоную мудрасьць. Адна ўважала сябе за вялікую грэшніцу. Яна ў маладыя гады здрадзіла мужу і, не перастаючы, мучылася. Другая, наадварот, пражыўшы ўсё жыцьцё паводля закону, ані ў якім асаблівым праступку не папракала сябе і была здаволенаю.

Мудры чалавек распытаў абедзьве жанчыны пра іхнае жыцьцё. Адна са сьлязамі прызнавалася ў сваім вялікім граху. Яна ўважала свой грэх гэтак вялікім што не спадзявалася дараваньня за яго; другая жанчына наадварот, што ня чуе на сабе ніякіх грахоў. Мудры чалавек сказаў першай:

– Пайдзі ты, Богу паслухмяная, за агарожу і знайдзі мне вялікі камень – гэтакі, які толькі падняць зможаш, і прынясі сюды. А ты, – зьвярнуўся ён да тае, якая ня чула на сабе большых грахоў, – прынясі мне гэтаксама каменьняў, колькі здужаеш, але ўсё дробных.

Жанчыны пайшлі і выканалі загад старога. Адна прынесла адзін вялікі камень, другая – поўны мяшок дробных каменьняў.

Мудры чалавек паўзіраўся на каменьні і сказаў:

– Цяперака вось што зрабеце: занясеце вы назад камяні і палажэце іх на тыя самыя месцы, скуль узялі, і калі пакладзеце, вярнецеся да мяне.

І жанчыны пайшлі выконваць загад. Першая лёгка знайшла тое месца, зь якога ўзяла камень, і палажыла яго гэтак, як ён ляжаў там; але другая аніяк

не магла прыпомніць сабе, зь якога месца і які камень узяла і гэтак, ня выканаўшы загаду, з тым самым мяшком каменьняў вярнулася да мудраца.

– Вось гэтак, – сказаў старэча, – бывае і з грахамі. Ты лёгка палажыла вялікі і цяжкі камень на старое месца, затым што памятала, скуль узяла яго.

– Але ты не змагла, бо ня памятала зь якога месца ўзяла маленькія камяні.

Гэтаксама рэч маецца і з грахамі.

Ты памятала свой грэх, несла за яго дакоры людзей і ўласнага сумленьня, сьціхамірылася і затым асвабадзілася ад наступстваў грэху.

– Ты-ж, – зьвярнуўся стары да жанчыны, якая прынесла назад дробныя камяні, – грэшачы дробнымі грахамі, ня памятала, ня каялася зь іх, прызвычаілася да жыцьця ў грахох і, асуджаючы грахі іншых людзей, усё глыбей і глыбей загразала ў сваіх.

Усе мы грэшныя і ўсе мы загінем, калі ня будзем каяцца.

–

## ПРАГРЭС

Нездаволеньне зьяўляецца першым крокам прагрэсу чалавека.

Недзе прачытанае

Паслабляючая мроя пра "статус кво" - гэта азнака супольнасьці, якая супыніла сваё разьвіцьцё.

А. Салжаніцын

Людзкасьць бесперапынна дасканаліцца, і дасканаліцца не сама сабою, але тымі натугамі, якія праяўляюць людзі дзеля свае асабістае дасканаласьці. Валадарства Божае творыцца натугаю...

Л. Талстой

Мы толькі адны можам увесьці справядлівасьць у жыцьцё сьвету. Касьмічныя сілы, якія знаходзяцца вонкі нас, ня могуць зьдзейсьніць нашых ідэалаў. Калі людзкасьць, як супольнасьць сьведамых існаваньняў, ня ўчыніць гэтага, тады ніхто ня ўчыніць.

Ґіжыцкі

Грэкі ўважаюцца за найболей творчых людзей у гісторыі заходняе цывілізацыі. Мы можам быць пэўнымі, што яны атрымалі значную спадчыну з Эгіпту, з Мэзопотаміі, з Сырыі і з Малое Азыі. Аднак-жа іхнае апошняе асягненьне было арыгінальным да сваеасаблівае ступені. Яны ня толькі дадалі да таго, што атрымалі. Дарогаю альхіміі свайго гэнія яны зьіначылі старыя элемэнты ў новыя наўзоры і ў новыя інстытуцыі.

Ч. Гарольд Кінґ

Ляпей быць Сакратасам нездаволеным, чымся здаволенаю сьвінёю.

Джон Стюарт Мільл

Як ні спасьцярожным можа быць і нязначным твой удзел у вагульным руху прагрэсу, ён неабходным ёсьць, і гэта затым, што з гэтакіх нязначных, неспасьцярожных натугаў шматлікіх людзей складваецца ўсенькі рух у напрамку дабра, якім ты карыстаешся. Затым ня прыкідвайся, а нацягвай пастронкі, хоць ніхто і ня бачыць і не паганяе.

Л. Талстой

Часта чутны разважаньні адносна таго, што ўсе натугі ў напрамку зьінначаньня жыцьця, выкарчаваньня зла і абаснаваньня справядлівасьці ў жыцьці, дарэмнымі астаюцца і, што ўсё гэта нек там будзе, прагрэс усё зробіць. Людзі плылі, налягаючы на вёслы і даплылі да ўзьбярэжжа; але тыя, што зь якіх-не - будзь прычынаў ухіляліся ад прылажэньня сваіх рук да вёслаў, асталіся далёка ззаду.

Л. Талстой

Прымас Грэцка-Праваслаўнае Архіяпіскапскае Эпархіі Паўночнае і Паўдзённае Амэрыкі кажа, што веруючыя "за шмат пастарэлі. Нашая вера і наш спосаб думаньня здраджваюць усе азнакі гэтага: стухласьць і адсутнасьць духмянасьці маладосьці":

"У веку, які апавяшчае фундамэнтальную зьмену, адкідае і зносіць інстытуцыі і маральныя вартасьці, якія выявіліся як крывадушныя і нячэсныя, мы ўсё яшчэ трымаемся таго самага жыцьцёвага парадку, які ёсьць самасупярэчны сабе, неадпаведны і немагчымы для карыстаньня ім у найважнейшых справах".

"Абыходжаньне Дня Працы будзе, як заўсёды, сплямлена крывёю сотнямі ахвяраў акцыдэнтаў. Пачатак школьнага году мы адзначым нерашучым добраслаўленьнем і нашаю звычайнаю абыякаснасьцю. Будуць адчыненыя Нядзельныя школы, як звычайна, спозьнена, і парахвіяльныя праграмы засяродзяцца галоўна на тым, як палепшыць грашовыя справы". "...Мы будзем пераходзіць да дыскусыяў на тыя самыя тэмы, пераганяючы адзін аднаго ў падаваньні прычынаў зла; у нашай звычайнай павярхоўнасьці мы або будзем папракаць або апраўдваць той стан, у якім знаходзіцца нашая нацыя, нашая царква, нашыя вучыцялі, нашая моладзь, нашая супольнасьць, адносна гэтакіх справаў, як цывільныя і агульна-людзкія правы, роўнасьць паміж жанчынаю і мужчынам, рух экумэнічны, рукапалажэньне жанчын, замежная палітыка, эканамічныя справы ўнутры краю, зьмена маральнасьці, новая хваля палітычных і маральных дазволаў і г.д. - і ўсё гэта без якога-небудзь аднясеньня да асабістага сумленьня, бязь ніякае натугі крытыкі, аб'ектыўнага досьледу самога сябе".

Архіяпіскап Яковос

Гадавое Пасланьне з нагоды пачатку грэка-праваслаўнага новага году, што прыпадае на I верасьня.

Бяры прыклад з чарапахі. Яна толькі тады робіць поступ наперад, калі высоўвае сваю шыю.

Джэймс Б. Конант

РОЗУМ

Душа чалавека - гэта люстра, у якім можна бачыць вобраз боскага розуму.

Джон Рёскін

Кажны чалавек павінен мець адвагу карыстацца сваім уласным розумам.

Іммануэль Кант

Я хачу, я загадваю, няхай воля мая будзе заступлена розумам.

Дэцімус Юніюс Ювэналіс

Мы не зьяўляемся свабоднымі, але падпарадкаваны нашым схільнасьцям і іншым людзям у той ступені, у якой адступаем ад вымаганьняў розуму. Сапраўднае асвабаджэньне даконваецца толькі розумам, які развальвае кажную памылку.

Л. Талстой

Толькі скарбы розуму астаюцца ў моцы. Можна імі дзяліцца зь іншымі, нічога ня губячы; яны нават памнажаюцца, калі імі дзяліцца. Каб здабыць гэткае багацьце, трэба натужвацца.

Дэмофілёс

Рассыпце на вуліцы гарэхі і цукеркі, як зараз-жа зьбягуцца дзеці і пачнуць адбіраць іх адзін ад другога і біцца між сабою. Дарослыя людзі ня будуць біцца дзеля гэтага. А па парожныя шкарлупіны і дзеці ня будуць нагінацца. Грошы для мяне, пасады, го нары, слава - тыя самыя шкарлупіны і дзіцячыя ласункі. Няхай дзеці вызьбірваюць іх, няхай б'юцца і ганяюцца за гэтам; няхай яны цалуюць рукі багатых, стаюцца іхнымі прыслужнікамі, для мяне ўсё гэта шалупеньне. Калі прыпадкава і трапіць мне ў рукі якінебудзь гарэх, дык што-ж, можна і зьесьці яго. Але нахіляцца з прычыны яго, змагацца, звальваць каго-небудзь з ног або самому зваліцца - гэта ня мае ніякага сэнсу.

Эпіктэтос

Розум існаваў заўсёды, але не заўсёды ў разумнай хворме.

К. Маркс

З розумам і ўзгадаваньне, і кажнае прадпрыняцьце чыну нясе з сабою карысьць, а бяз розуму – шкоду.
І наагул, усё, што душа прадпрыймае і церпіць, канчаецца, – калі мудрасьць кіруе ёю, – шчасьліва, але, калі яна знаходзіцца пад кіраўніцтвам бязмыснасьці – непаводжаньнем.

Плятон
"Мэнон", 88

## Розум

Як і ў кажнай справе на гэтым сьвеце, кажны новы сродак, новая прывілея і кажная новая перавага зараз-жа ўносіць з сабою і свае нявыгоды: падобна і розум, даўшы чалавеку гэтакую вялікую перавагу перад жывёлінаю, прыносіць з сабою асаблівыя нявыгады і кладзе перад ім гэтакія шляхі спакусы, на якія ніякая жывёліна ня можа ўзыйсьці. Дзякуючы ім, здабываюць уладу над ягонаю воляю новага роду матывы, якія недаступнымі зьяўляюцца для жывёлы, пайменна, абстрактныя матывы – проста думкі, якія не заўсёды ўзьнікаюць з уласнага дасьведчаньня, і часта родзяцца, дзякуючы рэчам і прыкладам, узятым ад іншых людзей, з традыцыі і літаратуры. Паралельна з магчымасьцю РАЗУМЕНЬНЯ зараз-жа ўзьнікае перад ім і магчымасьць БЛУДЖЭНЬНЯ. А кажнае заблуджэньне, раней ці пазьней, спрычыніць шкоду, і тым большую, чым большым было яно. За асабістае заблуджэньне, чалавеку давядзецца калі-небудзь заплаціць, і часта, высокую цану; падобна, і ў вялікай прапорцыі за памылкі цэлых народаў. Затым ніколі ня будзе за шмат напаміну, што трэба выступаць супроць і выкарэньваць, як ворага людзкасьці, усякую памылку, дзе-б яна не спатыкалася і, што нямашака месца для ўпрывілеваных, і тым болей санкцыянаваных заблуджэньняў. Здольны думаць чалавек павінен выступіць супроць іх са змаганьнем, павінен нават і тады, калі-б пры гэтым людзкасьць голасна крычэла, як хворы, якому доктар раскройвае скулу...
Для масы месца фактычнага ўзгадаваньня заступае свайго роду трэніраваньне. Асягваецца яно прыкладам, навыкам і моцным замацоўваньнем з раньніх дзіцячых гадоў ведамых паняцьцяў, перад тым, як награмедзіцца гэтулькі дасьведчаньня, рассудку і сілы суджэньня, каб магчы змагацца супроць гэтага. Вось гэтак і прышчэпліваюцца думкі, якія пазьней замацоўваюцца гэтак моцна і астаюцца нагэтулькі непераможнымі для любога пагляду, быццам яны былі ПРЫ-

роджанымі; дый іх часта ўважаюць гэтакімі нават філёзафы. Гэтакім спосабам можна з аднолькавую парамыснасьцю прышчапіць людзям і справядлівае, і разумнае, і самае дурное, прывучыць іх, напрыклад, набліжацца да таго ці іншага ідала ня інакш, як напоўніўшыся сьвяшчэнным дрыжэньнем, і пры вымаўляньні ягонага імені, падаючы ніцма ня толькі целам, але і ўсенькаю сваею душою; аддаваць дабравольна сваё жыцьцё і сваю маемасьць за словы, за імёны, на абарону самых найболей выдуманых глупстваў; уважаць за найвышэйшы гонар або за найбольшы сорам тое ці гэта бяз дайпрычыны, і паводля гэтага самага шаблёну, паважаць чалавека або пагарджаць ім усенькаю сваею душою; паўстрымлівацца ад усякае мясное спажывы, як у Індастане, або есьці яшчэ цёплыя і трапечучыя жыцьцём кускі, толькі-што выкроеныя з жывое жывёлы, як у Абісыніі; пажыраць людзей, як у Новай Зэляндыі, або аддаваць сваіх дзяцей на ахвяру Молаху; вылегчваць самых сябе, добраахвотна кідацца ў вогнішча, на якім спальваюць нябожчыка, - інакш кажучы, можна іх прывучыць да чаго хочаш. Згэтуль крыжовыя паходы, распусьніцтва расфанатызаваных сэктаў, згэтуль хіліясты і хлысты, прасьледваньне гэрэтыкаў, аўто-да-фэ /вогнішчы інквізыцыі/, і ўсё тое, што можна знайсьці ў доўгім сьпіску людзкіх заблуджэньняў... Траґізм памылак і забабонаў - з практычнага пункту гледжаньня, комізм - з тэарэтычнага; няма бязглузьдзіцы, якая, калі яна ўгаворана да пераканаьня хоць-бы спачатку траім, не магла-б стацца агульным перакананьнем у народзе.

Гэтакімі зьяўляюцца нявыгадныя аспэкты, якія зьвязаны з прысутнасьцю у нас розуму.

Шопэнгаўэр

Ведаеш, Алёша, ты толькі ня сьмейся, калісьці я стварыў паэму, магчыма з год таму. Калі ты маеш цярплівасьць пабыць са мною яшчэ зь мінют дзесяць, дык я-б табе расказаў яе.

– Ты стварыў паэму?

– О не, не стварыў, – засьмяяўся Іван, – я ніколі ў жыцьці ня ўклаў нават двух вершаў. Але паэму гэтую выдумаў я і запамятаў. З запалам выдумаў. Ты будзеш першым маім чытачом, інакш кажучы – слухачом. І праўды, чаму-б аўтар меў згубіць хоць-бы адзінага слухача, – усьміхнуўся Іван. – Дык што? Расказваць ці не?

– Я вельмі слухаю, – азваўся Алёша.

– Паэма мая называецца "Вялікі інквізытар", недарэчнасьць, але мне хочацца яе пераказаць табе.

## ВЯЛІКІ ІНКВІЗЫТАР

– Вось хоць-бы і тутака, без прадмовы немагчыма, – гэта значыць без літаратурнага ўступу, цьфу! – засьмяяўся Іван, – дый які зь мяне пісьменьнік! Бачыш, падзея мая адбываецца ў шаснаццатым стагодзьдзі, а тады, – табе, і так гэта, павінна быць ведамым яшчэ са школьнае лавы, – тады якраз было ў звычаю зводзіць у паэтычных творах на зямлю зьверхнія сілы. Я ўжо не кажу пра Дантэ. У Францыі судзейскія клеркі, гэтаксама як і ў манастырох, давалі цэлыя паказы, у якіх выводзілі на сцэну Мадону, анялаў, сьвятых, Хрыста і Самога Бога. Тады ўсё гэта было вельмі проста. У "Notre Dame de Paris" +/ Віктор Гюго ў чэсьць нараджэньня французскага дофіна, у Парыжу, учасе панаваньня Люіса XI, у залі ратушу дае павучальны і дармовы паказ народу пад назовам "Le bon jugement de la tres sainte et gracieuse Vierge Marie" ++/, дзе і зьяўляецца яна сама на сцэне і агалошвае свой bon jugement. +++/ Падобныя сцэнічныя паказы, пераважна аснутыя на матывах Старога Запавету, час ад часу былі выстаўлянымі гэтаксама і ў Маскве да часу Пятра Вялікага. Апрача драматычных прадстаўленьняў было шмат рознага роду лягэндаў і балядаў, расьцярушаных па ўсім сьвеце, у якіх сьвятыя і анялы і ўсе Нябесныя сілы, калі патрэбна, бралі ўдзел. У нашых манастырох манахі былі заняты перакладамі, перапісваньнем і нават творчасьцю ў галіне гэтакіх паэмаў – і нават пад тата-

==============================

+/ Сабор Парыжскае Божае Маці.
++/ Міласэрны суд Прасьвятое Дзевы Марыі.
+++/ Міласэрны Суд.

рамі. Ёсьць, напрыклад, адна манастырская паэмка /ведама, з грэцкае мовы/, "Вандраваньне Багародзіцы па муках", з карцінкамі і адвагаю, свомаю самому Дантэ. Бажая Маці адведвае пекла, і абводзіць яе "па муках" сам арханял Міхаіл. Яна бачыць грэшнікаў і іхныя мучэньні. Сярод усяго гэтага, знаходзіцца тамака своеасаблівая група грэшнікаў у палымнеючым возеры: некаторыя зь іх гэтак глыбака пагружаныя, што ня могуць болей выплысьці, "каторых ужо Бог забывае" - выражэньне асаблівае глыбіні і моцы. І вось, удыраная бачаным і плачучая Божая Маці, пáдае перад тронам Бога і просіць дараваць ласку ўсім тым, што знаходзяцца ў пекле, усім дазваньня тым, каторых бачыла яна там. Яе гутарка з Богам будзіць аграмаднае зацікаўленьне. Яна кленчыць і просіць, яна не адыходзіць; і калі Бог паказвае ёй на раны, спрычыненыя гваздамі на руках і нагах яе Сына і пытаецца, "як Я магу дараваць Ягоным мучыцелям?" - дык яна загадвае ўсім сьвятым, усім мучанікам, усім анялам і арханялам упасьці разам зь ёю і прасіць дараваць усім дазваньня. Сцэна канчаецца тым, што яна выпрошвае ў Бога спыненьне мукаў што году, ад Вялікае пятніцы да дня Тройцы, а грэшнікі зь пекла тут-жа дзякуюць Госпаду і хорам зьвяртаюцца да Яго: "Справядлівы Ты, Госпадзе, што гэтак высудзіў". Ну вось і мая паэмка была-б прыблізна гэтакаю, калі-б зьявілася ў тым сівым часе. На маёй сцэне зьяўляецца Ён. Праўда, Ён нічога не гаворыць у паэме, а толькі зьяўляецца і адыходзіць. Пятнаццаць стагодзьдзяў мінула ад таго часу, калі Ён даў прырачэньне прыйсьці ў валадараньні сваім, пятнаццаць стагодзьдзяў мінула ад часу, калі Ягоны прарок напісаў: "Вось іду хутка". "Пра дзень-жа гэты і гадзіну ніхто ня ведае, нават і Сын, але толькі Ацец Мой нябесны", гэтак як і прадказаў Ён Сам яшчэ на зямлі. І людзкасьць чакае на Яго з тою самаю верою і з тою самаю любоўю. О, нават яшчэ з большаю верою, бо мінула ўжо пятнаццаць стагодзьдзяў з тае пары, як супыніліся знакі чалавеку зь неба:

Знакаў ізь неба ня маем сягоньня -
Вера у сэрцы хай будзе астояй.

І толькі адна вера, падшэпнутая сэрцам! Праўда, тады было шмат цудаў. Былі сьвятыя, творачыя цудоўныя аздараўленьні; да іншых беззаганных людзей, паводле жыцьцяпісаньняў іх, зыходзіла сама Царыца Нябесная. Але і дыявал ня дрэмле, і сярод людзкась-

ці пачаўся ўжо сумліў адносна запраўднасьці гэтых цудаў. Здарылася, што якраз у тым часе, у Нямеччыне, праявілася страшэнная новая гэрэзыя. Аграмадная зорка, "падобная да сьветача" /гэта значыць да царквы/ упала на крыніцу водаў, і воды сталі горкімі. Гэтыя гэрэзыі пачалі богазьняважліва адкідаць цуды. Але тыя, што асталіся вернымі, тым болей сталіся веруючымі. Сьлёзы людзкасьці ўздымаюцца да Яго як і раней, чакаюць на Яго, любяць Яго, спадзяюцца на Яго, жадаюць цярпець і памерці за Яго, як і раней... І вось праз гэтую колькасьць стагодзьдзяў людзкасьць малілася зь верою і жарам: "О, Госпадзе, Божа, зыйдзі да нас", гэтак доўга клікалі да Яго, аж пакуль Ён, у бязьмежнай літасьці Сваей, пажадаў сабе зыйсьці да тых, што маліліся. Зыходзіў, адведваў Ён і да гэтае пары іншых праведных людзей, мучанікаў і сьвятых пустэльнікаў яшчэ на замлі, гэтак, як і адцемлена ў іхных "жыцьцях". Сярод нас, Цютчаў, які глыбака верыў у праўду сваіх словаў, апавясьціў, што:

Ношай прыгнечаны крэснай
Усю цябе, зямліца родна,
Як жабрак, Я – Цар Нябесны,
Абыходзіў, славіў годна.

Што якраз гэтак і было, я табе зараз скажу.

І вось Ён зажадаў сабе зьявіцца да народу хоць на кароткі час, да народу, які мучыўся, цярпеў, да смуродна-грэшнага, да народу, які па-дзіцячаму любіў Яго. Падзея ў мяне адбываецца ў Гішпаніі, у Сэвільлі, у самым страшэнным часе інквізыцыі, калі на славу Божую ў краіне штодня гарэлі вогнішчы і

У пышных аўто да фэ
Палілі злых Гэрэтыкаў.

О, ведама, гэта ня быў той прыход, у якім прыйдзе Ён, паводля Свайго прырачэньня, напрыканцы часу ўва ўсенькай нябеснай славе і які станецца зьнічэўку, "як бліскавіца, што бліскае з усходу да захаду". Не, Ён выразіў жаданьне хоць на кароткую хвіліну адведаць сваіх дзяцей там, пайменна, дзе якраз запылалі вогнішчы гэрэтыкаў. Паводля бязьмежнае Свае спагады, Ён ходзіць яшчэ раз між людзьмі ў тым самым вобліку чалавека, у якім хадзіў тры гады паміж людзьмі пятнаццаць стагодзьдзяў таму. Ён зышоў з прычыны "гарачых стогнаў" паўдзённага места, у якім якраз напярэдадні ў "пышным аўто да фэ", у прысутнасьці караля, цэлага двору, рыцараў, кардыналаў і

чароўна прыгожых дамаў, у прысутнасьці чысьленага жыхарства ўсяго Сэвільля, была спалена кардыналам, Вялікім Інквізытарам разам блізу цэлая сотня гэрэтыкаў ad majoriam Dei+/Ён зыйшоў ціха, неспасьцярожна, і вось усе - дзіўна гэта - пазналі Яго. Гэта магло-б быць адным зь лепшых месцаў паэмы, гэта значыць, калі-б даць адказ на пытаньне, чаму якраз пазнаюць Яго. Народ зь непераможнаю сілаю імкнецца да Яго, акружае Яго, нарастае навакол Яго, ідзе за Ім. Спакойна Ён моўчкі крочыць сярод іх зь ціхім усьмехам бясконцае спагады. Сонца любові гарыць у Ягоным сэрцы, праменьні Сьвятла, Асьветы і Сілы плывуць зь Ягоных вачэй і, сьцякаючы на людзей, будзяць іхныя сэрцы да ўзаемнае любові. Ён распасьцірае свае рукі да іх, дабраславіць ім, і ад дотыку да Яго, нават ад рызьзя Ягонага, зыходзіць гоячая сіла. Вось з натоўпу ўздымае голас свой стары чалавек, сьляпы з раньняга дзяцінства: "Госпадзе, аздарові мяне, каб і мне пабачыць Цябе", і вось нешта, быццам луска, зыходзіць зь ягоных вачэй, і сьляпы данядаўна, бачыць Яго. Народ плача і цалуе зямлю, па якой Ён крочыць. Дзеці кідаюць перад Ім кветкі, пяюць і праслаўляюць Яго: "Гасанна!" "Гэта Ён, гэта Той Самы! - усе клічуць разам, - гэта мусіць быць Ён, гэта ніхто іншы, як Ён!" Ён затрымліваецца пры ўваходзе ў Сэвільлскі сабор у самую пару, калі ў сьвятыню ўносяць з плачам дзіцячую адчыняную белую трунку: у ёй сямілетняя дзяўчынка, адзіная дачка ведамага ў месьце грамадзяніна. Мертвая дзяўчынка ляжыць уся ў кветках. "Ён ажывіць тваё дзіця", - крычаць з натоўпу да плачучае маці. Патэр, што выйшаў на спатканьне труны, зьдзіўлена ўзіраецца і хмурыць бровы. Але вось разыходзіцца плач мацеры памершае дзяўчынкі. Яна кідаецца Яму ў ногі. "Калі гэта Ты, ажыві маё дзіця!" - ускрыквае яна, прасьціраючы да Яго рукі. - Працэсыя затрымліваецца, гробік апушчаюць на падлогу каля ног Ягоных. Ён глядзіць з выражэньнем спаўчуваньня і спагады, і вусны Ягоныя ціха і яшчэ раз вымаўляюць: "Таліта́ ку́мі" - "і ўраз-жа ўстала дзяўчынка". Дзяўчынка падымаецца ў труне, садзіцца і азіраецца навакол з усьміхнутым тварам і са зьдзіўлена расчыненымі вачыма, трымаючы букет розаў, уложаных у яе рукі.

У народзе зьдзіўленьне, крыкі, плач, і вось, раптам, у гэтую самую хвіліну праходзіць каля сабору сам кардынал, Вялікі Інквізытар. Ён зьяўляец-

=====================

+/ Для большае славы Госпадавае.

ца старым чалавекам, каля дзевяноста гадоў, высокі і выпрастованы, з высахшым тварам і патануўшымі вачыма, у якіх усё яшчэ іскрыцца бліск. Ён не апрануты ў сваю пышную кардынальскую вопратку, у якой ён быў дзень перад гэтым у прысутнасьці народу, калі спальваў ворагаў рымскае веры, - не, цяпер ака ён адно ў старой, тоўстай расе манаха. За ім у прадбачанай адлегласьці сьледуюць панурыя памочнікі і нявольнікі, і "сакральная старожа". Ён затрымліваецца перад натоўпам і здалёк прыглядаецца. Ён усё бачыў, ён бачыў, як паставілі труну каля Ягоных ног, бачыў, як ажыла́ дзяўчына, і твар ягоны спаважнеў. Ён хмурыць свае сівыя бровы, і позірк ягоны блішчыць агнём, што весьціць зло. Ён паказвае пальцам сваім і загадвае старожам забраць Яго. Гэтакая бо ягоная сіла і да гэтага ўжо прывучаны і пахілы і дрыжуча паслухмяны яму народ, што натоўп заразжа рассоўваецца перад старожамі, і гэтыя, сярод раптам залеглае магільнае цішыні, накладаюць на Яго рукі і вядуць Яго. Натоўп зараз-жа, увесь, як адзін чалавек, перад старцам інквізытарам сукланяецца галавамі да зямлі. Апошні моўчкі добраславіць народ і праходзіць далей. Старожа вядзе палоннага ў цесны і змрочны скляпяністы вастрог у старажытным будынку Сьвятой Інквізыцыі і Яго запіраюць у ім. Мінае дзень, сьцелецца цёмная гарачая амаль без магчымасьці дыханьня сэвільлская ноч. Паветра "пахне ляўрам і цытрынаю". Сярод глыбокага змроку раптам адчыняюцца цяжкія жалезныя дзьверы вастрогу, і сам стары, Вялікі Інквізытар са сьветачам у руцэ паволі ўваходзіць ў вастрог. Ён адзін, дзьверы за ім зараз-жа запіраюцца. Ён затрымліваецца пры ўваходзе і доўга, мінюту ці дзьве ўзіраецца ў Ягоны твар. Нарэшце бязгучна падыходзіць, ставіць сьветач на стол і кажа Яму:

— Гэта Ты? Ты? — Але, не атрымліваючы адказу, хутка дадае: — Не адказвай, маўчы. Дый што-б Ты мог сказаць? Я добра ведаю, што́ Ты скажаш. Дый права Ты ня маеш што-небудзь дадаваць да таго, што́ Ты сказаў ужо раней. І чаго-ж Ты прыйшоў перашкаджаць нам? Ты-ж бо прыйшоў перашкаджаць нам, і Сам Ты гэта ведаеш. А ці ведама Табе, што́ будзе заўтра? Я ня ведаю, хто Ты, дый ведаць ня хачу: ці гэта Ты, ці толькі Ягонае падабенства, але заўтра я засуджу і спалю Цябе на вогнішчы, як найгоршага з гэрэтыкаў, і той самы народ, які сягоньня цалаваў Твае ногі, заўтра-ж на адзін толькі мой знак кінецца падгортваць вугальле ў Тваё вогнішча, ведаеш Ты гэта? Так,

магчыма, Ты ведаеш гэта, - дадаў ён з праніклівай развагаю, ані на хвіліну не адрываючыся сьвідравальным позіркам ад свайго вязьня.

- Я ня зусім разумею, Іван. Што ўсё гэта значыць? - усьміхнуўся Алёша, які ўвесь час моўчкі слухаў. - Ёсьць-жа гэта нейкая фантазыя, ня маючае сабе мяжы, ці проста нейкая памылка старога чалавека, нейкае немагчымае qui pro quo? +/

- Прыймі хоць-бы гэтае спошняе, - рассьмяяўся Іван, - калі цябе ўжо гэтак сапсуў сучасны рэалізм, і ты не зьяўляешся ў стане зьнесьці нічога фантастычнага - хочаш qui pro quo, дык хай будзе гэтак. Яно, што праўда, - тут ён зноў рассьмяяўся, - старому дзевяноста гадоў, і ён даўно ўжо мог здурэць на сваей ідэі. Вязень мог-жа зьдзівіць яго сваім вонкавым выглядам. Дый гэта, нарэшце, мог быць проста зман, перадсьмяротная відзежа дзевяносталетняга старога, дый яшчэ распаленага ўчарайшым аўто да фэ сотняю спаленых гэрэтыкаў. Дый якая нам з табою розьніца, будзе гэта qui pro quo, ці проста бязьмежная фантазыя? Сутнасьць справы ў тым, стары адчувае патрэбу выказацца, што, нарэшце, за ўсе дзевяноста гадоў, ён выказваецца і адкрыта гаворыць тое, пра што ўсе дзевяноста гадоў маўчаў.

- А вязень гэтаксама маўчыць? Толькі глядзіць на яго і нічога ня кажа?

- Дый яно і павінна гэтак быць ува ўсіх нават выпадках, - зноў засьмяяўся Іван. - Сам стары чыніць заўвагі Яму, што Ён і права ня можа мець штонебудзь дадаваць да таго, што Ён ужо раней сказаў. Калі жадаеш, дык тутака і знаходзіцца тая характэрная рыса рымскага каталіцтва, што найменей, паводля таго, як я бачу: "усё, як той казаў, перададзена Табою Папе, і з гэтае прычыны, усё цяпернака ў Папы, а Ты хоць і зусім не паказвайся цяпер, не перашкаджай што найменей хоць на нейкі час".Яны ня толькі гавораць у гэтам сэнсе, але і пішуць, штонайменей язуіты. Гэта я сам чытаў у іхных тэалёгаў. "Ці маеш Ты права апавясьціць нам хоць адну з тайніцаў тамтаго сьвету, зь якога Ты прыйшоў? - пытаецца Яго мой стары, і сам тут-жа адказвае за Яго, - не, ня маеш, каб дадаваць да таго, што было Табою раней сказана, і каб не адабраць ад людзей свабоды, за якую Ты гэтак змагаўся, калі быў на зямлі. Усё, што Ты зноў можаш апавясьціць, будзе замахам на свабоду веры людзей, бо зьявіцца як цуд, а свабода іхнае веры была найдаражэйшаю рэчаю для Цябе тады,

====================

+/ [Адно замест другога], непаразуменьне, памылка.

паўтары тысячы гадоў таму. Ці ня Ты гэта так часта гаварыў: "Хачу ўчыніць вас свабоднымі". І вось цяперака Ты пабачыў гэтых "свабодных", - дадае раптам стары з усьмешкаю, поўнаю праніклівае думкі.- Так, справа гэтая дорага нам абыйшлася, - працягвае ён, з суворым позіркам на Яго, - але мы завяршылі нарэшце гэтую справу ў імя Тваё. Пятнаццаць стагодзьдзяў мучыліся мы з гэтаю свабодаю, але цяперака гэта скончана і скончана моцна. Ты ня верыш, што скончана моцна? Ты глядзіш на мяне гэтак пакорліва і не ўшаноўваеш мяне нават абурэньнем? Але ведай, што цяперака, і якраз цяперака гэтыя людзі перакананы болей, чымся калі-небудзь перад гэтам,што яны поўнасьцю свабодныя, а сярод іншага, яны-ж самыя і прынесьлі нам сваю свабоду і пакорліва паклалі яе ля нашых ног. Але гэта мы ўчынілі, а ці жадаў Ты сабе гэтага, гэтакае свабоды?

– Я зноў не разумею, - перапыніў яго Алёша, - праяўляе ён іронію ці насьмяхаецца?

– Зусім не. Ён якраз залічвае ў заслугу сабе і сваім, што нарэшце, усё-ж, яны перамаглі свабоду,і ўчынілі гэта дзеля таго, каб учыніць людзей шчасьлівымі. "Бо толькі цяперака /тут ён, ведама,гаворыць пра інквізыцыю/ сталася магчымым думаць упяршыню пра шчасьце людзей. Чалавек створаны быў бунтарным; ці-ж могуць бунтарныя быць шчасьлівымі? Цябе перасьцерагалі, - кажа ён Яму, - Ты не адчуваў недахопу ў перасьцярогах і ра́дах, але Ты не паслухаўся ра́даў, Ты адкінуў адзін шлях, паводля якога можна было ўчыніць людзей шчасьлівымі, але, на шчасьце, адыходзячы, Ты пераказаў усю справу нам. Ты-ж прырок, Ты зацьвердзіў сваім словам, гэта Ты сам даў нам права зьвязваць і разьвязваць, і напэўна-ж ужо, і думаць ня можаш, каб забраць гэтае права ад нас. Дык чаму-ж Ты прыйшоў перашкаджаць нам?

– І што гэта значыць: не адчуваў недахопу ў перасьцярогах і ра́дах? - запытаў Алёша.

– У гэтым і засяроджваецца галоўнае, што стары чуе патрэбу выказацца навонкі.

"Страшэнны і разумны дух, дух самазьніштажэньня і нябыцьця, - далей працягвае стары, - вялікі дух гаварыў з Табою ў пустыні, і нам пераказана ў кнігах, што быццам-бы ён "спакушаў" Цябе. Ці так гэта было? І ці можна было сказаць хоць што-небудзь запраўднае з таго, што ён апавясьціў Табе ў трох пытаньнях, і тое, што Ты адхіліў, і тое, што ў кнігах названа "спакушэньнямі"? А між іншым, калі і быў калі-небудзь на зямлі дакананы праўдзівы задзіў-

ляючае важнасьці цуд, дык гэта якраз у той дзень, у дзень гэтых трох спакусаў. Якраз у зьяўленьні гэтых трох пытаньняў і заключаўся цуд. Калі-б можна было сабе ўявіць, адно для пробы і для прыкладу, што тры гэтыя пытаньні страшнага духа бясьсьледна згублены ў кнігах і, што іх трэба адтварыць, нанова прыдумаць і стварыць, каб зноў унесьці ў кнігі, і дзеля гэтага сабраць усіх мудрацоў зямлі - валадароў, першасьвяшчэньнікаў, вучоных, філёзафаў, паэтаў, і паставіць ім задачу: прыдумайце, стварэце тры пытаньні, але гэтакія, якія, мала таго, што адказвалі-б памеру здарэньня, але і выражалі-б апрача таго, у трох словах, у трох толькі людзкіх выражэньнях, усю прышлую гісторыю сьвету і людзкасьці, - дык, ці думаеш Ты, што ўся мудрасьць зямлі, узятая разам, магла-б прыдумаць што-небудзь падобнае паводля сваае сілы і паводля глыбіні тых трох пытаньняў, якія, фактычна, былі прадложаны Табе тады магутным і разумным духам пустыні? Ужо адно хоць-бы з прычыны гэтых пытаньняў, адно паводля іх нага выяўленьня, можна разумець, што маем дачыненьне не з чалавекам несталым розумам, а зь Векавечным і Абсалютным. Бо ў гэтых трох пытаньнях быццам спалучана адна суцэльнасьць і прадвешчана ўся далейшая гісторыя людзкая і выяўлены тры вобразы, у якіх зыйдуцца усе невырашальныя гістарычныя супярэчнасьці людзкае натуры на ўсенькай зямлі. Тагды гэта не магло быць яшчэ гэтак спасьцярожным, бо будучыня ня была ведамаю, але цяперака, калі мінула пятнаццаць стагодзьдзяў, мы бачым, што ўсё ў гэтых трох пытаньнях нагэтулькі прадбачана і прадвешчана і нагэтулькі збылося, што дадаць што-небудзь да іх або адняць нічога немагчыма болей.

Вырашай Сам, хто меў рацыю: Ты ці той, каторы ставіў Табе пытаньні? Прыпомні Сабе першае пытаньне. Хоць і не даслоўна, але зьмест яго вось які: "Ты хочаш ісьці ў сьвет і ідзеш з голымі рукамі, зь нейкім прырачэньнем свабоды, якое яны, у сваей прастаце і ў прыроджаным сваім бязуладзьдзі, ня могуць сьцяміць, якое баяцца яны і палохаюцца,- бо нічога і ніколі ня было для чалавека і для людзкае супольнасьці болей нязносным, як свабода! Ці бачыш Ты гэтыя вось каменьні ў гэтай голай раскаленай пустыні? Абярні іх у хлябы, і за Табою пабяжыць людзкасьць, як стада, удзячнае і паслухмянае, хоць заўсёды дрыжучае, што Ты забярэш руку Сваю і супініцца ім хлеб Твой". Але Ты не хацеў пазбавіць чалавека свабоды і адхіліў прапанову; якая-ж бо сва-

бода, вымеркаваў Ты, калі паслухмянасьць куплена хлебам? Ты адказаў, што ня хлебам адным жыць будзе чалавек, але ці ведаеш Ты, што ў імя гэтага-ж самага хлеба зямнога і ўзбунтуецца супроць Цябе дух зямлі і судырыцца з Табою і пераможа Цябе і ўсе пойдуць за ім, уздымаючы голас: "Хто можа быць параўнаны да зьвера гэтага? Ён даў нам агонь зь неба!" Ці ведаеш Ты, што стагодзьдзі мінацімуць і людзкасьць вуснамі свае мудрасьці і навукі апавесьціць, што праступства няма шака, і значыцца, няма шака і грэху, і наяўнымі астаюцца толькі галодныя. "Накармі перш, а тады і дамагайся ад іх мужнасьці!" - вось што вырысуюць на сьцягу, які ўздымуць супроць Цябе і якім разбураць сьвятыню Тваю. На месцы сьвятыні Твае, уздымецца новы ґмах, уздымецца зноў страшэнная Бабілёнская вежа, і хоць і яна не дабудуецца, гэтаксама як і папярэдняя, але ўсё-ж Ты мог-бы ўхіліцца ад гэтае новае вежы і на тысячу гадоў скараціць цярпеньні людзей, бо-ж да нас прыйдуць яны, прамучыўшыся тысячу гадоў се сваею вежаю! Яны знойдуць нас тады зноў пад зямлёю, у катакомбах, нас, каторыя хаваюцца /бо нас зноў будуць прасьледаваць і мучыць/, знойдуць нас і загалосяць да нас: "Накармеце нас, бо тыя, што прыраклі нам агонь зь неба, не далі нам". І тады мы ўжо і дабудуем іхную вежу, бо дабудуе той, хто накорміць, а накормім толькі мы, у імя Тваё, і схлусім, што ў імя Тваё. О, бяз нас ніколі, ніколі яны не накормяць сябе! Аніякая навука ня дасьць ім хлеба, пакуль яны будуць аставацца свабоднымі, але кончыцца тым, што яны прынясуць сваю свабоду і пакладуць яе ля нашых ног і скажуць нам: "Ляпей панявольвайце нас, але накармеце нас". Яны самыя зразумеюць нарэшце, што свабода і зямны хлеб удосталь для кажнага разам неасягальнымі зьяўляюцца, бо гэтыя два ніколі, ніколі ня змогуць разлучыцца між сабою! Пераканаюцца гэтаксама, што ня змогуць быць ніколі і свабоднымі, затым, што яны маласільныя, заганныя, мізэрныя і бунтарныя. Ты прыракаў ім хлеб нябесны, але я зноў паўтараю, ці можа ён быць параўноўваны з зямным хлебам у вачох слабога, заўсёды заганнага і заўсёды нешляхэтнага роду людзкага? І калі за Табою ў імя хлеба нябеснага пойдуць тысячы і дзесяткі тысяч, дык што станецца з міліёнамі і зь дзесяткамі тысяч міліёнаў існаваньняў, якія ня знойдуцца даволі сільнымі, каб адкінуць хлеб зямны дзеля нябеснага хлеба? А мо' дарагімі Табе толькі дзесяткі тысяч вялікіх і сільных, а ўсе іншыя міліёны шмат-

лікія, як моркі пясок, слабыя, хоць і любяць Цябе, павінны адно стацца матэрыялам для вялікіх і сільных? Не, для нас дарагімі астаюцца і слабыя. Яны грэшныя і бунтарныя, але пазьней гэтаксама і яны стануцца паслухмянымі. Яны будуць дзівіцца з нас, і будуць уважаць нас за багоў за тое, што мы, стаўшы на чале іх, згадзіліся зносіць свабоду, якую яны ўважаюць за нешта дрэннае, і панаваць над імі – гэтак жахліва выдасца ім быць свабоднымі! Але мы скажам ім, што мы паслухмянымі астаемося Табе і libаnуем у імя Тваё. І іх зноў ашукаем, бо Цябе мы ўжо ня пусьцім ад сябе. У гэтым ашуканстве і будзе заключацца нашае цярпеньне, бо мы мусіцімем хлусіць.

Вось дзе ляжыць важнасьць першага пытаньня ў пустыні, і гэта ёсьць тое, што Ты адкінуў у імя свабоды, якую Ты праславіў і ўзьняў вышэй за ўсё. А між тым, у гэтым пытаньні крылася вялікая тайніца гэтага сьвету. Прыняўшы "хлеб", Ты-б здаволіў сусьветную і заўсёдытрываючую тугу чалавечую, як паасобнага інаваньня, гэтак і суцэльнае людзкасьці, узятае разам – гэта: "перад кім пакланіцца". Як доўга чалавека астаецца свабодным, ён да нічога гэтак бесперапынна і гэтак зацята ня імкнецца, як знайсьці каго-небудзь, каму мог-бы ён аддаваць пашану. Але чалавек шукае гэтакага аб'екту пакланеньня, які ўжо бясспрэчна прызнаваным ёсьць, і нагэтулькі прызнаным, каб усе людзі сумесна згадзіліся на агульнае пакланеньне яму. Бо ўся ўвага годных літасьці тварэньняў не на тым толькі засяроджваецца, каб займець тое, перад чым мне ці іншаму аддаваць пашану, але каб займець гэтае нешта, каб усе паверылі ў яго і сукланіліся перад ім і, каб абавязкава ўсе разам. Вось гэтая патрэба супольнага аддаваньня пашаны і зьяўляецца галаўнейшым цярпеньнем кажнага чалавека, як адзінкі і як цэлага чалавецтва з самага пачатку вякоў. З прычыны нахілу да супольнага аддаваньня пашаны, яны ўзаемна вынішчаліся мячом. Яны тварылі сабе багоў і заклікалі адзін аднаго: "Кіньце вашых багоў і прыдзеце пакланецеся нашым, а як не, дык сьмерць вам і багом вашым!" І гэтак будзе да сканчэньня сьвету, нават і тады, калі шчэзнуць на сьвеце багі: Усяроўна яны будуць пахіляць свае галавы перад балванамі. Ты ведаў, Ты ня мог ня ведаць гэтае аснаўное тайніцы чалавечае натуры, але Ты адкінуў адзінае абсалютнае значэньне, якое прапанавалася Табе, каб змусіць усіх сукланіцца перад Табою бясспрэчна – знаменьне хлеба зямнога, і Ты адкінуў у імя свабоды і хлеба нябесна-

га. Паўзірайся, што зрабіў Ты далей. І зноў у імя свабоды! Кажу Табе, што нямашака для чалавека болей балючага клопату, як знайсьці сабе таго, каму мог-бы ён як найбарджджэй пераказаць той дар свабоды, зь якім гэтае няшчаснае існаваньне родзіцца. Але захоплівае свабоду людзей толькі той, хто супакоіць іхнае сумленьне. З хлебам давалася Табе бясспрэчнае знамя: дасі хлеба, і чалавек суклоніцца, бо нямашака нічога болей пэўным, як хлеб. Але калі хто-небудзь іншы апрача Цябе здабудзе ягонае сумленьне - о, тады ён адкіне Твой хлеб і пойдзе за тым, хто спакусіў ягонае сумленьне. У гэтым Ты меў рацыю, бо тайніца жыцьця чалавека ня ў тым, каб адно жыць, а ў тым - дзеля чаго жыць. Бяз моцнага ўсьведамленьня сабе, дзеля чаго яму жыць, чалавек ня згодзіцца жыць. Ён барджджэй зьнішчыць сябе, чымся застанецца на зямлі, хоць-бы навакол сябе меў ён хлеба пад дастакам. Гэта праўда. Але што-ж здарылася? Замест таго, каб забраць свабоду ад людзей, Ты надарыў іх яшчэ большаю свабодаю! А мо' Ты забыў, што супакой, а нават і сьмерць, для чалавека даражэйшымі зьяўляюцца, чымся свабодны выбар у пазнаньні дабра і зла? Нічога няма болей спакушаючага для чалавека, як свабода ягонага сумленьня, але нічога і большаю прычынаю ягоных цярпеньняў. І вось замест непахісных асноваў дзеля заспакаеньня сумленьня раз і назаўсёды - Ты ўзяў усё, што ёсьць выняткавым, няпэўным і неакрэсьленым; узяў усё, што было па-за межамі людзкіх магчымасьцяў, і гэтым самым, паступіў Ты, быццам, ня любячы іх зусім, - і гэта хто-ж? - Той, каторы прыйшоў аддаць сваё жыцьцё за іх! Замест таго, каб забраць свабоду людзкую, Ты памножыў яе і абцяжыў гэтым яе мучэньнямі валадарства духа чалавека навекі. Захацелася Табе свабоднае любові чалавека, каб свабодна пайшоў ён за Табою, спакушаны і запалонены Табою. Замест суворага старадаўнага права - свабодным сэрцам павінен быў чалавек вырашаць сам для сябе, што ёсьць дабро, і што - зло, маючы, як дарагаўсказ перад сабою, Твой вобраз, - але ня ўжо-ж Ты не падумаў пра тое, што ён нарэшце адкіне і будзе аспрэчваць нават і Твой вобраз і Тваю праўду, калі яго прыціснуць гэткім страшэнным берамем, як свабода выбару? Нарэшце яны загалосяць, што праўда не ў Табе, бо немагчыма было пакінуць іх у зьбянтэжанасьці і мучэньнях даўжэй, чымся ўчыніў гэта Ты, пакідаючы ім гэткае мноства клопату і нявырашаных пытаньняў. Затым бо сам Ты і заклаў аснову разбурэньня Твайго валадар-

ства, дык і не абвінавачвай нікога ў гэтым. А між іншым, ці гэта прапанавалася Табе? Існуюць тры сілы на зямлі, толькі тры, якія могуць назаўсёды перамагчы і запалоніць сумленьне гэтых бясьсілных бунтарных людзей, дзеля іхнага шчасьця, – сілы гэтыя ёсьць: цуд, тайніца і аўтарытэт. Ты адкінуў усе тры і гэтым сам Ты даў прыклад. Калі страшны і мудры дух паставіў Цябе на ўзвышшы сьвятыні і сказаў Табе: "Калі хочаш даведацца, ці Сын Ты Божы, дык кінься ўніз, бо напісана пра таго, што анялы падхопяць і панясуць Яго, і ўпадзе і не абаб'ецца, і даведаешся тады, ці Сын Ты Божы, і выявіш тады, якая Твая вера ў Айца Твайго", але Ты, выслухаўшы, адкінуў прапанову і не паддаўся і ня кінуўся ўніз. О, ведама, Ты паступіў тут горда і пышна, як Бог; але людзі не зьяўляюцца слабым бунтарным племем – ці не багі яны? Ты зразумеў тады, што, зрабіўшы адзін толькі крок, адзін рух кінуцца ўніз, Ты ў тую-ж хвіліну спакусіў-бы Госпада, і згубіў-бы ўсю веру ў Яго, і разьбіўся-б аб зямлю, якую прыйшоў ратаваць, і ўсьцешыўся-б разумны дух, які спакушаў Цябе. Але, яшчэ раз пытаю, ці шмат гэтакіх, як Ты? І запраўды, мог Ты дапусьціць хоць на мінюту, што людзі знойдуцца на адпаведным ўзроўні, каб перамагчы гэтакую спакусу? Ці гэтак створана людзкая натура, каб магла адкінуць цуд ў гэтакія жахлівыя мамэнты жыцьця, мамэнты самага страшнага духовага дасьведчаньня, каб трымацца адно свабодных пастановаў сэрца? О, Ты ведаў, што чын Твой перахаваецца ў кнігах, дойдзе да глыбіньняў часу і да апошніх скраінаў зямлі, і Ты спадзяваўся, што, ідучы за Табою, чалавек будзе хіліцца да Бога, не патрабуючы цуду. Але Ты ведаў, што хай чалавек хоць крышку адсуне цуд набок, дык зараз-жа адхіліцца ад Бога, бо ня гэтулькі чалавек шануе Бога, як барждзэй цуды. І калі чалавек ня можа трываць бяз цуду, дык натворыць сабе новых цудаў, гэтым разам уласных і пачне кланяцца знахарскаму суду, чарам ведзьмаў, нават тады, калі-б ён сто разоў быў бунтарным, гэрэтыкам і бязбожнікам. Ты ня зышоў з крыжа, калі крычалі Табе, зьдзекваліся над Табою і гіркаючыся з Табою: "Зыйдзі з крыжа і мы паверым, што гэта Ты". Ты ня зышоў затым, што, зноў-жа, не жадаў сабе паняволіць чалавека цудам і жадаў свабоднае веры, а ня цудоўнае. Ты жадаў свабоднае любові, а не нявольніцкага захопленьня падярэмнага перад магутнасьцю, трымаючаю яго ў глыбокай пашане назаўсёды. Але і тутака думаў Ты пра людзей вельмі высака, бо-ж яны,

ведама, нявольнікі, хоць з натуры бунтарныя. Абярніся і судзі; мінула ўжо пятнаццаць стагодзьдзяў, паглядзі на іх: каго-ж Ты ўзьняў да Сябе? Клянуся, чалавек слабейшым і шмат ніжэйшым створаны, чымся Ты думаў пра яго! Ці можа ён выконваць тое самае, што і Ты? Гэтак шмат паважаючы яго, Ты ўсуаднёсься да яго, быццам перастаў спагадаць яму, затым, што празьмерна вялікія вымаганьні паставіў перад ім, - і хто-ж гэта, ці ня Той, каторы ўзьлюбіў яго болей, чымся самога сябе! Калі-б Ты меней паважаў яго, меней дамагаўся-б ад яго, гэта было-б бліжэй да любові, бо ягоны цяжар быў-бы лягчэйшым. Ён слабы і падлюга. Што ў тым асаблівага, што ён цяперака ўсюды бунтуецца супроць нашае ўлады і куражыцца, што бунтуецца? Гэта фанабэрыстасьць дзіцяці і вучня. Гэта маленькія дзеці, што ўзбунтаваліся ў клясе і выгналі вучыцеля. Але надыйдзе канец і дзіцячаму захопленьню, дорага гэта абыдзецца ім. Яны паваляць сьвятыні і зальюць крывёю зямлю. Але дагадаюцца нарэшце някемныя дзеці, што хоць яны і бунтаўнікі, але хірлявыя яны бунтаўнікі, уласнага свайго бунту ня вытрымліваюць. Абліваючыся глупымі сваімі сьлязьмі, яны, нарэшце, прыходзяць да сьведамасьці, што Той, Хто стварыў іх бунтаўнікамі, бяз сумліву, хацеў пажартаваць над імі. Скажуць гэта яны ў адчаі, і тое, што яны скажуць, будзе блюзьнерствам, з прычыны якога яны яшчэ болей стануцца нешчасьлівымі, бо людзкая натура ня зносіць блюзьнерства, і нарэшце сама-ж і адпомсьціць за яго. Занятым, несупакой, сумяціцца і няшчасьце - вось сяньняшні ўдзел людзей пасьля таго, як Ты гэтулькі нацярпеўся за іхную свабоду! Вялікі прарок Твой у візджэы і ў алегорыі кажа, што бачыў усіх удзельнікаў першага ўваскрасеньня, і што было іх з кажнага калена па дзьвенаццаці тысяч. Але, калі было іх гэтулькі, дык былі яны быццам ня людзі, але багі. Яны выцерпелі крыж Твой, яны выцерпелі дзясяткі гадоў галоднае і голае пустыні, жывячыся саранчою і карэньнем, - і мусіць Ты ўжо можаш з гордасьцю паказаць на гэтых дзяцей свабоды, свабоднае любові, свабоднае і цудоўнае ахвяры іхнае ў імя Тваё. Але ўспомні, што іх было толькі некалькі тысяч, дый то - багоў; а дзе-ж рэшта? І ў чым віна ўсіх іншых слабых людзей, што не маглі выцярпець таго, што маглі выцярпець магутныя? У чым-жа віна слабое душы, што ня была ў стане ўспрыняць гэтак страшных дарункаў? Дый ня ўжо-ж прыходзіў Ты толькі да выбраных і дзеля выбраных? Але, калі гэта так, дык тут

тайніца гэткая, што і нам не съцяміць яе. А калі тайніца, дык і мы былі апраўданымі прапаведваць тайніцу і вучыць іх, што не свабоднае вырашэньне сэрцаў іхных важным ёсьць, і ня любоў, а тайніца, якой яны сьлепа павінны павінавацца, нават наўсуперак іхнаму сумленьню. Гэтак і ўчынілі мы. Мы палепшылі чын Твой і абаснавалі яго на цудзе, тайніцы і аўтарытэце. І людзі ўзрадаваліся, што іх зноў павялі, як стада і, што гэты страшэнны дарунак, які спрычыніў ім гэтулькі цярпеньня, нарэшце быў зьнятые зь іхных сэрцаў. Скажы, ці мелі мы рацыю, вучачы і чынячы гэтак? Ці-ж ня любілі мы людзкасьць, зразумеўшы гэтак богабойна яе бязраднасьць, зь любоўю, чынячы цяжар яе лёгкім і дазволіўшы слабой натуры яе хоць-бы і грэх, але пры нашым дазволе? Дзеля чаго, затым, прыйшоў Ты нам перашкаджаць? І чаму Ты ціха і пранізьліва ўзіраешся на мяне лагоднымі сваімі вачыма? Разазлуйся, я ня хочу Тваей любові, бо і сам ня люблю Цябе. І што-ж мне ўтойваць ад Цябе? Ці я ня ведаю з Кім гавару? Тое, што маю сказаць Табе, усё Табе ўжо ведамым ёсьць, я чытаю ў Тваіх вачох. Або маю я ўтойваць ад Цябе нашую тайніцу? Магчыма Ты, якраз, хочаш пачуць яе з вуснаў маіх, дык слухай: мы не з Табою, а зь ім, вось наша тайніца! Мы даўно ўжо не з Табою, а зь ім, ужо восем стагодзьдзяў. Роўна восем стагодзьдзяў таму, як мы ўзялі ад яго тое, што Ты з абурэньнем адкінуў, той апошні дар, які ён прапанаваў Табе, паказваючы Табе ўсе валадарствы зямныя. Мы пераняли ад яго Рым і меч цэзара і апавясьцілі сябе валадарамі зямлі, адзінымі валадарамі, хоць і да гэтага часу не пасьпелі яшчэ правесьці нашае справы да поўнага завяршэньня. Але хто вінаваты? О, справа гэтая да сягоньняшняга дня ўсё яшчэ знаходзіцца на пачатку, але яна пачалася. Доўга яшчэ чакаць на завяршэньне яе, і яшчэ шмат выцерпіць зямля, але мы асягнем і будзем цэзарамі, і тады мы будзем плянаваць сусьветнае шчасьце людзей. Але Ты ўжо тады мог узяць меч цэзара. І чаму Ты адхіліў гэты апошні дар? Прыняўшы гэтую трэйцюю раду магутнага духа, Ты асягнуў-бы ўсё тое, што шукае чалавек на гэтай зямлі - гэта значыць, перад кім яму кланяцца, каму даручыць сваё сумленьне і якім спосабам, нарэшце, злучыцца ўсім у бясспрэчны агульны і сузгодны мурашачнік, бо патрэба ўнівэрсальнага аб'еднаньня ёсьць трэйцяе і апошняе мучэньне людзей. Заўсёды людзкасьць у сваей суцэльнасьці імкнулася ўладзіцца абавязкава сусьветна. Шмат было вялікіх народаў

зь вялікаю гісторыяю, але чым вышэйшымі былі гэтыя народы, тым болей чуліся няшчаснымі, бо глыбей ад іншых асэнсоўвалі патрэбу сусьветнасьці злучэньня людзей. Гэтакія вялікія заваёўнікі, як Цімуры, Чынгіс-ханы, праляцелі, як віхар па зямлі, імкнучыся заваяваць увесь сьвет, але і яны, хоць і падсьведама, выразілі тую-ж самую вялікую патрэбу людзкасьці да сусьветнага і агульнага аб'еднаньня. Пераняўшы сьвет і цэзарскую пурпурную мантыю, Ты заснаваў-бы сусьветнае валадарства і прыгарнуў-бы для людзей сусьветны супакой. Бо, і запраўды, каму-ж не панаваць над людзьмі, як ня тым, каторыя маюць у сваім валоданьні іхнае сумленьне, і ў сваіх рукох хлеб іхны? Мы і ўзялі меч цэзара, а ўзяўшы яго, ведама, адкінулі Цябе і пайшлі за ім. О, мінуць яшчэ векі басчынства свабоднага розуму, іхныя навукі людажэрства, затым што, пачаўшы выводзіць уверх сваю Бабілёнскую вежу бяз нас, яны кончаць людажэрствам. Але тады вось бо і прыпаўзе да нас зьвер і будзе лізаць нашыя ногі і апырскае іх крывавымі сьлязьмі са сваіх вачэй. І мы сядзем на зьвера і ўздымем чашу, і на ёй будзе напісана "Тайніца!" І тады тольькі, і толькі тады настане для людзей валадарства супакою і шчасьця. Ты ганорышся сваімі выбранымі, але ў Цябе толькі выбраныя, а мы супакоім усіх. Дый ці так гэта яшчэ: колькі-ж з гэтых выбраных, гэтых магутных калісьці, якія маглі-б стацца выбранымі, але яны, чакаючы на Цябе, змучыліся, нарэшце, перанесьлі і будуць пераносіць сілу духа свайго і полымя сэрца свайго на іншы грунт і кончаць тым, што ўздымуць яны супроць самога Цябе свой свабодны сьцяг. Але гэта быў Ты, каторы ўзьняў гэты сьцяг. У нас усе будуць шчасьлівымі і ня будуць болей ані бунтавацца, ані нішчыць адзін аднаго, гэтак, як у Тваей свабодзе. О, мы пераканаем іх, што яны толькі тады і стануцца свабоднымі, калі адмовяцца ад свае свабоды для нас і падпарадкуюцца нам. І як? Мецімем мы рацыю, ці змахлюем? Яны самыя пераканаюцца, што мы маем рацыю, бо яны ўспомняць да якога жудасу няволі і сумяціцы вяла іх свабода Твая. Свабода, свабодны розум і навука завядуць іх у гэтакія непраходныя пушчы і паставяць іх тварам у твар перад гэтакімі цудамі і неразгаданымі тайніцамі, што адны зь іх - бунтарныя і асьцярвянелыя - будуць нішчыць самых сябе, іншыя непаслухмяныя, але пазбаўленыя моцы, зьнішчаць адзін другога, а яшчэ іншыя, астаючыся ў бясьсільлі і моцы, і няшчасныя, прыпаўзуць да нашых ног і будуць кленчыць перад на-

мі: "Так, вы мелі рацыю, вы адны валадарылі Ягонаю тайніцаю, і мы вяртаемся да вас, ратуйце нас ад самых сябе".

Атрымліваючы хлеб ад нас, ведама, яны будуць выразна бачыць, што мы бярэм ад іх іхны-ж хлеб, здабыты іхнымі ўласнымі рукамі, каб абдарыць іх хлебам без якогаколечы цуду. І яны будуць бачыць, што мы не зьінначвалі каменя ў хлеб, але, фактычна, яны будуць болей удзячнымі з прычыны факту, што бяруць яго з нашых рук, чымся з прычыны самога хлеба! Бо яны будуць вельмі добра памятаць, што раней, без нашае дапамогі, той хлеб, які яны самыя здабылі, у іхных рукох абяртаўся ў камяньні, а цяпер-жа, калі яны вярнуліся да нас - самыя камяньні ў іхных рукох абярталіся ў хлеб. Вельмі і вельмі дацэняць яны і пазнаюць вартасьць поўнага падпарадкаваньня! І пакул людзі не зразумеюць гэтага - гэтак доўга будуць яны нешчасьлівымі. І хто найболей спрычыніўся да гэткага разуменьня, скажы? Хто разьбіў гурт і расьцярушыў яго ўва ўсе напрамкі няведамых шляхоў? Але стада зноў сузграмадзіцца і зноў падпарадкуецца і ўжо на ўсенькія часы. Тады мы дамо ім спакойнае, ціхмянае шчасьце слабых існаваньняў, якімі яны і зьяўляюцца з натуры. О, мы, нарэшце, пераканаем іх перастаць быць ганарыстымі, бо Ты ўзьняў іх і гэтым навучыў ганарыцца. Мы пакажам ім, што яны слабымі зьяўляюцца, што яны толькі жалю годныя дзеці, але дзіцячае шчасьце найлепшаю рэчаю на сьвеце ёсьць. Яны стануцца рахманымі і пачнуць глядзець на нас і ў жаху туліцца да нас, як кураняты да квактухі. Яны будуць дзівіцца з нас, палохацца нас, і ганарыцца тым, што мы гэтак магутнымі зьяўляемся і разумнымі і, што змаглі ўціхамірыць гэтакую аграмадную тысячаміліённую чараду. Яны будуць млява дрыжэць перад гневам нашым, іхныя розумы анесьмялеюць, вочы іхныя стануць сьлёзнымі, як у дзяцей і жанчын, але нагэтулькі-ж і лёгка, на адзін толькі наш знак, будуць пераходзіць да вясёласьці і рогату, да сьветлае радасьці як і да шчасьлівае дзіцячае песенькі. Так, мы змусім іх працаваць, але ў вольныя ад працы гадзіны мы наладзім ім жыцьцё, як дзіцячую гульню, зь дзіцячымі песьнямі, хорам, з наіўнымі скокамі. О, мы дазволім ім нават грашыць, яны слабыя і бездапаможныя, і яны будуць любіць нас, як дзеці, за тое, што мы дазволім ім грашыць. Мы скажам ім, што ўсякі грэх будзе адкуплены, калі будзе дакананым пры нашым дазволе; а дазваляем мы грашыць толькі затым, што мы любім іх, кару-ж за гэ-

тыя грахі, - хай так і будзе, - возьмем на сябе. І возьмем на сябе, і нас яны будуць абагаслаўляць, як дабрачынцаў, што панесьлі на сабе іхныя грахі перад Богам. І ня будзе ў іх перад намі ніякіх тайніцаў. Мы будзем дазваляць або забараняць ім жыць зь іхнымі жонкамі і каханкамі, мець або ня мець дзяцей - і ўсё паводля ступені іхнае паслухмянасьці - і яны будуць паслухмянымі нам зь вясёласьцю і радасьцю. Найболей балючыя тайніцы іхнага сумленьня - усё, усё яны панясуць нам, а з нашага боку - мы ўсё дазволім, і яны з радасьцю паверацць у нашае вырашэньне, затым, што яно выратуе іх ад вялікае турботы і страшэнных сучасных мучэньняў іхнага асабістага і свабоднага вырашэньня. І ўсе будуць шчасьлівымі, усе міліёны існаваньняў, апрача сотняў тысяч тых, што кіруюць імі. Бо толькі мы, мы, што перахоўваем тайніцу, толькі мы будзем няшчаснымі. Будуць тысячы міліёнаў шчасьлівых немаўляткаў і сто тысяч тых, што будуць цярпець, тых, што ўзялі на сябе праклён пазнаньня дабра і зла. Ціха сканаюць яны, ціха пагаснуць у імя Тваё і за магілаю знойдуць адно толькі сьмерць. Але мы атулім сам сэкрэт і для іхнага-ж шчасьця будзем вабіць іх нябеснаю і вечнаю ўзнагародаю. Бо, калі-б і было нешта на тамтым сьвеце, дык напэўна ўжо, што не для гэтакіх, як яны. Кажуць і прадказваюць, што Ты прыйдзеш і зноў пераможаш, прыйдзеш са сваімі выбранымі, са сваімі ганарыстымі і магутнымі, але мы скажам, што яны збавілі адно самых сябе, а мы збавілі ўсіх. Кажуць, што блудніца, што сядзіць на зьверу і трымае ў сваіх рукох "тайніцу" будзе зьнеслаўленая, што слабыя зноў узбунтуюцца, што разарвуць ейную каралеўскую мантыю і абножаць да гола яе "агіднае" цела. Але я тады ўстану і пакажу Табе на тысячы міліёнаў, якія ня ведалі грэху. І мы, што ўзялі іхныя грахі дзеля іхнага шчасьця, мы станем перад Табою і скажам: "Судзі нас, калі Ты можаш і маеш адвагу". Ведай, што я не баюся Цябе. Ведай, што і я быў у пустыні, што і я жывіўся саранчою і карэньнем, што гэтаксама і я добраславіў свабоду, якою Ты добраславіў людзей, і я рыхтаваўся знайсьціся ў ліку выбраных Тваіх, у ліку магутных і сільных з прагнасьцю "завяршыць лік". Але я прачхнуўся і не жадаў сабе служыць бязмыснасьці. Я вярнуўся і далучыўся да мноства тых, што паправілі чын Твой. Я адыйшоў ад фанабэрыстых і вярнуўся да ціхмяных дзеля шчасьця гэтых ціхмяных. Тое, што я кажу Табе, зьдзейсьніцца, і валадарства нашае прыйдзе да быць-

ця. Яшчэ раз кажу Табе, заўтра Ты сам пабачыш гэты паслухмяны гурт, які на мой знак кінецца падгрэбваць гарачы попел пад Тваё вогнішча, на якім спалю Цябе за тое, што прыйшоў перашкаджаць нам. Бо калі і быў хто-небудзь, хто найболей заслужыў на нашае вогнішча, дык гэта Ты. Заўтра я спалю Цябе. Dixi.+/

Іван затрымаўся. Гаворачы, ён глыбака патануў у думцы і гаварыў з захопленьнем. Калі кончыў, ён усьміхнуўся.

Алёша, які ўвесь час слухаў яго моўчкі, напрыканцы-ж, да скрайнасьці ўсхваляваны, які некалькі разоў прабаваў перапыніць гутарку брата, але спасьцярожна стрымліваючы сябе, цяперака хутка загаварыў.

– Але-ж... гэта бязглузьдзіца, – крыкнуў ён чырванеючы. – Паэма твая зьяўляецца хвалою для Ісуса, а не зьняслаўленьнем – як гэта было тваім замерам. І хто табе паверыць пра тваю свабоду? Ці гэтак яе трэба разумець?! Ці гэтак разумее праваслаўе... Гэта Рым, дый ня ўсенькі Рым, гэта няпраўда – гэта горшыя з каталіцтва, інквізытары, езуіты!... Дый зусім ня можа быць гэтакага фантастычнага характару, як твой інквізытар. Якія гэта грахі, узятыя на сябе? Якія гэта носьбіты тайніцы, каторыя ўзялі на сябе нейкі праклён дзеля шчасьця людзей? Хто іх калі бачыў? Мы ведаем езуітаў, пра іх выражаюцца дрэнна, але напэўна яны не зьяўляюцца гэтакімі, якімі ты іх выяўляеш. Яны зусім ня гэтакія, зусім ня гэтакія... Яны проста рымская армія для прышлага зямнога валадарства на сьвеце з імпэратарам – рымскім Першасьвяшчэньнікам на чале... вось іхны ідэал, але без якіхколечы тайніцаў або ўзьнятае журбы. Самае звычайнае жаданьне ўлады, зямнога бруднага дабра, паняволеньня... нешта падобнае да прышлага прыгоннага права, з тым, што яны станýца абшарнікамі... вось і ўсё ў іх. Магчыма, яны і ў Бога ня вераць. Твой інквізытар, што церпіць – гэта адна фантазыя.

– Ды пачакай, пачакай, – сьмяяўся Іван, – бач, як разгарачыўся ты. Фатназыя, кажаш ты, ну й добра. Ведама, фантазыя. Але дазволь, аднак-жа: няўжо-ж ты і запраўды думаеш, што ўвесь гэты каталіцкі рух апошніх стагодзьдзяў – гэта справа аднаго толькі жаданьня ўлады дзеля аднаго толькі зямнога бруднага дабра. Ці ня толькі ацец Паісій гэтак цябе вучыць?

– Не, не, наадварот, ацец Паісій казаў аднойчы

---

+/ Я сказаў.

нешта нават падобнае да таго, што́ ты кажаш...але, ведама, ня тое, зусім ня тое, – паправіў раптам сябе Алёша.

– Каштоўная, аднак-жа, вестка, ня гледзячы на тваё "зусім ня тое". Я якраз і пытаюся цябе, чаму твае езуіты і інквізытары суспольніліся дзеля аднаго толькі матэрыяльнага дрэннага дабра? І чаму-ж ня можа быць сярод іх ані воднага мучаніка, які церпіць з прычыны вялікае тугі і любові адносна людзкасьці? Паўзірайся: прымем, што з усіх тых, што імкнуцца адно толькі да матэрыяльнага і бруднага дабра знайшоўся адзін, гэтакі, як мой стары інквізытар, каторы сам жывіўся карэньнем у пустыні і непакоіўся, перамагаючы немач цела свайго, каб учыніць сябе свабодным і дасканалым, але, аднак-жа, усё сваё жыцьцё любіў чалавецтва як раптам вочы яму адчыніліся і ён убачыў, што не вялікім маральным добраслаўленьнем зьяўляецца займець дасканаласьць і свабоду, калі ў тым самым часе пераконваецца ён, што міліёны іншых Божых існаваньняў створанымі былі быццам дзеля жарту, што яны ніколі ня ўправяцца са сваею свабодаю, што зь бедных іх і бунтарных ніколі ня выйдуць волаты дзеля завяршэньня вежы, што не для гэтакіх гусей Вялікі Ідэалісты мроіў пра сваю гармонію. Зразумеўшы ўсё гэта, ён вярнуўся і далучыўся... да разумных людзей. Ці-ж не магло здарыцца нешта падобнае?

– Далучыўся да каго, да якіх разумных людзей?! – не памятаючы сябе, у газарце выкрыкнуў Алёша. Няма ў іх ніякага гэтакага розуму і ніякіх такіх тайніцаў і сэкрэтаў... адно хіба бязбожнасьць, гэта і будзе ўсім іхным сэкрэтам. Інквізытар твой ня верыць у Бога – вось увесь ягоны сэкрэт!

– І што-ж, калі гэта! Нарэшце ты сьцяміў. І запраўды гэтак, запраўды толькі ў гэтым і сэкрэт усенькі, а ці-ж гэта не цярпеньне, хоць-бы нават і для гэткага, як ён, чалавека, які ўсё сваё жыцьцё змарнаваў на змаганьне ў пустыні і ня вылячыўся зь любові да людзкасьці? На схілку сваіх дзён ён ясна пераконваецца, што адно ра́ды вялікага страшнага духа, хоць у якой-небудзь ступені маглі-б у магчымым парадку ўладзіць маласільных бунтаўшчыкоў – гэтыя "недаробленыя пробныя існаваньні,створаныя на сьмех". І вось, пераканаўшыся ў гэтым, ён бачыць, што нічога не астаецца, як ісьці паводля рады разумнага духа, страшнага духа сьмерці і разбурэньня, і дзеля гэтага прыняць хлусьню і ашуканства і весьці людзей ужо сьведама, у напрамку сьмерці і разбурэнь-

ня, і прытым абмахлёўваць іх на працягу ўсенькага шляху, каб яны хоць-бы не заўважылі, куды іх вядуць, дзеля таго, хоць-бы на дарозе жалю годныя гэтыя сьляпяні ўсё яшчэ ўважалі сябе шчасьлівымі. І зацямі сабе, ашуканства, у імя Таго, у ідэал Каторага гэтак палка вераваў стары на працягу ўсяго свайго жыцьця! Ці-ж ня ёсьць гэта няшчасьцем? І калі-б хоць адзін гэтакі знайшоўся ня чале ўсяе гэтае арміі, што "жадае ўлады з прычыны аднаго толькі бруднага дабра", дык ці-ж ня хопіць аднаго гэткага, каб атрымалася трагэдыя? Але і гэта яшчэ ня ўсё: хапіла-б і аднаго гэтакага на чале, каб знайшлася, нарэшце, праўдзівая кіруючая ідэя ўсяе рымскае справы з усімі яе арміямі і езуітамі, вышэйшая ідэя гэтае справы. Я табе проста кажу, што я стойка веру, што гэты адзіны чалавек ніколі не паслабляўся ў сваей натузе сярод тых, што стаяць на чале руху. Хто ведае, вельмі магчыма, што здараліся і сярод рымскіх першасьвяшчэньнікаў гэтыя адзіныя. Хто ведае, магчыма, гэты пракляты стары, які гэтак упорыста і гэтак па-свойму любіць людзкасьць, магчыма і цяперака існуе ў хворме цэлае масы шматлікіх гэтакіх адзіных старых, і зусім ня прыпадкава, а існуе як сузгодзьдзе, як патаёмнае аб'еднаньне, даўно ўжо наладжанае дзеля перахоўваньня тайніцы, дзеля перахоўваньня яе перад няшчаснымі і слабымі людзьмі, з тым меркаваньнем, каб учыніць іх болей шчасьлівымі. Няма сумліву, што гэта ёсьць так, дый павінна гэтак быць. Я лятуцею, што нават і ў масонаў у сваей аснове ёсьць нешта з гэтае тайніцы, затым бо каталікі гэтак і ненавідзяць масонаў, што бачаць у іх сваіх канкурэнтаў, разьбіцьцё адзінства ідэі, тады, як павінна быць адно стада і адзін пастыр... Але, магчыма, хворма абароны мае думкі, чыніць мяне аўтарам, які ня вытрымлівае твае крытыкі. Затым, хопіць гэтага.

– Ты, магчыма, сам масон! – вырвалася раптам у Алёшы. – Ты ня верыш у Бога, – дакінуў ён, але ўжо з надзвычайнаю хуткасьцю. Дый апрача гэтага, яму выдалося, што брат глядзіць на яго з насьмешкаю. – Чым-жа кончыцца твая паэма? – запытау ен раптам, кіруючы ўзрок свой у зямлю. А мо' яна кончылася ўжо?

– Кончыць яе я хацеў гэтак: калі інквізытар змоўкнуў, дык ён чакаў яшчэ нейкі час на тое, што ягоны вязень адкажа яму. Ягонае маўчаньне выдаецца яму цяжарам. Ён бачыў, як вязень праз увесь час уважна і спакойна слухаў яго, гледзячы яму проста ў

вочы і, як відаць было, не жадаючы нічога адказваць. Старому хацелася, каб той сказаў яму што-небудзь, хай сабе і горкае, страшэннае. Але ён раптам моўчкі і паволі падыходзіць да старога і ціха цалуе яго ў ягоныя бяскроўныя дзевяцідзесяцілетнія вусны. Вось і ўсенькі адказ. Стары судрыгаецца. Нешта заварушылася ў канцавінах ягоных губаў; ён падыходзіць да дзьвярэй, адчыняе іх і кажа Яму: "Ідзі, і болей ня прыходзь... ня прыходзь зусім... ніколі, ніколі!" І выпушчае Яго ў "цёмныя вуліцы места". Вязень выходзіць.

– А стары?

– Пацалунак гарыць на ягоным сэрцы, але стары астаецца пры сваей папярэдняй ідэі.

Хведар Дастаеўскі

"Браты Карамазавы"

## ДОБРАСЛАЎЛЕНЫЯ

Добраслаўленыя ўбогія духам, бо іх ёсьць гаспадарства нябеснае.
Добраслаўленыя засмучаныя, бо яны будуць пацешаны.
Добраслаўленыя лагодныя, бо яны атрымаюць у спадку зямлю.
Добраслаўленыя галодныя і прагнучыя справядлівасьці, бо яны будуць насычаны.
Добраслаўленыя міласэрныя, бо яны атрымаюць міласэрдзе.
Добраслаўленыя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць.
Добраслаўленыя чынячыя супакой, бо яны сынамі Божымі названы будуць.
Добраслаўленыя прасьледваныя за справядлівасьць, бо іх ёсьць гаспадарства нябеснае.
Добраслаўленыя вы, калі будуць зьдзеквацца над вамі і прасьледваць вас і ўсяляк дрэнна гаварыць пра вас дзеля мяне.
Радуйцеся і весялецеся, бо вялікая нагарода вашая на небе: гэтак бо прасьледвалі прарокаў, што былі перад вамі.
Вы - соль зямлі; калі соль згубіць свой прысмак, дык чым вернеш ёй салёнасьць? Тады яна ўжо да нічога ня прыдатна.
Вы - сьвятло сьвету. Ня можа места схавацца, стоячы на версе гары.
І, запаліўшы сьвечку, ня ставяць яе пад судзінаю, але на ліхтары, і сьвеціць усім, хто знаходзіцца ў доме.
Гэтак няхай сьвятло вашае сьвеціць перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя дзеяньні і ўславілі Айца вашага, што ў нябёсах.

Эвангеле паводля Мацьвея, разьдзел 5

## САМААДДАНАСЬЦЬ

Самавырачэньне не зьяўляецца вырачэньнем ад самога сябе, а толькі перанясеньнем свайго "я" з жывёлавага існаваньня ў духовае.

Л. Талстой

Калі тухне сьвятло, дык цёмны і доўгі цень з твайго ўласнага сэрца кладзецца на твой шлях, - затым высьцерагайся гэтага жудаснага ценю, бо ніякае сьвятло твайго разуменьня не зьяўляецца ў стане зьнішчыць цемрадзі, што зыходзіць з твае душы да тае пары, пакуль ня будуць выжанутыя зь яе ўсе самалюбныя думкі.

Брамінская мудрасьць

Кажны чалавек крые ў сабе сьведамасьць усяе людзкасьці. Яна знаходзіцца ў глыбіні душы чалавека і яна ёсьць. І раней ці пазьней чалавек павінен прыйсьці да пазнаньня гэтага болей шырачэзнага жыцьця.

Адмова ад сваіх асабістых мэтаў, якая адбываецца ў ім, зараз-жа ўзнагароджваецца шмат болей сільным жыцьцём, у якое ён уступае.

Толькі выракаючыся ад свае выняткавае асабовасьці, ён стаецца праўдзіва жывою асабовасьцю, і прызнаючы сваім - жыцьцё іншых людзей, асэнсоўвае ў сабе гэтакае жыцьцё, якое ня мае ані межаў, ані канца.

Карпэнтэр

Чалавек, які думае толькі пра сябе і шукае ўва ўсім карысьці для сябе, ня можа быць шчасьлівым. Хочаш жыць для сябе - жыві для іншых.

Сэнэка

## ВЯЛІКАЯ МЯДЗЬВЕДЗІЦА

Даўно даўно таму была на зямлі вялікая засуха. Павысыхалі ўсе рэкі, ручаі, калодзісі; засохлі дрэвы, кусты і травы; і паміралі ад смагі людзі і зьверы.

Аднойчы ў ночы выйшла з дому дзяўчынка з конаўкаю ў руках, каб знайсьці дзе-небудзь вады для хворае маці. Але нігдзе дзяўчынка не магла знайсьці вады і, змучыўшыся, легла ў полі на траву, каб адпачыць і заснула. Калі яна прачхнулася і ўзялася за конаўку, яна чуць ня выліла ваду зь яе. Поўная конаўка была чыстае і сьвежае вады. Дзяўчынка абрадавалася і хацела напіцца, але зараз-жа раздумалася, што ня хопіць мацеры, і пабегла барджджэй з конаўкаю дамоў. Яна гэтак сьпяшалася, што не заўважыла пад нагамі сабачкі, спатыкнулася аб яго і выпусьціла з рук конаўку. Сабачка жаласна пішчаў. Дзяўчынка схапіла конаўку.

Яна думала, што ўся вада вылілася, але не, конаўка стаяла проста на сваім дне і поўна было вады ў ёй. Дзяўчынка наліла вады ў далонь, і сабачка зараз-жа ўсё выхлептаў і тут-жа павесялеў. Калі дзяўчынка ўзялася зноў за конаўку, яна зь меднае сталася сярэбранаю. Дзяўчынка прынесла конаўку дамоў і падала мацеры. І маці сказала: "Я ўсяроўна памру, ляпей ты пі сама", і аддала конаўку дзяўчынцы. І тут-жа конаўка з сярэбранае сталася залатою. Тады дзяўчынка не магла ўжо болей устрымацца і толькі паднесла конаўку да вуснаў, як раптам у хату ўвайшоў падарожны і папрасіў напіцца. Дзяўчынка праглынула сьлінкі і падала падарожнаму конаўку. І раптам на конаўцы выскачыла сем аграмадных брыліянтаў, а зь яе заструменілася сільным патокам чыстая сьвежая вада.

А сем брыліянтаў пачалі ўздымацца вышэй і вышэй і ўзьняліся на неба і сталіся Вялікаю Мядзьведзіцаю.

Ковіс

## ВЕРАБЕЙ

Я вяртаўся з паляваньня і ішоў па сьцежцы саду. Сабака бег наперадзе мяне.

Раптам ён паменшыў свае крокі і пачаў скрадвацца, быццам пачуў перад сабою дзіч. Я кінуў позіркам уздоўж дарогі і ўбачыў маладога вераб'я з жоўтым дзюбам і пухам на галаве. Ён выпаў з гнязда/вецер моцна хістаў бярозы/ і сядзеў непарушна, бязрадна растапырыўшы ледзь прараставшыя крыльцы.

Мой сабака паволі зьбліжыўся да яго, як раптам, сарваўшыся з блізкага дрэва, стары чорнагруды верабей каменем упаў перад самаю ягонаю мордаю і, усенькі натапыраны, непадобна да сябе, з адчайным і поўным літасьці піскам скочыў разоў некалькі ў напрамку зубастае, расчыненае ляпы.

Ён кінуўся ратаваць, ён засланіў сабою сваё дзіцянё, а ўсё ягонае маленькае цела дрыжэла ад жаху, галасок адзічэў і ахрып, ён заміраў, ён ахвяроўваў самога сябе! Якім аграмадным страшыдлам павінен быў здавацца яму сабака! І, ня гледзячы на гэта, ён ня мог уседзець на сваей высокай бясьпечнай гольцы... Сіла, мацнейшая ад ягонае волі, кінула яго ўніз.

Сабака затрымаўся, падаўся назад... Відаць і ён прызнаваў гэтую сілу...

Я хутка адклікаў зьбянтэжанага сабаку і эддаліўся, радуючыся ў душы.

Але, я радаваўся з прычыны тае маленькае поўнае адвагі і вялікага сэрца птушкі, з прычыны любоўнага яе парыву.

"Любоў, - думаў я, - магутнейшая за сьмерць і страх сьмерці. Толькі ёю, толькі любоўю трымаецца і кратаецца жыцьцё".

І. Турґенеў

## СЛУЖБА ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

Божая служба ў сьвятыні ёсьць толькі пачаткам служэньня чалавеку на працягу надыходзячага тыдня.

–

Жыцьцё чалавека толькі тады разумнае, калі яно разумеецца як служэньне.

Л. Талстой

Адно толькі мы ведаем напэўна – гэта тое, што нас чакае сьмерць. "Трываньне жыцьця чалавека можна ўпадобніць да хвіліны часу, патрэбнага ластаўцы праляцець праз пакой". Мы прыходзім няведама скуль і адыходзім няведама куды. Непраніклівая цемра ззаду, густыя цені наперадзе. Якое значэньне мецiме для нас, калі надыйдзе наш час, што мы елі смачную ежу ці ня елі яе, насілі багатае рызьзё ці не насілі, пакінулі мы вялікі спадак або ніякага, зьбіралі ляўры ці былі пагарджанымі, уважаліся за вучоных ці невукаў, – у параўнаньні з тым, як выкарысталі мы давераны нам Гаспадаром талент.

Якую вартасьць мецiме для нас усё гэта, калі пацямнее ўваччу і вушы нашыя згубяць здольнасьць чуць, і калі зь цемрадзі працягнецца рука і сярод цішыні пачуецца голас: "Добры і верны слуга: ты верным быў над нешматлікім, і Я пастаўлю цябе над шматлікім; увайдзі ў радасьць Гаспадара твайго".

Гэнрі Джордж

Няма і ніколі ня было гэткага палажэньня, якое ня мела-б свайго абавязку і свайго ідэалу. I запраўды, тут, у жалю годнай, беднай, пагардлівай рэчаіснасьці, у якой ты цяперака знаходзішся, тутака і толькі тутака твой ідэал. Ідэал гэты ў табе, гэтаксама як і перашкода да ягонага ўрэчаісьненьня,у табе знаходзіцца. Тваё палажэньне – гэта той матэрыял, зь якога ты павінен выпрацаваць зьдзейсьненьне ідэалу, і ўсяроўна, якім матэрыял быў-бы і ў якой хворме ты выразіў-бы яго.

Ты церпіш, будучы зьвязаным з рэчаіснасьцю, і жалабна зьвяртаешся да багоў з просьбою пасланьня гэтакага валадарства, у якім ты мог-бы чуцца панам і тварыць. Пазнай-жа, затым, тую праўду, што ты ўжо маеш тое, да чаго гэтак тужыш. Цяпер і тутака, або ніколі і нідзе.

Т. Карляйль

Жыцьцё чалавека заключаецца ў тым, каб зьінач- ваць неразумнае ў сваім жыцьці ў разумнае. І дзеля гэтага патрэбны дзьве рэчы:

I/ бачыць ува ўсім яго ным абсягу неразумнасьць жыцьця і не ўхіляцца ад зразуменьня гэтага зьяві- шча;

2/ усьведамаляць сабе ўва ўсей чысьціні магчы- масьць разумнага жыцьця.

Усьведамляючы сабе ўсю неразумнасьць і заўсёды выцякаючыя зь яе злыбеды жыцьця, чалавек міжвольна адварочваецца ад яе; з другога боку, выразна асэн- соўваючы магчымасьць разумнасьці жыцьця, чалаaек падсьведама імкнецца да яе. Затым, не атульваць маў- чаньнем зла неразумнасьці і ўвыпукляць ува ўсенькай выразнасьці дабро разумнага жыцьця павінна было-б быць галоўнаю задачаю ўсіх вучыцялёў людзкасьці.

Але вось якраз на гэтым месцы заўсёды сядзяць тыя, каторыя ня імкнуцца ў напрамку сьвятла, бо іх- ныя ўчынкі дрэнныя; а згэтуль, заўсёды людзі, якія выстаўляюць сябе вучыцелямі, ня толькі стараюцца вутлумачыць неразумнасьць жыцьця і разумнасьць ідэ- алу, але наадварот, утойваюць неразумнасьць жыць- ця і гэтым падрываюць даверра да разумнасьці ідэалу.

І гэта даконваецца ў нашым жыцьці. Уся дзей- насьць людзей сьвету складваецца з утойваньня не- разумнасьці жыцьця: і ў ваблічча гэткае рэчаіс- насьці існуюць і праяўляюць сваю дзейнасьць:

Паліцыя; войска; крымінальныя кодэксы; вастрогі; філянтропійныя ўстановы - прытулкі для дзяцей і пры- тулкі для старых людзей; дамы паправы; публічныя дамы; дамы для псыхічна хворых; шпіталі, асабліва для заразных хваробаў; асэкурацыйныя супалкі; ус- тановы для малалетніх праступнікаў і шматлікія ін- шыя.

Калі-б толькі 0,00I тае энэргіі, якая зужываец- ца на ўладжаньне ўсяго гэтага, што мае на мэце ўта- іць зло і аднак пабольшвае яго, была-б выкарыстана на супроцьдзеяньне гэтаму, дзеля ўтойваньня чаго, служаць усе гэтыя ўстановы, тады зло, якое цяпера- ка гэтак выразна выступае перад намі і гэтак мучыць нас, зло гэтае хутка шчэзла-б.

Л. Талстой

Мужнасьць - гэта служэньне, якое павінен выкон- ваць чалавек самому сабе. Калі-б ня было ані неба, ані Бога, каторы кіруе сусьветам, дык і тады муж- насьць была-б абавязкам і правам жыцьця. Ведаць, што справядлівым ёсьць, і выконваць гэта - у гэтым і зна- ходзіцца перавага чалавека.

Рамаяна

Дзеля чаго патрэбны здагады, калі ты маеш магчымасьць даведацца, што трэба зрабіць? Калі ты ведаеш, дык захоўваючы дабразычлівасьць, ідзі наперад па гэтай дарозе, ня схіляючы ў бок, а калі ня ведаеш, дык спыніся і запрасі на нараду лепшых людзей. Калі ты спаткаеш на гэтым шляху якія-небудзь перашкоды, усё-ж ідзі наперад, бяручы пад увагу наяўныя абставіны і трымаючыся таго, што́ ўважаў ты справядлівым. Бо-ж дасягненьне яго зьяўляецца найлепшым, а ўхіленьне ад яго - найгоршым. Той, хто ўва ўсім слухае розум, ня мітусьлівы і адначасна дзейны, вясёлы і ўраўнаважаны.

М. Аўрэліюс

Калі чалавек не ўважае сябе пакліканым да нясеньня пасольства, місыі, дык ён ня можа быць асьвечаным.

Л. Талстой

Не жадай сабе сьмерці, што табе цяжка жыць. Увесь цяжар сьвету, што знаходзіцца на плячох кожнага маральнага існаваньня, змушае яго выконваць сваё прадназначэньне. Адзіны сродак ратунку ад гэтага цяжару - гэта выкананьне свайго абавязку. Цябе звольняць тады толькі, калі ты выканаеш вызначаную табе частку заданьня.

Эмэрсон

Мы павінны з пачуцьцём вялікае адказнасьці адносіцца да нашых грамадзкіх задачаў; мы павінны быць гатовымі зьіначваць нашыя думкі, адмаўляцца ад старых пагляdaў, прысвойваць новыя. Мы павінны адкідаць забабоны і разважаць, кіруючыся свабодным розумам. Стырнічы на моры, які будзе настаўляць толькі адны і тыя самыя вятругі, не зважаючы на зьмены вятроў, ніколі не даплыве да свайго порту.

Гэнры Джордж

Чалавек пазнае́ сябе не на дарозе думкі, але на шляху чыну. Толькі ў натугах выканаць належнае ён пазнае́ цану сабе.

Ґётэ

Зышоўшыся з чалавекам, думай не пра тое, чым ён можа быць карысным табе, але пра тое - чым ты можаш служыць яму.

Л. Талстой

Я ПРЫСЯГАЮ на Апольлёна лекара, на Асклепіёса, на Здароўе і Ўсё-аздараўленчы-лек, і на ўсіх багоў і багіняў, што паводля мае здольнасьці і майго меркаваньня я буду перасьцерагаць гэтую прысягу і дамоўленасьць. I на таго, хто вучыў мяне гэтае мастацтва, я буду глядзець як на аднаго з маіх бацькоў. Я буду дзяліцца зь ім маею маемасьцю, і буду абясьпечваць яго неабходнымі рэчамі, калі ён знойдзецца ў патрэбе. I ягоных нашчадкаў я буду ўважаць за маіх братоў, і я буду старацца пераказаць ім гэтае мастацтва, калі яны захочуць вучыцца яго, бязь ніякае заплаты або забавязаньня. Я буду пераказваць гэтае мастацтва дарогаю інструкцыяў, праз выклады і дарогаю кожнага способу навучаньня, і ня толькі маім уласным сына́м, але і сына́м таго, хто мяне вучыў, і вучням, злучаным забавязаньнем і прысягаю ў суз-годнасьці з правам мэдыцыны. Гэтая сыстэма, якую я прыняў, няхай будзе дабром для маіх пацыентаў паводля мае здольнасьці і ў сузгоднасьці з маім зразуменьнем, і ніколі для іхнае шкоды або ім на зло. Я нікому ня дам сьмяротнага леку, хоць-бы нават ён прасіў мяне, ані паслухаюся чыёй-небудзь рады ў гэтым, і асабліва я ня буду памагаць жанчыне выкаваць аборт. У чысьціні і сьвятасьці я буду мінаць дзень за днём маё жыцьцё і выконваць мой абавязак лекара. Я ніколі ня буду рэзаць чалавека, церпячага на каменную хваробу, але пакіну гэта для выканаьня тым, каторыя зьяўляюцца адумыслоўцамі ў падобнага роду дзеяньні. У чыйколечы дом я ўвайду, я ўвайду з мэтаю спрычыненьня дабра для хворага, ухіляючыся ад кожнага дрэннага чыну, шкоды, і асабліва, ухіляючыся ад кожнага акту спакушэньня мужчыны ці жанчыны, няьольніка ці свабоднага чалавека. Штоколечы я ўбачу ці пачую адносна жыцьця людзей у часе адведзінаў маіх хворага ці адыходзячы, тое, што́ не павінна быць гавораным навонкі, я буду трымаць у маўчаньні, уважаючы падобныя рэчы за сьвятую тайніцу. I калі я астануся верным у гэтым зароку, няхай мне будзе дадзеным карыстацца радасьцю жыцьця і выконваньнем мае прафэсыі, і заўсёды цешыцца пашанаю ўсіх людзей; але, калі-б я маральна заламаўся і нарушыў гэты зарок, няхай адваротнае станецца маім удзелам.

Гіппократэс

СУМЛЕНЬНЕ

Сумленьне ёсьць боскаю сілаю ў нас, якая трымае нас у маральнай роўнавазе.

-

Тысячы вонкавых галасоў клічуць нас некуды ў бок, але толькі адзін унутраны, слабы голас сумленьня можа быць нашым надзейным кіраўніком.

Люсі Малёрі

"Сумленьне! Дзіцячыя памылкі, забабоны ўзгадаваньня - чую я сугучныя галасы здадуманых мудрацоў. - У розуме чалавека нічога няма, апрача таго, што здабыта на шляху дасьведчаньня", - кажуць яны.

Дый яшчэ болей, яны адважваюцца адкідаць відавочнае і агульнае суэгодзьдзе ўсіх народаў, і супроць задзіўляючае адзінасьці суджэньня ўсіх людзей аб тым, што́ дабро і што́ зло, яны знаходзяць які-небудзь прыклад, ім адным толькі і ведамы, быццам свомасьці ўсіх людзей могуць быць зьнішчаны звырадненьнем якога-небудзь чалавека дадзенага народу, якім прыпадкавы падарожны займаецца і пра якога шырака разводзіцца і, як толькі даведзена, што існуе наяўнасьць вырадкаў, тады свомасьці цэласьці не бяруцца пад увагу. Усе, кажуць яны, успамагаюць агульны дабрабыт дзеля свае ўласнае карысьці. Чаму-ж тады існуюць людзі, якія аддадзены агульнаму дабру дзеля яўнае свае нявыгады? Як гэта магчыма ісьці на сьмерць дзеля свае выгады? Ведама, кажны дзейнічае дзеля свайго дабра, але калі нямашака маральнага, духовага дабра, дык апраўдаць выгадаю можна толькі пастулкі злых людзей. Якая-ж страшэзная была-б філязофія тая, пры якой немагчыма было-б паясьніць шляхэтныя пастулкі ня інакш, як толькі падшукаўшы для іх подлыя матывы.

Сумленьне! Але́, сумленьне верны судзьдзя дабра і зла, гэта тое, што́ чыніць чалавека падобным да Бога; толькі сумленьне творыць першараднасьць натуры чалавека. Бяз сумленьня нямашака ў чалавеку нічога, што ўздымала-б яго над зьверам, апрача сумнае перавагі блудзіць ад памылкі да памылкі, дзякуючы рассудку - без кіраўніцтва, і розуму - без асновы.

Руссо

Голас сумленьня - голас Бога.

Л.Т.

Усім людзям свома грашыць.

Розьніца між людзьмі бывае ў ступені мучэньня, спрычыненага сумленьнем пасьля грэху.

Альфіеры

Здаволеньне, якое мы назіраем зараз-жа за кажным безінтэрасоўным паступкам, залежыць ад таго, што гэтакі пастулак, выплываючы з беспасярэдняга пазнаньня ў адлеглым зьявішчы нашае ўласнае існасьці, як гэткае, - у сваю чаргу пацьвярджае, што мы мелі рацыю, прызнаўшы, што нашае запраўднае "я" існуе ня толькі ў нашай асабовасьці, ня толькі ў дадзеным паасобным зьявішчы, але ўва ўсім жывым. І як эгоізм зжымае сэрца, гэтак падобна і сьведамасьць дае прастору яму. І запраўды, як эгоізм усё нашае зацікаўленьне засяроджвае на апрычоным зьявішчы нашае асабовасьці, пры чым пазнаньне стала вырысоўвае нам бязьлікія небясьпекі, якія стала пагражаюць гэтаму зьявішчу, і з прычыны чаго асноўным тонам нашага настрою стаецца трывога і заклапочанасьць - гэтак пазнаньне таго, што ўсё жывое ў гэткай-жа меры, як нашая ўласная асабовасьць, зьяўляецца нашым уласным існаваньнем, само сабою распасьцірае нашае зацікаўленьне на ўсё жывое; гэта вось і дае прастору сэрцу. Зноў-жа, у рэзультаце гэтакага паменшаньня зацікаўленьня да самога сябе, ужо ў васнове падсекваецца і абмяжоўваецца трывожная заклапочанасьць; згэтуль - супакойная, пэўная радасьць, якую пасылае мужная схільнасьць да добрага настрою і чыстае сумленьне, згэтуль болей жывое адчуваньне радасьці пры кажным добрым паступку, якое прыносіць нам самым трывалкасьць гэтага настрою. Эгоісты чуецца быццам знаходзіцца сярод чужых і варожых яму зьявішчаў, і ўсе ягоныя спадзяваньні - у ягоным уласным дабрабыце. А добры - жыве ў сьвеце прыязных існаваньняў; дабро кажнага зь іх - ёсьць ягоным уласным дабром.

Шопэнгаўэр

Людзі асягваюць нябесную радасьць у людзкай хворме: асягваюць добраслаўленасьць. Гэтакія людзі прысьвячаюцца імкненьням добрага жыцьця; для іх няма шака перашкодаў, яны чыстыя. Калі розум і сэрца чыстыя, дык ім і боскасьць выяўляецца.

Бармінская мудрасьць

## Несупакойнае сумленьне

Маскоўскі мітрапаліт Плятон Леўшын будаваў сабе скіт у трох вярстах ад Троіцка-Сяргеевае лаўры. У Плятона працавала некалькі цесьлярскіх арцеляў. Аднойчы ў вадной зь іх здарыўся нячуваны праступак: у ваднаго цесьлі укралі сакеру. Ня толькі ён астаўся бяз рук, але і ў арцелі адной сілаю на цэлую сакеру стала менай.

Работнікі пробавалі проста гаварыць аб гэтым; думалі так і гэтак - нічога ня выходзіць.

Раптам аднаго зь іх ахінула думка:

- Пойдзем, сябры, да ўладыкі: ён да кажнае нашае працы блізкі і да нас ласкавы, трэба дадумвацца, ён на ўсё кемны. Папросім паказаць.

- Так і гэтак, уладыка сьвяты: зблудзіў нехта адзін, а ўсім гінуць. Прыходзіцца арцель разьбіваць і разыходзіцца ўсім у сваю сторану, па сваіх хатах. Зрабі нам ласку - пакажы злодзея: мы яго, паскуцтва, зараз-жа з арцелі выкінем.

- Дый я-ж не чарадзей, згадаць ня ўмею.

- Згадай на чым ведаеш, як сам можаш: мы цябе няволіць ня сьмеем.

- Я магу толькі адною сьвятою малітваю.

- Для нас усяроўна: спадзяемся на тваё дабро, дзеля Бога, памажы нам.

- Прыходзьце, тады, у кельлю. Ды каб усе тварам. Уся арцель дазваньня.

Гэтак і зрабілі: прыйшлі ўсе дазваньня.

- Ці ўсе сабраліся? - спытаў Плятон.

- Усе, - адказалі яму.

- Памолімся Госпаду, папросім Яго сьвятое міласьці. Станавецеся, сябры, і слухайце мяне, і паўтарайце кажны сабе словы малітвы.

- Вось, вось, гэтак, - сказаў уладыка, калі ўсе ўстанавіліся шчыльна, плячо ў плячо, і выступіў толькі на крок стараста.

- Пачынаю! - і павярнуўся ў пярэдні кут да абразоў.

Пачаў мітрапаліт Плятон чытаць малітву тым асабліва гучным і прыемным голасам, што глыбака западаў у душу і падабаўся ўсім.

Прачытаўшы малітву, ён хутка хацеў пераканацца: спытаў, не абяртаючыся тварам назад:

- Ці молціеся вы, брацьця?

- Усе да аднаго молімся Богу радасна, - адказалі яму стрыманымі, баязьлівымі і дрыжачымі галасамі кастрамскія прастакі.

- Усе вы моліцеся, - а ці моліцца злодзей?

- Малюся, - прагаварыў ён чуць чутно і паслухмяна.

С. Максімаў

# ЗЯМЛЯ

Зямля - нашая маці.

-

Зямля не павінна быць прадаванаю на заўсёды: бо зямля Маёю ёсьць; бо вы чужынцамі зьяўляецеся і асяленцамі ў Мяне.

III Майсеявая, 25:23

Справа гэтая ёсьць маральнаю справаю. Зямля зьяўляецца Божым гасьцінцам для нас, каб мы мелі магчымасьць паставіць яду на стол. I мы маем карыстацца ёю адпаведна.

Япіскап Дінґман
"Ґ.С.", 4 жнів. 1979

А дзе-ж той выхад? дзе збаўеньне
Зь няволі цяжкай, з паланеньня?
Адзін ён ёсьць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ральля:
То - наймацнейшая аснова
I жыцьця першая умова.
Зямля не зьменіць і ня здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,
Зямля - аснова ўсёй айчыне.

Якуб Колас

Мы ўсе вандроўнікі на гэтым сьвеце. Ідзі на поўнач, поўдзень, захад ці ўсход - усюды, дзе ты не затрымаешся, знойдзецца чалавек, які прагоніць цябе, кажучы: "гэта мая зямля". I абыйшоўшы ўсе краіны сьвету, ты вернешся, даведаўшыся, што нідзе няма шматка якога-небудзь куска зямлі, дзе твая жонка магла-б радзіць, і дзе-б ты мог затрымацца, абрабляць зямлю і дзе-б твае дзеці маглі пахаваць твае косьці.

Лямэнэ

Кінуць чалавека сярод Атлянтычнага акіяну, сказаўшы яму, што ён свабодны ісьці на бераг, было-б ня большым зьдзекам над ім, чымся пакінуць яго на зямлі, усюды захопленай ужо на прыватную ўласнасьць, сказаўшы яму пры гэтым, што ён свабодны чалавек, можа працаваць на сябе і карыстацца сваім прадуктам.

Гэнрі Джордж

Той, хто карыстаецца зямельнаю ўласнасьцю ў большым памеры ад таго, які патрэбны яму дзеля ўтрыманьня самога сябе і свае сям'і, зьяўляецца ня толькі ўдзельнікам, але гэтаксама і вінаватым у той нястачы, у тых няшчасьцях і ў той распусьце, ад якіх церпяць шырокія пласты народу.

Л. Талстой

Зямельнае пытаньне агортвае сабою голад, недахоп, смагу, паведамленьне аб выхадзе зь месца, за нішто згублены ўклад у хворме працы, захоп вытворчасьці гадавога высілку, зьнішчэньне дамоў, галечу, беднасьць, хваробы, сьмерць бацькоў, дзяцей, жанок, адчай і адзічэласьць у сэрцах бедных, калі юрыдычная сіла ўдырвае іх у самыя найболей чулыя і жыцьцёвыя правы людзкасьці.

Кардынал Маньнінґ

Земляробства не зьяўляецца адным з заняткаў, свомых людзям. Земляробста ёсьць адзіным заняткам, свомым усім людзям і якое дае найбольшую незалежнасьць і дабро.

Л. Талстой

Ці-ж Бог даў што-небудзь аднаму, і ня даў гэтага іншаму чалавеку? Ці-ж нашы агульны Бацька адкінуў каго-небудзь са сваіх дзяцей? Вы, каторыя дамагаецеся для сябе выключнага права карыстацца Ягонымі дарамі, пакажэце той тастамэнт, паводля якога Ён пазбавіў свайго спадку іншых братоў.

Лямэнэ

Пачуй мяне, справядлівы дух тварэньня, і рассудзі, хто злодзей: ці той, хто адбірае ад мяне свабоду карыстацца зямлёю, каторая дадзена мне на падставе факту майго нараджэньня, ці, калі я карыстаюся часткаю зямлі дзеля таго, каб жыць на ёй і жывіцца ёю ў праўдзе і супакою?

Жэрард Вістанлей

Мой розум вучыць мяне, што зямля ня можа быць прадаваная. Вялікі Дух даў яе сваім дзецям, каб жыць на ёй, у межах патрэбы абрабляць яе дзеля падтрыманьня свайго жыцьця, і як доўга яны абрабляюць яе, гэтак доўга яны маюць права на зямлю. Нічога ня можа быць прадавана апрача рэчаў, якія можна пераносіць.

Блек Гаўк

Усе людзі з самага пачатку, і перад тым як які-небудзь праўны акт быў ведамы чалавеку, знаходзяцца ў стане валоданьня зямлёю, гэта значыць, маюць права быць там, дзе натура або прыпадкавасьць умясцовіла іх.

Э. Кант

Уладаньне зямлёю як уласнасьцю, ёсьць адным з найболей супроцьнатуральных праступкаў. Агіднасьць гэтага праступку неспасьцярожнаю ёсьць для нас толькі затым, што ў нашым сьвеце праступак гэты прызнаецца правам.

Л. Талстой

Калі я радзіўся на зямлі, дык дзе-ж мая частка? Калі ласка, гаспадары гэтага сьвету, пакажэце мне маю лясную дзялянку, дзе-б я мог секчы свае дровы; маё поле - дзе-б я мог сеяць мой хлеб, мой кусок зямлі - дзе мог-бы я паставіць сваю хату. Але гаспадары гэтага сьвету крычаць мне: толькі дакраніся да лесу, да поля, дык пабачыш што́ ты атрымаеш, але ты можаш прыйсьці і працаваць на нашых землях і мы дамо табе кусок хлеба.

Эмэрсон

Сьцісла кажучы, зямля належыцца двом: Усемагутнаму Богу і ўсім сынам чалавечым, каторыя працавалі на ёй або будуць працаваць на ёй.

Карляйль

Зямля ёсьць агульная і роўная маемасьць усіх людзей і затым ня можа быць прадметам уласнасьці асобных адзінак.

Л. Талстой

Зямельная манаполь пазбавіла болей, чымся палавіну людзей кожнага народу, іхнага натуральнага спадку.

Томас Пэйн

# КОЛЬКІ ЗЯМЛІ ПАТРЭБНА ЧАЛАВЕКУ

## I

Прыехала зь места старшая сястра да меншае ў вёску. Старшая за купцом была ў месьце, а меншая за мужыком у вёсцы. П'юць гэрбату сёстры, гутараць. Пачала старшая сястра фанабэрыцца – выхваляць сваё жыцьцё: як яна прасторна і чыста жыве і ходзіць у месьце, як яна дзяцей прыгожа апранае, якую салодкую яду есьць і п'е, як яна катаецца, гуляе і езьдзіць у тэатры.

Крыўду пачула меншая сястра, і пачала яна купецкае жыцьцё паніжаць, а сваё сялянскае вывышаць.

– Нізашто не памяняю я, – кажа, – свайго жыцьця на тваё. Дарма, што мы шэра жывем, але страху ня ведаем. Вы хоць і жывяце чысьцей, а натаргуеце часамі меней, або і зусім пратаргуецеся. Як і высслоўе кажа: утаргаваў наклад – вялікі брат. А здараецца і гэтак: сягоньня ты багат, а заўтра пад дзьвярыма хват! А нашая мужыцкая справа простая і пэўная: хай сабе жывот тонкі, а здаровы, багатымі ня будзем, але затое сытымі!

І пачала старшая сястра казаць:

– Якая-ж бо там сытасьць – са сьвіньнямі ды цялятамі! Ані ўбранства, ані паводзінаў! Колькі-б не стараўся твой гаспадар, як жывяце ў гною, гэтак і памраце, гэтае-ж і дзецям будзе.

– А што-ж, – кажа меншая, – гэта наш сьвет. Затое проста стаімо, нікому ня кла́няемся, нікога не баімося. А вы ў месьце ўсе ў спакусах жывяце; сёньняка добра, а заўтра нячысты падлезе – і як бачыш, спакусіць твайго гаспадара або на карты, або на віно, або на кралю якую. І пойдзе ўсё намарна. Ці-ж ня бывае гэтак?

Чуў Пахом – гаспадар – на печы, што́ бабы плешчуць.

– Праўда гэта, – кажа, – шчырая. Як наш брат з маленства яе, замлю-матку, пераварочвае, дык і дурніца ў галаву ня лезе. Адно бяда – зямлі мала! А няхай мецімем яе ўдосталь, дык і я нічога, і самога чорта не баюся!

Напіліся бабы гэрбаты, пагутарылі яшчэ пра ўборы-строі, прыбралі начыньне, і паклаліся спаць.

А чорт у запечку сядзеў, і ўсё чуў. Абрадаваўся ён, што сялянская жонка мужа навяла на думку: пахваляецца,што, калі-б была ў яго зямля, дык і чорт яго ня возьме.

"Ну, і добра, – думае чорт, – можам закласьціся

з табою; дам табе я зямлі шмат. Зямлёю і вазьму цябе".

## II

Жыла пабач з мужыкамі невялічкая панічка. Было ў яе сто дваццаць дзесяцін зямлі. І жыла з мужыкамі раней ціхамірна – ня крыўдзіла. Але наняўся да яе нейкі былы салдат у аканомы і пачаў ён данімаць мужыкоў штрафамі. Як ні высьцерагаецца Пахом, а то конь у аўсы забяжыць, або карова ў сад зойдзе, або цыляты выскачаць на сенажаць – за ўсё штраф.

Плоціць Пахом і хатніх даймае і б'е. І шмат грахоў ад гэтага аканома ўзяў на сябе за лета Пахом. Дый рад быў, што быдла ў дварэ астаецца, – хоць і корму шкада, але нямашака страху.

Зімою слух разышоўся, што панічка прадае зямлю і што маніцца купіць яе дворнік зь вялікае дарогі. Пачулі мужыкі і ахнулі. "Ну, – думаюць, – дастанецца зямля дворніку, замучыць штрафамі горай ад панічкі. Немагчыма нам жыць бяз гэтае зямлі. Мы ўсе ў яе коле". Прыйшлі ўсе мужыкі да панічкі, пачалі прасіць, каб не прадавала дворніку, а аддала ім. Прыраклі даражэй заплаціць. Панічка згадзілася. Пачалі мужыкі раіцца, каб усім разам купіць зямлю; зьбіраліся на сходкі некалькі разоў – і справа не ўдалася. Разьбівае іх нячысты. Ніяк ня могуць згадзіцца. І прышлі да выснаву, што кажны сам сабе будзе купляць гэтулькі, колькі зможа. Пачуў Пахом, што сусед купіў у панічкі дваццаць дзесяцін і яна яму палову грошай на год разлажыла. Зайздрасьць агарнула Пахома. "Раскупяць, – думае, – усю зямлю, астануся бязь нічога". Пачаў раіцца з жонкаю.

– Людзі купляюць, трэба, – кажа, – і нам зь дзесяцін дзесяць купіць. Бо-ж немагчыма жыць: аканом штрафамі асілеў.

Абдумалі, як купіць. Было ў іх адкладзенымі сто рублёў, ды жараб'ё прадалі, ды палову пчолаў, ды сына заклалі ў работнікі, ды яшчэ пазычыў у сваяка, і набралася палова грошай.

Сабраў Пахом грошы, аблюбаваў зямлі кусок, пятнаццаць дзесяцін зь ляском, ды пайшоў да пані таргавацца. Вытаргаваў пятнаццаць дзесяцін, стукнуў па рукох і задатак даў. Паехалі ў места, купчую замацавалі, даў палову грошай, рэшту забавязаўся выплаціць на працягу двух гадоў.

І стаўся Пахом зь зямлёю. Пазычыў насеньня, засеяў купленую зямлю; радзілася добра. На працягу аднаго году выплаціў доўг і панічцы і сваяку. І

стаўся Пахом памешчыкам: сваю зямлю гараў і сеяў, на сваёй зямлі касіў сена, на сваёй зямлі калы высякаў, і на сваёй зямлі быдла карміў. Выедзе Пахом на сваю вечную зямлю гараць або прыйдзе ўсходы і сенажаць паглядзець – не нарадуецца. А трава-ж тая, яму здаецца, расьце, і кветкі цьвітуць на ёй іншыя. Калісьці, ехаў па гэтай зямлі – зямля як зямля, а цяперака – зусім зямля іншаю сталася.

III

Жывець сабе Пахом і радуецца. І ўсё было-б добра, калі-б ня тое, што мужыкі ў Пахома хлеб на полі і сенажаці травяць. Па-добраму прасіў, нічога не памагае: то пастухі ўпусьцяць кароў на сенажаць, то коні з начлегу на хлябы зойдуць. І зганяў Пахом і дараваў, усё ня судзіўся, пасьля абрыдла, пачаў у гміну скаржыцца. І ведае ён, што гэта зь цеснаты, а не наўмысьня робяць мужыкі, а думае: "Немагчыма-ж і спускаць, гэтак яны ўсё вытравяць. Трэба навучыць іх".

Пачаў вучыць судом раз, пасьля другі, каралі грашыма аднаго, другога. Пачалі мужыкі-суседзі на Пахома злосьць трымаць; іншы раз пачалі і наўмысьня травіць. Забраўся нехта ноччу ў лясок, ды зь дзесятак ліпаў на лыкі высек. Праехаў па лесе Пахом – зірк, бялеецца. Пад'ехаў – толькі латушкі кінутыя ляжаць, ды пянёўе тырчыць. Хоць-бы з кустоў скрайнюю абрэзаў, адну пакінуў, а то не, падрад, злодзей, усё счысьціў. Зазлаваўся Пахом: "Пачакайжа, – думае, – каб даведацца, хто гэта зрабіў; я-б ужо спагнаў-бы зь яго". Думаў, думаў, ну хто? ведама: ніхто іншы, – думае, – як Сымон". Пайшоў да Сымона на двор шукаць – ды нічога не знайшоў, толькі пасварыўся. І яшчэ болей Пахом перакинаўся, што гэта Сымон зрабіў. Падаў заяву. Паклікалі на суд. Судзілі, судзілі – апраўдалі мужыка: нямашака довадаў. Яшчэ болей загневаўся Пахом; пасварыўся і з старшынём, і з судзьдзямі.

– Вы, – кажа, – зладзеяў руку цягнеце. Каб-жа самыя папраўдзе жылі, не апраўдвалі-б зладзеяў.

Пасварыўся Пахом і з судзьдзямі і з суседзямі. Пачалі яму і пажарам пагражаць. Стала Пахому ў зямлі жыць прасторна, а на сьвеце цясьней.

І абыйшла ў тым часе вестка, што пераходзіць народ на новыя месцы. І думае Пахом: "Самому мне няма што ісьці са свае зямлі, а вось, каб каторыя з нашых пайшлі, дык у нас прастарней стала-б. Іхнюю зямлю я пераняў-бы на сябе, сабе прыгнаў-бы ў кола.

Жыцьцё стала-б лепшым. А то што, цесна дый годзе."

Аднойчы сядзіць раз Пахом дома, заходзіць мужык з дарогі. Пусьцілі пераначаваць мужыка, накармілі, разгаварыліся – адкуль гэта значыцца Бог вядзе? Кажа мужык, што ідзе зьнізу, із-за Волгі, там у рабоце быў. Слова за слова, расказвае мужык, як туды народ сяліцца ідзе. Кажа, што пасяліліся там іхныя, прыпісаліся да гміны, і нарэзалі ім па дзесяць дзесяцін на душу.

– А зямля гэтакая, – кажа, – што як пасеялі жыта, дык салома – каня ня відаць, а густая, што жменяў пяць – дык і сноп. Адзін мужык, – кажа, – зусім бедны, з аднымі рукамі прыйшоў, а цяперака шэсьць коней, дзьве каровы.

Разгарэлася ў Пахома сэрца. Думае: "Што-ж тут у цеснаце бедаваць, калі можна добра жыць. Прадам тутака і зямлю і двор; тамака на гэтыя грошы выбудуюся і ўсё, што трэба завяду. А тут у гэтай цеснаце – грэх адзін. Толькі самому ўсё дакладна даведацца трэба".

Сабраўся на лета, пайшоў. Да Самары плыў па Волзе ўніз на параходзе, пасьля пеша вёрстаў з чатырыста прайшоў. Дайшоў да места.Усё як павінн быць: жывуць мужыкі прасторна, па дзесяць дзесяцін зямлі на душу нарэзана, і прыймаюць у гміну з ахвотаю. А калі хто з грашыма, калі ласка, купляй акрамя надзеленай, на вечнасьць, колькі хочаш, па тры рублі самае першае зямлі; колькі хочаш купіць можна!

Распытаўся пра ўсё Пахом, на восень вярнуўся дамоў, пачаў усё распрадаваць. Прадаў зямлю з заработкам, прадаў забудаваньні, прадаў усю скаціну, выпісаўся з гміны, дачакаўся вясны і паехаў з сям'ёю на новае месца.

## IV

Прыехаў Пахом з сям'ёю на новае месца,прыпісаўся ў вялікае сяло. Папаіў старых, вырыхтаваў усе паперы. Прынялі Пахома, нарэзалі яму на пяць душ надзельнае зямлі пяцьдзесят дзесяцін на розных палёх, апрача выгану. Адбудаваўся Пахом, завёў жывёлу. Зямлі ў яго аднае душавое, у параўнаньні да папярэдняе, у тры разы стала. А зямля хлебародная. Жыцьцё ў параўнаньні да таго, што на старым месцы было, у дзесяць разоў лепшае. І ворнае зямлі і кармоў уволю. Быдла трымай колькі хочаш.

Спачатку, пакуль будаваўся ды заводзіўся жывёлаю, паказалася Пахому ўсё добра, ды абзаможніўся-і на гэтай зямлі цесна зрабілася. Пасеяў першы год

Пахом пшаніцу на душавой - добра ўрадзілася. Падахвоціўся ён пшаніцу сеяць, а душавое зямлі мала. А якая ёсьць - няпрыдатная. Пшаніцу там на кавыльнай або залежанай зямлі сеюць. Пасеюць год, два і запускаюць, пакуль зноў кавылём зарасьце. А на гэткую зямлю шмат ахвотнікаў, на ўсіх і ня хопіць. Гэтаксама і з прычыны сваркі яе; хто багацейшы - сам хоча сеяць, а бедныя аддаюць купцом за доўг. Захацеў Пахом болей пасеяць. На другі год паехаў да купца, заарэндаваў зямлі на год. Пасьля болей - радзілася добра; але далёка ад сяла - вёрст пятнаццаць трэба вазіць. Бачыць - у гміне купцы-мужыкі хутарамі жывуць, багацеюць. "Вось гэтак, дык я разумею, - думае Пахом, - калі-б гэтаксама на вечнасьць зямліцы купіць ды хутар пабудаваць. Усё-б у крузе было-б". І пачаў меркаваць Пахом, як-бы зямлі ў вечнасьць купіць.

Пражыў гэтак Пахом тры гады. Арэндаваў зямлю, пшаніцу сеяў. Леты выйшлі прыгожыя, і пшаніца-ж радзілася і грошы лішнія завяліся. Жыць-бы ды жыць, але надаела Пахому кожны год у людзях зямлю арэндаваць, з-за зямлі валаводзіцца: дзе толькі добрая зямліца ёсьць, зараз наляцяць мужыкі, усю расхапаюць; не пасьпееў заарэндаваць і няма на чым сеяць. А то ўзяў у арэнду на трэйці год з супольнікам напалову выган у мужыкоў; ужо і загараць пасьпелі, як мужыкі судовую валакіту пачалі, так і прапала праца. "Каб гэта свая зямля была, - думае, - нікому ня кланяўся-б, і грэху ня было-б".

І пачаў Пахом распытваць дзе можна купіць зямлі на вечнасьць. І трапіў на аднаго мужыка. Былі куплены ў мужыка пяцьсот дзесяцін, але збанкрутаваў ён і прадаў за танныя грошы. Пачаў Пахом ладзіць зь ім. Талкаваў, талкаваў - зышліся на тысячу пяцтсот рублей, ды заежджае аднойчы да Пахома купец прыежджы на двор коней накарміць. Выпілі гэрбаты, пагутарылі. Расказвае купец, што едзе ён з далёкіх башкіраў. Тамака, расказвае, купіў у башкірцаў зямлі тысяч пяць дзесяцін. І каштавала ўсяго тысяча рублёў. Пачаў распытваць Пахом. І купец расказаў яму.

- Толькі, - кажа, - старыкоў абрахманіў сабе. Халатаў, радзюшак падараваў усім рублёў на сто, ды цыбік гэрбаты, ды пачаставаў віном тых, што п'юць. І дваццаць капеяк за дзесяціну ўзяў. - Паказвае купчую. - Зямля, - кажа, - уздоўж рэчкі, і стэп уся кавыльная.

Пачаў распытваць Пахом, як і што.

- Зямля, - кажа купец, - там не абыйдзеш і за год:

уся башкірская. А народ бязмысны, як бараны. Бадай-што дарма можаш узяць.

"Ну, - думае Пахом, - што-ж мне за маю тысячу рублёў пяцьсот дзесяцін купіць ды яшчэ доўг на шыю ўзяць. А тут за тысячу рублёў вось чым я завалодаю!"

## V

Распытаўся Пахом, як даехаць, і толькі правёў купца, як зараз-жа сабраўся сам ехаць. Дом пакінуў на жонку, сам сабраўся з работнікам і паехаў. Заехалі ў места, купілі гэрбаты цыбік, гасьцінцаў, віна - усё, як купец казаў. Ехалі, ехалі, зрабілі якіх пяцьдзесят вёрст. На сёмыя суткі прыехалі на башкірскую вандроўку. Усё гэтак, як купец казаў. Жывуць усе ў стэпе, над рэчкаю, у лямцавых кібітках. Самыя не гаруць і хлеба не ядуць. А ў стэпе быдла ходзіць і коні гуртамі. За кібіткамі жарабяты папрывязваны, і да іх два разы на дзень матак прыганяюць; кабылавае малако дояць і зь яго кумыс робяць. Бабы кумыс боўтаюць і сыры робяць, а мужыкі толькі і займаюцца тым, што кумыс і гэрбату п'юць, бараніну ядуць ды на дудках граюць. Усе гладкія, вясёлыя, цэлае лета сьвяткуюць. Народ зусім цёмны і па-расейску ня ведаюць, а ласкавы.

Толькі ўбачылі Пахома, павыходзілі з кібітак башкірцы, абступілі гасьця. Зараз і перакладчык знайшоўся. Сказаў яму Пахом, што ў справе зямлі прыехаў. Абрадаваліся башкірцы, падхапілі Пахома і павялі яго ў прыгожую кібітку, пасадзілі на радзюжкі, наклалі пад яго пуховых падушак, паселі навакол, пачалі частаваць гэрбатаю, кумысам. Барана́ зарэзалі і накармілі баранінаю. Дастаў Пахом з тарантасу гасьцінцы, пачаў башкірцам раздаваць. Надзяліў Пахом башкірцаў гасьцінцамі і гэрбату разьдзяліў. Абрадаваліся башкірцы. Лапаталі, лапаталі між сабою, пасьля загадалі гаварыць перакладчыку.

- Загадваюць сказаць табе, - кажа перакладчык,- што яны любяць цябе, і што ў нас гэтакі звычай - гасьцю ўсялякую прыемнасьць аказаць і за гасьцінцы адудзячвацца. Ты нас абдарыў; скажы цяперака, што табе з нашага да спадобы, каб цябе абдарыць?

- Спадабалася мне, - кажа Пахом, - найболей за ўсё вашая зямля. У нас, - кажа, - у зямлі цесната, дый зямля посная, а ў вас зямлі шмат дый зямля добрая. Гэтакае я і ня бачыў.

Пераказаў перакладчык. Пагаварылі, пагаварылі башкірцы. Не разумее Пахом, што яны гавораць такое, а бачыць, што вясёлыя, крычаць нешта, рагочуць.

Заціхлі пасьля, узіраюцца на Пахома, а перакладчык і кажа:

– Загадваюць, – кажа, – яны табе сказаць, што за твае дабро рады табе колькі хочаш зямлі даць. Толькі рукою пакажы якую – твая будзе.

Пагутарылі яны яшчэ ды нешта спрачацца ͺа пачалі. І запытаў Пахом, пра што гэта яны спрачаюцца. І сказаў перакладчык:

– Кажуць яны, што адносна зямлі трэба старшыню запытаць, а безь яго немагчыма.

VI

Спрачаюцца башкірцы, раптам ідзе чалавек у лісінай шапцы. Змоўклі ўсе і ўсталі. І кажа перакладчык:

– Гэта старшыня сэмы.

Тут-жа Пахом дастаў лепшы халат і падараваў старшыні ды яшчэ гэрбаты фунтаў пяць. Прыняў старшыня і сеў на першае месца. І тут-жа пачалі гаварыць яму нешта башкірцы. Слухаў, слухаў старшыня, кіўнуў галавою, каб яны змоўклі, і пачаў гаварыць Пахому парасейску:

– Ну, што-ж, – кажа, – можна. Бяры дзе табе падабаецца. Зямлі шмат.

"Як-жаж я вазьму, колькі хачу, – думае Пахом. – Трэба ўсё-ж такі замацаваць. А то скажуць твая, а пасьля забяруць".

– Дзякуем вам, – кажа, – на добрым слове. Зямлі то ў вас шмат, а мне крыху патрэбна. Мне адно каб толькі ведаць, якая мая будзе. Яно як-небудзь мерыць ды замацаваць за мною трэба. А то-ж сьмерць-жыцьцё, ведама, у Божай ласцы. Вы, добрыя людзі, даеце, а як што якое – дзеці вашыя забяруць.

– Праўда твая, – кажа старшыня, – замацаваць можна.

Пачаў Пахом гаварыць:

– Я вось чуў, у вас купец быў. Вы яму гэтаксама зямлі падаравалі і купчую справілі; гэтак-бы і мне.

Усё зразумеў старшыня.

– Гэта ўсё можна, – кажа. – У нас і пісар ёсьць, і ў места паедзем, і ўсе пячаткі прыложым.

– А цана якая будзе? – пытаецца Пахом.

– Цана ў нас адна: тысяча рублёў за дзень.

Не зразумеў Пахом.

– Якая гэта мера – дзень? Колькі ў ёй дзесяцін будзе?

– Мы гэтага, – кажа, – лічыць ня ўмеем. А мы за дзень прадаем; колькі абыйдзеш за дзень, тое і тваё,

а цана ўсяму дню тысяча рублёў.

Зьдзiвiўся Пахом.

– Ды гэта-ж, – кажа, – абыйсьцi за дзень, зямлi шмат будзе.

Засьмяяўся старшыня.

– Уся твая, – кажа. – Толькi адна дамоўленасьць: калi назад ня вернешся ў дзень да таго месца, зь якога возьмешся, прапалi твае грошы.

– А як-жа, – кажа Пахом, – абазначыць, дзе я прайду?

– А мы станем на месца, якое табе да спадобы, мы стаяць будзем, а ты iдзi, далей навакол; а з сабою скрэбла вазьмi i, дзе трэба будзе, зацему рабi, на кантах ямкi пракапай, дзярнiчкi кладзi, пазьней зь ямкi да ямкi плугам прагонiм. Якое хочаш бяры кола, толькi да захаду сонца прыходзь да таго месца, скуль крануўся. Што абыйдзеш – усё тваё.

Абрадаваўся Пахом. Пастанавiлi зраньня выяжджаць. Паталкавалi, напiлiся яшчэ кумысу, баранiны пад'елi, яшчэ гэрбаты напiлiся; а ноч ужо i насунулася. Уклалi Пахома спаць на пухавiку, i разашлiся башкiрцы. Прыраклi заўтра на золаку сабрацца, да сонца на месца выехаць.

## VII

Лёг Пахом на пухавiку ды ня сьпiцца яму, усё пра зямлю думае. "Ахвачу, – думае, – вялiкiм махам. Вёрст пяцьдзесят абыйду за дзень. Дый дзень-жа цяперака – год. У пяцiдзесяцi вярстах – во колькi зямлi будзе. Якую горшую – прадам або мужыкоў пушчу, а любенькую выдзялю, сам на ёй сяду. Плугоў з два валоў завяду, з чалавек двое работнiкаў найму; дзесяцiнак паўсотнi гараць буду, а на рэшце скацiну нагульваць пушчу."

Не заснуў усю ноч Пахом. Перад золакам толькi забыўся. Толькi задрамаў – бачыць ён сон. Бачыць ён, што ляжыць быццам ён у гэтай самай кiбiтцы i чуе – навонкi рагоча нехта. I быццам захацелася яму паглядзець, хто гэта такi рагоча, i ён устаў, выйшаў з кiбiткi i бачыць – сядзiць той самы старшыня башкiрскi перад кiбiткаю, схвацiўся абедзьвюма рукамi за жывот i кладзецца ад рогату на нешта. Падыйшоў ён i запытаў: "Чаго гэта ты рагочаш?" I бачыць ён, быццам гэта не старшыня башкiрскi, а купец нядаўны, што заяжджаў да iх, i пра зямлю расказваў. I толькi запытаў у купца: "Як даўно ты тутака?" – а гэта ўжо i ня купец, а той самы мужык, што калiсьцi зьнiзоў заходзiў. I бачыць Па-

хом, быццам і ня мужык гэта, а сам дыявал, з рагамі і з капытамі, сядзіць рагоча, а перад ім ляжыць чалавек босы, у сарочцы і портках. І быццам паўзіраўся Пахом болей уважна, што за чалавек гэта? І бачыць, што чалавек мертвы і што гэта — ён сам. Спалохаўся Пахом і праснуўся. Праснуўся. "І што толькі ня сьніцца", — думае. Аглядзеўся; бачыць праз адчыненыя дзьверы — ужо на золак бярэцца, пачынае днець. "Трэба, — думае, — будзіць народ, пара ехаць". Падняўся Пахом, разбудзіў работніка ў тарантасе, загадаў запрагаць і пайшоў башкірцаў будзіць.

— Пара, — кажа, — у стэп ехаць, адмерваць.

Паўставалі башкірцы, усе сабраліся, і старшыня прыйшоў. Пачалі башкірцы зноў кумыс піць, хацелі Пахома пачаставаць гэрбатаю, але не хацеў ён чакаць.

— Калі ехаць ужо, дык ехаць, — кажа, — пара.

VIII

Сабраліся башкірцы, селі — хто вярхом, хто ў тарантасы, паехалі. А Пахом з работнікам у сваім тарантасе паехалі і з сабою скрэбла ўзялі. Прыехалі ў стэп, пачынаецца сьвітаньне. Узьехалі на бугарок, па-башкірску — на шыхан. Павылазілі з тарантасаў, пазлазілі з коней, зыйшліся ў кучу. Падыйшоў старшыня да Пахома, паказаў рукою.

— Вось, — кажа, — уся наша, як вокам кінуць. Выбірай любую.

Разгарэліся вочы ў Пахома: зямля ўся кавыльная, роўная, як далонь, чорная, як мак, а дзе лагчынка — дык рознатраўе, трава па грудзі.

Зьняў старшыня шапку лісіную, паставіў на зямлю.

— Во, — кажа, — зацема будзе. Згэтуль ідзі, сюды і прыходзь. Што абыйдзеш — усё тваё будзе.

Дастаў Пахом грошы, паклаў на шапку, зьняў каптан, у адной паддзёўцы астаўся, падцягнуў тужэй папругу на жываце, торбачку з хлебам за пазуху палажыў, біклажку з вадою да папругі прывязаў, закасаў халявы, узяў скрэбла ад работніка, сабраўся ісьці. Думаў, думаў, у які бок узяць — усюды добра. Думае: "Усяроўна: пайду на ўсход сонца". Стануў тварам да сонца, разварушыўся, чакае, каб паказалася яно на даляглядзе. Думае: "Няма пашто часу губіць. Халадком лягчэй ісьці". Толькі кінула здаля сонца свае першыя праменьні, ускінуў Пахом скрэбла на плячо і пайшоў у стэп.

Пайшоў Пахом ані памалу, ані хутка. Адыйшоў зь вярсту; затрымаўся, выкапаў ямку і дзярнічкі адно

на другое паклаў, каб прыкмятней было. Пайшоў далей. Пачаў размахвацца ды кроку прыбаўляць. Адыйшоў яшчэ, выкапаў яшчэ другую ямку.

Аглянуўся Пахом. З сонцам добра відзён шыхан, і народ стаіць, і ў тарантасах на колах шыны блішчаць. Мяркуе Пахом, што вёрст пяць зрабіў. Пачаў разгравацца, зьняў паддзёўку, закінуў на плячо, пайшоў далей. Адыйшоў яшчэ вёрст пяць. Цёпла зрабілася. Зірнуў на сонейка — час ужо сьнедаць.

"Адзін адрэзак дня мінуў, — думае Пахом. — А іх чатыры ў дню, рана яшчэ заварочваць. Дай адно разуюся". Прысеў, разуўся, боты ўзяў на папругу, пайшоў далей. Лёгка ісьці стала. Думае: "Давай прайду яшчэ вёрст з пяць, тады ўлева загібаць пачну. Вельмі-ж ужо зямля прыгожая, шкада кідаць. Чым далей, тым лепшая". Пайшоў яшчэ напрасткі. Аглянуўся — шыхан ужо чуць відзён, а народ, як мурашкі, на ім чарнеецца, і крышку блішчыць нешта.

"Ну, — думае Пахом, — на гэтым баку даволі добра ўзяў; трэба загінаць. Дый распарыўся — піць хочацца". Затрымаўся, выкапаў большую ямку, паклаў дзернічкі, адвязаў біклажку, напіўся вады і загнуў крута ўлева. Ішоў ён, ішоў, трава прыйшла высокая, і горача стала.

Пачуў Пахом, што змучыўся; паглядзеў на сонейка, бачыць — самы абед. "Ну, — думае, — адпыхнуць трэба. Затрымаўся Пахом, прысеў. Зьеў хлеба з вадою, але класьціся баяўся: Думае: "Ляжаш, дык і засьнеш". — Пасядзеў крышку, пайшоў далей. Спачатку лёгка ішлося. Ад яды сіла падступіла. Але вельмі горача стала, дый сон хіліць пачаў; аднак-жа ўсё ідзе, думае — гадзінку пацярпець, а век жыць.

Шмат прайшоў яшчэ і на гэтым баку, хацеў ужо загібаць улева, ды бачыць — лагчына падыйшла сырая; шкада-ж кідаць. Думае: "Лён тут будзе добры радзіцца". Зноў пайшоў проста. Захапіў лагчынку, выкапаў ямку за лагчынаю, загнуў другі кут. Паўзіраўся Пахом на шыхан: ад цяплін затуманілася, ківаецца нешта ў паветры і па-праз сінь чуць спасьцярожнымі людзі на шыхане — вёрст патнаццаць да іх будзе.
"Ну, — думае Пахом, — за доўгія бакі ўзяў, гэты трэба карацей узяць". Пайшоў у трэйці бок, пачаў кроку прыбаўляць. Паўзіраўся на сонца — а яно ўжо на полудзень падходзіць, а па трэйцім баку ўсяго вярсты дзьве прайшоў. І да месца ўсё гэтаксама вёрст пятнаццаць. "Не, — думае, — хоць крывая дача будзе, а трэба напрасткі сьпяшацца. Каб не забраць лішкі. А зямлі і так ужо шмат". Выкапаў Пахом хутчэй ямку

і павярнуў прасьцяком на шыхан.

IX

Ідзе Пахом проста на шыхан, і цяжка яму ўжа стала. Распацеў і ногі босыя абкалечыў, дый падкошвацца пачалі. Супачыць хочацца, а ня можна - не пасьпее да захаду сонца. А сонца не чакае, усё ідзе ніжэй ды ніжэй. "Ах, - думае, - ці не памыліўся я, ці ня шмат забраў? А што як не пасьпею?" Зірне наперад на шыхан, паглядзіць на сонца: да месца далёка, а сонца ўжо недалёка ад скраю зямлі.

Ідзе гэтак Пахом, цяжка яму, а ўсё прыбаўляе ды прыбаўляе кроку. Ішоў, ішоў - усё яшчэ далёка; пачаў бегчы бягма. Кінуў паддзёўку, боты, біклажку, шапку кінуў, толькі скрэбла трымае, ім падпірае сябе. "Ах, - думае, - паквапіўся я, усю справу змарнаваў, не дабягу да захаду". І яшчэ горай яму ад страху дух задыхае. Бяжыць Пахом, кашуля і порткі ад поту да цела ліпнуць, у роце перасохла. У грудзях быццам тыя мяхі кавальскія разьдзьмухваюцца, а ў сэрцы быццам малатком б'е, і ногі як не свае - падкошваюцца. Жудасна зрабілася Пахому, думае: "Каб толькі не памерці з натугі".

Памерці баіцца, а і затрымацца ня можа. "Гэтулькі, - думае, - прабег, а цяпер ака затрымацца - дурным назавуць". Бег, бег, падбягае ўжо блізка і чуе скавычуць, гойкаюць на яго башкірцы, і ад іхнага крыку ў яго яшчэ болей распальваецца сэрца. Бяжыць Пахом апошнімі сіламі, сонца ўжо да скраю падходзіць, у туман зайшло; вялікае, чырвонае, крывавае стала. Вос-вось заходзіць пачне. Сонца блізка, але і да месца зусім ужо не далёка. Вось бачыць Пахом, і народ на шыхане на яго рукамі махае, яго падахвочваюць. Бачыць шапку лісіную на зямлі і грошы на ёй бачыць; і старшыню бачыць, як ён на зямлі сядзіць, рукамі за жывот трымаецца. І ўспомніўся Пахому сон. "Зямлі, - думае, - шмат, але ці давядзе Бог жыць на ёй. О, загубіў я сябе, - думае, - не дабягу".

Узгляну ў Пахом на сонца, а яно да зямлі дайшло, ужо дольным сваім краем заходзіць пачынае і дугою да краю выкраілася. Натужыўся Пахом апошнімі сіламі, наваліўся наперад целам, насілу ногі пасьпяваюць падстаўляцца, каб ня ўпасьці. Падбег Пахом да шыхана, раптам цёмна стала. Азірнуўся - ужо зайшло сонца. Ахнуў Пахом. "Прапалі, - думае, - мае натугі". Хацеў ужо затрымацца, ды чуе, гойкаюць усё башкірцы, і прыпомніў ён, зьнізу яму здаецца, што зай-

шло, але з шыхану не зайшло яшчэ сонца. Натужыўся Пахом яшчэ раз, узьбег на шыхан. На шыхане яшчэ сьветла. Узьбег Пахом, бачыць – шапка. Перад шапкаю сядзіць старшыня, хіхоча, рукамі за жывот трымаецца. Прыпомніў сабе Пахом сон, і спалохаўся, падкасіліся ногі, і ўпаў наперад, рукамі да шапкі дастаў.

– Ай-жаж, зух зь цябе! – крыкнуў старшыня.–Шмат зямлі здабыў!

Падбег пахомавы работнік, хацеў падняць яго,а ў яго з роту кроў цячэ, і ён няжывы ляжыць.

Пацокалі языкамі башкірцы, пашкадавалі.

Падняў работнік скрыбла, выкапаў Пахому магілу, якраз гэтулькі, колькі ён ад ног да галавы захапіў – тры аршыны, і закапаў яго.

Л. Талстой

## ІНДЭКС ІМЁНАЎ І КРЫНІЦАЎ

Том першы

-

# ІНДЭКС ІМЁНАЎ І КРЫНІЦАЎ

Том другі

-

## ТЭМАТЫКА

Том першы



Том другі